## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Васіль МАКАРЭВІЧ



### СВЕЧАЧКА

*Паўлу Семчанку*

**1**

Агню з бядой
Не можа быць без дыму,
А падарожжа — без сустрэч-дзівос.
Мне свечачкі сцябло з Ерусаліма
Прафесар — даўні прыяцель —
Прывёз.

Згадаўшы плошчу
З дзіўным дрэвам, туяй,
Дзе тлум людскі кіпеў і віраваў,
Ён пры сустрэчы свечачку святую
З гатоўнасцю, як друг,
Ахвяраваў.

І днём вясновым,
З ласкаю пагоднай,
Душой спаўна адчуў я цеплыню
Ад дамавіны дзіўнае Гасподняй
Спрадвечна Дабратворнага
Агню.

---

*__Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч__ нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994).*

Пад’езда дзверы
Прычыніў без стуку, —
Гармідар усчынаць — вялікі грэх!
І свечачку па выбітых прыступках
Сцярожка я панёс на свой
Паверх.

**2**

Хвіліны — льдзінкі,
Дні і тыдні — крыгі.
А месяцы — што дрэвы на падбор!
Са свечачкаю ценькай на Нямігу
Мяне пазваў званіцамі
Сабор.

Хрышчоная
Трывожным зарападам,
Дзе небасхіл пажарам адпалаў, —
Яна ў саборы полымя з лампады
Прыгубіла ды скупа
Адпіла.

З агню пялёсткам,
З пасмай светлай дыму —
Хоць воск трашчаў і цёк, нібыта лой! —
Пасланніцай ад сцен Ерусаліма
Ступіла і ўзышла
На аналой.

І ў водары густым,
Што плыў ад свечак,
Смугою раставаў — не мог растаць, —
Прарэзаўся над ёй агністы венчык,
А ў ім — аблічча светлае
Хрыста.

Пад бляскам
З пазалотаю іконнай
Праз дымную і чадную імжу
Глядзеў святліста Ён і пранікнёна
Паглядам гойным кожнаму
Ў душу.

І ў сценах
Старажытных маналітных
І безліч раз свянцаных, паміж тым,
Ціхом шаптала свечачка малітву
Ды кланялася грэшным
І святым.

## ПАМЕЖЖА

**1**

Узлессем,
Паласою нічыёй,
Дзе цвіў агрэст і лівень карагодзіў,
На павадку з грывастым ручаём
Бяжыць мяжа па беражку
Стагоддзя.

Такую плынь,
Здаецца, верабей
Уброд пяройдзе ціха, непрыкметна.
Ды на мяжы ручай — куды глыбей
Ад акіянскай прорвы
Апраметнай.

Глядзяць уніз
Нябёсы з жаўранём
І знаюць з цішынёй дзевяцібальнай —
Шыр мерыцца мяжы не шырынёй
Кантрольнай паласы
Недатыкальнай.

Ад раніцы
У рэдзіве смугі,
Са статкамі кустоўя і дубамі,
На дно глядзяць так пільна берагі —
Ледзь між сабой не стукнуцца
Ілбамі.

**2**

Ссох і скруціўся
Ракаўкай лісток.
Даўно ад спёкі выпетраў амшарнік.
Дождж рынецца з таго на гэты бок,
І ён ужо — дзяржаўны
Парушальнік.

А буйнавокі
Светлабровы град
Прагрукаціць, нібы табун, з пагорка.
Ён хто сабой? Хутчэй за ўсё — мігрант,
З каўказскай жарсцвяной
Скорагаворкай.

Наперадзе —
Сто пастак і пастоў,
Не менш засад у кожным пералеску.

А чмут-гашыш зноў зырыць з-за кустоў —
Як праз мяжу лаўчэй бы
Пералезці!

А нафта-цётка —
Ці ж гандляр скупы? —
На колішніх сталыпінскіх адрубах,
Нырнуўшы пад дзяржаўныя слупы,
Грыміць-ідзе па міжнародных
Трубах.

Рване над полем
З краю ў край скразняк
Ды скалане рабых бадылін колле.
І штосьці страхавітае няўзнак
Праглянецца ў абрысах
Наваколля.

## ГОСЦЯ

Свет падабрэў,
А, можа, і зблажэў —
Трасе ў нябёсах зорнымі бразготкамі.
Экватар стаў да нас куды бліжэй
З дзівоснай субтрапічнаю
Экзотыкай.

Ад прыстаняў
І дальніх перапраў
Да нашых ніў, з надпрыпяцкімі бэрамі,
Пусцілася праз воды нафта ўплаў,
Рашуча адштурхнуўшыся
Ад берага.

Нептун панізіў
Грозны бас і тон
І вус бялюткі ў задуменні кратае:
Бач, нафтагруз на колькі тысяч тон
Ледзь пералез цераз абруч
Экватара.

Імжака з неба
Сыплецца, што мак,
І воблачкі вісяць аэрастатамі.
Ўзялі там нафту на вагу і смак
Ад нафтавай канторы
Дэгустатары.

Мо ў добры час,
Дзе гойсаў ветрапас,

Непадалёку ад затокі з раскаю,
Адтуль, з-за свету, прыляціць да нас
І прыжывецца нават птушка
Райская.

А нейкі год
Нам паднясе сюрпрыз.
І побач з грушаю, што лета бабіла,
У Прыдняпроўі ўстане кіпарыс
І ўгору пойдуць пальмы
З баабабамі.

А покуль
Цераз хвалі наўскасы,
Што не ўтрымаць і на рагатым якары,
З-за свету — не для дзіва і красы! —
Грабецца нафта і ўначы
На танкеры.

## ЯРМАРКА ДАЖДЖОЎ

А дождж ідзе,
То ўгрунь ляціць праз бор,
Нібыта чорт з пісьмом а ці дыпешаю.
Ды што вы! Не на шапачны разбор —
На ярмарку дажджоў, шчырун,
Прыспешвае.

Над пушчай,
Там над плёсам ярыны,
То з рогатам, то ноткаю гарэзнаю,
Нясе — ну хто паверыць? — перуны,
Закінуўшы іх за спіну,
У рэзгінах.

Падобныя
Да сельскіх дзецюкоў,
З гатоўнаю пакорай вечных пайшчыкаў,
Дажджы ідуць больш як са ста бакоў,
Бы плытагоны, у змакрэлых
Плашчыках.

Пры стрэчы
Даланёю аб далонь
Так ляснуць — гром жахае з бліскавіцаю! —
Аж дзесь трашчыць на дрэвах абалонь
І ледзь не слепнуць сажалкі
З крыніцамі.

Як млынары,
Пад плёскат і шумок,
Якім вядзьмак мукой галовы выбеліў,
Дажджы заходзяць па чарзе ў шынок,
Прыгнуўшыся амаль у тры
Пагібелі.

Пасля наўздзіў
За трукам хітры трук
Пачнуць выкідваць: ну хіба не ўдаліцы?!
Пастаўшы ў круг, грамамі ў рукі з рук,
Як цыркачы заезджыя,
Кідаюцца.

Стаптаўшы,
Збіўшы не адзін пасеў,
Нібы ваколле ачарціўшы цыркулем,
На сотні вёрст раскруцяць карусель —
Па небасхілах кола ледзь
Не чыркае!

Ды бліскавіцай
Пераксціўшы лоб,
Каб у патраве апасля не каяцца,
На ўзгорку б'юць ды выбіваюць боб,
З гарохам вымалочваюць
Да каліўца.

Двары часамі
Дзівяцца ўдвайне
З падстрэшшамі і косамі-літоўкамі,
Калі паднеб'е, як з гаршка, сыпне
Дукаты ці дынары
З залатоўкамі.

Грымяць, бубняць
Дажджы напрыканцы,
Прыкінуўшыся бардамі, то гідамі.
Ды па руках ударацъ, бы купцы
Высокай самай і пачэснай
Гільдыі.

Трашчаць аглоблі,
Рвуцца ўшчэнт гужы.
Нязмазаныя ўтулкі енчаць-жаляцца.
І на світанні з ярмаркі дажджы
Расходзяцца няспешна,
Раз'язджаюцца.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ВАЛОШКІ НА МЯЖЫ*

*(сямейная хроніка ў духу барока)*

*Роднаму гораду Брэсту прысвячаецца.*

Аўтар

## *Частка чацвёртая*

### I

Лявонава пенсія — трыццаць адзін злот у месяц. Не малая. Штомесяц ездзіць ён у Камянец, каб атрымаць сваю *марытуру* — як афіцыйна называюць тут пенсію. І штораз сустракае свайго калегу і амаль што равесніка з суседняй вёскі Бучамле Мікалая Шалоніка, што прыязджае на вазку, у які запрэжаны маленькі сівы конік. Мікалай маладзейшы за яго на два гады, як і Лявон — інвалід царскай вайны, на левай руцэ ў яго няма двух пальцаў, якія ён страціў яшчэ недзе ў Мазурскіх балотах. Можа, гэта і дапамагло яму ацалець у тылавым шпіталі і пасля краху арміі Самсонава прыбіцца дадому. Лявона параніла пад Нарачу, куля трапіла ў левае плячо. Рука, дзякуючы дактарам, засталася, але поўнай жвавасці няма. Адзін і другі атрымліваюць свае марытуры з так званых рускіх фондаў, якія папаўняюцца Савецкім Саюзам. У 1932 годзе паміж СССР і Польшчай быў падпісаны дагавор аб ненападзенні, і СССР неадкладна выплаціў Польшчы золатам усе пенсійныя даўгі для тых, хто зарабіў сабе пенсіі яшчэ ў царскай Расіі, асабліва інвалідам вайны 1914—1917 гадоў.

Кожны месяц наведваюцца Лявон з Мікалаем у Камянец. Яны заўсёды сустракаюцца ля аднаго акенца, і з гэтай прычыны нават пасябравалі, выпіваюць па чарцы. Вяртаючыся дадому, у Хайкі, не забываюць купіць жонкам па хустцы ці зрабіць яшчэ які-небудзь падарунак. Аднойчы Мікалай узяў з сабой у Камянец малодшую дачку Просю. У яго з Наталкай было дзве дачкі і сын. Старэйшую — Надзю — нядаўна выдалі замуж. Цяпер чарга падышла да Просі.

— Нявестка добрая была б, — пажартаваў Лявон, угледзеўшы яе на Мікалаевым возе. Яны ўжо атрымалі сваю марытуру і збіраліся яшчэ заехаць на базар, адтуль дадому.

— А, можа, і буду, — адказала дзяўчына і пачырванела, адвёўшы ўбок вочкі. Выглядала яна фасоніста ў сваім прыталеным, чырванаватага колеру,

* Працяг. Пачатак у № 9, 2010 г.

кажушку, аздобленым па рукавах шаўковай вышыўкай. Прыкусваючы ружовыя вусны, зірнула на Лявона і ледзь прыкметна ўсміхнулася.

* * *

Не паспеў Кузёмка перадаць прывітанне (мусіць, падаўся некуды далёка), як Васіль сам прыехаў у водпуск, на дзесяць дзён. Здарылася гэта якраз у сенакос. Выглядаў хлопец як бывалы вайсковец: у шэрым доўгім шынялі, на галаве — фуражка з круглым аколышкам і доўгім казырком з сярэбранымі зігзагамі. Ён і да гэтага быў відны з постаці і пaглядны з твару, а цяпер стаў проста-такі прыгажуном. Да пояса прычэплена доўгая шваліжэрская шабля з кутасамі. Лявон абняў, пацалаваў пасынка і крыху пажартаваў наконт шаблі:

— У хаце яе, калі столь нізкая, і не выцягнеш.

Вайсковец у адказ толькі ўсміхнуўся:

— Нічога.

Фёкла ажно праслязілася ад неспадзяванай радасці: «Вася, Вася, Васенька, Васятка!..» Усялякіх прысмакаў наставіла: яечня, сала, каўбаса, маласольныя гуркі, маладая бульба з духмянымі шкваркамі. Паклікалі Івана з Фядорай і Хартона з Барбарай. Лявон прынёс бутэльку гарэлкі, кілішкі. Настрой ва ўсіх — прыўзняты. Селі за стол. Першаму налілі адпускніку.

— За сустрэчу! — падняў ён кілішак.

— За здароўе! — дадаў Лявон, наліў гасцям, а затым Фёкле, і сабе. Пачалі закусваць.

— А што ты там еў? — спытала Фёкла.

— Усё еў, што давалі, — адказаў сын, хрумстаючы агурком, — але дома лепш!

— Дзіва што! — засмяяўся Іван. — Дома — не ў войску. Я тое войска ведаю!

— А не крыўдзяць? — не адставала маці. — Можа, крыўдзяць?

— Не-е, — усміхнуўся вайсковец, — я за сябе пастаяць магу.

— Каб такі мацак ды не пастаяў! — здзівіўся заўсёды маўклівы Хартон.

— А фельдфебель? — хмыкнуў у вусы Лявон, успомніўшы, мусіць, сваю службу ў царскай арміі.

— Капрал?

— Ну, ці капрал.

— Напачатку прыставаў, а цяпер адчапіўся. А напачатку — як смала: «І гэта не так, і тое…» Цяпер спакайнейшы стаў.

— Гэта добра, яны больш да маладых чапляюцца, — сказаў Іван, апаражніўшы чарговы кілішак.

Фёкла не магла надзівіцца на сына, які змяніўся ў лепшы, як ёй здавалася, бок. Стаў зусім дарослы, самастойны. Знікла некуды, не пакінуўшы нават следу, ранейшая бясхітрасная прастата. Падужэў. І разважае па-даросламу. Васіль расказаў, як ён у Старагардзе (ажно за Варшавай) сустрэў Кузёмку. Усе дзівіліся, куды дапяў стары валацужнік.

Перад вокнамі, па вясковай вуліцы, прайшоў, не азіраючыся па баках, Кухта. Быццам кудысьці спяшаўся.

— Гэта наш новы дзяк, — патлумачыла Фядора, — Лаўр Яўсеевіч. Хорам добра кіруе.

— І здалёк ён? — пацікавіўся Васіль.

— З-за Берасця.

— Пабег, як бы шукае кагосьці? — сказаў Іван.

— Кажуць, да жанчын вельмі ласы, — азваўся прастадушны Хартон, — таму і бегае.

— Ой, памаўчаў бы ты! — цыкнула на мужа Барбара.

— Ну, а ты калі збіраешся жаніцца, Вася? — спытала Фядора.

— Яму службу адслужыць трэба, — адказала за сына Фёкла.

Назаўтра з раніцы Васіль улёгся ў працу: адкляпаўшы касу, дапамог выкасіць у Лазе і на забалочаных Прыдатках. Сена выцягвалі на спецыяльных насілках на груд, сушылі і звозілі ў клуню. Клопатаў быццам і хапала, але думкі былі пра Польку. У нядзелю, па абедзе, дастаў з каморы ровар і, апрануўшы вайсковую форму, мундзір з бліскучымі гузікамі (шыняля і шаблю пакінуў дома), паехаў у Сухаволле, на музыкі. У канцы вёскі, ля школы, сустрэў настаўніка Мандрашчака і спыніўся. Павіталіся за руку. Сухаваты і падцягнуты Мандрашчак не жадаў адставаць ад моды. Да таліі элегантна прылягаў светла-шэры пінжак з сінімі рукавамі, на нагах — шырокія галіфэ і жоўтыя крагі. Выраз твару — сур’ёзны і строгі.

— Водпуск?

— Водпуск.

Не прынюхваючыся, Васіль адчуў саладжавы пах напамаджаных валасоў былога свайго настаўніка. «У глухой вёсцы жыве, а фасон трымае!» — адзначыў адпускнік.

— У вайсковай форме пан добра выглядае, — пахваліў былога вучня пан Мандрашчак.

— Стараюся.

— Дзіва што! Не абы ў якім войску служыш — у польскім! Цяпер яно ўсё матарызаванае! Лепшае войска ў Еўропе! Я чытаў, што Гітлер заняў Рэйнскую правінцыю. Але гэта яго справа. Я лічу, што нам ён не страшны. Гітлера, калі трэба будзе, закідаем шапкамі. Прашу ўлічыць, што наш урад складаецца з вайскоўцаў, а гэта нешта значыць! Супраць Рыдза[1] Гітлер — нішто! Усходні дыктатар нам таксама не страшны. Маем не благі вопыт!

Хлопец, нічога не гаворачы, пазіраў на настаўніцкія чаравікі і жоўтыя крагі, у якія быў абуты Мандрашчак. Адчувалася, што ў чалавеку прачнуўся прамоўца. Ён гаварыў і відаць было, што шчыра верыў у тое, што казаў.

— Я чуў, — працягваў настаўнік, — што Францыя — даўняя наша сяброўка — узброіла нас танкамі. Выдатна! У гэтым свеце, mój drogi[2], трэба быць жалезным! Але не варта забываць пра кавалерыю! Я згодзен з прэзідэнтам Масціцкім, што перш за ўсё — конь! Конь — наш шанец! Канём трэба ганарыцца. Сапраўды, наша кавалерыя можа ўсё! Пан — у шваліжэрах?

— Так.

— Цудоўна! Шваліжэры — героі! Больш бы такіх. Пара было б насамрэч успомніць Ягелонскую ідэю, яна павінна быць ажыццёўлена! Я спадзяюся дачакацца, калі Польшча зноў будзе ад мора да мора! Зразумела, усё не так проста, але ўсё павінна так быць! Павінна!

Настаўнік перавёў дух і зноў набраў у грудзі паветра:

— А тут, уяві сабе, — Мандрашчак зарагатаў, — знаходзяцца людзі, якія падпісваюць пратэсты супраць Картуз-Бярозы! Якое нахабства! Не-е! Трэба вучыць! Вучыць!

Пры ўпамінанні Картуз-Бярозы Васіль успомніў Косцю: «Дзе ён зараз? Можа, у той Картуз-Бярозе і сядзіць?» Настаўнік ляпнуў Васіля па плячы:

[1] Эдвард Рыдз-Сміглы — пасля Пілсудскага ўзначальваў Польскую дзяржаву.

[2] Мой дарагі (польск.).

— Прабачай, я спяшаюся па справе і не магу ўдзяліць табе болей увагі. Do wiedzenia!

— Do wiedzenia! — адказаў хлопец, рады, што адвязаўся ад гэтага назолы. Прычапіўся са сваім «ад мора да мора».

Да Сухаволля ехаў не спыняючыся, выкінуўшы з галавы Мандрашчака з яго прамовамі. Паабапал дарогі красавала жыта. Па ўзгорках і нізінах плылі пералівістыя жытнёвыя хвалі. Зацвітала бульба. На высокіх зялёных кустах — прыгожыя ліловыя кветачкі.

У вёсцы, сустрэўшы жанчын, даведаўся, дзе меліся адбыцца музыкі. Музыкі ладзіліся ў хаце сухавольскага Салівеся, які сябраваў з моладдзю. Іграў Уладзімер з Бабіч на амерыканскім акардэоне. Некалькі пар ужо прыступілі да танцаў і вадзіліся па хаце. Большасць дзяўчат — яшчэ неразабраныя, незапрошаныя на танец — сядзелі на лавах пры сцяне і на ложку і чакалі, калі хто падыдзе і запросіць на танец.

— Глядзі, як Кужаль у салдатах выпасся! — пачуў ён з іх боку. Гэта прагучала як камплімент.

— Як паліцыянт! — дадаў хтосьці з хлопцаў, што стаялі ля дзвярэй.

Васіль зрабіў выгляд, што не пачуў. Полькі сярод дзяўчат не было. «Яшчэ не прыйшла, — падумаў ён. — З’явіцца!»

— У Камянцы твая Полька! — сказала яе сяброўка Волечка Краўцова, з якою ён пайшоў танцаваць. — З бацькамі на базар паехала, парасят павезлі. Грошы трэба.

Волечка Краўцова — адна з сухавольскіх прыгажунь. Прыгожая, стройная, з чорнымі хвалістымі валасамі і зваблівымі трапяткімі вуснамі.

— А нашто грошы?

— А як у гаспадарцы без грошай? — дзяўчына засмяялася: — А ў цябе губы гараць, значыць цалавацца будзеш…

— З кім?

— Адкуль я ведаю?..

— Жартуеш.

— Не.

Полька з’явілася праз гадзіну-другую, калі музыкі былі ў самым разгары. Яна выглядала яшчэ больш прывабна, чым раней, паўгода назад: прыгожая, стройная, з вялікай залацістай касой, якую перакідала з грудзей на спіну і наадварот. Шчокі ружовыя і поўныя, крыху вільготныя вусны. У яе вачах прытаілася фанабэрлівасць, пэўна, дзяўчына адчувала сваю прыгажосць. Васіль падышоў да яе, павітаўся. Дзяўчына адказала на прывітанне, і шчокі яе яшчэ больш паружавелі.

Я на бочцы сяджу,
Бочка коціцца,
Ніхто замуж не бярэ,
Замуж хочацца!..

Гэта зайшлася ў іскрыстай прыпеўцы чарнявая Жуфея з Зінькоў.

— Ну, як у сук! — задаволена пахваліў яе Салівесь, які курыў, седзячы ў кутку, і назіраў, як гуляе моладзь. У хаце зарагаталі, Васіль таксама засмяяўся. Польцы прыпеўка, мусіць, не спадабалася, бо яна апусціла вочы і як бы засаромелася.

Яны станцавалі вальс, а потым кракавяк, яшчэ некалькі танцаў і добра ўпарыліся. Васіль нават расшпіліў мундзір. Побач нехта прасіў партнёршу:

— Манька, Манька, дай за пуп патрымацца?

— Хадзем адсюль! — прапанавала Полька.

Яны выйшлі за дзверы, у вячэрняе сутонне. Васіль з шумам удыхнуў свежае паветра, адчуўшы ў ім тонкую прымесь мяты, што паўсюль расла ў гародчыках сухавольцаў. Да мяты дадаваўся пах крапівы. Ля вішнёвага кустоўя гулі жукі. Сталі каля плота, дзе не было крапівы.

— А шчочкі ў цябе, як ружы, — сказаў ён.

— Гэта табе толькі здаецца.

— Праўда!

— Мята пахне, — сказала дзяўчына. — А ты даўно прыехаў?

— Дзён пяць ужо…

— А чаму не прыходзіў?

— Няёмка было буднім днём. Працаваў.

Ён абхапіў яе за плечы, намагаючыся пацалаваць, але дзяўчына не давалася, жартуючы, адварочвалася.

З Салівесевай хаты зноў пачулася:

Уцякала, уцякала
Цераз пералазы,
А ён мяне качаргою
Ды чатыры разы…

— Моладзь! — нібы апраўдваючыся ці просячы прабачэння, сказала Полька.

— Ну, вядома! — згадзіўся Васіль.

Пасля танцаў ён праводзіў яе да хаты. Тут яны доўга сядзелі на лавачцы пад ніцай бярозай і гарнуліся адно да аднаго, цалаваліся. Ад дзяўчыны пахла мятай, вішнёвай квеценню і яшчэ чымсьці свежым, прыемным. Гаварылі аб усім, аб тым, як жыве моладзь, хто збіраецца гуляць вяселле ці ўжо згуляў.

— Можа, у цябе ўжо хто ёсць? — раўніва спытаў Васіль.

— Не, мне ты падабаешся.

— Праўда?

— Ну.

— Дык будзеш чакаць?

— А дзе ты тое войска адбываеш?

— У Старагардзе, ажно за Варшавай.

— Ого!

Прыадчынілася акно, і пачуўся голас, мусіць, матчын:

— Ты гулянкі свае кінь! А то заўтра да работы не дабудзішся! — голас быў строгі, але не сярдзіты.

Яны яшчэ трошкі пасядзелі і пачалі расставацца — заўтра чакаў працоўны дзень.

Прыехаў ён і назаўтра, яшчэ завідна; куры не паспелі адысці на седала і хадзілі па двары на чале з пеўнем, шукаючы нешта ў траве. Певень, буйны і самаўпэўнены, у прыгожым стракатым апярэнні, з чырвоным грэбнем на галаве, цешыўся сваім начальніцкім становішчам і ўладай над курынай чарадой. І Васіль, і Полька назіралі, як адна з курыц падышла да пеўня бліжэй, туды-сюды павярнулася, тузануўшы прыгажуна хвастом, крутнула галавой, як бы штосьці хацела сказаць ці кудысьці запрасіць. Нясушка яўна дамагалася да сябе ўвагі. Певень зрэагаваў, злёгку натапырыў крылы, узняў галаву, энергічна страсянуў чырвоным грэбнем, які, здавалася, яшчэ больш пачырванеў і напружыўся. Раптам курыца кінулася наўцёкі, а певень, які, мусіць, гэтага і чакаў, падскочыў і, узняўшы крылы, падхапіўся бегчы за ёй. Дагнаў ля самага плота і, не марудзячы, спрытна ўскочыў на жвавую нясушку, спрабуючы, як лепш прыладзіцца, але не паспеў што-небудзь зрабіць,

як курыца вырвалася з-пад яго і на скрут галавы кінулася ўцякаць. Певень, страціўшы раўнавагу, зваліўся на траву, але тут жа падхапіўся, атросся і вярнуўся да чарады.

— Мусіць, не спадабаўся ён ёй, — ціха засмяялася Полька.

Сядзелі яны дапазна, моцна абдымаючыся і дорачы адно аднаму пацалункі. Час праляцеў, як адно імгненне.

— А можа, і таго? — ён крануў яе сцягно, калені і палез паміж ног.

— Пра што ты?

— Ну, пра тое…

— Што?

— Мне з табой хочацца.

Дзяўчына вызвалілася ад яго рукі.

— Ага, захацеў! Нельга!

Яны зноў сядзелі і размаўлялі. Васілю захацелася нешта паабяцаць Польцы.

— Адзену цябе — шамрэць будзеш, — сказаў ён, успомніўшы, што так часта казалі дзяўчатам прускаўскія хлопцы.

— Праўда? — захвалявалася Полька і прыхінулася да яго яшчэ бліжэй.

— Праўда…

Так працягвалася некалькі дзён. Расставаліся, калі ўжо зусім пачынала світаць.

— Калі ты ў сваё войска? — спытала Полька.

— Яшчэ колькі дзён ёсць.

Яна нешта шапнула яму на вуха, казытнуўшы сваім гарачым дыханнем. Ён не пачуў, нібы аглух ад наплыву пачуццяў, а перапытаць не асмеліўся…

Адчуванне шчасця і любві да ўсяго свету працінала ўсю Васілёву істоту. Ён нават спыніўся за Бучамлем, каля Крымянкі, сярод поля, злез з ровара і доўга стаяў сярод світальнай цішыні, радуючыся надыходзячаму дню. Пачуваў сябе як сп’янелы, як бы пакаштаваў гарэлкі.

— З кім гэта ты гуляеш? — пыталася маці.

— Гэта я так…

— А хто яна?

— Полька з Сухаволля.

— Дык пазнаёміў бы!

— Як-небудзь пазнаёмлю, — паабяцаў ён.

Вяртаўся на службу неахвотна, як на нейкую цяжкую і нямілую працу. Суцяшала толькі тое, што дзяўчына абяцала чакаць.

Фёкла расказала пра сынава каханне Лявону.

— Гэта яшчэ не любоў, а залюбкі, — пасміхнуўся той. — Хто ведае, як яно будзе. Дай бог!

## II

Час ад часу, часцей у нядзелю, адстаяўшы службу ў царкве, да Кужалёў наведваўся Якаў Арыстархавіч. Усё ж такі цягнула фальваркоўца ў вёску, да людзей, хацелася, мусіць, перакінуцца словам. А аднойчы ён запрасіў Лявона з Фёклай да сябе. Апрануліся па-святочнаму — Лявон у касцюме, хоць і не надта новым, але прыстойным. Фёкла адзела строгую сукенку з белым каўнерыкам і сачык. Ішлі знаёмай сцяжынай — берагам Лосьны.

Фальварак Пацаў выглядаў, як заўсёды, багатым і па-гаспадарску дагледжаным. Адразу ж зайшлі ў хату. Пасярэдзіне пакоя стаяў шырокі стол

з моранага дуба. Яго здабылі з Лосьны, ланцугамі выцягнулі тоўстае дубовае бервяно, дзе яно ляжала пад берагам немаведама колькі часу, падсушылі, распілавалі на дошкі і зладзілі гэты магутны стол.

У кутку цямнеў невялікі іканастас з пацямнелымі абліччамі святых. «Ікон — як у царкве!» — здзівілася Фёкла, якая была тут, у хаце Пацаў, упершыню. Каля іканастаса, на асобным столаку, месціўся стары, мусіць, яшчэ бацькаў, грамафон з тоўстай паласатай трубой.

Гаспадыня частавала гасцей абедам, заслала настольнік, паставіла на стол паляндвіцу, сыр, белыя яблыкі ў вялікай паліванай місе і іншыя прысмакі. Прынесла на падстаўцы патэльню з яечняй. Прыйшоў Амброжый са сваёй рыхлаватай Стэпаю.

— А наш кнораз у хляве саўсім ашалеў, на сценкі лезе, — не то паскардзілася, не то пахвалілася Стэпа.

На гэта ніхто нічога не сказаў. Пачалі садзіцца за стол.

— А чуткі ідуць, — загаварыў Амброжый, — што людзей з вёсак па хутарах рассяляць маюць. Так што і ты, Лявоне, свой хутар можаш займець!

— Цяжка сказаць, як яно будзе, — уздыхнуў Лявон, прыгладжваючы на галаве чубчык.

— Што ўсім, тое і нам, — дадала Фёкла, падціснуўшы вусны.

Якаў Арыстархавіч дастаў больш як паўбутэлькі закрашанай вішнёвым сокам гарэлкі і прыдзірліва агледзеў стол.

— Усё ёсць, а мэду няма, — адзначыў ён, пагладзіўшы даланёю шчокі і пульхнае, запраўленае ў гальштук падбароддзе, — Хвядося, нясі мэд!

— Прынясу! — гукнула з кухні гаспадыня. — Не ўсё ж адразу.

Калі Якаў Арыстархавіч шчэрыўся ці ўсміхаўся, у роце яго зіхацелі ўжо не адзін, заўважыў Лявон, а два залатыя зубы.

— У нас пасека на семдзесят раёў! — пахваліўся Амброжый. — Але і клопату маем!

— Пчэльнік у вас вялікі, — згадзіўся Лявон, назіраючы, як гаспадар налівае ў кілішак гарэлку.

— Ну, давайце, хоба на яго, вып’ем па напарстку! — прапанаваў Якаў Арыстархавіч.

— Чаму па напарстку? — запярэчыў яму брат. — Можна і болей! Па меры магчымасці.

Кілішак абышоў круг, і госці пачалі закусваць. Жанчыны не пілі. А толькі прыгубілі.

— Перакусвайце, перакусвайце! — падахвочвала гасцей Хвядося, аглядаючы стол. — Бярыце, хто што хоча, даставайце!

— Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі! — усмешліва азвалася Стэпа, беручы ў адну руку лусту хлеба, у другую — скрыль паляндвіцы.

— А я б табе, хоба на яго, пару вулляў прадаў бы! — сказаў Якаў Арыстархавіч, маючы на ўвазе Лявона. — І танна б прадаў! Крухмальню ты не купляеш, дык хоць пару вулляў купі. На хутары гэта вельмі б прыдалося.

— Дык трэба ўмець, як з пчоламі, як за імі глядзець, а я, — Лявон паціснуў плячыма, — не ўмею.

— Навучышся! Амброжый таксама не ўмеў, а, хоба на яго, навучыўся! Гэта не складана. Зімой глядзі, каб не памерзлі. На грамніцы мы стукаем у вулей, каб упэўніцца, ці жывыя. Загудуць — значыць перазімавалі.

— Можа б і навучыўся…

З месяц назад Якаву Арыстархавічу прыйшоў ліст з Варшавы: як уладальніка буйной пасекі яго запрашалі на пчалярскі з’езд. Ездзіў Амброжый. Можа, паехаў бы сам Якаў Арыстархавіч, каб не прыкры выпадак. Пакі-

нуў вулей пчаліны рой. Такое час ад часу здаралася, і трэба было вярнуць пчол на месца. Браты звычайна чакалі, калі пчолы саўюцца ды сядуць на якое-небудзь садовае дрэва. Тады Амброжый запальваў дымара, закрываў твар сеткай, браў вядро вады і патроху крапіў рой, абкурваў яго ды збіраў у мяшок. Каб дабрацца да пчол, Амброжый ставіў лесвіцу і паднімаўся па ёй на дрэва. Якаў Арыстархавіч звычайна заставаўся ўнізе і падказваў брату, што рабіць. Быў глыбока перакананы, што пчолы ніколі яго не крануць. На гэты раз рой сеў на чарэшню, і Амброжый палез за ім і ўжо скрапіў вадою і падкурыў, але тут зламаўся сучок (чарэшня — дрэва кволае), на якім стаяў незадачлівы пчаляр. Амброжый ухапіўся за ствол і з чарэшні, дзякуй Богу, не зваліўся — затое зваліўся рой ды проста на твар і на галаву Якаву Арыстархавічу, які стаяў унізе і кіраваў працэсам. Ахутаны роем, той закрычаў благім матам, заенчыў на ўвесь фальварак. З хаты выбегла Хвядося, угледзела ў садзе двух мужчын, у аднаго з якіх замест галавы быў нейкі чорны гарбуз, заенчыла таксама. «Кіслага малака давай!» — крыкнуў зверху Амброжый. Ледзьве адлілі. Але Якаў Арыстархавіч апух так, што нельга было зразумець, дзе ў яго нос, рот і вочы, і з якога боку твар. Праз колькі дзён усё ж такі адышоў.

— Дзекуць-Малей арганізаваў у Берасці пчалярскія курсы, — паінфармаваў Амброжый.

— Гэты, каторы баптыст? — удакладніў Кужаль.

— Але, баптыст.

— Дык, можа, на тыя курсы небаптыстаў і не бяруць?

— Бяруць! — запэўніў Амброжый.

Госці выпілі яшчэ і пакаштавалі яечню.

— Цяжка вам без Васіля, — зноў загаманіў Якаў Арыстархавіч, прыладзіўшы кавалак яечні да хлебнай лусты і ёмка адкусіўшы ад гэтага, смачна зладжанага, бутэрброда.

— Цяжка! — адгукнулася Фёкла, пачуўшы пра сына.

— Добры хлопец!

— Шкада яго.

— А вы складзіце прашэнне і адашліце да Варшавы, да самога Рыдза[1]! Адзін сын, а вы, хоба на яго, старыя, гаспадарка вялікая. Я дапамагу. Адпусцяць!

— А можа, і сапраўды паспрабаваць? — загарэлася Фёкла, пераглянуўшыся з Лявонам.

— Трэба, трэба! — падахвоціў Якаў Арыстархавіч. — За спробу не караюць.

Выпілі яшчэ па чарцы.

— Баюся я за свайго… — пакруціў галавой Якаў Арыстархавіч.

— А што такое? — пацікавіўся Лявон.

— Пры жанчынах, хоба на яго, не хацелася б нават і расказваць.

— Нічога, мы тут усе свае! — супакоіла яго Стэпа.

— У яго, хоба на яго, кніжка ў сумцы — дзеўка ў думцы, — патлумачыў Якаў Арыстархавіч, дакрануўшыся пальцам да сваёй лысай, падобнай на жаночае калена, галавы.

Прысутныя зразумелі яго трывогу: сын, на думку бацькі, залішне ўдзяляў увагу прыгожаму полу. Амброжый успомніў прымаўку, якую чуў яшчэ ад бацькі:

---

[1] Рыдз-Смігльі.

— Каханне не блінцы, а закахаўшыся — канцы.

Якаў Арыстархавіч кашлянуў і прадоўжыў свой аповед:

— Неяк я быў зайшоў да яго. У яго кватэра свая на Шырокай, пакой асобны… Дык што вы думаеце? Зайшоў, гляджу, а на стале ў яго пляшка стаіць, закуска, хоба на яго, а ў ложку баба ды такая нафарбаваная!..

Усе прымоўклі, слухаючы гаспадара.

— А дзе ж бабе ляжаць, як не на ложку? — не зразумеў Амброжый, і Стэпа тут жа штурхнула яго локцем пад бок.

Якаў Арыстархавіч зняважліва махнуў у бок брата рукой:

— Не ў тым справа! Ён жа жаніцца хоча! Ніколі, кажу, не жаніся на бабе, якая кладзецца з табою з першага разу. Ніколі! — Чаму? — пытаецца. — Ну што ты яму скажаш! Малады ты, кажу, каб пра ўсё гэта ведаць. Яшчэ малако на губах не абсохла. А ён рагоча:

— Знайшлі маладога! Га-га-га! Я яшчэ і не тое ведаю!

— А што ж ён такога ведае? — пацiснуў плячыма Амброжый, але Якаў Арыстархавіч нічога не адказаў.

У пакой увайшла занепакоеная Хвядося, якая ўсё, відаць, чула.

— Ох, прывядзе ён нам, ох, прывядзе! — амаль загаласіла яна, пляснуўшы колькі разоў у далоні. — Ой, людкове!

— Ну не пераймайся ўжо гэтак, Хвядося! — паспрабавала супакоіць Стэпа.

Яе падтрымала Фёкла:

— Усё будзе добра, адно каб здароўе.

За вокнамі матлянулася чыясьці цыбатая постаць.

— Мірык, Мірык! — зноў пляснула далонямі ўзбуджаная Хвядося, але цяпер ужо радасна. Дзверы адчыніліся, і на парозе з'явіўся малады Пац. Прыехаў на выхадны. Даў, не здымаючы капелюша, добры дзень. Хвядося павісла ў яго на шыі, але сын хутка вызваліўся з матчыных абдымкаў і падышоў да мужчын, з кожным паздароўкаўся за руку. Лявон з Фёклай падзівіліся яго надзвычай самаўпэўненаму выгляду і моднаму ўбранню. На ім прасторна сядзеў пінжак з падкладзенымі па модзе плячыма, да нізу звісалі шырокія белыя штаны. На тонкую шыю намотана кашнэ з белага шоўку, а на нагах — вялікія туфлі аранжава-чырвонага колеру. Галаву ўпрыгожваў чорны капялюш, з-пад якога тырчэлі ўбакі адтапыраныя вушы. Адчувалася, што хлопец дужа моцна трымаўся моды і ў белых штанах і чырвоных туфлях нагадваў бусла з прырэчных балацявін.

Якаў Арыстархавіч паўжартам зрабіў сыну заўвагу:

— Рэдка да дому наведваешся!..

— Ай, тато, тут не па мне. Балота стаячае! — Пакруціў туды-сюды галавой і засмяяўся, зірнуўшы на бацькаў грамафон з паласатай трубой.

— У Берасці ўжо патэфоны! Без трубы, а гук галаснейшы! Аж грыміць! Асабліва нямецкі.

— То хай бы і нам прывёз паслухаць! — азваўся Амброжый. — Мы б паслухалі.

— Дайце грошы, то куплю.

Усе засмяяліся, а Якаў Арыстархавіч запярэчыў:

— А я хацеў піяніну купіць. Піяніна лепш, чым патэфон. Добра грае, у Берасці сам чуў.

— Піяніна вядома лепш! — згадзіўся з братам Амброжый. — Піяніна — лепш! Ого!

— Ну, а што там, у Берасці, хоба на яго, апроч патэфонаў чуваць? Якія навіны? Хто там каго абдурыў?

— Навіны? Навіны ў кіно паказваюць. У кінатэатры Сарвэра. Гэта — Тэатральная, чатыры. Хаджу, хроніку гляджу. Цікава!

— Можа, каб ты чым сур'ёзным заняўся… — азваўся бацька. — А то, напэўна, і ў «Крэсуўку»[1] ходзіш?..

— Хай дзіця свету пабачыць! — уступілася за сына Хвядося. — Сур'ёзным яшчэ, будзе час, зоймецца! Яшчэ напрацуецца!

Мірык зняў капялюш, сеў разам з усімі за стол, і, нібы сталы мужчына, выпіў чарку.

— Мусаліні вядзе вайну ў Абісініі, у Германіі за Гітлерам народ ідзе, генерал Франка падняўся. Камуністы пра народны фронт крычаць, — сказаў ён, выціраючы губы і прыглядаючыся, чым закусіць.

Хвядося ўзяла ў руку анучу, адчыніла духоўку і дастала адтуль бляху са смажанай цяляцінай. Пераклала на талерку і паставіла на стол.

— Чаго толькі ў свеце не адбываецца! — зазначыў Амброжый. — Гэта ў нас ціха.

— А пра Картуз-Бярозу што кажуць? — задаў пытанне Лявон, і яно прагучала не зусім тактоўна.

— Пра Картуз-Бярозу я не цікавіўся, — па-блазенску засмяяўся Мірык. Такімі пытаннямі мяне, маўляў, на мякіне не правядзеш.

— У Бярозу, калі падумаць, трапляе, хоба на яго, хто? Рэцыдывісты! — сказаў Якаў Арыстархавіч і патоўкся пальцам у зубах. — Каторыя не падпарадкоўваюцца, а чыняць сваё.

— Злодзеі і тыя, хто падаткаў не плаціць, — дадаў Амброжый. — А што рабіць з такімі? Толькі ў Картуз-Бярозу. На курсы!

Якаў Арыстархавіч, на правах гаспадара, перамяніў тэму:

— Прэса, хоба на яго, піша, што ў Саветаў народ бунтуе. Галадае і бунтуе.

— Дзіва што! — развязна адгукнуўся Мірык. — Жыццё цяжкае. У нас кніжку чыталі — нейкага Францішка Аляхновіча «У кіпцюрох ГПУ». Ну, я вам скажу! ГПУ там дае раскрутку! Калі што якое — на Салаўкі, на белыя мядзведзі. Арыштавалі гэтага Аляхновіча ў цягніку. Калі ласка, кажуць, на хвілінку з намі, у наша купэ, і мы вас адразу адпусцім. Забралі, і тая хвілінка расцягнулася на гады.

Прысутныя глядзелі на Мірыка і ўважліва слухалі.

— Ну і напакутаваўся ж ён… Адно слова — Салаўкі… Не дай бог туды трапіць! Горш, можа, чым Картуз-Бяроза!

— Салаўкі — гэта там, дзе белыя мядзведзі, — удакладніў Амброжый.

— Астравы! Спачатку ён быў на востраве Мяг. Лес валіў, — Мірык зірнуў на слухачоў і страсянуў пышнай чупрынай: — Сорак дрэў трэба спілаваць! Норма такая, што не кожны выканае. Я чытаў і здзіўляўся!

— Сорак дрэў за дзень? — перапытаў Лявон. — Гэта цяжка!

— Гэта трэба добрая пілка, — азваўся Амброжый.

— А якія, хоба на яго, дрэвы? — пацікавіўся Якаў Арыстархавіч.

— Ну як на поўначы — сасна ды елка…

— Каб елку спілаваць, сіла трэба, — пахітаў галавой Амброжый, — і не малая.

А Мірык захоплена працягваў свой аповед:

— Некаторыя даведзеныя да роспачы адсякалі сабе пальцы. Сякерай!

— Ой! — вырвалася ў Стэпы.

— Такіх там самарубамі называюць. Сам сабе, значыць.

[1] «Крэсуўка» — рэстаран у Брэсце па тагачаснай вуліцы 3-га Мая.

— Не прывядзі гасподзь! — вырвалася і ў Фёклы.

Пасля таго, што распавёў Мірык, усе доўгі час маўчалі, паклаўшы лыжкі і відэльцы. Ежа ўжо, пасля пачутага, не лезла ў горла.

— Памянялі яго, — патлумачыў Мірык, — на Тарашкевіча.

— Каго на каго? — не зразумеў Якаў Арыстархавіч. Астатнія таксама не цямілі, але маўчалі.

— Ну, таго Аляхновіча, што сядзеў на Салаўках і напісаў гэтую кнігу, на Тарашкевіча, які сядзеў у палякаў у турме.

— На гэтага, хоба, пасла?

— На яго! Калі мяняліся, дык ён яшчэ і песню заспяваў…

— З песняй да Саветаў пайшоў?

— Выходзіць, што так.

— Адчайныя людзі, — пахітаў галавою Амброжый, невядома каго маючы на ўвазе. Ці Тарашкевіча, ці Аляхновіча, ці яшчэ каго.

Мірык паведаміў яшчэ адну навіну: у Іспаніі генерал Франко ўзняў мяцеж супраць існуючага ўрада Народнага фронту і пачалася грамадзянская вайна — свае на сваіх.

— Як калісьці ў Расіі, — сказаў Лявон.

— За Бугам хлопцы на сваіх конях у Іспанію падаліся, — вёў рэй Мірык. — Гэта каторыя камсамольцы.

— На конях? — зноў здзівіўся Амброжый.

— На конях. Кажуць, гарматы цягаць будуць або ў абоз.

— Гэта ж колькі краін трэба праехаць! — пацмокаў языком Якаў Арыстархавіч. — Тут, хоба, не ўсякая краіна і прапусціць. Французы, можа, і прапусцяць, а немцы, пэўна, не. Я іх ведаю. Надта парадак любяць.

— А Балаховіч, кажуць, ужо ў Іспаніі на баку Франка! — сыпаў навінамі Мірык. — То ў Берасці лекцыі чытаў, то ўжо там. Усім служыць. А можа, так і трэба?

— У палітыцы, сынку, маралі няма, — пасміхнуўся Якаў Арыстархавіч. — У палітыцы мамэнтам кіруюцца.

Лявон чамусьці ўспомніў пра Кляновіка: «А дзе ён? Ці жывы? Столькі часу мінула. Які яго лёс напаткаў — невядома. Вось каб ён пра ўсё расказаў — што да чаго. Тут яго галава трэба…»

— Ну, хоба на яго, яшчэ па адной! — прапанаваў Якаў Арыстархавіч, беручы ў руку пляшку, але Лявон адмовіўся:

— Што залішне, то не здрова. Дзякуй.

Фёкла таксама падзякавала, асабліва гаспадыні. Пасядзелі яшчэ трохі і пачалі развітвацца.

— А ты, Лявоне, наконт «крухмальні» падумай! — напомніў Якаў Арыстархавіч. — І наконт вуллёў!

— Падумаю, — паабяцаў прускавец.

Але замест вуллёў завёў Лявон параконную малатарню — цяжка ўжо стала ўпраўляцца з цэпам, асабліва калі пасынка забралі ў войска. На прыгуменні перад клуняй паставіў прывад з тоўстым драўляным дышлам, які прускаўцы называлі кератам. Жалезны прэнт ад яго ішоў у клуню — круціў малатарню. А яшчэ праз нейкі час да малатарні прыдбаў і веялку. Суседзяў, асабліва Грышку Латушку, моцна тачыла зайздрасць.

## III

Кузёмка наведаўся і перадаў прывітанне ад Васіля са спазненнем, пасля таго, як малады шваліжэр пабываў у водпуску і вярнуўся на службу ў свой

полк. Кужалі паспелі ўжо нават скласці «прашэнне» на імя маршала Рыдз-Сміглага, каб Васіля адпусцілі з войска дадому, улічыўшы ўсё ж такі, што ён адзіны сын, а бацькі старыя, каб адужаць гаспадарку. У «прашэнні» Лявон скардзіўся, што адзінага сына забралі ў войска, а сам ён інвалід, цяжка паранены ў царска-нямецкую вайну, а гаспадарка вялікая, але працаваць няма каму. Цяпер на «прашэнне» чакалі адказу.

— Як пажываеш? — сустрэла Кузёмку Фёкла, калі ён паказаўся ля веснічак. Праводзіла ў хату.

— А ў вас як здароўе? — пытаннем на пытанне адказаў госць.

— Яшчэ байкі, — азваўся Лявон.

Кузёмка па-ранейшаму хадзіў па вёсках, шыў кажухі і лячыў хатнюю жывёлу. Часам, як ужо чытач ведае, забрыдаў далёка. Нездарма ў руцэ трымаў моцны ядлоўцавы кій. Боты яго на гэты раз былі абляпаны граззю, і падарожны, спыніўшыся на ганку, доўга іх чысціў анучынай, якую падала яму гаспадыня.

— Дзе ж гэта ты ў гразь залез? — пасміхнуўся Лявон.

— Каля ўраднікавай хаты ў лужыну трапіў.

— Там можна.

На Кузёмкавых вуснах Кужалі ўбачылі знаёмую блазенскую ўсмешку, што адкрывала ў верхнім радзе зубоў шырокую шчыліну. Дзівак заўсёды як бы нечаму радаваўся. Пачысціўшы боты, госць зайшоў у хату, перажагнуўся на абраз, што вісеў у покуце, распрануўся, глянуў у люстэрка, паправіў рэшткі валасоў на скронях.

— Ужо ж стары, а маладзішся, — быццам папракнула гаспадыня.

— Не такі я і стары. Я яшчэ халасцяк.

Гаспадар, паказаўшы на столак ля печы, запрасіў сесці. Кузёмка, ціха крэкнуўшы, сеў і звярнуў увагу на партрэты, што віселі на сцяне.

— Падобныя ці не? — усміхнулася Фёкла.

— Дзіва што!

— Гэта яшчэ калі былі маладыя, — сказаў Лявон, прыгладжваючы непакорлівую пасачку пасівелых ужо валасоў над ілбом.

— Паклон вам ад вашага Васіля!

— А дзе ты яго бачыў? — захвалявалася Фёкла.

— У войску, у Старагардзе.

— А калі? Даўно?

— Даўнавата, яшчэ недзе пад весну было.

— Дык летам ён у водпуск прыязджаў, дома быў дзесяць дзён! — засмяяўся Лявон.

— Выходзіць, што я спазніўся перадаць паклон? Ай-яй-яй! — Кузёмка вінавата пачасаў за вухам. Такая ж вінаватая ўсмешка зачаплілася ў гарошынках вачэй. — Ай-яй-яй!

— Нічога, — супакоіла Фёкла, — лепш пазней, чым ніколі.

— Добра выглядае, — сказаў Кузёмка, — выпасены. Польскае войска ўсё ўкормленае. Есці даюць дасыта. І мяса даюць, і бульбу, і каву.

— Выглядае няблага, — згадзіўся Лявон, прыгладжваючы чуб над ілбом. — Бадзёры. У сенакос добра дапамог.

— А сам ты, пэўна, галодны? — звярнулася да падарожнага гаспадыня. — Кішкі марш іграюць?

— Ну, не еў, — крыху памяўшыся, сціпла адказаў Кузёмка і адразу пажвавеў, зрабіўся весялейшым. — Абедаў, а жывот не ведаў, — дадаў ён, — але я прывыкшы.

— Сёння ў нас боршч! Налью місачку, калі ты не супраць?

— Буду вельмі ўдзячны, — Кузёмка пакруціў шыяй, быццам яму цесны быў каўнер. — Летам столькі пазёмкаў па лесе, дык я пазёмкамі харчуюся — надта спажыўныя. А цяпер пазёмкаў няма. Восень.

Пазёмкамі ў Прусцы называлі суніцы. Лічылася, што яны спрыяюць добраму здароўю і лечаць ад усіх хвароб.

Фёкла прынесла міску баршчу, Лявон, адкінуўшы настольнік, накроіў хлеба. Госць бліжэй падсунуўся да стала, узяў у руку лыжку.

— Гаспадыня, а ты ці збіраеш пазёмкі? Іх сушыць трэба, пры кашлі дапамагае.

— Збіраю, чаму ж не.

— Раніцай трэба збіраць, як абсохне раса, або падвячоркам. І сушыць. Ягады, сабраныя з расой, пасушаныя, добра размякаюць, а калі ў спякотны поўдзень, дык зусім не тое.

— Суніцы карысныя і малому, і старому, — згадзілася Фёкла, не надта задаволеная павучальным тонам госця.

Той пачаў з апетытам сёрбаць цёплы наварысты боршч, дастаў з міскі парэбрынку і лоўка абабраў яе зубамі. Працаваў лыжкай. Увесь быў захоплены працэсам ежы, але і не маўчаў, хваліў боршч. Прыгадаў:

— Калісьці ад вясны да жніва карміліся лебядою, а зараз і хлеб ёсць, і да хлеба. Не ва ўсіх, але ёсць.

Даеўшы боршч, ён перахрысціў рот і падзякаваў гаспадарам. Падняўся з-за стала і перасеў да сцяны, на лаўку. Адчуванне сытасці пахіліла думкі дзівака на філасофскі лад:

— А ёсць жа людзі, якія скаромнага не ядуць і насіллю не працівяцца!

— Хто ж гэта?

— Талстоўцы. — Гэтае «талстоўцы» вандроўнік вымавіў так, нібы ён асабіста іх ведаў і нядаўна нават бачыўся.

— Не чуў, — пацiснуў плячыма Лявон. — Пра самога Талстога чуў, дачку яго Аляксандру Львоўну ведаў, яна на вайне сястрой міласэрнасці была. Пасля таго, як мяне паранілі пад Нараччу, дык яна мне руку і плячо перавязвала. Надта харошы чалавек.

— Талстоўцы, — вёў сваю тэму Кузёмка, — мяса не ядуць, а толькі злакі, збажыну, асабліва рыс.

— Сала не паеўшы, касу не пацягнеш, — нібы напомніў Лявон.

— А я зноў да Саветаў хадзіў, — памаўчаўшы, паведаміў госць. — У Савецкі Саюз.

— У Расію? — здзівілася Фёкла.

— У Расію. Толькі нікому не кажыце, а то паліцыя прывяжацца, каб на яе паморак! І ў горадзе быў, і па вёсках. Дамы там пераважна з круглякоў, і ў кожнай хаце вялікая руская печка.

— Ну і што там? Домнушка піша, што жывецца там ім не соладка.

— Неўраджай. Па хлеб — чэргі.

— Ой-ёй-ёй! — заламала рукі Фёкла і прытуліла да шчакі.

Лявон, каб супакоіць жонку, запярэчыў:

— Дык ты ж, відаць, да Самары не дайшоў, а недзе тут быў, з краю. Самара — далёка, на ўсход.

— Нават сушанай рыбы няма, — стаяў на сваім вандроўнік.

— Як жа так? — зноў уступіў у размову Лявон. — І моры, і рэкі, і азёры — усё ж засталося, а рыбы няма?

Госць няўцямна, як дзіця, пацiснуў плячыма:

— Няма.

— Дзіўна!

— І людзі вельмі нервовыя сталі. Спытаеш што, а ён як чмыхне: «Да пашол ты к чортавай мацеры!» Я нават дзівіўся.

— Нервовыя, бо галодныя, — разважыла Фёкла. — Галодны — ён заўсёды незадаволены і нервуецца, бо есці хоча.

— Але бальшавікі пераляцелі ў Амэрыку! — крыху памаўчаўшы, пажвавеў госць.

— Пераляцелі ў Амэрыку? — не зразумеў Лявон. — Як?

— А праз Паўночны полюс!

— Там жа няма дарогі, там скрозь лёд! Якім чынам?

— А на араплане! — засмяяўся Кузёмка, быццам ён сам удзельнічаў у тым пералёце і яму гэтая справа знаёмая. — Каб я так жыў! — дадаў ён у доказ праўдзівасці сваіх слоў.

— Гэта ж далёка ляцець! — здзіўлена пахітаў галавой Лявон.

— Далёка.

— Калісьці морам я амаль тры тыдні плыў. Тры тыдні зямлі не бачыў.

— Дзень у дзень вада! — падзівілася Фёкла. — Трэба сілы, каб такое вытрымаць.

— Малады быў, — пасміхнуўся Лявон.

Ад тэхнікі Кузёмка перайшоў да палітыкі. Заадно пра ўсё, відаць, хацеў расказаць.

— Але хоць бальшавікі і пераляцелі праз той лёд у Амэрыку, у самой Расіі не надта што і памянялася. Як быў цар, так цар і застаўся. Толькі імя памяняў.

Гаспадары прымоўклі, уражаныя тым, што распавядаў гэты дзівак.

— Цяпер ён завецца Сакратар.

— Сакратар? — здзівілася Фёкла. — Гэта як пісар у воласці? Сакратар?

— Але, сакратар, — пацвердзіў Кузёмка. — Сціплы сакратар. Сядзіць і піша.

— Не можа таго быць, каб цар ды нейкім сакратаром называўся! Ты што? — Жанчына выглядала вельмі расчараванай.

— Дык Сталін гэтак сябе называе — простым сакратаром. Сакратар, маўляў, як і ўсе. Ну, а Сталін хіба не цар? Але ж ён сакратаром завецца, — Кузёмка развёў рукамі, паказваючы, як на свеце ўсё складана, нечакана і незразумела. — Застаецца толькі здзіўляцца.

— У Расіі без цара нельга, там да яго ўсе прывыкшыя, — патлумачыла Фёкла. — Спакон вякоў! Бацюшка — цар!

— Ну, хто ж цара не ведае?

— Палякі кажуць, што там цяпер турмаў больш, чым пры цары было, — зазначыў Лявон. — Калі добрае жыццё будуюць, дык нашто столькі турмаў?

— Царскіх турмаў ужо не хапае, новых шмат набудавалі, — з веданнем справы патлумачыў госць. — Многія сядзяць. І найбольш — самі рэвалюцыянеры. Гэтыя першымі туды трапляюць. Рэвалюцыянеры і камуністы.

— Можа, каб больш рэвалюцый не падымалі, — выказаў меркаванне Лявон.

— Ой, што ж гэта такое? — напалохана запытала Фёкла. — А помніцца — малочныя рэкі абяцалі, рай!

— Расстралялі, кажуць, таго генерала, што некалі яшчэ з тымі Саветамі палякаў да Варшавы гнаў. Як жа гэта яго прозвішча?.. Тухачоўскі ці што…

— Быў такі, — пацвердзіў Лявон. — Тухачоўскі.

— А ў Іспаніі вайна доўжыцца, — частаваў навінамі Кузёмка, — таксама свае сваіх б'юць, іспанцы іспанцаў лупяць. Свае — сваіх!

— Як калісьці ў Расіі, — зноў азваўся Лявон. — Сваіх б'юць, каб чужыя баяліся. Уладу дзеляць. На ўладу ўсе ласыя.

— І Булак-Булаховіч там, з камуністамі ваюе.

— Ён — такі! — не запярэчыў госцю Лявон. — Гэты можа!

— Ой! — махнуў рукою Кузёмка. — Чаго толькі на свеце няма! І добрага, і дрэннага, не к ночы будзь сказана. Усё перамешана, і ўсё ў гэтым свеце здараецца!

— Што праўда, то праўда, — пацвердзіў гаспадар. — Усялякае здараецца. І добрае, і кепскае.

— Я калі са Старагарда вяртаўся, дзе вашага Васіля сустрэў, у Грыбоўшчыну завярнуў. Вёска такая пад Беластокам, дзе Гальяш Клімовіч царкву пабудаваў. Дык вось я Гальяша наведаў.

— Таго святога? — здзівілася Фёкла.

— Яго. Але ніякі ён не святы, хоць народу да яго звяртаецца шмат. Звычайны мужык, але «апосталамі» сябе абкружыў — такімі, як сам. Мужыкамі. Ну які з мужыка апостал?

— А кажуць — ісцаляе.

— Не, не бачыў я, каб каго сцаліў. Бабаў пры ім шмат. З іерархамі варагуе. Не прызнае!

— Хто ў гэтым разбярэцца…

— А ў вас, я чуў, новы дзяк?

— Новы, — Лявон пачухаў патыліцу.

— Кажуць, надта на дзевак заглядаецца.

— Бо не стары яшчэ, — усміхнулася гаспадыня. — Каб стары, дык бы не заглядаўся.

— Ну, духоўнаму ліцу нельга, — Кузёмка падціснуў вусны і адмоўна павёў галавой. — Пустое гэта! Грэх! — Ён ні з таго, ні з сяго так моцна ўдарыў кулаком па стале, што ажно закалаціўся посуд. Асуджаў, відаць, паводзіны Лаўра Яўсеевіча.

Тут трэба зрабіць невялікае адступленне. Справа ў тым, што нераўнадушнасць і схільнасць Лаўра Яўсеевіча да жаночага полу была заўважана, як толькі ён заявіўся ў Пруску. Угледзеўшы жанчыну, ён абавязкова павінен быў павітаць яе і сказаць колькі прыемных слоў. У хоры пад кіраўніцтвам Лаўра Яўсеевіча ўдзельнічалі амаль усе навакольныя прыгажуні, як тыя, што мелі голас, так і тыя, каго прырода такім талентам не надарыла. Яны аздаблялі калектыў сваёй прысутнасцю. Асаблівай увагай новага дзяка карысталіся «амерыканкі» — Волька Хомчышына, Гальяшова Луша, Нінка Пралеска і Грыцук Груша. Мужыкі з’ехалі ў Амерыку, напачатку слалі лісты, а потым, усё адно як згаварыліся, змоўклі. Які іх лёс, ніхто не ведаў. (Вярнуўся з Амерыкі адзін толькі Астап Грыцук, ажаніўся на Грушы і — замест таго, каб жыць, — памёр. Відаць, надарваўся на цяжкай працы за акіянам). Лаўр Яўсеевіч, трэба аддаць яму належнае, падабаўся «амерыканкам». «Ой, ветласцю ды залесцю душу выймае!» — не то хваліліся, не то скардзіліся яны і па чарзе запрашалі ў госці. Прускаўцы — народ маўклівы, стрыманы, засяроджаны на сваім, патаемным, — былі нават прыемна здзіўлены, што прыезджы аказаўся такім незвычайным любахватам.

І пра ўсё гэта, аказваецца, ведаў і Кузёмка.

— Сумныя часы насталі, але горшае яшчэ наперадзе, — пракаменціраваў ён сітуацыю з новым дзяком. — Яшчэ не тое будзе! Ой, будзе!

— Ты б што добрае паабяцаў, — папракнула прарока Фёкла, — а то ўсё страшыш.

— Я і сам бы хацеў ды вось не магу, прасвету не бачу, цёмнае ўсё. Душа стамілася, — паскардзіўся пілігрым і паўтарыў: — Стамілася душа! Хаджу, а супакою не знаходжу. Можа мне ў Ерузалім схадзіць? Там лампада ад святога агню вазгараецца.

— Вазгараецца, — пацвердзіла Фёкла.

Праз хвіліну вандроўнікам авалодала нейкая драўляная нерухомасць. Кузёмка пазяхнуў і ўздыхнуў. Відаць было, што ён сапраўды стаміўся і хоча спаць.

— Начаваць буду! — абвясціў ён і перахрысціў лоб.

Разуўшы боты з бліскучымі халявамі, ступіў на ўслон і палез на печ, што вабіла цеплынёй і ўтульнасцю.

— На чэране буду спаць, на цвёрдым, бо на мяккім спаць — грэх!

Назаўтра, паснедаўшы, апрануў бравэрку, насунуў на галаву шапку і пусціўся ў дарогу. Куды — ведаў, мусіць, толькі сам, а можа, і сам не ведаў. За ім танклява рыпнулі дзверы.

## IV

А як склаўся лёс Косці? Ён таксама бадзяўся па свеце — па «казённых дамах», як называюць гэтыя месцы варажбіткі, калі гадаюць на картах. У Брэсцкай турме праседзеў нядоўга, усяго толькі некалькі месяцаў. Затым былі віленскія Стэфанская і Лукішкі, пра якія ў народзе казалі: «Лукішкі вымотваюць кішкі». Адзіночка. Дамагаўся пераводу да палітычных у агульную камеру. Яго перавялі ў камеру нумар 142. Таксама адзіночка — яна аказалася адзіночкай на дваіх. Па доўгіх калідорах вёў наглядчык у зашмальцаванай уніформае з вялікай звязкай ключоў у руцэ і напучанымі вачыма какаініста. Турэмнымі пераходамі падняліся на трэці паверх. Усунуўшыся праз вузкія, акаваныя жалеззем дзверы, якія адчыніў наглядчык, Косця па звычцы прыкінуў плошчу: чатыры крокі ў даўжыню, тры — у шырыню. Зірнуў на прымкнёныя да сцяны два жалезныя ложкі з саламянымі матрацамі. Злева стаяла параша — неад'емная спадарожніца турэмнага жыцця. Пахла мачой і яшчэ чымсьці непрыемным, застарэлым.

Тут ужо месціўся нейкі чалавек, які сядзеў на столаку ў процілеглым ад парашы кутку. Апрануты быў, як і Косця, у турэмную робу. Спакойна паглядзеў на ўвайшоўшага. Вочы — вузкія, праніклівыя, над ілбом пуклілася шырокая плешына. Выглядам сваім ён быў падобны на грэцкага філосафа Сакрата, якім яго падавалі ў падручніках па гісторыі (у той Мінскай школе, дзе калісьці вучыўся Косця, выкладалі і гісторыю). Не стары, але ўжо добра сталы. На абліччы сляды паважнай стомленасці і, разам з тым, прыхаванай веліччы. Калі крокі наглядчыка аціхлі ў канцы калідора, яны пачалі знаёміцца. Той, што сядзеў на табурэтцы, першы падаў руку:

— Піліп Пестрак, — сказаў ён, зрабіўшы націск на першым складзе: «Пестрак». — Сядай! — ён паказаў на невысокі зэдлік, што стаяў насупраць. Косця сеў.

Даведаўшыся, што перад ім палітвязень, Піліп устаў, моцна абняў, а потым, крыху як бы хістаючыся, падышоў да прыкаванага к сцяне стала, дастаў з-пад алюмініевай місачкі кавалачак шэрага турэмнага хлеба і падаў яго сябру: «Перакусі». У самога ў вачах — было відаць — затаіўся прывычны для вязняў галодны бляск. Косця адмоўна пахітаў галавой.

— Еш! — настойваў Пестрак, нават пажартаваў: — У турме трэба есці — закусваць будзем на волі.

— Я еў.

— Панюхай хаця — пах хлеба карысны для лёгкіх. Я часам кладу хлеб вось сюды, — Пестрак паляпаў сябе далонню па патыліцы, — скулы сядаюць, дык я ад іх хлебам ратуюся.

— Гэта вам падарожнік трэба прыкладаць, або альховы ліст. Народны сродак, дапамагае.

— Я ведаю, але дзе ж ты яго дастанеш. А хлеб — ён, браце, лекавы. Панюхай!

— Дзякуй.

— Цяжка?

Косця палічыў пытанне новага знаёмага рытарычным і прамаўчаў. Зірнуў уверх, пад столь, дзе знаходзілася закратаванае акенца. Неба не ўбачыў — яго засланяў паддашак, які навісаў над запыленым і брудным шклом.

— Спартаку было цяжэй, — суцешыў новы знаёмы, зноў сеўшы на столак. — Яго распялі.

— Хто? — не зразумеў Косця.

— Вядома хто — тагачасныя паны, класавыя ворагі. Яны і тады былі.

Пра паўстанне Спартака Пiлiп ведаў яшчэ з прафесарскай лекцыі, калі вучыўся ў Самарскім універсітэце, — было гэта ў 1920-м годзе, у часы бежанства, у Расіі. Цяпер тыя веды ён перабудоўваў на новы, марксісцкі лад.

— Ну, ясна, — адказаў суразмоўца, успомніўшы, што і ён калісьці чуў пра Спартака.

— Вялікі чалавек быў, гэта ж такую масу рабоў павесці за сабой! Сотні тысячаў войска!

— Правадыр!

— А па сутнасці такі ж самы рэвалюцыянер. Ворагаў не шкадаваў, бо і яго не шкадавалі. Гладыятар, адным словам. — Пiлiп урачыста падняў уверх руку і прадэкламаваў: «Хто я? Я рымскі гладыятар. Я — паншчыны катаўскай бунтар!..»

Косця яшчэ раз агледзеў камеру і чамусьці ўспомніў Кляновіка: «А можа, і ён калісьці тут, на Лукішках, сядзеў? Можа, нават у гэтай камеры? Вось з ім бы сустрэцца! Але не, не давядзецца. Далёка цяпер Кляновік…» Перад ім знаходзіўся іншы таварыш, але таксама, відаць, цікавы.

— А ў нас, браце, свой вораг: нашы паны ды паўпанкі жыцця не даюць! Шляхта! Хутаранцы! Паны! Гэта ж нас, каб ты ведаў, яны меншасцю лічаць, а мы — народ! Але па часе справімся і з панамі! — Пiлiп устаў, зрабіў колькі крокаў па камеры, спыніўся, рубануў рукой: — Фашыстоўцы! Навіслі, як чорныя хмары. Ну, але пачакайце!

— Фашысты — у Германіі, — удакладніў Косця. — Гітлер. Гэта самы першы фашыст. Узяў уладу пры дапамозе такіх, як і сам, буржуяў ды зладзеяў, аб'яднаў іх у атрады штурмавікоў. Усеагульную вайсковую павіннасць аб'явіў, франкістам дапамагае. Хітры! Але Георгій Дзімітраў — дапамог разабрацца, што нясе Германіі Гітлер!

— Што ён нясе Германіі — гэта вядома, — паважна сказаў Пiлiп, павёўшы брывом. — Некалі французская рэвалюцыя, панімаеш, Напалеона спарадзіла, які сусветную імперыю хацеў утварыць пад сваёй уладай, а цяпер таго самага хоча Гітлер. Фашыстоўцы — і адзін, і другі. Пра гэта ж і ў кнізе піша — «Mein Kampf». Вось і Тэльмана за краты кінуў, як тут гэтыя мяне. Чуў?

— Чуў.

— Фашыстоўцы!

— Цесна, відаць, ім разам — аднаму і другому.

— Калі б па-іншаму было, дык, я табе скажу, і Тэльман бы Гітлера пасадзіў. Тут хто каго першым пасадзіць…

— Ну, гэта, можа, і не зусім так…

— Я ведаю, што кажу. — У голасе Пiлiпа пачулася павучальнасць. — Пра многае думаў. Я тут даўно. У студзені была амністыя, некаторых, панімаеш, выпусцілі, ну, у асноўным драбязу, а мяне, браце, трымаюць, не хочуць выпускаць. Цяпер вайскоўцы пры ўладзе. Але пераседзім і вайскоўцаў! Праўда,

у Пінскай турме было надта цяжка. Лукішкі пасля Пінскай — рай. У Пінску мне пальцы ў дзвярах шчамілі, а ў Брэсце на тубарэтку саджалі. Усяго зведаў. Турма, браце, для мяне стала як родная хата. Я нават, прызнаюся табе, паціху ганаруся гэтым. А што? Пасядзі з маё! Летам — гарачыня, зімой — халадно, як у лядоўні, да нутра дрыжыкі прабіраюць. Але ёсць і ў пакутах насалода. Толькі гэта трэба адчуць…

Ён засмяяўся нейкім знарочыстым, натужлівым смехам, які тут жа перавёў у кашаль. Адкашляўся і загаманіў зноў:

— Я ж, браце, у Пінскай турме і галадоўку перанёс. Пяць дзён галадаў, на шосты, праўда, не вытрымаў… — Піліп зрабіў паўзу, як бы яшчэ раз узважваючы тое, што казаў. Потым зноў сеў на столак. — Турма навучыла, браце, сядзець. Хадзіць — адвучыла, — паскардзіўся ён. — На волі давядзецца зноў, нанова авалодваць гэтым уменнем. Але авалодаем!

Памаўчаўшы, дадаў:

— Чалавек, які не спазнаў гора, не чалавек. Жыццё — штука складаная. Над намі віхры выюць! Віхры выюць, і фашыстоўскія кулі свішчуць! А правакатараў колькі! Ой, браце! Апісаць бы ўсё гэта ў кнізе, што мы церпім! Вялікая б кніга атрымалася — раман!

Вязень падняўся ізноў і доўга соўгаўся па камеры — тры крокі ў адзін бок, тры ў другі, — бічаваў і пляжыў сусветны фашызм і мясцовую шляхту. Косця адчуў, што да шляхты ў яго быў нейкі асабісты рахунак і непрыязнасць.

Зрэшты, так яно і было на самай справе і цягнулася яшчэ з дзіцячых гадоў, ад вясковых уражанняў і ўспамінаў, калі малы Піліп быў сведкам варожых адносін паміж вясковай шляхтай і мужыкамі. Адны на адных лезлі з каламі.

— А ўсё ж такі, таварыш, сусветная рэвалюцыя немінучая! — скончыў Пестрак і рэзка махнуў рукой. — Толькі яе не чакаць, а рыхтаваць трэба! Я, браце, такі! Мне або жар давай, або холад — сярэдзіны я не люблю. Прызнаюся табе: я толькі там добра сябе пачуваю, дзе палае рэвалюцыя, дзе барацьба ідзе!

— Трэба браць самім, што нам належыць, — падтрымаў таварыша Косця. — Як у Расіі. Там дамагліся, цяпер усё належыць працоўным масам. Вось, кажуць, і картачкі адмянілі.

— У СССР добра, — пагадзіўся Піліп, зноў апусціўшыся на столак. — Сталін жа сказаў: «Жыць стала весялей». Нашы хлопцы таксама, відаць, не блага там прыжываюцца. Работнікі — і не абы-якія, а наменклатурныя, браце! Наменклатура. Ого!

— Як хто…

— Мы цяпер тут, у Польшчы, працуем для сацыялістычнай рэвалюцыі. — Піліп крыху памаўчаў і дадаў: — Так вучыць Ленін. Вывучай, браце, марксізм, асабліва тэорыю гістарычнага матэрыялізму — там на ўсё знойдзеш адказ. Пралетарыі ўсіх краін — гэта неадольная сіла! «Призрак бродит по Европе, призрак коммунизма…» Марксізм трэба любіць — там, браце, адказы на ўсе загадкі быцця. Ну і Леніна чытаць трэба. Асабліва яго кніжку «Што рабіць?». Выдатная рэч! Мы, як навальнічны авангард, ва ўсім павінны разбірацца, усё ведаць. Для гэтага мы і народжаныя!

— Арганізаванасці нам не хапае, — уздыхнуў Косця. — Трэба дапамагчы людзям, каб на правільны шлях іх паставіць, каб заадно! Але вось што цікава: чым большыя поспехі КПЗБ, тым больш яе праследуюць — і ворагі, што зразумела, але і нават сябры.

Піліп незадаволена пачмокаў сухімі вуснамі і працягнуў сваю прамову:

— Што праўда, то праўда, арганізаванасці нестае, і сведамасці не хапае. Вялікая рэч — сведамасць. Гэта я ў Расіі зразумеў. Рэвалюцыйная сведа-

масць! Потым, панімаеш, калі разважаць далей, то і згоды нам бракуе. Няма згоды, хоць ты плач! Хоць на каленях прасі: «Хлопцы, будзьма заадно!» А яны — як дзеці! Кожны хоча сам з цацкай бавіцца. Ну, зразумела, слабейшыя адыходзяць ад нашай справы. Не вытрымліваюць. Так, браце, было заўсёды. Некаторыя нават пераходзяць у варожы лагер. Рэнегаты! З такімі трэба рашуча змагацца. Тут няньчыцца не маем права! Ёсць яшчэ і такія, што супрацьстаўляюць сябе масе. Зазнайства не вядзе да дабра. Часам і кіраўнікі гэтага не разумеюць. Я помню, як у Расіі грымеў Троцкі — не менш за Леніна! Ого! А дзе ён зараз? — Пііп паціснуў плячыма. — Як май змаяваў.

— Хто яго ведае, за мяжой недзе. Такі не прападзе. Прагналі яго, бо надта прыспешваў ён наша дзела і вышэй за ўсіх хацеў падскочыць. Апярэдзіць хацеў усіх. Ну, вядома, і ўлады дамагаўся. Новую рэвалюцыю хацеў пачаць.

— Сутнасць нашага жыцця — барацьба, — задумліва прамовіў суразмоўнік і глыбакадумна правёў далонню па пукатым ілбе. — Меркаваць аб чалавеку будуць не па тым, што ён калі зрабіў — добрага ці благога, а па канечным выніку яго жыцця, па выніку барацьбы. Гэтыя словы, дарэчы, любіў калісьці Кляновік. Я добра яго помню — выдатны таварыш! Сядзелі разам. Эх, Андрэй-Андрэй!

— Дык вы яго ведалі?

— Дзіва што! І ведаў, і гаварыў, як вось з табой. Далёкага палёту быў таварыш! Арол з вялікай літары. Скажа бывала: «Ты паэт, Піліпе, а я практык. Але лінія ў нас адна!»

— Зайздрошчу я вам! Гэта шчасце — сустрэцца з такім чалавекам! Сапраўды з вялікай літары.

Піліп скрушна пачасаў за вухам і з нейкай прыкрасцю сказаў:

— Чуў я, што яго ў трацкізме абвінавацілі…

Тут Косця паказаў сваю дасведчанасць:

— Каб толькі ў трацкізме…

— А што яшчэ?

— Ды, відаць, шмат што. Прайшоў быў слых, што трапіў пад уплыў ухланістаў.

— А хто гэта — ухланісты?

Косцю няёмка было прызнацца, што ён і сам не надта ведае, хто такія ўхланісты, таму ён сказаў:

— Ну, каторыя не згодны з лініяй…

Піліп няўцямна пакруціў лысай галавой, глыбока пазяхнуў і зноў ціха загаманіў:

— Вінаваты ён ці не, таго сказаць не магу. Партыі тут, браце, відней… Ва ўсім, я табе скажу, капіталісты вінаватыя — шкодзяць, шпіёняць, паклёпнічаюць. Гэта, браце, змова. Партыя вядзе жорсткую бітву! Ворагаў у нас, як вошай. Чыстка трэба. Як у Расіі.

— Цяпер іх у Расіі ўрадзіцелямі называюць.

— Як?

— Ну, шкоднікамі. Каторыя шкодзяць.

— Вось-вось! Шкоднікаў шмат! Шкоднікаў, здраднікаў, рэнегатаў, правакатараў! Гэта шляхта ўсё вырабляе! Хутаранцы! Фальваркоўцы! Фашыстоўцы! Не проста выйсці пераможцам у класавай барацьбе з імі. Ох, не проста. Штошто, а замаскіравацца яны ўмеюць. Вось і Кляновік, відаць, стаў іх ахвярай. А хіба толькі ён?.. Гэта — па-першае. А па-другое, для нас, браце, хто ў камуністы запісаўся, і сам прынцып вельмі важны. Барацьба! Барацьба да канца. Інакш гарантыі няма. І з сабой змаганне! З ленасцю, з бяссіллем, з дурнымі жаданнямі, з цямнотай! — Піліп ізноў з шумам уцягнуў у сябе паветра і з

шумам яго выдыхнуў, як бы абураўся ці на кагосьці, скардзіўся, шукаў вінаватага. — І нічога не зробіш, рэвалюцыянеры гінуць у гэтай барацьбе першымі.

— Цяпер Кляновік, кажуць, у Бійску, на гаспадарчай рабоце. Гэта недзе ажно ў Алтайскім краі. Без канвою паехаў…

— А можа ён там?..

— Дзе?

— Ну, у Іспаніі…

— Не.

— І катаванне, панімаеш, не зламіла яго. Барацьбіт — што і казаць! Баюся, што на гаспадарскай рабоце яму будзе цяжка. Што гаспадарка! Яму ў рукі паходню! Яркая асоба! Разваротлівы!..

— А пра Прытыцкага чулі?

— Чуў! Герой! За каўнер схапіў Стральчука і пакараў! Волю партыі выканаў. Чатыры кулі ўсадзіў!

— Столькі вытрымаў! Ішоў да канца. Не кожны, мусіць, так зможа. Не кожны. Чатыры разы з пісталета бабахнуў! Я часам пра сябе думаю: «Ці здолеў бы, ці змог бы?..»

— Што ж, змаганне нараджае герояў, — Піліп разважна зрабіў паўзу, — героі ёсць, толькі вось народ нас мала чуе. Слаба нешта ён нас падтрымлівае…

Косця нічога не адказаў. Яны памаўчалі, і Піліп рашуча памяняў тэму гаворкі: — Ты пра ўсё ведаеш, дык, відаць, газеты чытаў?

— А як без газет?

— Ну, дык можа і вершы Звестуна сустракаў? Ці мо чуў ад каго?

Пытанне было даволі нечаканым, Косця памаўчаў, як бы нешта ўспамінаючы і кіўнуў галавой:

— Пэўна ж сустракаў. Паэтаў цяпер шмат: Жылка, Салагуб, Машара, Васілёк, Паўлюк Сірата, Граніт, Танк… Аднаго я асабіста ведаў — Гаўрылюка. Аляксандра Гаўрылюка.

— Ёсць такі паэт, — пагадзіўся Піліп, — наш, нелегальны. Добры паэт, дарэчы. Бо ёсць такія, што да нашай справы прымазаліся, сапраўднага нутра ў іх няма. З багаценькіх! У бацькі зямлі пятнаццаць дзесяцін ды кароў статак, а ён — пралетарскі паэт!.. Да такіх, браце, у мяне веры няма.

Косця яшчэ раз уважліва паўзіраўся ў свайго новага прыяцеля, які пасля непрацяглай паўзы прызнаўся:

— Адкрыюся табе: Звястун — гэта я. Звястую, браце, аб лепшай долі. Не ўсё трапляе ў друк. Цэнзура, каб на яе ліха! Лепшае якраз і не пускае.

— Праўда? Вы пішаце вершы?

— Складаю час ад часу. Хочаш — пачытаю, нядаўна зрабіў адзін моцны верш. Тэматыка ў мяне шматстайная, ёсць сур'ёзныя вершы, а ёсць і лірыка. Ведаю, што нельга гэта, але… складаецца. На тым тыдні напісаў podanie naczelniku więzienia[1], каб дазволіў карыстацца чарнілам. Адмовіў. Баіцца майго пяра. Дык я складаю вусна. Думкі самі прыходзяць.

Паэт не прымусіў сябе шмат прасіць, адразу ж набраў у лёгкія паветра, адкінуўся назад, прымружыў вочы і, крыху тэатральна крануўшыся даланёю лба, пачаў:

Ты і я на возе
Лугавога сена.
Вечар па дарозе
Пах рамонкі сее,

[1] Заяву начальніку турмы (польск.).

Сцелецца туман,
І цвіце курган,
Кветкай сосен вышняй,
У воблачкі прыбран.
Знемаглася, спіш ты?
Стужкаю ружовай
Ноч зара вітае,
З кожным паляваннем
Косы расплятае.
Грушы ціхі сум,
Сведка даўніх дум,
Сэрцу б'ецца весткай
Аб сірочым дню.

Косця ўважліва слухаў, намагаючыся ўявіць сабе тое, пра што гаварылі радкі верша. Голас паэта гучаў ціха, амаль шэптам, але вельмі душэўна, шчыра.

Ты не спіш? Прыгледзься!
У змучаныя грудзі
Кветкаю дыхні,
Хай нам шчасце будзе
Песняю вясны,
Каб яна шумела
Над зямлёй збалелай.

— Ну, як? — спытаў, скончыўшы чытанне, — Што скажаш? Пакрытыкуй!

— Здорава! Гэтак прыгожа ўсё апісана: і воз, і сена, і вечар! Бачыш усё, быццам і на самай справе, быццам ты і сам на гэтым возе. Добра!

— А ці бярэ за сэрца?

— Бярэ.

Аўтар быў усцешаны:

— Ну, не перахвалі, а то яшчэ і заганаруся. Паэты, браце, вялікія ганарліўцы. Я, каб ты ведаў, як паэта незадаволены сабой. Незадаволенасць — гэта, запомні, добрая рыса. Геніяльныя людзі заўсёды незадаволеныя.

— Не, напісана добра! — Косця крыху памаўчаў, а потым, зірнуўшы на паэта, сказаў: — Але ж яны на тым возе, пэўна, і прыціскаліся, дурэлі, можа ён яе і мацаў, за грудзі браў, а пра гэта ні слова? Хаця б у шчаку цмокнуў!

— Э-э, чаго захацеў! Каб у шчаку цмокнуў? А, можа, хлопец той, што на возе, — рэвалюцыянер, ці наш брат падпольшчык? Не паложана! Ты падумаў пра гэта? Не дзеўчына яму павінна быць у галаве, а, сам разумееш, нешта іншае. Перш за ўсё — дзела!

— Ну, хіба што так. А верш добры!

— Дык я, браце, каб ты ведаў, ужо карыстаюся гэтым новым метадам для пралетарскіх паэтаў — сацыялістычным рэалізмам. Дапамагае. Бачанне дае. Перспектыву!

— Я ў гэтым не надта, — прызнаўся Косця, —— хіба што слова нейкае прыпомніць магу ці рыфмай дапамагчы, каб у лад трапляла.

— Ты халасты?

— Халасты.

— Тут ёсць дзеўкі.

Косця не адразу зразумеў, што мае на ўвазе яго новы таварыш, куды хіліць.

— Якія дзеўкі?

— Сядзяць, з нашых.

— З нашых?

— Ну, так.

— Маладыя?

— Ёсць і маладыя.

— Цікава.

— Камсамолкі.

— Камсамолкі?

— На шпацыры можна пазнаёміцца.

— Ну то пабачым.

— Пабачыш. Праўда, Розы паміж іх няма, але дзяўчаты сімпатычныя.

— Якой Розы? — не зразумеў Косця.

— Розы Люксембург, спартакаўкі. Калісьці яна казала, што мусіць памерці на сваім пасту — на вуліцы або ў турме. Так, дарэчы, і здарылася. Прыгожая, кажуць, была, але і нашы не з горшых. Убачыш!

Гаворачы пра дзяўчат, Піліп успомніў сваю знаёмую, з якой перамаўляўся позіркамі ў час прагулкі ў турэмным дворыку. Мілавідная такая, паглядная, сярэдняга расточку, з чорнымі хвалістымі валасамі. Памяркоўная, відаць, з характару. Спачатку, сустракаючыся з яго позіркам, чырванела, а цяпер перастала, асвоілася, круціць галавой, шукаючы яго, і нават пасміхаецца. Баяўся, каб усур'ёз не закахацца. Сорамна будзе перад таварышамі…

Косця ўстаў са свайго зэдліка, прайшоўся туды-сюды па камеры. Зірнуў у акенца, за якім панаваў ужо змрок. Паціху, незаўважна насунуўся вечар. Яшчэ больш захацелася есці. На вячэру далі кавалачак селядца, бульбіну і кубачак несалоджанай кавы. Піліп падзяліўся сухаром, які прыбярог, трымаючы яго пад алюмініевай міскай. Сухар аказаўся вельмі прыдатны да кавы. Павячэраўшы, яны адначасова, адзін і другі, адчулі, што нехта за імі сочыць. Гэта праз «вока Іуды» зазірнуў той самы наглядчык з напучанымі вачыма. Бразнуў замок, дзверы адчыніліся, і наглядчык увайшоў у камеру, моўчкі адамкнуў прымацаваныя да сцяны жалезныя ложкі з набітымі перацярушанай саломай матрацамі і такімі ж падушкамі, паверх якіх ляжалі складзеныя ў некалькі столак коўдры. Не чакаючы пакуль вязні ўпарадкуюць пасцелі, наглядчык таксама моўчкі пакінуў камеру. Чутно было, як ён пстрыкнуў электрычным выключальнікам, і ў камеры стала цёмна. Вязні зразумелі, што вечаровага шпацыру не будзе. З сумам паглядзелі на маленькае закратаванае акенца, што віднелася амаль пры самай столі. Разабраўшыся з пасцелямі і зняўшы верхнюю вопратку, яны моўчкі паселі на ложкі — кожны на свой.

— Цікава, як там у Іспаніі зараз? — як бы самому сабе задаў пытанне Піліп. — Ця-я-жка, мусіць…

— Мадрыд стаіць, як скала.

— Я ведаю.

— Фалангістам[1] капіталісты спрыяюць. Каб не яны, дык ужо даўно б перамаглі, а так… — Косця зрабіў паўзу. — Цяпер нашых там шмат. Эх, паехаць бы туды!

— Іспанцам трэба дапамагчы. Першы сноп — ім.

— Дапамагаюць, асабліва моладзь. Грошы збіраюць…

— Малайцы! За гэта хвалю.

— Барацьба ідзе па ўсім свеце.

— Па ўсім свеце, — згадзіўся Піліп. — Мяне дужа той пакт непакоіць: Германія, Італія ды яшчэ Японія — гэта ж, каб ты ведаў, супраць нас.

— Вядома.

---

[1] Фалангісты — так у Заходняй Беларусі называлі прыхільнікаў Франка.

У турме паступова ўсталёўвалася начная цішыня, якую зрэдзь парушалі аддаленыя гукі: прыглушаныя сценамі стогны, ускрыкі, аціхлыя крокі калідорных наглядчыкаў, рып дзвярэй, мяккі бразгат жалеззя.

— Давай, браце, на сон градушчы спяём! — нечакана прапанаваў Піліп. — Толькі ціха-ціха, каб гэтыя злыдні не пачулі, а то пачуюць, дык непрыемнасцей не абярэшся. — І першы пачаў:

Нас не сломит нужда,
Не согнет нас беда.
Рок всесильный не властен над на-ами…

Ціхія словы скрабанулі па сэрцы, і яно забілася ямчэй, як бы напаўнялася новай сілай, і Косця падхапіў знаёмую мелодыю:

Никогда — никогда,
Никогда — никогда
Коммунары не будут рабами-и!

Песня выспеўвалася нягучна, прыглушаным рэчытатывам, амаль шэптам, аднымі толькі вуснамі, але ад гэтага не толькі нічога не траціла ў сваім сэнсе, а як бы нават нешта набывала — упартасці і непахіснасці.

— Люблю гэтую песню, — прызнаўся Піліп, калі яны скончылі, — у ёй — самае галоўнае. Эх, браце!..

— У ёй вялікі сэнс, — адгукнуўся Косця, — шкада, што народ яе не ведае…

Піліп, аднак, не падтрымаў далейшай гамонкі — не хацеў, мусіць, парушаць звыклы турэмны рэжым ці, можа, залішне стаміўся і хіліла на сон.

— Спаць, спаць! — як бы загадаў ён сабе і заадно свайму суразмоўцу. І апошняе, што ён прамовіў, ужо лёгшы на ложак і нацягнуўшы да падбароддзя турэмную коўдру, — было іх прывычнае:

— Ну, на акупанта!

— На акупанта! — адказаў Косця, таксама нацягнуўшы на сябе коўдру, і яны змоўклі. Кожны заглыбіўся ў свае думкі.

З Піліпам Пестракам аднак хутка давялося расстацца — яго перавялі ў Гродзенскую турму, а Косця тым часам застаўся ў Лукішках. «Сустрэнемся на барыкадах!» — ціха сказаў Піліп на развітанне.

## V

Не надта верылі ні Лявон, ні Фёкла, што тое іхняе «прашэнне» на імя вышэйшай дзяржаўнай асобы — самога Рыдз-Сміглага аб датэрміновым звальненні сына з вайсковай службы будзе мець станоўчы вынік. Хоць і дапамагаў складаць яго сам Якаў Арыстархавіч. Тым не менш, хлопец вярнуўся. Здарылася гэта на самым пачатку 1937 года. Палкавое начальства адпускаць не хацела, але загад вымушана было выканаць. Швадронны капрал, той самы, які калісьці прымусіў навабранцаў скакаць «жабкай», на развітанне сказаў, незадаволена крывячы вусны:

— Мы хацелі паслаць цябе на падхаранжоўку. Ладны падхарунжы быў бы. Дарэмна ты, ой дарэмна! У цябе быў шанец стаць сапраўдным вайскоўцам, падафіцэрам!

Але Васіль быў рады, што развітваецца з вайсковай муштрой. Хаця, з другога боку, служба ў войску нешта ўсё ж такі дала: умацавала фізічна, надала ўпэўненасці ў сабе, прыспешыла сталасць, у чымсьці паглыбіла разуменне жыцця.

Не марудзячы, развітаўся з сябрамі. Хутка, думалася, убачыць бацькоў, Польку!..

З поезда сышоў у тых жа Лышчыцах. У польскім войску для дэмабілізаваных існавала правіла: вяртайся дадому ў той вопратцы, у якой прызываўся. Вайсковае аддавай назад, на склад. Вось і Васіль вяртаўся ў тым самым падраным кажушку, паношаных штанах ды стаптаных чаравіках, у якіх год ці крыху болей таму назад ішоў у войска. Гэта здзівіла і родных, і аднавяскоўцаў. Паўгода назад, калі з'явіўся ў водпуск, выглядаў інакш — бравым і самаўпэўненым шваліжэрам, а цяпер зрабіўся, як усе.

Сабралі назаўтра гасціну — сваякоў ды знаёмых. Выпіўшы другую ці трэцюю чарку, дзядзька Хведар са Свішчова, сказаў, хмыкнуўшы ў вусы:

— Маглі б якім-небудзь афіцэрам зрабіць, дык от жа не зрабілі! Каб на іх немач і паморак!

— А мне прапаноўвалі падхаранжоўку, ды я адмовіўся, — сціпла, але з годнасцю адказаў дэмабілізаваны. Як бы пахваліўся.

— Можа, яно і добра, што адмовіўся, — махнуў рукою Павал Гальяш, — яшчэ невядома, што наперадзе. Свет неспакойны.

— Афіцэрам ужо не схаваешся калі што, — дадала Хомчыха. — Першаму галаву падстаўляй.

— Аднак жа афіцэру добрыя грошы плацяць! — запярэчыў Хведар, які ўсё ацэньваў з практычнага боку.

— А ў нас навіны, — Хомчыха перамяніла тэму, — Дзванарык ажаніўся, Софу ўзяў — папову дачку. А ты якую будзеш браць? — звярнулася яна да Васіля. — Толькі не бяры такую, як наша Дзякрэта. Адно хваліцца, а нічога не робіць. Ну і нявестку Бог даў! А з'есці любіць!

— Бо гарадская, — сказаў Павал. — Гарадскія ленаватыя…

— Толькі губы фарбуюць! — зарагатаў Хведар. У вёсцы надта не любілі гэтай звычкі гарадскіх жанчын фарбаваць вусны. Знешне гэтая звычка, можна сказаць, і падзяляла жанчын на вясковых і гарадскіх.

— У іх сваё жыццё, — умяшалася Фядора. — Гарадскія звычайна недзе служаць — з таго і жывуць.

— Ага, якураднікава Амелія! — пажартавала Хомчыха, і смехам зайшліся ўсе, а Васіль прыкметна пачырванеў.

— Усё адно жаніцца трэба! — аўтарытэтна заключыў Хведар.

Калі госці разышліся, і з'ехаў дадому дзядзька Хведар, Кужалі яшчэ нейкі час заставаліся каля непрыбранага стала. Васілю здалося, што маці глядзіць на яго як бы крыху вінавата. Лявон таксама маўчаў.

— Вы нешта хацелі сказаць, мамо?..

— А Полька твая, таго…

— Што з ёю?

За жонку адказаў Лявон:

— Ну, што бывае з дзяўчатамі? Замуж выйшла!

Васіль адчуў, як парыўна забілася сэрца, як бы хтосьці пагнаў яго пугаю. Перасмыкнула вусны, спачатку не паверыў, але ўсё ж такі знайшоў у сабе сілы, каб спытаць:

— А за каго?

— У Робанку. За хлопца нейкага. Пасваталі — яна і пайшла.

Робанка — вёска, кіламетраў за дванаццаць ад Прускі. «Значыць, не дачакалася, забыла, — завярцелася ў Васілёвай галаве. — Абяцала ж! Бажылася! Слова дала!..»

— Я думаю, што гэта бацькі, — выказаў думку Лявон, — гэта хутчэй за ўсё яны вырашылі.

Лявон меў рацыю. Шлюб у Прусцы ўсё ж такі, як і раней, часцей за ўсё быў здзелкай, эканамічным саюзам. Зяцёў і нявестак шукалі часцей за ўсё бацькі, не вельмі просячы згоды ў саміх маладых.

Васіль апусціў галаву:

«…Якая ўжо розніца, хто вырашыў. Вырашылася! А можа, лёс такі? Мусіць, лёс. Вядома, каб сам быў тут, дык усё было б інакш! А цяпер што? Позна ўжо. Думай — не думай…»

Лявон наліў поўны кілішак, падсунуў да пасынка. Шкада было яго. Васіль выпіў, выцер вусны тылавым бокам далоні. Патроху, спачуваючы яму, выпілі Лявон з Фёклай. Сядзелі да цёмнага. Дачакаўшыся вечара, пакладіся спаць — Васіль у каморы, на тапчане.

Колькі дзён ён не выходзіў на вуліцу, ляжаў у каморы на сваім тапчане, пазіраючы ў столь, перажываў. Не ведаў, што рабіць, з чаго пачынаць. Ехаць у тую Робанку, шукаць сустрэчы? А што гэта дасць? Людзі будуць смяяцца ды і ўсё. Успамінаў войска і шкадаваў, што не згадзіўся пайсці ў школу падхарунжых. Нічога не зробіш, нічога не парадзіш. Не на адным каханні грунтуецца шлюб. Каханне — гэта яшчэ не ўсё. Тут яшчэ і на багацце глядзяць, на заможнасць…

Але пара за нешта брацца, работа таксама не чакала. У гаспадарцы было трое коней, чатыры каровы, шаснаццаць авечак. Управіцца з усім не проста.

І яшчэ адну справу трэба было вырашыць. Сусед Грышка Латушка зноў распачаў памежныя спрэчкі — цяпер ужо ў Срачы, што ля Бярэзіны.

— Адцяпаў, разумееш, у мяне дзве баразны і рады! — скардзіўся айчым.

Суд цягнуўся ўжо больш як год, вясною справу разглядаў гродскі суд у Камянцы. Латушку было адмоўлена ў яго дамаганнях, але гэта яго не спыніла. Ён падаў на перасуд у Высокае — у апеляцыйны суд. Лявон ужо не раз ездзіў туды са сведкамі — Хомчыхай і Паўлам Гальяшом. Аднак суддзя кожны раз адкладваў вырок. Выйсце дапамог адшукаць усё той жа Якаў Арыстархавіч (Васіль тады яшчэ служыў у войску). Неяк у нядзелю, адстаяўшы абедню і выходзячы з царквы, Якаў Арыстархавіч параіў Лявону:

— Ведаеш, хоба на яго, што мне падумалася? Табе трэба звярнуцца ў архіў зямельнага банка. Не можа быць, каб там не было планаў! Вы ж, хоба на яго, грошы плацілі ў банк?

— Плацілі, але калі тое было! Яшчэ дзядуля з бацькам плацілі. Даўно-о! Яшчэ пры цары.

— Не важна, калі было. Планы павінны захоўвацца. Дакумант ёсць дакумант.

— Ну гэта хіба ўжо калі Васіль з войска вернецца, — уздыхнуў Лявон. — Хай ужо ён займаецца.

— З'ездзі сам да Берасця! Не лянуйся!

— Сам я, мусіць, не даб'юся, ды і няма калі.

— Але ж, хоба на яго, можа быць добры вынік.

— Васіля пачакаю.

— Ну то як знаеш.

На гэтым яны і развіталіся.

— А Васіль хутка вернецца, — дадаў Якаў Арыстархавіч, пераклаўшы кульбу з правай рукі ў левую і падаючы сваю пульхную далонь. — Успомніш маё слова!

І вось вярнуўся з войска Васіль. Лявон паскардзіўся яму на Латушку і расказаў, што параіў Якаў Арыстархавіч. Васіль вырашыў дзейнічаць з вайсковым напорам. Ён паехаў у Брэст — да каморніка, заплаціў яму добрыя грошы, і яны адшукалі план, які з даўніх часоў спакойна ляжаў у Гродзенскім архіве.

Адбыўся суд, які цяпер стаў на бок Лявона. Латушку ў яго дамаганнях было адмоўлена канчаткова.

Васіль наведваў музыкі, забавы, бавіў час з моладдзю. І пра Польку спакваля пачаў забывацца, але жыццё часам само вяртае нас да мінулага. Такое адбылося і з Васілём. Неяк моладзь ладзіла ў Прускаўскай школе самадзейны спектакль. У перапынку Васіль выйшаў у цёмны калідор, закурыў і не згледзеў, як падышла ўзрушаная Волечка Краўцова. Азірнулася па баках і таямніча паведаміла, што Полька кінула мужа, забрала карову і куфар з пасагам і з Робанкі вярнулася да бацькоў у Сухаволле.

— Хоча з табой пагаварыць. Што ты на гэта скажаш?

Такога Васіль не чакаў, міжволі разгубіўся і не ведаў, што адказаць. Успомніў пра свае заляцанні да Палькі, здрыгануўся ад таго, што цыгарэта абпякла пальцы, і адкінуў акурак у бок. «Што ж гэта? Няўжо вяртаецца тое, што было? Гэта лёс дае новы шанец!» Яму падалося нават, што ён зноў абдымае Польку, трымае ў руках яе гнуткі стан, адчувае пяшчотнае цела.

— Чаго маўчыш, Вася? — Волька страсянула за рукаў, і ён ачнуўся ад сваіх думак-успамінаў.

— Я, можа, тады сам з ёю звяжуся і пагавару.

— Дык так і перадаць?

— Так і перадай. І прывітанне перадай.

Але спачатку трэба было пагаварыць з маці і бацькам: што скажуць яны, бо яны таксама адчувалі сябе пакрыўджанымі ў тым, як усё адбылося. У той жа вечар, прыйшоўшы дадому, ён расказаў ім пачутую навіну. Бацькі, выслухаўшы Васіля, пераглянуліся паміж сабой — толькі што перад гэтым яны гаварылі пра тое, што пара ўжо яму жаніцца, што патрэбна нявестка, што Фёкле адной цяжкавата. І айчым скардзіўся: «А каб нейкая пасажная, — казаў ён, як бы жартуючы, — то і гаспадарка б пабольшала. Было б надзейней!»

— Вярнулася, — паўтарыў Васіль, — і ўсё з сабой забрала, і куфар, і карову. У бацькоў яна зараз, у Сухаволлі. Трэба нешта рабіць…

— Бачыш, як здараецца, — пахітаў галавою Лявон, — а ўжо ж мы яе амаль што запілі. А яна і так, і гэтак.

Фёкла маўчала, шкада было сына — такога нешчаслівага, на яе думку, у каханні.

Хлопец зірнуў на бацькоў:

— Дык што мне ёй сказаць?

— А што казаць, — Лявон колькі разоў кашлянуў, — тут, відаць, нічога не трэба казаць, і так усё ясна.

— А, можа, я схаджу да яе?

— Не, не варта туды хадзіць.

— Гонару будзе шмат, — падтрымала Лявона Фёкла. — Не трэба.

Разгублены Васіль апусціў галаву, як бы загледзеўся на падлогу, нешта там убачыў.

— Але жаніцца трэба, пара, — пасля хвіліннага маўчання зноў загаманіў айчым. — Сябры твае, таварышы, мусіць, ужо ўсе пераажаніліся. І табе пара.

— Пара-то пара, але на кім? — з уздыханнем азвалася Фёкла. — Кажуць жа, што ажаніцца — не ўпасці: не ўстанеш і не атрасешся. Няма на кім.

Васіль выглядаў ушчэнт разгубленым і паніклым.

— А, можа, у цябе яшчэ хто ёсць на прыкмеце? — дапытвалася маці.

Хлопец адмоўна хітнуў галавой.

— Дзяўчына ёсць, — падаў голас Лявон.

— Хто? — Фёкла паглядзела на яго з недаверам.

— Ёсць!

— Дык хто?

— А Мікалая Шалоніка дачка. З Пакупчыкаў. Нядаўна яе з бацькам у Камянцы бачыў.

— Прося?

— Прося.

Фёкла засмяялася, успомніўшы, мусіць, чарнавокае дзеўчынё, што хадзіла некалі разам з сынам у школу. Не забывала казаць «добры дзень» пры сустрэчы. Васіль таксама міжвольна ўсміхнуўся. Просю ён ведаў яшчэ з таго часу, калі сядзелі разам у адным класе. Калісьці за косы яе цягаў.

— Бачыў у мінулы чацвер Мікалая ў Камянцы, марытуру разам атрымлівалі. Ён якраз з Просяю быў. Падрасла! Прыгожай дзяўчынай стала. Хлопцы ўжо заглядаюцца. Старэйшую, Надзю, ён ужо аддаў за Барыса Пралеску.

Васіль моўчкі слухаў, не надта верыў у айчымаву прапанову. Патрэбен час, каб прывыкнуць да якой-небудзь думкі.

— Сям'я ў іх працавітая, — працягваў Лявон. — Жывуць, праўда, не надта багата, але затое дзяўчына — прыгажуня. Вясёлая, прылюдная і сама, як кроў з малаком.

— Багатая наравістая бывае, — заўважыла маці, — задавацца пачне.

— Бяры! — падахвоціў Лявон. — Усё роўна такой, якую хочаш, не знойдзеш! Калі ўсё добра пойдзе, дык неўзабаве і вяселле справім.

Хлопец уздыхнуў, запусціўшы руку ў чорную чупрыну. Просю ён ведаў і ведаў, што яна да яго добра ставіцца, але не мог даўмецца, што адказаць бацькам. Усё было надта нечаканым.

— Пачакайце крыху, я вам скажу, — паабяцаў ён нарэшце.

На тым і пагадзіліся.

У суботу вечарам ён падаўся ў Пакупчыкі — так называлася вёска, у якой жыла Прося. Моладзь збіралася там на вячоркі. Абяцаліся быць і музыкі. Забава была ў разгары. Папрыходзілі хлопцы і дзяўчаты, сярод іх і Прося. Нешта ў ёй змянілася, дзяўчына як бы пахарашэла, прыкметна акругліліся грудзі, дадалося зваблівай і панаднай жаноцкасці. І апранутая была з густам: цёмная спадніца ў белыя пасачкі, грудзі аблягала батыставая кофтачка. Яму здалося нават, што яна зрэдку на яго паглядала. Пэўна, чакала нейкага знака ўвагі. Васіль запрасіў яе на танец і ўжо болей не адпускаў ад сябе, яны выйшлі ў двор і спыніліся ля плота. Прося апранула свой вышываны кажушок. Вішнёвая хустка-шыняліўка прыгожа аздабляла твар, і сама Прося нагадвала яму вішню з даспелымі чырвонымі ягадамі.

— Я на цябе гляджу, а ты ніякай увагі на мяне не звяртаеш. А мы ж вучыліся разам, у адным класе сядзелі, — нібыта паскардзілася яна. — Зрэшты, нашто я табе…

— Як нашто?

— Ты, мусіць, іншую шукаеш…

— Якую — іншую?

— Ну, мусіць нейкую асаблівую, а я такая, як усе. Звычайная.

— А можа я такую і шукаю.

— Якую?

— Як ты.

— Як я?

— А што?

Твар яе крыху палагоднеў, на яго глянулі яе цёплыя і цікаўныя вочы. Яна ўспомніла, што даўно хацела, каб ён належаў ёй, і ў душы вельмі пакутавала, калі той спыніў свой выбар на Польцы. Але чакала, калі вернецца з войска. Полька тым часам выйшла замуж, але не вельмі ўдала…

Ён паспрабаваў яе абняць, абудзіць некранутую свежасць пачуццяў, але яна адразу ж вызвалілася з яго абдымкаў.

— Не трэба! Ого, які цваны!

— Цваны? Мы ж даўно знаёмыя.

— Ну і што?

— А хіба гэта нічога не значыць?

— Што праўда, то праўда, — згадзілася яна. — Знаёмыя даўно. Ты нават папрыгажэў за гэты час.

— Я застаўся, які быў, а вось ты і сапраўды папрыгажэла.

Дзяўчына ад нейкага ўнутранага задавальнення залілася вясёлым смехам і не ўтрымалася, каб не падкалоць:

— Полька, мусіць, прыгажэйшая!

Ён чакаў такога павароту ў размове, бо пра яго адносіны з Полькай і пра тое, што атрымалася, ведалі ўсе, але напамін балюча кальнуў сэрца. Ён сцішыўся.

— Прабач, — спахапілася дзяўчына, — мусіць я не тое сказала.

— Нічога, — уздыхнуў ён. — Тое, пра што ты кажаш, у мінулым.

Яны прайшліся па вуліцы. Роўна свяціў месяц, пад падэшвамі рыпеў сняжок. Свяціліся вокны ў хатах.

— А я, між іншым, і думала, што ты вернешся, што разам будзем, — ціха прызналася яна. — На гагатуху разам з сяброўкамі бегала на прыгуменне — па дровы. Кожная тады схапіла бярэма і паперлі ў хату — лічыць. Я загадала, што калі «пара» выйдзе, дык ты. Палічыла — «пара»!

— Праўда?

— А ты не верыш?

Ён падумаў, што з ёю яму неяк па-асабліваму добра і проста. Вось так ціха ісці і слухаць, як рыпіць снег.

Пачулася песня. У Пакупчыках любілі спяваць. Песні розныя — беларускія, украінскія, рускія, польскія.

Ой, чыя то хата,
Ой, чыя то вішня,
Ой, чыя дзяўчына
На вуліцу выйшла?..
Кавалёва хата,
Кавалёва вішня,
Кавалёва доня
На вуліцу выйшла.

— Гэта Манька Базылюкова, — патлумачыла Прося. — Яна!

— Добры голас мае.

— Мае. Галасістая ўдалася, у царкве спявае.

Ён узяў Просю за руку, дзяўчына знаходзілася недзе ў свеце сваіх мрояў і не заўважыла гэтага, але потым схамянулася і ціха засмяялася. Ён абняў яе, прытуліў да сябе, прылашчыў, адчуў мяккасць і гарачыню яе поўных вуснаў. «Ой, што гэта я?» — як бы ачнулася яна ад нейкага сну. — «Не бойся, — адказаў ён, — я не кахаючы не цалую»... І яны пачалі сустракацца. З кожнай сустрэчай ён адкрываў у ёй нешта новае, раней невядомае. Яна расказвала пра сваю сям’ю, пра бацькоў, суседзяў; часам у яе гаворцы пракідаліся незласлівая іронія і лёгкі смех. Адчуваў, што Прося кахае яго, і гэтае яе каханне чымсьці нават палохала. Ці тым, што яно так лёгка дасталася? Ці тым, што ўжо закрываліся шляхі да Полькі? Ён доўга вагаўся, але аднойчы набраўся духу і спытаў:

— А ці пайшла б ты за мяне?

— Пайшла б, — ціха і сарамліва адказала яна, даўно падрыхтаваўшыся да гэтага пытання.

— Калі так, — ён пяшчотна яе абняў, прытуліўся шчакою да шчакі, — дык на наступным тыдні прыязджаю са сватамі і гарэлкаю. Будзь дома!

## VI

Вяселле ў Прусцы, як і навакольных селішчах, складалася з некароткага ланцужка падзей — допытаў (якія Васіль паспеў ужо правесці), сватоў, запоінаў, ладоў, дзявочага вечара, каравая, шлюбу ў царкве, вясельнай бяседы ў маладой і ў маладога. Адказная справа — вяселле. Учора яшчэ быў кавалерам, вольным і незалежным, а заўтра? Сталы чалавек, сямейнік, гаспадар. Гэты парог у чалавечым жыцці і вабіў, і палохаў Васіля. Што там, наперадзе? Як павернецца лёс? Невядомасць прымушала хвалявацца.

У сваты, запіваць Просю, меліся выправіцца ўтрох — Васіль, дзядзька Хведар, які ахвотна згадзіўся дапамагчы ў такой важнай і тонкай справе, і Лявон, але ў апошні момант айчым адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што будзе залішне шматлюдна. Важныя справы робяцца ў вузкім коле. Мікалая, бацьку нявесты, ён папярэдзіў, сустрэўшыся з ім у суботу ў Камянцы. Той даў згоду. Ехаць дамовіліся ў сераду, таму што панядзелак — цяжкі дзень, а ў аўторак — аб'едзеш дзявок сорак, як кажуць у Прусцы.

Дзядзька Хведар з'явіўся своечасова і якраз пад абед — у новым пінжаку і свежай сарочцы. Абедаючы, для смеласці, выпілі па кілішку гарэлкі. Хведар выпіў і другі, ды так размашыста — усё адно як за спіну закінуў. Пару пляшак Фёкла паклала ў кошык. Загарнула ў чысты, вышыты пеўнікамі ручнік некалькі кружкоў каўбас, буханку хлеба.

— Кумпяк вазьміце! — параіў Лявон. — У такой справе можа спатрэбіцца.

— Маеш рацыю! — згадзіўся п'янаваты Хведар. — Пакладзі! Кумпяк заўсёды можа пастаяць за сябе.

— Ну, галавы не вешаць! — падбадзёрвала Фёкла. — Каб усмешлівымі былі, вясёлымі! А ты, сынок, каб арлом выглядаў! Наш род знатны!

Жаніх апрануў касцюм, белую сарочку. З-пад шапкі завіваўся чорны чуб.

— О, як пан! — не стрымаў захаплення Хведар. — Каб яшчэ гальштук!

— Пад вяселле купім! — паабяцаў айчым і пайшоў запрагаць Ляльку.

Неўзабаве санкі-шыткі і Лялька ўжо стаялі пад вокнамі. Кабыла нецярпліва пераміналася сваімі прыгожымі высокімі нагамі. Хведар з Фёклай і Васілём выйшлі з хаты. Паклалі ў шыткі, прыкрыўшы сенам і каляровай радзюжкай, кошык з правізіяй. Сват быў настроены вельмі рашуча, усе прыкметна хваляваліся. Хваляванне людзей перадалося, мусіць, і Ляльцы, бо яна бязладна круціла галавою, а потым зайшлася ў нейкім працяглым кашлі.

— Дай і ёй крыху выпіць! — распарадзіўся Хведар, звярнуўшыся да Лявона.

— Ляльцы? — здзівілася Фёкла.

— А што? Яна таксама хоча.

Лявон сумеўся, крыху памарудзіў, але не мог аслухацца дзядзькі, збегаў у хату і вярнуўся з бутэлькай самагонкі.

— На!

Хведар падступіў да кабылы, шырока расчапіў жывёліне пашчэнкі і, ухапіўшы паднесеную Лявонам пляшку, сунуў яе рыльцам у конскую зяпу і амаль усю туды і выліў. Чутно было, як булькала самагонка.

— Трэба было парачку шархуноў пад дугу пачапіць, але што ж, абыдземся без шархуноў! — сказаў ён, маючы на ўвазе званочкі-шарыкі, якія чаплялі пад дугу, і яны давалі прыемны гук.

— Ну і ну! — дзівілася Фёкла.

Вярнуўшы пляменніку пустую бутэльку, дзядзька, нацягваючы лейцы, сеў у санкі, побач, з другога боку, размясціўся жаніх, і яны паехалі. Не паехалі нават, а памчаліся, бо ашалелая ад гарэлкі Лялька ірванула з месца так, што ездакі пазадзіралі ўверх ногі і абодва паваліліся ў сена. Лявон з Фёклай толькі галовамі паківалі. Дзякаваць богу, што вуліца аказалася пустой. Лялька вынесла сватоў на аснежаны выган, і яны напрасткі, галопам пагналі да Выгнанкі — вёскі, што знаходзілася паміж Прускай і Пакупчыкамі. Не трэба было і пугі.

І яны памчаліся. Лялька бегла, як тут казалі, навыскачкі. З-пад капытоў ляцелі камякі снегу, сыпаліся ў санкі і на грудзі ездакам, у вушах свісцеў вецер.

— Як бы ўцякаем ад каго, — пажартаваў хлопец.

— Не ўцякаем, а даганяем! — у тон яму адказаў падхмелены Хведар. — Даганяем гады маладыя! Э-эх!

Перад Выгнанкай ён аднак крыху асадзіў кабылу, і тая перайшла на дробную рысь, але потым яны зноў набралі хуткасці і, на здзіўленне не без падстаў напалоханых жыхароў, праляцелі праз вёску, як віхор. «Гэй, гэй!» — крычаў Хведар, не выпускаючы з рук лейцаў. Відаць было, што яшчэ молада ў чалавека на душы…

* * *

Прося доўга хадзіла ад акна да акна, углядалася ў начное цемрыва, прыслухоўвалася, ці не едзе хто. Бацька папярэдзіў яшчэ ў нядзелю вечарам, вярнуўшыся з Камянца, што ў сераду маюць прыехаць. На тым тыдні Васіль казаў, а цяпер бацька пацвердзіў. Укінуўшы каню сена і падсыпаўшы аўсу, ён зайшоў у хату, дачка дапамагла зняць з плячэй кажух. Яна шкадавала бацьку, які здаваўся ёй слабым і кволым, хоць на самай справе ён не быў такім. Што нізкі ростам — гэта праўда, але ж цягавіты і ўвішны, да Берасця звычайна хадзіў пяшком. Ды і майстар на ўсе рукі — і хату злажыць, і нейкую рэч зрабіць, асабліва з дрэва. Выштукоўваў дзецям адмысловыя «брычкі» — невялічкія вазкі на калёсах. Адзін малы мог у тую «брычку» сесці, а другі — везці.

— Сваты маюць прыехаць, у сераду.

— Якія сваты? Да каго? — усхвалявалася маці, якая корпалася ля печы.

— Да Просі.

— Дык рана! Хай яшчэ ў дзеўках паходзіць. А хто?

— Васіль Кужалёў з Прускі.

— Дык ён жа з гэтай, з Сухаволля…

— Полька ўжо замужам, — умяшалася Прося.

Мікалай і Наталка (так звалі Просіну маці) пераглянуліся між сабой.

— А што ж мне рабіць, — дапытвалася дачка, — калі яны і сапраўды прыедуць? Ой, не магу прыдумаць!

Толькі цяпер Наталка заўважыла, што на дачцэ новая блакітная сукенка, старанна прычэсаныя валасы, туфлі на абцасіках, на нагах — шоўкавыя панчохі, якія ёй нядаўна купіў бацька. Па ўсім відаць, яна пра ўсё была ўжо папярэджана і вельмі хвалявалася. На шыі ірдзела нітка чырвоных пацеркаў.

— Ты нявеста, — сказаў бацька, — нявеста павінна сядзець і чакаць. А дзе Алёша? Куды ён дзеўся?

Алёша — малодшы сын, брат Просі.

— На вячоркі пайшоў.

Сваты прыехалі, калі пачало ўжо змяркацца. Спыніліся насупраць хаты. Хутка за вокнамі пачуліся мужчынскія крокі. Дзверы адчыніў сам гаспадар.

— Ці можна ў вас вады напіцца? — праз парог спытаў Хведар, чырванатвары і заснежаны з дарогі.

— А чаму ж не — можна! — у тон яму адказала гаспадыня. — Заходзьце! — Яна кінулася на кухню і прынесла адтуль поўны кубак. Хведар крыху адпіў і перадаў Васілю.

— Вада не гарэлка — шмат не вып’еш, — пажартаваў ён.

Васіль таксама прыгубіў і, падзякаваўшы, вярнуў кубак гаспадыні.

— Каня ж трэба распрэгчы ды ў хлеў паставіць, — затурбаваўся Мікалай, — а то холад. Мы-то ў хаце, а ён на дварэ.

— І то праўда! — згадзіўся Хведар.

Управіўшыся з гэтай работай, яны ўсе разам вярнуліся ў хату, Хведар прыхапіў кошык з гарэлкай і прадуктамі.

— За бэлёк ідзіце! — рукой паказала Наталка.

Бэлёк — тоўстае бервяно, пакладзенае зверху ўпоперак хаты, на ім ляжала столь. Бэлёк як бы дзяліў хату папалам і з’яўляўся мяжой паміж дзвярыма і сталом, што стаяў у куце пад абразамі, і гэта быў вельмі важны момант у рытуале сватання, ён азначаў, што бацькі гатовыя весці размову па сутнасці.

— Мікалай, за стол запрашай! — камандавала Наталка.

«Ну вось, усё ў парадку», — падумаў Хведар, дастаючы з кошыка гарэлку і ставячы яе на стол, на якім ляжала загорнутая ў абрус буханка хлеба. Потым дастаў кумпяк і іншыя прысмакі і ўсё склаў на стол. Пасля гэтага госці і самі сціпла прымасціліся ля стала. Васіль азірнуўся — Просі ў хаце не было. Выйшла, мусіць, на кухню. Гаспадар таксама сеў за стол. Наталка прытулілася да запечка.

— Што добрага скажаце? — дзеля прыліку, каб з чаго-небудзь пачаць гамонку, запытаў ён.

— Зайшлі спытаць, ці нічога няма ў вас для продажу, — патлумачыў Хведар мэту свайго візіту. Патлумачыўшы, ён узняў вочы дагары і пачаў глядзець на столь, як бы там што цікавае было напісана ці намалявана.

Гаспадыня сцепанула плячыма, быццам не здагадвалася, пра што ідзе гаворка, пра які продаж. Хведар стаў удакладняць, дамешваючы крышку традыцыйнай жартоўнасці:

— Чулі, што ў вас цялушка здатная ёсць, наш бычок да яе прывык, дык можна было б і таго, спарыць іх, хай бы разам хадзілі. Па адным лузе. — Хведар расшпіліў гузікі на пінжаку.

У адказ на дзядзькаў жарт гаспадары заўсміхаліся.

— Дык маладая яшчэ! Дзяўчук! — сказаў Мікалай. Дзяўчук — так у Прусцы казалі на дзяўчынку-падлетка.

— Нічога! Нам падыходзіць! — запэўніў сват. — Наш бычок таксама малады. Малады, але сталы!

Наталка моўчкі пазанавешвала вокны.

— Хай бачаць! — ашчэрыўся Хведар. — Хлопец наш вунь які пaглядны. Мы не хаваемся. Правільна, Васіль?

Васіль пачырванеў, але дзядзьку не запярэчыў.

Гаспадыня між тым ужо ставіла на стол закуску: нарэзанае дробнымі кавалачкамі сала, квашаныя гуркі ў глыбокай кандзейцы, капусту ў талерцы, грыбы. Хведар выняў з кошыка яшчэ і кружок каўбасы. Гэта зрабіла ўражанне.

— Ого! — падзівіўся Мікалай.

Дзядзька шырокім нажом адрэзаў ад кумпяка колькі скрылёў, парэзаў каўбасу і наліў у кілішак. Наліў не шкадуючы — кілішак атрымаўся поўны, як вока. Хведар першы яго падняў і абвясціў тост:

— Ну, абысь мы жылі! — сказаў ён чамусьці па-польску, выпіў так размашыста, што ўсё адно як за спіну закінуў і перавярнуў кілішак дагары дном, паказваючы, што ні кроплі не пакінуў. За Хведарам выпілі гаспадар з гаспадыняю і Васіль. Кілішак абышоў усіх па кругу. Сталі закусваць. Відэльцы дзвенькалі аб бляшаныя паўміскі. Хведар узяў лусту хлеба, прываліў яе тоўстым кавалкам шынкі і адкусіў.

— Ну, як у вас сёлета ўраджай? — папытаў ён.

— Жыта ўрадзіла — па дзесяць мэтраў з дзесяціны нажалі, а ярына — слаба[1].

— А ў мяне ўсё ўрадзіла — і жыта, і пшаніца, і ярына, бо я пад лубін сею і гною шмат даю! — пахваліўся Хведар. — Я і Лявона вучу, каб так рабіў. Пляменнік мой.

— А ты яго дзядзька?

— Дзядзька, а як жа. А гэта — яго пасынак, — Хведар паказаў на Васіля. — Але сям'я адна! Усё — як трэба!

«Ну і дзядзька, — падумаў Васіль, — любіць пахваліцца. Гаворыць, як у сук б'е, толькі часам меру перабірае».

Мікалай падсунуў бліжэй да свата талерку з капустай. Той пакаштаваў і пахваліў, а потым прыгадаў і прымаўку:

— Што кажух — то не вата, а што капуста — то не гарбата. Я капусту люблю.

— Дык гэта наша Прося! — з гонарам у голасе азвалася гаспадыня. — Яна!

— Наталка, клікні яе! — распарадзіўся Мікалай.

— Правільна! — ухваліў сват.

— Клікні!

— Каб так не было, як у нашым Свішчове: запілі, а яна кульгавая, — зноў ашчэрыўся Хведар.

Наталка сярдзіта махнула на яго рукой і пайшла клікаць дачку.

Бледнаватая з аблічча Прося ўвайшла нясмела і як бы нерашуча. Блакітная сукенка была ёй да твару, туфлі на абцасіках падкрэслівалі стройнасць ног у шоўкавых панчохах. На шыі чырванаватымі іскрынкамі прыгожа ззялі пацеркі.

— Хай бы падрасла яшчэ, — сказала Наталка, ззаду залюбаваўшыся на дачку.

— Колькі можна расці! — не згадзіўся сват. — Пара замуж ісці!

На Просіным твары з'явіўся лёгкі румянец, дзяўчына прыветліва ўсміхнулася белымі, як часнок, зубамі, агледзела гасцей. Відаць было, што яна крыху саромеецца, але рада гасцям, што завіталі ў бацькоўскую хату. Хведар наліў два кілішкі, адзін працягнуў Васілю, другі падаў Просі, якая прысела збоку каля стала на ўслон, побач з бацькамі.

— Дык давайце пароднімся, а жаніх з нявестаю хай кілішкамі чокнуцца, — прапанаваў сват.

Дзяўчына пачырванела яшчэ больш, дрыготкаю рукою ўзяла кілішак і чокнулася з жаніхом. Паглядзела на Васіля і паднесла кілішак да вуснаў. Выпіла і, саромеючыся, затуліла твар далонямі.

— Закусі, дачанька, закусі! — спачуваючы, нагадала маці.

Гэтага моманту — калі нявеста вып'е чарку — чакалі ўсе. «Значыць, згодна, — падумаў Хведар, — дзела будзе!»

---

[1]Мэтр — цэнтнер, дзесяціна — прыблізна гектар (мясц.).

— Вось і добра! — не хаваючы радасці, выгукнуў ён. — Цяпер можна гаварыць і выпіць можна!

Калі апусцела Хведарава пляшка, гаспадар паставіў на стол сваю бутэльку. Гэта была так званая «карчовачка», якую Мікалай гнаў у альшыне, у карчах, і любіў часам пахваліцца перад гасцямі.

— Піце, калі ласка, пускайце кілішак у рух! — сказала гаспадыня. — Мікалай, налі Хведару!

Хведар каўтнуў кілішак.

— Удалася! — пахваліў ён, і гаворка за сталом стала яшчэ больш натхнёнай і раскаванай.

Сват спяваў, як салавей, на ўсе лады распісваючы і расквечваючы гаспадарку Лявона і саміх гаспадароў: жывуць з Фёклай душа ў душу, і зямлі хапае, і жыўнасць ёсць, і сенакос, і сад. Ды яшчэ і марытуру атрымлівае.

— І пра яго, — дзядзька меў на ўвазе Васіля, — нічога благога не магу сказаць — разумны, гарэлкі не п'е. Ды што казаць! Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын. І працавіты вельмі!

Бацькі нявесты ў сваю чаргу хвалілі вартасці дачкі. Пасля Мікалая азвалася маці:

— Яна ў нас надта характарам добрая, працавітая, а ўжо што паслухмяная, дык такіх трэба пашукаць! Мы дык з бацькам не нарадуемся! Такая ўжо ўдалая, такая зычлівая…

— Такіх на свеце няма, як наша Прося. Не дзіцё, а золата. Паслухмяная! Паслухмяней быць не можа… — дадаў бацька. — А што ўжо зычлівая, дык вельмі. Усіх шкадуе.

Дзяўчыне было няёмка, але яна цярпліва зносіла бацькоўскую пахвалу.

Вярнуўся з вячорак брат Алёша са шваграм Барысам — зяцем, за якога выйшла старэйшая дачка Надзя. Алёша — русявы юнак з сарамлівай, як у сястры, усмешкай. Барыс — больш самаўпэўнены, з-пад казырка ў яго тапырылася буйная чупрына. Абодва паздымалі кажушкі і падселі да стала, павіталіся з гасцямі. Хведар наліў ім па чарцы, і яны адразу распачалі песню:

Ой, за лесам зяляненькі-ім
Рвала ўдова лён драбненькі-і…

У аднаго і другога быў добры голас, Барыс нават спяваў у Кухты на кліpace. Але песня гучала сумна, збівала на маркотны настрой, і Хведар запатрабаваў іншую. Параіўшыся, заспявалі пра прыгажуню Галю — «Ехалі казакі…» Гэтая больш падыходзіла да бягучага моманту.

Пасля песні старэйшыя пачалі абмяркоўваць пасаг. Мікалай даваў за дачкой 250 злотых і карову, у Наталкі ўжо стаяў наладаваны куфар. Нарэшце Хведар паставіў пытанне рубам:

— Калі вяселле будзем гуляць? — і сам на яго адказаў: — Ну, скажам, у канцы сакавіка. Згодны?

— Хай! — матлянулі галовамі Мікалай і Наталка.

Прося паспрабавала пусціць слязу, але ў душы, напэўна, радавалася тым зменам у яе жыцці, якія вырысоўваліся ў недалёкай будучыні, у надышоўшым годзе. «Гэта ўжо, мабыць, лёс», — падумала яна, краем вока пазіраючы на Васіля, які сядзеў побач са сватам.

— Сакавік — добра! — паўтарыў Мікалай.

— На вясну! — падтрымала Наталка.

Васіль з Просяй ціха выйшлі за дзверы, у сені. Ён шчыльна прыгарнуў яе да сябе, пяшчотна лашчыў грудзі, абдымаў, шаптаў на вушка:

— Прыгожая ты.

— Ты — прыгожы, мне добра з табою. — У яе вачах замітусіліся пажадлівыя іскрынкі.

Ён зноў стаў туліць яе да сябе, прыхінуўся да шыі, вуснамі дакрануўся да пацерак. Адчуў у сабе пахатлівы юр.

— Адпусціся, палагадней! — папрасіла яна.

— Хочацца адчуць, якая ты…

— Не спяшайся, не будзь нецярплівы. Раскажы лепш пра маці.

— Пазнаёмішся.

— А якая яна — маці твая? Чула я — з Расіі яна, праўда?

— Характар у яе добры. Мне здаецца, яна і паспачуваць чалавеку ўмее, людзі пра яе добра кажуць…

Дзесьці за вухам ён адчуў пяшчотны пацалунак і цёплае дыханне. Доўга аднак пастаяць не давялося. Зрабіўшы справу, дзядзька ўжо збіраўся назад.

Сваты вярнуліся позна. Лявон з Фёклай цярпліва чакалі.

— Ну як, запілі? — папыталі ў адзін голас.

Хведар самаўпэўнена зарагатаў:

— Каб я ды не запіў? Такога, браце, яшчэ не было! І не будзе!

— А як дзяўчына? — нецярпліва запытала Фёкла. — Як Прося?

— Добрая дзеўка! Але, як кажуць, хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам.

— Ну а наконт вяселля — калі? — не пераставалі задаваць пытанні Лявон з Фёклай.

— Пазней сакавіка адкладаць не варта. У сакавіку! Падрыхтавацца паспееце.

— Ну то добра.

На гэтым усе пагадзіліся.

Згаварыліся і з бацюшкам: айцец Клаўдзій браў за вянчанне 25 злотых.

## VII

Пачалі рыхтавацца да вяселля. Трэба было закалоць вепрука, нагнаць самагонкі, справіць святочнае адзенне. Падумаць, каго запрасіць з гасцей, каго ўзяць за маршалка. На пачатку за маршалка хацелі браць Якава Арыстархавіча. Ён заможны, прадстаўнічы і аўтарытэт для ўсіх. Але падумалі, што для вяселля фальварковец залішне салідны і непаваротны. А тут трэба ўвішным быць, усё бачыць, усім распарадзіцца.

— Лепш Хведара-свішчаўца, — прапанаваў Лявон. — Ён запіваў, дык хай і вяселлем кіруе. Дзядзька — чалавек надзейны.

— Ён не схібіць! — падтрымала мужа Фёкла.

Мікалай з Наталкай, якія пазнаёміліся з Хведарам на запоінах, падзівіліся яго дасціпнасці, пагадзіліся.

Вясельнае застолле зачыналася ў хаце нявесты, а па часе перабіралася на перазовы да бацькоў маладога. Каравай пяклі ў суботу. Каравайніцы — замужнія жанчыны і сяброўкі маладой — шчыравалі ўсю ноч. Але галоўнае ў гэтым вялікім шлюбным мерапрыемстве — вянчанне ў царкве, якое адбывалася на наступны дзень у нядзелю.

У царкву жаніх і нявеста паехалі паасобку, пасеўшы на свае вазкі і арыентуючыся на той момант, калі ў царкве скончыцца набажэнства. Прося прыехала першай, з абразом у руках, і маладога давялося нават крыху пачакаць. Але ён ненадоўга і затрымаўся. Ніяк не маглі, як трэба, завязаць гальштук, бо

ніхто не ведаў, як гэта робіцца. Выручыў запрошаны на вяселле Лаўр Яўсеевіч, які ўмела і фацэтна завязаў вузел і туга зацягнуў яго на шыі жаніха. Васіль ажно пачырванеў ад напружання і хвалявання, але выглядаў, як новенькі злот. Добра адпрасаваны чорны ў беленькую палосачку гарнітур ляжаў на ім як уліты. Бласлаўляючы сына, Фёкла і сама не заўважыла, як з вачэй у яе палілі-ся слёзы. Хвалявалася яна, мусіць, не менш за сына.

Каля царквы ўжо таўкліся па-святочнаму апранутыя людзі — аматары паназіраць. Паліў шчокі і перахопліваў дыханне ранішні сакавіцкі марозік, але ён не перашкаджаў вяселлю — гэтаму стыхійна тварымаму гледзішчу, у якім удзельнічалі ўсе і кожны паасобку. Маладая па-дзявочы саромелася. У белым, яна яшчэ больш пахарашэла. Белы колер, як вядома, сімвал чысціні і цнатлівасці. На галоўцы — вэлюм са свежым зялёным вяночкам, звітым са шпарагуса. У царкву зайшлі разам з «памлодымі» (як тут называлі дружкаў) і спыніліся перад аналоем, нагамі стаўшы на шырокі кавалак палатна, падсцеленага пад ногі. Гэта лічылася зазвычай: каб багатыя былі, каб не на голым стаялі. Людзі, а іх у царкве было шмат, дзівіліся прыгожай пары. Шлюбнае адзенне маладых — жаніх у чорным гарнітуры, нявеста ў белі — неяк асабліва гарманіравала з урачыстасцю царкоўнага інтэр’ера. Свечка, якую Прося трымала ў руцэ, асвятляла твар знізу, і ад гэтага ён здаваўся яшчэ бліжэй і цяплей.

З алтара, з царскіх дзвярэй паявіўся айцец Клаўдзій у пазалочанай святочнай рызе з вялікім сярэбраным крыжам на грудзях, у руцэ ён трымаў сподачак з двума пярсцёнкамі. Падышоўшы да маладых, папытаў, спачатку ў Просі, ці па любві яна аддала сэрца Васілю, і яна адказала:

— Па любві.

І Васіль адказвае:

— Па любві...

Маладыя ўздзелі адно аднаму пярсцёнкі на пальцы. Пасля гэтага святар узнёс над іх галовамі вянцы, якія падхапілі «памлодыя», што стаялі ззаду за жаніхом і нявестай. У Васіля за «памлодага» Мішка Галёнка, у Просі — брат Алёша. Плаўна паліўся мядовы голас айца Клаўдзія. Прося чула яго, як у сне. Маладым аперазалі рукі ручніком. І калі хор грымнуў: «Ісая, лікуй і весялі-ся!..», бацюшка рушыў з месца і павёў маладых вакол аналоя. Тут у рытуале вянчання ўсё мела свой сэнс і значэнне, у тым ліку і гэтае хаджэнне вакол аналоя. Яно азначала, што вянчаемыя абяцаліся захоўваць вернасць адно аднаму да самай смерці.

Марудна рухаўся айцец Клаўдзій. Васіль міжвольна ўсміхнуўся, назіраючы за яго нязграбнымі рухамі. Успомнілася здарэнне, якое адбылося нядаўна — на Вадохрышча. Вадохрышча святкавалі праз два тыдні пасля Раждаства. Стаяў сапраўдны крашчэнскі мароз, не лёталі нават птушкі. Усё навокал увабралася ў бялюткі пушысты іней, у тым ліку і ледзяны алтар, які прускаўцы склалі на Лосьне — у затоцы насупраць царквы. Праз луг, па глыбокім снезе, людзі пратапталі да затокі шырокую дарогу. Як звычайна, сабраўся вялікі натоўп прыхаджан, кожны хацеў акрапіцца свежай, з палонкі свянцонай вадой. Правіў святочнае набажэнства айцец Клаўдзій, побач стаяў хор пеўчых пад кіраўніцтвам Лаўра Яўсеевіча. Набажэнства на Вадохрышча — гэта цэлая містэрыя, шмат нечаканасцей: у пэўным месцы страляюць у неба з дубальтоўкі, пускаюць галубоў, набіраюць у бутэлькі і слоікі цудадзейнай свянцонай вады.

Айцец Клаўдзій урачыста ўзяў з рук Амброжыя вялікі настольны крыж, каб асвяціць яго, спаласнуўшы ў святой іярданскай плыні, а затым асяніць ім вялікі натоўп, наблізіўся да палонкі, у якой чарнела вада. І тут здарылася

неверагоднае: у самы ўрачысты момант, калі хор пасля артыстычнага дырыжорскага жэсту Лаўра Яўсеевіча, заспяваў «Во Іорданъ крещающуся...», а айцец Клаўдзій хацеў нагнуцца да вады, цяжкі сярэбраны крыж выслізнуў з рукі і ціха плёхнуўся ў палонку. Натоўп ахнуў ад нечаканасці, угледзеўшы ў гэтым знак нядобрага прадвесця. Каб крыж уваліўся ў раку — такога яшчэ не здаралася. Народ хваляваўся. Члены царкоўнага савета хадзілі вакол палонкі і ламалі галаву над пытаннем, як дастаць крыж. Разгубіўся і айцец Клаўдзій, вінавата пазіраючы вакол сябе. Без крыжа фактычна нельга было працягваць набажэнства, усё прыпынілася.

Першым, хто апамятаўся, быў Трахім, які звычайна ў царкву не хадзіў, але на Вадохрышча выйшаў на лёд і ён.

— А хай хто знуртуе і дастане! — прапанаваў ён, рагочучы.

— Прастудзіцца! — пакруціў сваёй вялізнай галавой Гамон.

— Хай, хоба на яго, знуртуе! — падтрымаў Трахімаву прапанову Якаў Арыстархавіч, што стаяў воддаль ад палонкі ў цёплым гаматным кажуху, футравай шапцы и валёнках у галёшах, трымаючы ў руцэ кульбу. Гэтай кульбай ён і паказаў на палонку.

— Пляшку самагонкі заробіць, — дадаў Амброжый, тулячы вушы ў высокі каўнер кажуха.

— Ну хто, ну хто? — загудзеў натоўп. — Хто смелы?

— Ой, людкове! — жахаліся жанчыны.

— Я б дастаў, але я прастужаны, — сказаў Хвядзюшка Шпунт.

— Я! — вызваўся Цішка Пахолак. — Я! Рыхтуйце пляшку першаку! — і стаў распранацца.

Люба, жонка, спрабавала адгаварыць: «Ой, людкове! Ой!» — але Цішка, распрануты, у падштаніках і сарочцы, ужо ішоў да палонкі. Каваль па натуры быў такі — заўсёды хацеў чымсьці здзівіць. Не затрымліваючыся, сеў на край і апусціў пяты ў ваду.

— О-о-о! — скрывіўся ён, адчуўшы пякучы холад, але вытрымаў і, трымаючыся за край палонкі, стаў апускацца, глыбей і глыбей. — А-а-а! — зноў падаў голас.

— Нуртуй, не ахалоджвайся, нуртуй! — чуліся галасы.

Цішка не рашаўся, бо, відаць, надта халоднай здалася вада. Нарэшце набраў у лёгкія паветра, нырнуў, схаваўся з галавой, і нейкі час яго не было відаць. Вынырнуў нечакана: з вады паказалася галава, а потым і крыж, яшчэ больш бліскучы, абмыты ў іярданскай купелі. Прынеслі самагонку, і Цішка адразу ж нахіліў пляшку ў рот, усе пачулі, як яна забулькала...

Васілёвы ўспаміны спыніў хор, які на высокай ноце зладжана зацягнуў: «Положил еси на главах их венцы-ы...» Яны рабілі ўжо апошні круг вакол аналоя, і маладая кожны раз імкнулася ножкай падчапіць кавалак палатна, на якім яны стаялі, і павалачы за сабой. Гэта яна дбала пра сяброўак, каб ім таксама пашчасціла, каб хутчэй выходзілі замуж.

Затым бацюшка паіў іх салодкім віном з аднаго кубачка. Васіль краем вока зірнуў на Просю. Яна стаяла аціхлая і паслухмяная, і невядома, пра што думала. Пра будучы лёс? Пра магчымыя жыццёвыя выпрабаванні? Хто яго ведае — усё наперадзе, і ў лёсу ўсё напагатове. Вянец, які трымаў над ёю брат Алёша, сам яшчэ малады і кволы, апускаўся ўсё ніжэй і ніжэй і, нарэшце, зусім асунуўся на галоўку маладой, прымяўшы вэлюм. «Памлоды» змяніў руку і зноў падняў вянец уверх. Урачысты рытуал скончыўся кароткім набажэнствам і настаўленнямі святара, і маладыя пакінулі царкву.

Засланы прыгожай посцілкай, вазок стаяў напагатове. Пасля вянчання маладых пасадзілі побач, каля іх прымасціліся «памлодыя». Пры Просі за

старшую дружку — сяброўка Манька Базылюкова. За фурмана Барыс Пралеска — Просін швагер. Коні фыркалі і матлялі галовамі. Відаць, што гарэлкі ім не пашкадавалі і на гэты раз, бо яны ірванулі з ходу і з усіх ног. Маладая сыпанула ў натоўп цукеркамі, дзеці кінуліся іх лавіць, а потым яшчэ доўга шукалі ў наздраватым сакавіцкім снезе. За маладымі рушыў увесь вясельны поезд. Да Пакупчыкаў, плёхаючы па сакавіцкім снезе, дамчалі хутка. Тут ужо знаходзіліся Лявон з Фёклай. У пажвавеўшай матчынай постаці сціпла ззяў водсвет маладосці, тыя часы, мусіць, калі яна жыла яшчэ ў Расіі. Павільгатнелымі вачыма маці пазірала на сына. Каля цесцевай хаты ўжо гаспадарыў маршалак — дзядзька Хведар — у чорным касцюме (тым, у якім сам некалі вянчаўся), цераз плячо перавязаны квяцісты ручнік — знак павагі да асобы маршалка і да тых абавязкаў, якія ён мае выканаць на вяселлі. І на шапку яму пачапілі вялікую папяровую кветку.

На ўваходзе ў падворак мясцовыя хлопцы — «кавалерка» — збілі з жэрдак браму, уквецілі яе шпарагусам, пасярэдзіне паставілі стол. Гэта яны, па традыцыі, збіраліся ўзяць выкуп за нявесту. «Будзеце ехаць, — папярэджваў Лявон, — не забудзьце гарэлкі з сабой узяць, бо давядзецца за нявесту выкуп плаціць».

— А вось і маладыя! — пачуліся галасы.

Загаманілі навокал людзі, білі капытамі коні. Маршалак ужо перамаўляўся з «кавалеркай», таргаваўся, каб менш даць за выкуп. «Кавалерка» не пускала маладых дахаты. Пагадзіліся на пяці злотых і пары пляшак самагонкі. Косця калісьці прывучыў, што выкуп — колькі злотых — ішоў звычайна на карысць МОПРа. Вясной 1937 года збіралі дапамогу для іспанскіх рэспубліканцаў.

Маладыя ўступілі на панадворак. Сяброўкі, дружкі заспявалі:

Матулько, татулько,
Чаму не выходзіш хутко?
Чаму мяне не вітаеш?
Чаму мяне не пытаеш?..

Па-святочнаму прыбраныя Просіны бацькі сустрэлі хлебам-соллю і поўным кілішкам гарэлкі. Наталка прывітала:

Зычым вам, дзеці,
Хлеба і солі,
Шчасця і долі!

Мікалай дадаў:

— Будзьце здаровы, як вада, і багаты, як зямля!..

Наталка пусціла слязу і паднесла да вачэй ражок хусткі.

Лявон загледзеўся на нявестку. Чарнабровая, паружавелая з твару, у белай падвянечнай сукенцы, што віднелася з-пад кажушка, у вэлюме, яна выглядала вельмі прыгожа і цнатліва. «У маю маладосць, здаецца, такіх прыгожых не было», — здзіўлена падумаў ён і пачуў побач голас жонкі:

— Добрая пара! — пахваліла Фёкла. Ёй, відаць, таксама спадабалася нявестка.

Маладыя па чарзе — спачатку Васіль, потым Прося — паднеслі кілішак да вуснаў, рэшту выпілі Мікалай з Наталкай. Нехта сыпануў на маладых жменю жыта. Каб багата жылі. Пасля гэтага Хведар, як маршалак, павёў іх у камору, каб маладыя крыху падсілкаваліся, бо перад вянчаннем яны нічога не елі, а ў час застолля павінны былі паказаць сваю сціпласць і стрыманасць да ежы.

У каморы стаяў тонкі пах засаладзелага жыта, вэнджаных каўбас, што віселі на доўгай жэрдцы, сухіх груш і яблык. Васіль апекаваўся маладой жонкай.

— Ой, вэлюм памнеш!.. — непакоіўся ён, быў вельмі ўважлівы да Просі, паправіў ёй вэлюм, пасадзіў на столак...

Вяселле між тым набірала сілы і ўваходзіла ў свой рытм. Пазычаныя ў суседзяў дадатковыя сталы і лавы пазносілі яшчэ з раніцы, цяпер яны, засланыя льнянымі абрусамі, гатовыя былі прыняць гасцей. І ежа — спакуслівая. Выставілі ўсяго: сальцісоны, вантрабянкі, свежаспечаны хлеб і пірагі з макам. У вялікіх талерках застыў халадзец, на сподачках ляжала яечня, шынка, пячонка з цыбуляю і часнаком, смажаная рыба. Стаялі ёмкія гліняныя міскі з кіслымі гуркамі і квашанай капустай, пасыпанай журавінамі. Пасярэдзіне на доўгай блясе ляжала нафаршыраванае грэцкай кашай і запечанае ў духоўцы парася, напуджана пазіраючы на свет ягаднымі вачыма. Хапала, як сказалі б у Прусцы, і варанага, і параната, і смажанага, і печанага, і тушанага, і сушанага, і салёнага, і марынаванага, і марожанага, і квашанага, і кручанага, і верчанага. На белым ільняным абрусе чырванелі яблыкі. У зялёных бутэльках прытаілася Мікалаева «карчоўка».

Наталка з Надзяй расстаўлялі збанкі з квасам.

— Ой, колькі ўсяго! — не стрымаў захаплення Павал Гальяш, які быў запрошаны з боку маладога. — Ну і нагатавала, Наталка!

— Дык жа дачку аддаём.

— І як гэта ўсё з'есці? — заклапочана пачухаў патыліцу Зміцер Зуб, які з'явіўся на вяселле ажно з Бабіч.

Хвілін праз пятнаццаць—дваццаць маладыя вярнуліся з каморы і ў суправаджэнні «дружкаў» меліся заняць сваё месца — на покуце, пад абразамі, дзе іх чакала лава, засланая вывернутым уверх воўнаю кажухом. Васіль зірнуў у кут і ажно здзівіўся: пад абразамі ўжо нехта сядзеў, нейкая нават як бы пара — «малады» і «маладая». У «маладой» чырванелі густа намаляваныя вусны і шчокі, а з-пад вэлюма, які замяняла белае прасціны, тырчэла тоўстая льняная каса. Перад імі стаяла бутэлька гарэлкі, закуска ў талерках. Вядома, гэта быў хтосьці з суседзяў, але не проста было пазнаць — хто, настолькі ўдала яны пераапрануліся. Васіль з Просяй спыніліся ў нерашучасці.

— А гэта хто? — пальцам паказала на іх «маладая», што займала месца ў покуце.

«Непарадак» заўважыў маршалак:

— Ну, хопіць, пажартавалі і хопіць, забірайце гарэлку і закуску і ідзіце!

— Як гэта — ідзіце? — абурыўся «малады». — Куды?

— Няма дурных, — падтрымала яго «маладая».

— Не замінайце вяселлю!

Але «пара» ў куце цвердзіла сваё:

— Мы праўдзівыя маладыя, тут наша месца, і мы яго не пакінем, а калі і пакінем, то толькі за вялікі акуп! За вялікі!

— За вялікі?

— Ну так.

Васіль з Просяй стаялі побач, глядзелі на гэты «тэатр», пасміхаліся і ў справу не ўмешваліся. Рагаталі і госці, хто быў у хаце. Давялося-такі маршалку даць «маладым», што сядзелі ў куце, яшчэ адну пляшку «карчоўкі», толькі тады яны згадзіліся саступіць сваё месца і пакінуць застолле.

— Але ж і ўпартыя! — пахітаў галавой Хведар, які ва ўсё сваёй маршалкаўскай аздобе заняў месца насупраць маладых. Сеў і сказаў: — Уся радня, усе сябры сабраліся, можна пачынаць!

Народу шмат, і з аднаго боку, і з другога, ледзь уціснуліся ў хату. Прыехалі Лявонавы сёстры — Фядора з Іванам і Барбара з Хартонам.

Васіль запрашаў і настаўніка Мандрашчака, дзеля чаго хадзіў у школу, дзе кватараваў халасцяк-настаўнік.

— Прызнацца, я не чакаў, што буду запрошаны, — здзіўлена пакруціў галавой Мандрашчак, але адмовіўся, спаслаўшыся на занятасць важнымі справамі, але за запрашэнне падзякаваў. Васіль падумаў, што гэта, можа, і лепш, што ён адмовіўся.

— Халастым хлопцам паложана з левага боку, жанатым — з правага! — камандаваў маршалак, рассаджваючы гасцей. — Мікола, ты не там сядаеш! — зрабіў ён заўвагу лавачніку, які апынуўся сярод нежанатых.

Мікола Шпронька (яго запрасіў Мікалай як свайго дальняга, невядома па якой лініі сваяка) сеў пасярэдзіне, якраз ля парасяці, тоўсты, ён ледзь пралез паміж сталом і лаўкай. Грудзіну яму аздабляў белы бант з зялёным шпарагусам.

— Цяжка быць тоўстым, — спачувалі людзі, пераглядаючыся паміж сабою, — але нічога не зробіш.

Побач са Шпронькам прымасціліся Барыс з Алёшам. Каля іх Мікалаеў сусед Лукаш, які пагадзіўся аддаць хату пад музыкі. Святліца ў яго прасторная — для танцаў раздолле. А далей яшчэ адзін сусед — Макар. Насупраць (было ўжо і цеснавата) ушчаміўся каваль — Цішка Пахолак, да яго прыціснуўся Мікіта Галёнка. Далей Ляксандар Гальяш і яшчэ, і яшчэ. У канцы, ля самага парога, сеў музыкант з гармонікам, побач з ім — памочнік з бубнам. Гэта былі бабіцкі Уладзімер і, з бубнам, мясцовая знакамітасць — маленькі Мікалайца. Па гадах яму ўжо за трыццаць, а ростам — метр з шапкай.

Народ пачуваў сябе свабодна, нязмушана і раскавана. Маршалак падняўся і пачаў наліваць у кілішкі закрашаную вішнёвым сокам Мікалаеву «карчоўку». Яго прыклад перанялі іншыя мужчыны, наліваючы суседзям і сабе. Хутка першыя кілішкі былі напоўнены, і маршалак, падняўшы свой, гукнуў на ўсе грудзі:

— Горка-а-а!

— Горка-а-а! — адазвалася застолле, пабраўшы ў рукі кілішкі. Гэтых прыладаў, на жаль, хапіла не ўсім, і некаторым даводзілася чакаць, калі вып’е сусед.

— Го-орка-а! — падхапілі жанчыны.

— Соладка! Соладка! — пачулася з-за акна. Гэта азваліся запарожнікі, якія назіралі за тым, што рабілася ў хаце, праз вокны.

Запарожнікі — неад’емная і неадменная асаблівасць мясцовага вяселля: незапрошаныя (усіх у хату не запросіш) займалі сваё законнае месца за парогам, пад вокнамі, на вуліцы і настойліва чакалі на пачостку.

Маладыя прыгубілі чаркі, пераглянуліся:

— Салодка.

Яны, відаць, былі падрыхтаваныя да гэтага моманту і не спяшаліся выконваць патрабаванне застолля.

Застолле ізноў закрычала:

— Горка-а!

З некаторым спазненнем з’явіўся Лаўр Яўсеевіч, але і яму знайшлося месца.

— Васіль, пакажы, як прускаўцы цалуюцца! — гукнуў Мікіта Галёнка, які выпіў ужо чарку-другую.

— Хочуць, каб пацалаваліся! — зноў данеслася з-за акна. — Хай пацалуюцца!

Маршалак падбадзёрваў:

— Ну, Вася, ну!..

— Смялей! — гукнула Ульяна.

Маладыя нарэшце сціпла пацалаваліся і адпілі па паўкілішка. Услед за імі сталі піць і госці. Хвацка апаражніў сваю чарку маршалак, рэшткі выплеснуўшы на столь. Выпіў і захрумсцеў салёным гуркам — сківіцы яго працавалі, як жорны. Не марудзячы, начапіў на відэлец кавалак духмянай вяндліны і

тут жа адправіў у рот. Ад маршалка не адставалі госці, зазвякалі відэльцы і лыжкі. Працавалі лоўка і рупліва. «Як касары ў сенакос», — падумаў Васіль, дзівячыся гэтаму застольнаму суладдзю. Дзіва што: на вяселлі — вядомая справа — паесці і выпіць можна ўволю. Наталка з Мікалаем падбадзёрвалі, запрашалі выпіць і закусіць, каб, не дай бог, пасля вяселля хто не сказаў, што на стале ўсяго хапала, толькі прымусу мала было.

— Гарэлка свая, не казённая! — напамінаў Мікалай. — Паліцыянтаў я пачаставаў ужо, яны не забрыдуць.

— А госцікі мае мілыя! Рады вам, што не далі ганьбы, прыехалі на вяселле! — казала задаволеная Наталка.

Госці, зрэшты, не вельмі мелі патрэбу ў запрашэнні, налівалі кілішкі і тут жа іх, як калісьці казалі, экзарбіртавалі, налівалі суседзям.

Маршалак працягваў кіраваць застоллем. У чарговы раз ён устаў і падняў тост:

— Ну, каб было — у лыжцы, у місцы і ў калысцы!

Пажаданне спадабалася. Усе задаволена зарагаталі.

За вокнамі пачало цямнець, і давялося запаліць лямпу. Застолле падзялілася на групкі, пайшлі паасобныя размовы.

— Зажуй! — Павал Гальяш падсунуў Зміцеру Зубу хвост селядца. — Ну, як жыццё?

Зміцер пачасаў за вухам:

— Байкі.

— Жыццё як жыццё, — падключыўся да гаворкі Шпронька, — галоўнае, каб не забываць пра чатыры засцярогі!

— Якія засцярогі? — не зразумеў Зміцер.

У адказ Шпронька пачаў загінаць пальцы:

— Добра харчуйся, не насі цесных ботаў, нічым не пераймайся і будзь асцярожны на паваротах. Чатыры! — загнуў ён апошні палец.

— Не многа! — засмяяўся Лаўр Яўсеевіч, які сядзеў непадалёк ад лавачніка.

— А з мяне хапае, — запэўніў Шпронька, абіраючы костку.

— Я пра іншае! — пакрывіўся Лаўр Яўсеевіч. — Не блага было б вам заснаваць нейкае крэдытнае таварыства ці кааператыў, а потым нейкае акцыянернае згуртаванне, а там, глядзіш, і банк...

— Прыходзьце ў лаўку — у мяне ўсё ёсць, і выдатнай якасці! У яўрэяў купляць не трэба, тавар у іх няякасны! Яны робяць шахер-махер.

— Грошы трэба, а дзе іх узяць? — развёў рукамі Барыс, у левай трымаючы недаабгрызеную костку.

— Куды нам! — згадзіліся з ім Павал і Зміцер.

— Грошы — галоўнае, — падтрымаў гаворку каваль.

— А ў некаторых месцах гэтак робяць! — стаяў на сваім Лаўр Яўсеевіч. — Дастаюць грошы...

— Роўна жыць людзі ніколі не будуць, — зазначыў Павал. І ён, і Зміцер ужо па добрай чарцы выпілі, але п’янець не спяшаліся.

— Не будуць! — пацвердзіў Шпронька і ў доказ пабажыўся: — Каб я з гэтай лаўкі не ўстаў — не будуць.

— Нашто бажыцца — і так ясна, — сказаў Павал.

***Працяг будзе.***



## Алена БАГАМОЛАВА

* * *

Веснавеі
Мне сны навеялі.
Сны ў руку!.. Цябе чакаю…
Бяду — у раку, няхай сплывае.
Дні шматкроп'ямі
У маім лёсе…
Нават калі б усё жыццё
Чакаць давялося —
Цябе
Дачакалася б…

* * *

Не сядзіцца вясноваму ветру-гарэзу:
Бела-сінія ветразі бэзу
Ён
Пад акном маім надзімае.
І зайздросна вярба старая
Схілілася, плача.
Вось няўдача!..
Колераў-пахаў такіх
Спрадвеку не мае:
Нямая.

---

*__Багамолава Алена Міхайлаўна__ нарадзілася 20 сакавіка 1966 года ў вёсцы Лучазарная Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1988), аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка (1994). Кандыдат філалагічных навук. Працавала ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава. Цяпер — дацэнт кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Рэха сустрэчы» (2008).*

* * *

Я не веру сваім прадчуванням,
Як не веру табе.
І насуперак веснім прызнанням
Сею і жну на сяўбе.

* * *

Сплыло вясло…
І човен беспрытульна
Вандруе па азёрах памяці,
Старых шляхоў шукае,
А новых — цураецца,
Баіцца.
Нібыта будучыня —
Шэрая ваўчыца.
Сплыло вясло…

* * *

Пазняцветам
Познім летам
Зацвіло маё каханне.
Ды цвіло маё каханне
Па дарозе з лета ў восень.
І паціху зашумела,
Як саспелае калоссе.
Як саспелае калоссе
Залатое, захісталася,
Захісталася ад ветру і слаты:
У дарозе з лета ў восень
Не са мною ты…

* * *

Днём маўчыш,
А цёмначы —
Шукаеш помачы.
А дзень — працяг начы,
Дык не маўчы!..

* * *

Бачу. Чую.
Рухаюся. Адчуваю.
І я шчаслівая ў пару любую,
Калі жыццю даўгі
Свае
Вяртаю…

* * *

Пад камень, што ляжыць,
Вада не бяжыць…
Не веру,
Бо настырная кропля
Праточыць валун
І час, і рэкі
Назад паверне!

* * *

*Квадрат акна.*
А. Пісьмянкоў

Квадрат акна…
Квадрат душы…
Не выпускаюць
Словы-мары.
І ты мне
Болей не пішы.
Навошта мне
Твае ахвяры?
І вецер-летавей
Няхай пагасіць знічкі…
Ужо не зацвіла,
Што на маёй мяжы,
Старая груша-дзічка…
Квадрат акна
Акрэсліць далягляд…
Прастуе шлях наперад —
Няма шляхоў назад!

## СЫНУ

Аберагаю твой сон!
І аб адным малю Бога,
Каб ніколі не трапіў ты ў палон
Раўнадушша людскога.

Аберагаю твой свет,
Аберагаю тваю веру,
Каб на самай жывой з планет
Ты зведаў шчасце людскога даверу.

Аберагу і цябе,
Каб іншых і ты бярог.
І прашу я ў сваёй мальбе:
Няхай будзе з табою Бог!



## Ала КЛЕМЯНОК

* * *

Усе пайшлі.
Усе за небакраем.
За той мяжой, адкуль няма вяртання.
Усе, хто сведкам быў майго адчаю,
хто ў змрок ператварыў маё світанне.
Усе пайшлі.
Мне не лягчэй нікольк*і.
Зласлівасці няма,
як і спатолі.
І месяц апельсінаваю долькай
не зваліцца ў далоні мне ніколі.
Каханне будзе чыстым,
ранак — светлым,
і нехта, абдымаючы за плечы,
мне скажа:
— У разгары тваё лета,
а ты — пра халады,
а ты — пра вечнасць.

### ЦІШЫНЯ

*Мастаку Аляксандру Іванову*

Спыніўся час, апала цішыня,
і возера лясное анямела.
Ліецца у далоні мне штодня
спакой і мудрасць восені нясмелай.

---

***Ала Клемянок (Страшынская Ала Леанідаўна)*** *нарадзілася 6 кастрычніка 1961 года ў горадзе Маладзечна. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). Працавала ў шматтыражнай заводскай газеце «Приборостроитель», у газеце Маладзечанскага гарсавета «Наш дзень». Цяпер — у смаргонскай раённай газеце «Светлы шлях».*

*Аўтар паэтычных кніг «Яны не ведалі мяне» (1999), «Бывай, Альба Рутэнія» (2007).*

У неба вочы возера глядзяць,
ці, можа, неба ў возера глядзіцца?
А птушкі, што да выраю ляцяць,
не могуць ні спыніцца, ні напіцца…

## МОВА

*О, колькі іх на палях!*
*Але кожная квітнее па-свойму —*
*У гэтым вялікі подзвіг кветкі!*

Мацуо Басё

На родных лугах, на палетках
збіраю ў букет словы-кветкі.
Мо ёсць прыгажэйшыя словы,
а я сваёй роднай мовы
валошкі, пралескі, рамонкі
і чырвань рабінавай гронкі,
нібыта ў вянок, уплятаю
у верш. Я мілейшых не знаю
ні песень, ні мовы, ні кветак,
мне іх даглядаць, нібы дзетак.
І, можа, магутны Божа,
грахі дараваўшы, паможа
і ў свецкай, і ў простай размове
па-свойму квітнець маёй мове.

## ВЕРАСЕНЬ

Жоўтым крылом мяне восень рудая жагнае,
шэры туман свае ветразі сушыць над полем.
Там, за туманамі, лета маё дагарае,
восень у вогнішча шчодра падкідвае голле.

Сум і спакой над зямлёй уладараць. А з неба
зорным дажджом пераспелым ляцяць Леаніды.
Недзе на хвоях успыхваюць нітачкі срэбра
у дыяментавых росах з далоняў Планіды.

Лес, здратаваны за лета, спакою чакае,
кветкай пунцовай блішчыць пры дарозе рабіна.
Верасень вогненны шустрай вавёркай знікае,
скача, страсаючы лісце і срэбра з галінаў.

## * * *

Апошняя восень дваццатага веку:
халодныя ночы, трывожныя дні,
хаваецца сонца за хмараў павекі,
за вокнамі вецер шапоча — засні.

І нейкія цені мяне ахінаюць…
Так хочацца жыць,
калі сілы знікаюць.

* * *

Усё маё каханне — толькі мары аб каханні,
усё маё жыццё — адно бясконцае чаканне,
усё маё жыццё — у роднай хаце адзінота:
ад першага натхнення да апошняга палёту…

* * *

Абвінаваць мяне ва ўсіх сваіх няўдачах,
ва ўсіх грахах зямных абвінаваць.
Я не пакрыўджуся,
я нават не заплачу,
апраўдвацца не стану і ўсчуваць.
Абвінаваць, што не пайшла тым шляхам,
якім ісці паклікаў за сабой,
што жыць з табою марыла пад дахам,
а не пад саламянаю страхой.
Абвінаваць, што моцна не гарэла
душа мая ад дотыкаў тваіх,
бо толькі замірала, толькі млела,
калі мы заставаліся ўдваіх.
Я, моцная, рабілася бязвольнай.
З табой сябе я страчвала ў журбе,
пяшчота вуснаў не была спатольнай,
і позірк мой не распаляў цябе.
Але я знаю: меў ты асалоду,
як ні з якою іншаю з жанчын,
калі маю крылатую свабоду
знішчаў твой адмысловы каранцін.
Калі хадою мяккай ціхай коткі
я ў дом твой уваходзіла і ў лёс,
гублялі голас бомы і бразготкі
і ападалі воблакі з нябёс.
Умоўнасць рэчаіснасці знікала…
Усё прайшло?
Няма што ўспамінаць?
Я вінавата, але я кахала —
інакш, чым ты.
Таму не вінаваць.

Адам ГЛОБУС



# ШКЛЯНЫ МАЛАТОК

*Бальнічны дзённік*

## Дзень нулявы
## (Панядзелак 20.04.2009)

* * *

Збіраю неаб-
ходнае… Заўтра пакла-
дуць у бальніцу…

* * *

Уночы было кепска, кроў ішла з носа, а я быў раўнадушны да свайго стану. Шпурляў акрываўленыя сурвэткі ва ўнітаз і спускаў ваду. Няўжо я змірыўся з уласным згасаннем? Не… Яшчэ не змірыўся, яшчэ буду пераліваць вас, пачуцці мае, у вершы:

Прачынаюся
і лаўлю сурвэткаю кроў,
што з носа бяжыць…

* * *

Страшна не тое, што за ўсё давядзецца заплаціць, а тое — з якой хуткасцю прыходзяць рахункі…

---

*__Адам Глобус (Адамчык Уладзімір Вячаслававіч)__ нарадзіўся 29 верасня 1958 года ў горадзе Койданава (Дзяржынск) Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1977) і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Працаваў рэстаўратарам, мастаком і журналістам.*

*Аўтар кніг «Тэксты» (2000), «Сшыткі» (2003), «Дом» (2004) і інш.*

## Дзень першы
## (Аўторак 21.04.2009)

* * *

У трэцяй бальніцы мяне паклалі ў трыста дванаццатую палату вочнага аддзялення. У прасторнай і высакастольнай палаце, акром мяне, ляжаць яшчэ трое мужчын з хворымі вачыма. Гнятлівы спакой, у якім цяжка дыхае і храпе сівавусы дзядзька пасля аперацыі. За высокім акном здзекліва-бясхмурнае неба… Здзеклівае, бо ў мяне на вачах воблачныя замутненні.

* * *

Пасля ўчарашняга ўкола пад вока мне крыху лягчэй. Вока меней баліць, меней пячэ і свярбіць, але навакольны свет, як быў пакрышаны на дробныя аскепкі, так і застаўся раздвоеным і растроеным.

* * *

У бальнічным двары ўсе дрэвы паабразаны так, што з зямлі тырчаць адно ствалы з адным ці двума сукамі… Мой дыягназ — дрэвавідны герпетычны кератыт левага вока, бяльмо рагавіцы правага вока. Я і сам падобны да дрэва, у якога паабразалі ўсе галінкі, пакінулі адно пару сукоў пад здзекліва-ясным, раўнадушным да чужога болю небам.

* * *

Перад бальніцаю я збольшага ўпарадкаваў свае справы. Прыбраў студыю і працоўны кабінет у выдавецтве. Працы з галерэі «Падземка» жонка прывезла дамоў, і я іх паразвешваў на сценах кватэры. У «Падземцы» засталося толькі адно палатно «Магма», бо не ўлезла ў машыну. Не скажу, што моцна за яго перажываю, але варта было б забраць, бо галерэю, выглядае на тое, зачыняць зусім. А я ж, наіўны, нават планы пачаў доўгатэрміновыя выбудоўваць, марыць пачаў пра штогадовыя вясновыя выставы свайго жывапісу. Галерэю зачынілі, а тут і вочы мае заплылі мутнасцю. Добра, што я ўсё ж паспеў напісаць пару карцін і выставу сваю адзіную зрабіць. А «Магму» абяцаўся перавезці дамоў сын Мікалай. Перавязе.

* * *

Чытаць не магу, але па-звычцы ўзяў у бальніцу дзве кнігі: «Японскія трохрадкоўі» і «Лірыку» Такубоку. Калі напружыцца, дык адзін ці два вершы магу разабраць. Таму і японцы, бо яны, як ніхто іншы, разумелі крохкасць і хуткаплыннасць чалавечага жыцця. Так што з усяго чытання адно нагадванне пра прачытанае… Пішу вялікімі літарамі і не перачытваю напісанае, але спадзяюся перачытаць пазней…

* * *

Закапалі вока, паклалі мазь, свет расплыўся…

* * *

Заходзіла Валя, яна тут працуе і крыху апякуецца мною. Распавяла пра пад'езд, дзе мы некалі разам жылі. Яна і цяпер жыве ў тым пад'ездзе. Валя раіць мне берагчы імунітэт і есці болей часнаку ды цыбулі.

* * *

Перачытаў і пераказаў верш Гёдай:

Ліст ляціць на ліст,
абляцелі ўсе, і дождж
падае на дождж…

Ён мяне заўжды заварожваў. Колькі яго ні чытаў, заўжды, скончыўшы, пачынаў чытаць наноў і наноў, ажно пакуль нешта звонку не забірала ўвагу. Магічны верш, самаўзнаўляльны. Усё ў ім сканчаецца і ўсё ўзнаўляецца наноў. Так заварожвае дзіцячае вока калейдаскоп.

* * *

Радасці ў мяне абмежаваныя. Магу выйсці на вуліцу і выкурыць цыгарэту. Магу выпіць глыток вады і з'есці цукерку. Магу легчы і спрабаваць пераплавіць чужы храп у музыку. Апошняя радасць у мяне яшчэ кепска атрымліваецца.

* * *

Шкляны малаток — вобраз, які праследуе мяне ад самага пачатку захворвання. Шкляны малаток… Яго я ўбачыў у мроі. Варта было б яго намаляваць, але ён яшчэ не вымалёўваецца. Часам я адчуваю ягоны цяжар і гладкасць ягонага дзяржальна ў сваёй правай руцэ, і тады хочацца размахнуцца і ўдарыць. Але я ўсведамляю аднаразовасць такой дзеі, ад удару Шкляны малаток разляціцца ў нішто. Нішто мяне пужае. Я адкідаю думкі пра Шкляны малаток. Імкнуся забыць пра яго. Мне нават удаецца гэта зрабіць. Але праз нейкі час Шкляны малаток зноўку ўзнікае ў правай руцэ. Сягоння ён з'явіўся, калі на сваім ложку я ўбачыў танканогага і танкацелага сіняга павука. Павук бег па прасціне. Ледзь-ледзь я не ўдарыў па прымроеным павуку Шкляным малатком. Стрымаўся. Павук рассыпаўся на залацістыя іскаркі. Малаток таксама знік…

* * *

Лежачы на бальнічным ложку, міжволі выпраўляешся ў вандроўкі, у далёкія месцы, дзе некалі табе было па-сапраўднаму добра… Мне было добра на Чорным моры, каля якога ў горадзе Сочы жыла (і цяпер, дзякуй богу, жыве.) мая цётка Рэгіна. Увечары мы з ёю гулялі ўздоўж берага рэчкі Сочанкі, а вакол нас міргалі маленькімі ліхтарыкамі жукі-светлякі. Іх было шмат у надрэчных кустах… Даўно не быў у Сочы. Даўно не бачыў светлячкоў. Можа і ў Сочы, як у хоку Рота…

Дзе ўсе светлячкі?
Ад людзей пахаваліся
ажно на поўні…

… няма светлякоў?

* * *

Брат прынёс кубак і лыжку. Цяпер у бальніцу трэба класціся са сваім кубкам і лыжкаю, пра гэта я даведаўся ў сталоўцы, дзе мне налілі талерку вараных буракоў і далі порцыю рысавай кашы з чорным хлебам. Катлеты мне не паклалі, бо я сягоння першы дзень, на мяне катлету не выпісалі. Шклянку з кампотам мне выдалі, каб запіў хлеб і кашу. Лыжку мне таксама далі, але я вырашыў быць, як усе, і папрасіў брата прынесці мне ўласны посуд.

* * *

Ціхая гадзіна. Мае прааперыраваныя аднапалатнікі спяць. Сонца ў акно свеціць так шчодра і так няшчадна, што я пішу, седзячы ў чорных акулярах. Ад сонца настрой паляпшаецца, не так паныла, як магло б быць. А хто ведае, як магло быць?

* * *

Жонка з дачкою прынеслі вінаград, а я крыху сароменюся яго есці. Занёс у калідорную лядоўню. Яна агульная, таму трэба свой пакет падпісваць. Вінаград «Адамчыка». Здаецца, някепска. Нешта ёсць ад успаміну пра далёкі-далёкі рай.

* * *

Сонца заходзіць. Разглядаю заахонныя акуратныя дахі. Яны зялёныя, цёпла-шэрыя, халаднавата-свінцовыя. Па-над дахамі ўзвышаюцца стадыённыя ліхтарні. Бессюжэтны краявід. Спакойны, велічны і ўрачысты.

Згадваю дахі Бусона:

Спуджаны злодзей
уцякае па даху…
Халодная ноч!

І наша заахонная ноч абяцае быць халоднай.

* * *

Пасля вячэры я абышоў вакол бальніцы. Як добра, што можна выйсці на вуліцу, у халодны вечар…

## Дзень другі
## (Серада 22.04.2009)

* * *

Уночы балела галава, таму з’еў не адну, а дзве таблеткі супакаяльнага. У густым сне праляжаў да раніцы. Надзеі прачнуцца здаровым ужо няма, хіба што яшчэ засталіся нейкія спадзевы нарадзіцца здаровым у новым жыцці, як у Рота:

Восень і поўня.
Каб жа зноў нарадзіцца
Сасной на гары!

Але тое ўсё паэтычнае і да майго рэальна кепскага стану мае вельмі ўмоўнае дачыненне…

* * *

Мне робяць уколы пад вока і ў клубы. Крапаюць на зрэнку і накладаюць мазь пад ніжняе павека. Яшчэ я хрумкаю таблеткі ды хаджу на лазерную стымуляцыю. Лекаванне я пераношу стаічна, як і не сабраныя, а рассыпаныя на процьму рысачак літары.

* * *

Дактары Вера ды Людміла кажуць, што дынаміка паляпшэння добрая, але пасля загойвання трэба будзе займацца імунітэтам. Пра імунітэт я маю досыць цьмянае ўяўленне, бо агульным сваім станам я і так добра займаўся, як мог, вядома.

* * *

Ад усіх працэдур і размоў пра хваробы хочацца думаць пра чыстае, пра светлае і празрыстае, як у Фухаку:

Як памыць ногі?
Не хачу каламуціць
чыстую хвалю…

Як жа мне пазбавіцца каламуці ў вачах? Не ведаю.

* * *

Сваю чорную дэмісезонную куртку я не надта каб і любіў. Калі купляў, нібыта і спадабалася, а потым разлюбіў, бо набірае ў сябе розныя смуроды. Аднойчы зайшоў у ёй у чабурэчную, дык давялося яе тры дні на балконе праветрываць. Тут, у бальніцы, яна стала маёй любімай апранахаю. Яна ляжыць у пакеце пад ложкам і абнадзейвае. У любы момант я магу ўстаць, апрануцца і сысці ў свет вялікі і свабодны. Канешне, я нікуды не сыду, буду лекавацца, каб вярнуць сабе зрок, хоць часткова, хоць часова, але вярнуць.

А чорная куртка будзе апранацца толькі на кароценькія прагулкі, але і гэтага дастаткова, каб стаць маёй любімай рэччу ва ўсім бальнічным комплексе.

* * *

Натуршчыца Тамара прынесла дзве слойкі са шпінатам. Слойкі я з’еў адразу, тут — у бальнічным двары. Яна курыла, я еў слойкі. Гэтым разам мы больш маўчалі, чым гаварылі.

* * *

Пасля размовы з прафесаркай Людмілаю жонка мая заплакала, яна плакала і пасля размовы з Валяй, і пасля таго, як даведалася, што мяне кладуць у бальніцу. Ад яе слёз мне робіцца зусім кепска, бо пачынаю ўсведамляць усю марнасць намаганняў па вяртанні былога зроку. І так зрок мой быў не ідэальны, а тут… Ці хопіць яго, каб працягваць займацца жывапісам? Ці змагу вярнуцца да штодзённага шматгадзіннага чытання? Ці застанецца адно запісваць складзеныя ў галаве кароткія вершы? Ніякіх адказаў у мяне няма. Ёсць слёзы жонкі. Насамрэч, гэта шмат.

* * *

Хворыя шмат спяць, і выдатна, але мужчыны яшчэ і храпуць, калі спяць, асабліва старыя. Сярод хворых старых больш, чым маладых… У палаце трыста дванаццатай я самы маладзейшы. Мне пяцьдзесят, і я (ха-ха!) самы малады. Я сплю меней за ўсіх і храплю, спадзяюся, не болей і не грамчэй за астатніх. Каб змагацца з храпам, які раздражняе, я спрабаваў пераплаўляць яго ў музыку, але не вакальна-інструментальную, а музыку заапаркавую. Я ўсіх сваіх аднапалатнікаў пераўвасобіў у звяроў. Сяргей зрабіўся бабром, Валера — тыграм, Мікалай — ваўком, Сяржук — ільвом. Мацней за ўсіх храпе воўк, ён зусім стары, яму цяжка. Тыгр гучна пазяхае. Леў сапе. Бабёр пастогвае. У выдуманым заапарку мне засынаецца лепш, чым у рэальнай бальнічнай палаце. У наступную ціхую гадзіну я прыдумаю перад тым, як заснуць, звера, якім з’яўляюся я.

* * *

Перакладчыца японскай класічнай літаратуры — Вера Маркава — падчас нашай першай размовы сказала, што завяла сабе хваробу, як і належыць старой жанчыне. У Маркавай, як у мяне цяпер, хварэлі вочы. Не ведаю, чаму, але я ўзяў з сабою ў бальніцу толькі кнігі з яе перакладамі.

* * *

Мой чалавек так глыбока занурыўся ў сябе, што нічога, акром лірычных мініяцюр, і прачытаць не здатны. Усё астатняе пачужэла для яго.

* * *

Учора я мог чытаць толькі хоку. А сягоння чытаў танкі Такубоку:

Які сумотны
ты — безжыццёвы пясок!
Ледзь сцісну ў руцэ, —
ты з ціхім шапаценнем
цячэш-цячэш скрозь пальцы…

## Дзень трэці (Чацвер 23.04.2009)

* * *

Дактары кажуць, што я страціў зрок праз стрэс. Які стрэс? Выстава ў «Падземцы». Так карцела напісаць карціны, сабраць іх у выставу, знайсці месца, дамовіцца, развесіць палотны, запрасіць сяброў і падзякаваць ім за падтрымку маіх мастакоўскіх намаганняў. Два гады працы, і выстава зрабілася. Яна зусім не такая, як мне бачылася раней, але я закладнік рэальнасці. Мая рэальная выстава адбылася ў галерэі «Падземка». Але выстава не правісела свой тэрмін. Галерэю «Падземку» зачынілі. Гаспадары памяшкання патлумачылі гэта тым, што мастацтва, якім займаюцца падземніцы і падземшчыкі, нікому не патрэбна. Пра шкоднае і непатрэбнае мастацтва я чую ўсё сваё мастакоўскае жыццё. Здавалася, я ўсё ведаў наперад; здавалася, да ўсяго быў падрыхтаваны, але мае вочы мяне падвялі, яны не вытрывалі. Іх нібыта пяском засыпала. Цяпер той брудны пясок перажыванняў мне чатыры разы на дзень вымываюць медсёстры.

* * *

Настрой нудны. Маркота ў душы. Палата прыбіраецца і праветрываецца. Выйшаў на калідор. Доктарка Вера мяне агледзела, суцешыла і зрабіла ўкол пад вока…

* * *

Зайшло ў калідор
бальнічны й вузкі сонца
красавіцкае…

* * *

Вінаград свой я не з’еў, пачаставаў ім начную медсястру. «Вы бачыце, колькі ён каштуе?» — спытала яна сур’ёзным голасам. Паколькі ва ўсіх начных сясцёр галасы сур’ёзныя, я вырашыў адказаць сур’ёзна: «Не бачу! І гэта не мае значэння, бо я сам яго не з’ем, а будзе шкада, калі ён сапсуецца, і мне давядзецца вінаград выкінуць…» Сястра ўзяла вінаград, чым мяне вельмі ўзрадавала, бо не трэба, сарамеючыся, есці вінаград у палаце… Згадаўся іншы мой сорам… Мне было дзевяць гадоў і жыў я ў летнім дзіцячым лагеры. У лесе я наеўся зялёных недаспелых чарніц. Схапіў жывот. Лагерная доктарка выклікала хуткую дапамогу, і мяне завезлі ў інфекцыйную бальніцу. Прывезлі мяне позна ўночы. Не ведаю чаму, але прымаць у бальніцу мяне адмовіліся. Бацькоў у горадзе не было, і мяне забрала з бальніцы Галя Стральцова, наша суседка. Пасяліла яна мяне ў пакой свайго былога мужа — паэта Міхася

Стральцова. У пакоі, акром стоса кніжак на падлозе і матраца, нічога не было. Перад сном Галя сказала, што пакупае мяне. Божа мой мілы, як жа мне стала сорамна. Мяне, вялікага ўжо хлопчыка, будзе купаць чужая жанчына. Яна распранула мяне, памыла ўсяго чыста, выцерла і паклала спаць у свежую бялізну. Так я і заснуў са сваім сорамам. Праз тры дні мяне, чыстага і прычасанага, усё ж паклалі ў інфекцыйную бальніцу для прафілактыкі, там я і захварэў на дызентэрыю.

* * *

Крыху лягчэй з вачыма, і адразу пачалі планы працоўныя складацца.

* * *

Раніцаю выдалі таблетку супакаяльнага, не выпіў, схаваў у футарал ад акуляраў. Каб, калі не будзе спацца, выпіць пасярод ночы. Наяўнасць супакаяльнай пігулкі мяне супакойвае не меней, чым яе ўжыванне. Мо яно толькі так здаецца, але мне добра ад таго, што ў футарале ціха ляжыць мой будучы спакой.

* * *

Аднапалатнік Валера любіць парыбачыць і параспавядаць пра рыбакоў. На Любанскім вадасховішчы мужчына падчапіў вялікую рыбіну, дзве гадзіны магутная рыбіна цягала гумовую лодку з рыбаком па вадасховішчы. Цягала не дарэмна, бо праз дзве гадзіны яна сарвалася з кручка. Раз’юшаны рыбак выцягнуў лодку на бераг і парэзаў яе на шкамуты. Вуду сваю ён зламаў. Знявечаныя рыбацкія прылады мужчына кінуў на беразе, а сам з’ехаў у краму па гарэлку… І хто сказаў, што рыбацтва супакойвае чалавека? Мяне яно, дакладна, ніколі не супакойвала. Таму ўсю сваю рыбу я злавіў у дзяцінстве, а стрэсаў хапае і без рыбалкі.

* * *

Алесь патэлефанаваў і папрасіў зрабіць эсэ ў часопіс «Нёман», дзе ён цяпер за галоўнага рэдактара. Эсэ мусіць быць пра Сыса, нашага найлепшага з паэтаў, які так хутка пакінуў свет, нават не сустрэў сваё пяцідзесяцігоддзе, якое і вырашыў адзначыць «Нёман». Такіх, як Сыс, паэтаў сярод жывых я не ведаю. Пра падобнае ёсць і ў Басё:

Дарэмна прагу-
чаў кліч зязюлі, няма
ў наш час паэтаў…

* * *

Вяртаецца зрок. Чытаю і не магу паверыць, што чытаю, што на нейкі нядоўгі час ясна бачу літары на старонцы. Блізкі зрок вяртаецца, а далячынь раздвойваецца ў каламутнасці. Краявіды я не бачу, але магу іх маляваць, хоць бы пераказваючы Басё:

На вярбе пахі-
ленай салавей — нібы-
та яе душа…

* * *

Ніколі нікому не хацеў служыць і прыслужваць. Паслугач — не пра мяне. Таму і прысягаць нікому не прысягаў. Але ж і прысяг не парушаў, што само па сабе — добра. Таму і цяжка мне зразумець верш Такубоку:

Калі даводзіц-
ца служыць карыслівым
ды нахабным цем-
рашалам, якім страшным
падаецца белы свет…

Дакладней кажучы, мне цяжка спасцігнуць верш да ўсёй ягонай глыбіні. Роспач у ім большая за маё веданне драмы паслугача. Так нікому з нас, жывых, не дадзена спасцігнуць адчай антычнага раба.

* * *

Жыву без грошай. Нічога не купляю, нічога не прадаю. Адна ў мяне грашовая купюра, і тая — закладка ў кнізе вершаў.

* * *

У мінулую пятніцу мне стала кепска з левым вокам. Правае ў мяне і так хварэе з дзяцінства. Усю пятніцу я займаўся дурным самалекаваннем, вока заплыло, пачырванела і запякло так, што сярод ночы я апынуўся ў дзесятай бальніцы, што на ўскрайку горада, каля заапарка. Тамтэйшая абстаноўка нагадвала малабюджэтны фільм жахаў… П’яныя мужчыны з паголенымі галовамі. Медсястра з вялізнай змяёю, вытатуіраванай на руцэ ад локця да кісці. Міліцыянты ў гумовых белых пальчатках і з чорнымі дручкамі… Крыкі з-за дзвярэй аперацыйнага пакоя: «Не круці галавою! Не таргайся! Я ж табе вока шыю!!!» Самай страшнай была кроў… Яна была чорнай. Чорная кроў на кашулях, чорная кроў на сценах, чорная кроў на падлозе… А мне кепска, мяне блажыць. Адзінае жаданне — не страціць прытомнасць і не застацца ў бальніцы, што вельмі сімвалічна стаіць каля заапарка. Маладзенькая доктарка прамыла вока, выпісала кроплі, звадзіла да тэрапеўта, і мяне, дзякуй богу, адпусцілі на свежае паветра. Я вярнуўся ў палату і заснуў шчаслівы…

## Дзень чацвёрты
## (Пятніца 24.04.2009)

* * *

Уцёкі! Адна думка круціцца ў галаве. Уцячы!!! Хоць бы на якую гадзінку паехаць дамоў, каб душ прыняць ды галаву памыць. Каб жа сесці ў сваім кабінеце

з кубачкам кавы ды цыгарэтаю, сярод сваіх карцін і кніжак. Можна і без кавы, але лепей з каваю, хай сабе будзе той кавы на самым дне кубачка, на паўглытка, дзеля смаку. Сягоння паспрабую ўцячы ў ціхую гадзіну. Можа і атрымаецца…

* * *

Хай згінуць усе,  
хто хоць адзін раз  
мяне прымусіў  
нізка схіліць галаву…  
Маліўся я… Малюся…

Малітва мужнага чалавека. Іншай і не магло быць у японскага паэта, іншай і не можа быць у Такубоку. Нечым гэтая малітва нагадвае беларускі праклён, таму і блізкая яна мне, таму і пераказваю яе нашай моваю.

* * *

Ад Шклянога малатка ў маёй руцэ засталося адно дзяржальна. Malаток, якім і ўдар ужо не нанясеш. Вытлумачыць нічога не магу, а ілгаць не буду.

* * *

Доктарка Вера, як пачула маё жаданне пра ўцёкі, пасля агляду паабяцала разгледзець маю выпіску з лякарні ў панядзелак або аўторак. У кожным разе, у суботу я паеду дамоў памыцца. Яшчэ моцна ўзрадавала адмена мачагонных таблетак, бо ўставаць па тры-чатыры разы за ноч я стаміўся. Устанеш, а потым заснуць не можаш. Слухаеш-слухаеш, як храпуць аднапалатнікі. Добра, што была прыхаваная таблетка супакаяльнага, яна і ўратавала, таму сягоння раніцай я зноўку схаваў у акулярны футарал таблетку са сваім начным спакоем.

* * *

Сягоння ўночы зніклі дзіўныя відовішчы, якія бачыліся хворым вокам. Гэта былі нейкія рознаколерныя рэльефы, зробленыя з цвёрдага, падобнага да каменя, матэрыялу. Але рэльефы даволі хутка мянялі малюнак на паверхні. Адзін рэльеф быў халаднавата-жоўты, колерам падобны да слановай косткі, другі быў чорна-брунатны і нечым нагадваў кару сасны, трэці — апошні — быў крывава-чырвоны. У апошнім на якое імгненне я пабачыў твар бацькі-нябожчыка… Учора ўвечары маці сказала, што хадзіла да бацькі на Кальварыйскія могілкі і прасіла ў яго, каб у мяне ўсё было добра. Сягоння маё хворае на кератыт вока не бачыла іншасвет.

* * *

Брат прынёс тэрмас з каваю, я пачаў адмаўляцца, бо ўчора выпіў некалькі глыткоў кавы, што прыносіў Сцяпан, а потым не мог заснуць. Можа і не з-за кавы не засыналася, але думалася — з-за яе. Сягоння таксама не стрымаўся і кавы выпіў, таму зараз бадзёры і ў гуморы.

* * *

Дактары не раяць мне ехаць на поўдзень, бо вочы мае кепска пераносяць гарачыню. Я і сам пра гэта цудоўна ведаю, але кожнага разу летам еду ў Барселону. Сёлета ніякай Барселоны ды Італіі я не ўбачу, давядзецца выбіраць іншае месца для адпачынку. Можа, Чэхія ці Аўстрыя? А можа, абмежавацца Літвою. Даўно збіраўся прасядзець колькі тыдняў у Вільні ды памаляваць нашую артыстычную сталіцу. Толькі ці адпачну я ў Вільні? Ці зноўкуператамлюся ад сваёй апантанасці мастацтвам?

* * *

Пераказаў з Басё:

Крынічны струмень…
Пабег па маёй назе
маленечкі краб…

Пераказаў, бо згадалася крынічная рэчка Ятранка, у якой я лавіў і выпускаў маленечкіх ракаў. Вялікіх ракаў мы з татам лавілі, варылі і елі, а маленечкіх выпускалі. Яны, выпушчаныя, зміралі на пяску пад плыткай вадою на якое імгненне, а потым, спрытна згінаючыся, уцякалі пад карчы прыбярэжных вербаў… Чытаю, пераказваю японца Басё, а бачу беларускую вёску. Чаму?

* * *

Пра каго з паэтаў я мог бы скласці такі верш, як склаў Басё, усхваляючы паэта Рыка:

Нібы маланку
ты ўзяў у рукі, калі
запаліў свечку…

Як склаў Басё, я ні пра каго з паэтаў скласці не змагу, бо не ўмею, як Басё, бо няма ў наш час паэтаў… Ці я іх бачу толькі ў мінулым? Зусім сапсаваўся мой зрок, што праўда.

* * *

Пасля кропель і закладання мазі на вока магу толькі скласці ў хайку некалькі слоў:

«Ты вочы прадраў?» —
сёмы дзень узапар я
пытаю ў сябе…

* * *

Зноўку вяртаецца прастуда. Пацякло з носа. Гарачыя лоб і нос. А так жадаецца ісці за Басё і казаць:

Цэлы доўгі дзень
не можа наспявацца
жаўрук вясною…

І вясна, і сонца, і ціхі бальнічны двор, у якім нават можна ўяўляць, што ты ў доме адпачынку… Не ўяўляецца! Навокал хворыя людзі са слабымі вачыма. Большасць з іх не можа ні чытаць, ні глядзець тэлевізар, ні глядзець на камп’ютарны манітор… Большасць з іх наогул кепска бачыць святло, нашы жаўтавата-залацістыя бальнічныя карпусы, асветленыя нядужым вечаровым сонцам і нашу вясну з яшчэ халоднымі і сінімі начамі.

* * *

Заўтра абавязкова з’езджу дамоў. Дамовіўся з жонкай, яна пад’едзе на машыне, і я ўцяку ў свой звычайны свет на дзве гадзіны. Тут, у бальнічнай палаце, я занудзіўся так, што наведнікі — мае самыя блізкія і любімыя людзі — мяне пачалі раздражняць. Несправядлівыя словы пра раздражненне, але горкія, і праўдзівыя, і пякучыя, што кроплі, якія толькі што пакрапалі мне на вока.

## Дзень пяты
## (Субота 25.04.2009)

* * *

Спаў кепска. Ляжаў на спіне і слухаў храпенне аднапалатнікаў. Часам рабілася невыносна. Так невыносна робіцца і ўдзень ад пустапарожніх размоў ды расповедаў, у большасці няпраўдзівых.

* * *

Стаміўся ад палатнага жыцця, ніводнай думкі ў галаве няма. Сяджу над разгорнутым сшыткам у здранцвенні.

* * *

Дома я ўдзень амаль ніколі не кладуся на ложак, а тут увесь час даводзіцца светлым часам ляжаць. І ляжу, і думаю пра сваю залітую красавіцкім сонцам (цэлы тыдзень трымаецца сонечнасць!) майстэрню, дзе на мальбертах стаяць чыстыя палотны. Сумую па фарбах, па вугалі, па пэндзлях… І без засяроджанай адзіноты мне маркотна. Заплюшчваю вочы і гуляю па майстэрні, але галасы аднапалатнікаў разбураюць мае нетрывалыя ўяўленні.

* * *

Калі выпішуся з бальніцы, дык абавязкова вярнуся ў бальнічны двор, каб памаляваць з натуры бальнічныя карпусы і напісаць краявід, у якім была б гісторыя слепаты. Як я гэта зраблю? Як напішу падслепаватыя вокны? А можа, будзе дастатковым і вымаляваць некалькі дрэў без галін? Дрэў без галін будзе дастаткова. Так і напішу, калі зроку майго будзе дастаткова…

* * *

Пра разбураны замак Кодзуката Такубоку пісаў:

Густая трава
на замкавых руінах…
Я лёг на траву,
на неба доўга глядзеў,
неба мяне забрала…

А я не магу на неба доўга глядзець, вочы баляць, неба мяне і не забірае.

* * *

У вёсцы Варакомшчына я з дзедам рэзаў лазу, з якой ставілі плот… Няма даўно дзеда Ладзіміра, а наш лазовы плот новыя гаспадары ўмацавалі калючым дротам. Плот стаў нялюдскі, жорсткі ды чужы… Чаму мне ў сталічнай бальніцы згадаліся вясковыя платы? Хутчэй за ўсё, з-за дзеда Мікалая, якога цяпер перавялі з маёй трыста дванаццатай у трыста першую палату. Ён прыходзіў да мяне ў госці, ён чымсьці падобны да майго дзеда нябожчыка. Падобны ён сваёй простасцю, сваёй любоўю да крынічнай вады, пра смак якой любіць згадваць.

* * *

Віта прынесла мне тры бутэлечкі маркоўнага соку. Я паставіў іх на тумбачку. «Хто табе носіць дзіцячае харчаванне?» — пытаюцца аднапалатнікі і смяюцца. «Жанчына, у якой сын — малодшы школьнік, і яна ўсё лепшае мерае па ім…»

* * *

Балелі вочы,
чорныя акуляры
надзяваў, тады
і навучыўся плакаць
так, каб ніхто не бачыў…

Чытаю ў Такубоку і думаю: быццам сказана пра такіх, як я.

* * *

У шэсць месяцаў мне рабілі прывіўку воспы, і яна прывілася мне ў вока. Дактары не ўбачылі драпіну на воку, а воспа яе знайшла. Зрок я страціў амаль цалкам. Маці вадзіла мяне па розных акулістах, што выплывалі на мяне з цемры ў сваіх сляпуча-белых халатах. Як жа я баяўся гэтых халатаў?! Мяне нават у прадуктовую краму нельга было завесці… Халаты выклікалі ў мяне істэрыку. Самай страшнай з усіх дактароў была Таццяна Бірыч, бо нагадвала мне казачную Бабу Ягу. Цяпер чорная мемарыяльная дошка з профілем бабы Бірыч вісіць якраз на тым будынку, дзе я ляжу. Будынак стары, кажуць, яму двесце сорак два гады. Пэўна, гэта мусіць абнадзейваць. Ёсць у нашае медыцыне традыцыі… Сягоння мяне аглядала дачка бабы Таццяны — прафесар Тамара Бірыч. «Даўно гэта ў вас?» — спытала яна. Я за некалькі імгненняў распавёў ёй гісторыю даўжынёй у пяцьдзесят гадоў. «Як цікава… Лекуйцеся. Усе прызначэнні правільныя». Я выйшаў з цёмнага пакоя на сонца і паехаў дамоў… Задумаў, запланаваў уцёкі і здзейсніў іх.

* * *

Часам мне падаецца, што я пачаў бачыць вастрэй, чым раней. Канешне, гэта самападман, але каламутная плеўка спадае з вачэй, і я акрыяў. Цела маё не зломлена, і дух мой гартуецца.

* * *

Свет зноўку закаламуціўся, але ў бальнічным двары зачырванеў адзін цюльпан. Я стаяў, курыў і глядзеў на пяшчотна чырвоны бутон. Калі гэты кволы цюльпан змог закрасаваць, дык і мне трэба шукаць сілы, каб акрыяць і яшчэ які год-другі папісаць на палотнах краявіды любімых мясцін, а іх жа не так і шмат.

* * *

Надвячоркам у палату прыйшоў прапаведнік — кароценькі мужчына з сівою галавою ды чорнай кніжкай Бібліі, прыціснутай да пукатага жывата, абцягнутага белым халатам. «Я пасланы хадзіць па бальніцах і казаць вам пра Бога нашага — Ісуса Хрыста! Усе вашыя святары не пасланы і не прызначаны Богам, а я прызначаны і пасланы Богам…» — «А чаму Вы пасланы Богам?» — спытаў Валера. «Да мяне ў сне прыйшоў Бог і сказаў, што я павінен хадзіць па бальніцах і расказваць хворым пра Бога нашага — Ісуса Хрыста…» — прапаведнік пачаў цытаваць Новы запавет з удакладненнем кнігі і нумара верша. Я вырашыў прамаўчаць, але зазваніў мабільнік, і давялося выйсці з палаты. Прапаведнік выскачыў праз хвіліну чырвоны і злы. «Што вы яму сказалі? — спытаўся я ў сваіх заўжды спакойных аднапалатнікаў. — Чаго ён такі злы?» — «Мы і спыталі ў яго, чаго ён злы. А ён яшчэ больш злавацца пачаў…» Першы раз у жыцці я пабачыў злога прапаведніка. Але, бачыць Бог, ён і не прапаведнік зусім, а звычайны шэльма з Бібліяй у руцэ.

## Дзень шосты
## (Нядзеля 26.04.2009)

* * *

Дачка сказала, каб я патэлефанаваў сваёй былой сакратарцы Надзеі. Я ёй не тэлефанаваў гадоў сем. Нашто тэлефанаваць былой сакратарцы? Яна сваячка, стрыечная сястра маіх дзяцей. Яна ад некага пачула, што я нібыта ў рэанімацыі, і вельмі хвалюецца. Патэлефанаваў, падзякаваў за спачуванні… Надзя жыве ў доме якраз насупраць бальнічнага корпуса, дзе я ляжу. Зрэшты, на гэтай жа вуліцы жыве дачка і стаіць дом, у якім знаходзіцца мая майстэрня. Такое адчуванне, што я жыву не ў двухмільённай сталіцы, а ў вёсцы з трыма вуліцамі.

* * *

Часцей і часцей згадваецца дзяцінства. Згадваюцца: вёска дзеда Валодзі — Варакомшчына ды мястэчка бабы Ядзі — Койданава. Душа вяртаецца туды і супакойваецца…

Што б ні здарылась
я вёску Сібутамі
буду памятаць…
Са мною горы твае!
Са мною рэчкі твае!

Так пра сваю радзіму напісаў Такубоку. Мае рэчкі называліся Ятранка і Рудзіца. Яны сняцца мне ў цяжкія ночы. Іх чысціня і прахалода ратуюць і лекуюць мяне… Можа, я больш рыбіна, чым жывёла? Не, я — жывёла, падобная да сабакі.

* * *

Пасля сняданку (манная каша, чорны хлеб, яйка, масла, гарбата з цукрам. Солі няма) выйшаў у бальнічны двор…

Сонца на гары
рассыпала манеты
жоўтых дзьмухаўцоў…

Шчодрасць гэткая адно для тых, хто бачыць, не для сляпога дзьмухаўцы закрасавалі. А я бачу кветкі, бачу і тым суцяшаюся.

* * *

На вуліцы, каля бальніцы, сустрэў Алену. Некалі, гадоў дзесяць назад, я адведваў Алену ў сваёй (цяперака — сваёй!) бальніцы, бо ляжала яна ў адной палаце з братавай Таццянай. Які цесны свет! Можна лічыць, што Алена мяне праведала. Дарэчы, ўчора яна была ў брата майго Міраслава ў гасцях. Такія выпадковасці і супадзенні чамусьці мяне радуюць. Проста радуюць, і ўсё.

* * *

Люблю чытаць тонкія кнігі, а жаданне напісаць вялікі важкі том не знікае. Няправільнае памкненне. Адзінае апраўданне: усе мае шматаркушныя кнігі састаўлены з тонкіх брашурак.

* * *

На вуліцы вецер, і я ішоў на працу з прымружанымі вачыма, амаль як сляпы. Дайшоў і ўзнагародзіў сябе шакаладнай цукеркай і кубачкам кавы. Пасядзеў за працоўным сталом, не ўключаючы камп’ютар, пагартаў татаву кнігу «Міг бліскавіцы». Якая сляпучая назва ў гэтай кніжачкі! Раней і не заўважаў. Прачытаў адзначаны абзац пра боты нябожчыка: «Я ведаю, што з магіл устаюць, як уставаў той салдат, якога пахавалі пад крыжам і ў якога стары Макавей зняў боты. Салдат кожную ноч прыходзіў да Макавея, стукаў у акно, прасіў, каб вярнулі яму боты, пакуль стары не занёс іх і не закапаў зноў. Я ведаю, што з магіл устаюць заўсёды, каб сказаць людзям праўду і навучыць іх. І гэта страшна, калі гавораць нябожчыкі». Прагаварыў некалькі хвілін з братам і вярнуўся ў бальнічную палату, дзе густая маркота зноўку накрыла мяне тоўстай коўдраю, накрыла з галавою.

* * *

Ціхая гадзіна. Лежачы, вершы чытаў. Заснуў на якую хвіліну. Прыбачыўся цень Шклянога малатка. Прахапіўся. Папіў вады. Падумалася: хвароба знайшла мяне з самага дзяцінства, знайшла, пасялілася невыводным вірусам ува мне і не выйдзе з мяне да скону. Крыўдна, што хваробе дапамаглі людзі, дапамаглі дактары, якія з добрымі намерамі рабілі прывіўку воспы.

* * *

Болей і болей задумваюся пра жанчын: жонку, каханак і натуршчыц. Мусіць, за тыдзень цела маё адпачыла, каб жа ж яшчэ і вочы мае вярнуліся ў добры стан. Ледзь не напісаў, што трэба маліцца, але гэтым разам я вышэйшыя сілы не моцна турбаваў сваімі зваротамі. Мае спадзевы кладуцца на людзей зямных і простых.

* * *

За жалюзямі сонечны дзень, а я ляжу ў палаце, дзе ўсе спяць, і пераказваю начны верш Басё:

Так лёгка выплыў
і задумаўся месяц
у аблачыне…

У мяне на правым воку якраз воблачнае памутненне, пра якое я задумваюся ўсё часцей і часцей. Доктаркі абяцалі паглядзець больш уважліва маё правае вока, калі загоіцца левае, але яно гоіцца марудна.

* * *

Раней, калі Сяргей распавядаў мне пра тое, як драматычна выглядае наш аслеплы цалкам Вітушка, я не мог спасцігнуць усю глыбіню драмы чалавека, які не бачыць свет. Цяперака я ўшчыльную наблізіўся да такой бяды. Маці казала, што ў два гады ў мяне была святлобаязлівасць, і яна вадзіла мяне па вуліцы з завязанымі вачыма. Той час памятаецца слаба. Зашторaныя вокны і пякуча-белая шчыліна паміж шторамі… Бязлітасная настольная лямпа ў чорным пакоі… Рухомыя ломкія складкі на белых халатах… Белыя каўпакі… Слёзы ў вачах пякучыя, нібыта вогненныя… Яшчэ памятаю жывёльнае трапятанне, якое біла мяне ўсяго. Я плакаў, крычаў. Цяпер я ціха пераношу і млосць, і боль, і згасанне навакольнага святла. Сонца ўсходзіць, і сонца заходзіць…

* * *

Сягоння ўвечары не трэба закладаць мазь пад ніжняе павека. Заўтра доктарка Вера праверыць мой зрок! Можа быць… Плюю праз левае плячо, тры разы.

* * *

Дачытаў усе пераклады з Басё, зробленыя Верай Маркавай, нібыта пражыў два чужыя жыцці да самага канца. Лёгкі сум.

## Дзень сёмы
## (Панядзелак 27.04.2009)

* * *

Учора ўвечары ўнук Вова прынёс вялікі нарцыс. Паўгадзіны кветка ляжала на маім сшытку з запісамі, а потым я падарыў пяшчотна-жоўты нарцыс медсястры. «Адзіны прыемны момант за ўвесь дзень!» — узрадавалася сястра Святлана.

* * *

Аднапалатнік мой Суля Хасеневіч — менскі татарын. У войску ён з Сулі стаў Аляксандрам. Нарадзіўся ён у тысяча дзевяцьсот трыццаць сёмым годзе. Жыў на Нямізе каля гастранома. «Аптэка нумар тры, напроці гастранома…» — пісаў мой бацька пра тую вуліцу. Суля скончыў чатыры класы і ўсё жыццё прапрацаваў маляром. Што мяне ўразіла… Суля сказаў: «Я ніколі ў жыцці не прачытаў ніводнай кніжнай старонкі. Ніводнай! У газетах толькі карцінкі гляджу, а чытаць не чытаю…» Для каго я пішу? Для каго выдаю кнігі? Можна ж і без іх жыццё пражыць. Неабавязковыя яны, не такія і важныя, як мне падавалася.

* * *

Зялёны дым бяроз… Нехта ўжо пісаў пра яго да мяне. Пісалі, і не аднойчы… У двары стаяць тры высокія бярозы. Пупышкі толькі-толькі параскрываліся. Вакол бела-чорных камлёў воблакі дыму. Зялёны дым бяроз…

* * *

Дактары мяне агледзелі і пакінулі яшчэ на два дні ў бальніцы. А я ж так спадзяваўся выйсці сягоння на волю. Не! Хвароба ў воку ёсць. Застаюся.

* * *

Настрою няма. Галава разбалелася. Свет пацямнеў. Кепскія прадчуванні запаўняюць душу.

* * *

У мяне дзве шакаладкі. Спадзяваўся паехаць з імі дадому. Давядзецца з'есці ў палаце. Маленькая радасць. Крыху падсаладжу горыч, што стаіць у роце ад лекаў.

* * *

Дактары пачалі даследаваць маё правае вока. Дыягназы несуцяшальныя. Яны і не маглі быць іншымі. Дактары вырашылі правае вока не чапаць. Будзе далечвацца левае. А правае? Можа, калі пазней, а можа, і ніколі.

* * *

Выпісалі майго аднапалатніка — Валеру. Яму паставілі штучны крышталік ужо ў другое вока. Аперацыя прайшла добра. Ён адляжаў тыдзень, падарыў доктарцы кветкі, і мы развіталіся ў бальнічным двары… Валера працаваў у судзе. Шмат распавядаў пра жыццё-быццё вышэйшых эшалонаў улады, але гэтыя расповеды ўражвалі меней, чым апавяданне пра старэйшага сына-небараку. Сын п’е. Ні дзяцей у яго, ні жонкі, адны сабутэльнікі навокал. А быў здольным юрыстам, былі жанчыны. Гарэлка ўсё з’ела, усё зруйнавала. У кватэры адключылі святло і газ, бо пакінуў уключаную пліту і сышоў. Скразняк задзьмуў фаерку. У пад’ездзе пачало смярдзець газам. Міліцыянты выклікалі бацьку. Валера ўзламаў дзверы. Кватэру і пад’езд праветрылі. А сын? Сын сказаў, што паліў газ, бо не было запалак. Эканомія на запалках скончылася адключэннем газа. Валера перажываў, распавядаючы пра сына-небараку ў начной бальнічнай цішыні, і мне было горка слухаць, горка да слёз у хворых вачах. Сягоння Валеру выпісалі, на яго месца паселіцца новы пацыент з катарактаю. Якое пачварнае слова «катаракта»!

* * *

Мой дрэвавідны кератыт — нейкая там варыяцыя герпеса. Медсястра Света суцешыла: «Клеткі герпеса паядаюць ракавыя клеткі, так што ў бліжэйшы час рак цябе не з’есць!» Суцяшэнне, мо і слабое, але ж для мяне, чыя баба Ядзя памерла праз рак, суцяшэнне моцнае. Хай мяне есць герпес…

* * *

Пайшоў на выпіску мой аднапалатнік Сяргей, сціплы чалавек, з якім было спакойна. Ён кінуў паліць на Вялікдзень, казаў, што вырашыў ад нечага істотнага адмовіцца і адмовіўся ад цыгарэт. Мне дык не вельмі верыцца, што яму зусім не хочацца курыць. А калі яно так, дык чалавеку моцна пашанцавала, бо курцы зазвычай кашляюць, а кашляць пасля аперацыі па перасадцы крышталіка — небяспечна.

* * *

Пасля поснага абеду мае аднапалатнікі дастаюць з лядоўні пакеты з прынесенымі сваякамі пачастункамі. Яны ядуць, а я, лежачы, складаю танку:

Зрабіў я воплеск
адной даланёю і
чакаю рэха…
У бальнічнай палаце
пахне апельсінамі…

* * *

Гарачыя вочы! Цяпер гэта можна сказаць і пра мяне.

* * *

На ўвесь калідор крычыць у тэлефонную слухаўку новая пацыентка. Мяне яе цёплыя і шчырыя словы зусім не раздражняюць. Медсястра на яе насварылася: «Што Вы крычыце?! Немагчыма працаваць!!!» Пацыентка апраўдваецца: «Кепска чуваць…» Яна і не бачыць, і недачувае. Яе шкада.

* * *

Чаму мая вёска Варакомшчына такая блізкая да мяне? Чаго гэта яна стала зусім побач? Раптам заходзіць у палату старая жанчына і пытаецца: «Ты Адамчык? Ты Валодзя?» Тыдзень я з гэтаю жанчынаю снедаў, абедаў і вячэраў. Мне падалося, што я некалі бачыў яе… Калі? Дзе? Не згадаў. І яна не згадала б, каб не дзеці яе, што пазналі мяне. Цётка гэтая з нашай вёскі. Яе бацька і мой дзед Валодзя — родныя браты. Мне сорамна, але я не памятаю, як яе зваць. Прозвішча ў яе Пульша. Пульша і Пульша, а імя не памятаю. Усіх яе братоў помню добра: старэйшы — Сандзя, сярэдні — Ціма, малодшы — Міця. Яна абняла мяне і пацалавала. Спыталася, чаму я не прыехаў на пахаванне дзядзькі свайго — Савы. Каб схаваць маю няёмкасць, яна сама сказала пра маю занятасць. А я сказаў, што днямі атрымаў ліст з Амерыкі ад дачкі дзядзькі Савы — Вольгі. У іх там усё добра. Цётку выпісалі. Яна зайшла да мяне, каб павітацца і развітацца. Як жа яе звалі? Як жа яе завуць? Чаму я не спытаў пра Сандзю, Ціму, Міцю? Не спытаў, бо не хацеў пачуць, што некага з іх ужо няма.

* * *

Такі-вось, такі — аўтар успамінаў пра паэта. У каментарах да паэтычных зборнікаў такое сустракаецца шматкроць. Цікава. У якіх зборніках так згадаюць мяне? Каго згадаюць у маім зборніку?

* * *

У палаце ёсць невялічкі стол, я за ім пішу. Якая раскоша — мець свой маленькі стол у бальніцы. На ім ляжаць мае кнігі, сшыткі, акуляры… Учора яго ўпрыгожваў прынесены жонкаю вялікі нарцыс…

* * *

Выступаў і выступацьму за поўную забарону смяротнага пакарання ў Беларусі, і разам з тым не магу не пераказаць радкі невядомага аўтара з Японіі:

Перад смяротным пакараннем

Даслухаю я
у свеце мёртвых да канца
песню зязюлі…

* * *

Калолі мне ў правы клуб, а сягоння я папрасіў зрабіць укол у левы. Паўдня ўся дупа баліць.

* * *

Кожную раніцу ў сметніцы каля бальнічнага корпуса, дзе я ляжу, з’яўляецца пустая пляшка з-пад гарэлкі. Нехта ўсё ж самалекуецца.

* * *

Па некалькі разоў на дзень выходжу пакурыць у скверык, дзе ва ўсіх дрэў паабразалі галіны. Пра такі ці пра падобны сквер напісаў Оніцура:

Незвычайны той,
каго кліча да сябе
дрэва без кветак…

* * *

Сябрук Сцяпан прынёс плітку горкага шакаладу, а я люблю салодкі.

* * *

Павячэраў маннай кашай і тварагом, запіў гарбатай. Горача зрабілася і млосна ад задухі ва ўсім целе. Хутчэй бы дамоў.

* * *

Заўтра з самай раніцы з’ем гронку вінаграду. Такімі нікчэмнымі думкамі запоўнена галава.

* * *

Ва ўсіх дзіцячых лагерах, у дамах адпачынку і дамах творчасці, у гатэлях, дзе даводзілася жыць, я затрымліваўся даўжэй за астатніх. Так і ў бальніцы. Заўтра свята — дзень памерлых Радаўніца. Дактароў не будзе. Палаты стаяць паўпустыя. У калідорах ціха. А я застаўся тут.

* * *

Чаму я не веру ў рэкламныя слоганы? Шаўковы шакалад! Якое глупства. Анучы не ядуць. Кожны дзень — твой лепшы дзень! У мяне цёмная паласа. Апошні тыдзень далёка не лепшы ў маім жыцці. Ён мой, я не адмаўляюся ад яго. Я даўно перастаў задумвацца пра вымратавальныя дзверы самагубства. Але ж мне баляць вочы… А найлепшы дзень? Мне падабалася гуляць каля мора і любавацца бананавымі дрэвамі. Былі ў мяне дні пад бананавымі дрэвамі…

Гайдаецца, гай-
даецца на банана-
вым лісце жабка…

Пра мой лепшы дзень так склаў хоку Кікаку. Яму веру.

## Дзень восьмы
## (Радаўніца. Аўторак 28.04.2009)

* * *

Жонка з’ездзіла да сваіх бацькоў. Яна іх адведвае ледзь не штодня. Старэнькія яны зусім. Цешча — Яўгенія Уладзіміраўна — амаль зусім не ўстае. Жонка яе падымае, корміць, мые… Сёння распавяла, што ў цешчыным кулачку, зусім сухенькім сціснутым кулачку, яна знайшла смецце: чаінкі, пёрка, кавалачак паперы… Яўгенія Уладзіміраўна заўжды любіла чысціню, з раніцы да вечара мыла і прыбірала сваю невялічкую кватэру. Цяпер паспрабавала прыбірацца ды так і заснула знясіленая з чаінкамі ў кулачку. Як толькі выйду з бальніцы, абавязкова адведаю жончыных бацькоў…

* * *

На маніторы разглядалі пашкоджанні на маім правым воку некалькі доктарак. Раптам адна кажа: «А я ведаю гэтага пацыента! Ён з жонкаю сюды заходзіў!» — «Трэба пацыента запамінаць па воку, а не па жонцы…» — з’язвіла другая доктарка. «Дык жонка моцна перажывала. Нават заплакала, пачуўшы пра гаспіталізацыю. Калі жонка так перажывае, значыць муж харошы!» Доктаркі пачалі смяяцца. А мне было сумна з-за свайго безнадзейнага правага вока…

* * *

Цішыня ў бальнічным двары, нават каля радзільнага дома ніводнага наведніка няма.

* * *

Учора ўвечары не вытрымаў і ўцёк на паўгадзінкі дамоў. Памыўся. Похапкам апрануўся ў чыстае і паехаў назад, у бальніцу. Спяшаўся, каб толькі не спазніцца на апошнюю працэдуру. Прыехаў…

Чысты маладзік
у стэрыльнай сінечы
над лякарняю…

Мяне чакаў…
Салкасілінавую мазь мне паклалі на вока своечасова.

* * *

Спаў кепска. Сніліся паэты-нябожчыкі з томікамі сваіх вершаў. Сніліся журналісты з тэлекамерамі і вайскоўцы, якія палявалі на мяне. Прахопліваўся. Ляжаў нерухома без сну. Засынаў. Прахопліваўся…

* * *

Наступны дзень будзе нічым не лепшы за папярэдні, але ж хацелася б і на яго паглядзець.

* * *

Ёсць у мяне даўні таварыш — Валодзя. Ён усё рабіў хутка, так хутка, што паперарабіў усю сваю работу. А жыццё яго працягваецца і працягваецца. Ён шукае сабе новай работы, а яе няма. Часам і я спяшаюся паперарабіць усё чыста, а потым згадаю працаўніка Валодзю і прыпыняюся, і запавольваю рытм жыцця, і адкладаю частку працы на потым.

* * *

Не хацеў бы я пісаць падобныя хайку, не хацеў бы і запісваць, а складаю і натую:

Халодны вецер…
Такая праца — крэмам
рукі змазваю…

* * *

Ёсць вершы, да якіх вяртаешся неаднойчы. Такая хайку Басё:

Састарэлы стаў…
Скокнула жабка — усплёск
вады ў цішыні…

Пераказваеш яго і забываешся на свой пераказ. Потым зноўку бачыш манаха, які набліжаецца да зарослага раскаю става, спалоханая крокамі жабка скача, і чуеш ты воплеск адной далоні. Рэхам ён адгукаецца ў табе. Шукаюцца і знаходзяцца самыя свае словы, каб прамаляваць-адрэстаўраваць пацямнелае палатно…

* * *

Сяргей параіў мне вывучыць сваю хваробу лепей за дактароў, параіў пракансультавацца ў розных спецыялістаў і параўнаць дыягназы. Усё правільна, але пра гэта я падумаю пазней, калі выйду з бальніцы і тыдзень-другі адпачну ад працэдураў.

* * *

Аляксей парадаваў навіною: часопіс «Маналог» ужо аддадзены на карэктуру. У ім мае словы пра выкладчыка Хадыку. Невялікая публікацыя, але для мяне яна важная, бо не так і шмат людзей я бачыў за сваё жыццё такіх, як Хадыка з ягонымі вучнямі. Бадай, Хадыка адзіны ў Беларусі здолеў стварыць школу высокага мастацтва. І хай яго намаганні зараз не ацэненыя і пра іх мала хто ведае, але для мяне — ягонага непаслядоўнага вучня — публікацыя партрэта настаўніка — падзея.

**Дзень дзевяты**
**(Серада 29.04.2009)**

* * *

Чакаю выпіскі. Чакаю сустрэчы з урачом, якая скажа, што ў мяне палепшыліся справы і можна збірацца дамоў. Маё чаканне не менш хвалюючае, чым чаканне новага аднапалатніка — Уладзіміра з ягоным перадаперацыйным хваляваннем. Свая болька бальнейшая. Чакаю… Аднапалатнік — татарын Суля — ходзіць і ходзіць па палаце ўзад-уперад. Суля, як і я, чакае выпіскі. Ён, як і я, праварочаўся ўсю ноч. Час ідзе марудна-марудна, здаецца — ён зараз зусім спыніцца. Уцякаючы ад занудлівасці, выйшаў у бальнічны двор і падышоў да брамы…

Смуга… Людзі ў ма-
шынах — людзі-машыны
едуць на працу…

* * *

Пішучы свой бальнічны дзённік, спісаў дзве аднаразовыя японскія ручкі «Муджы», зробленыя ў Тайландзе.

* * *

Заплюшчваю вочы, углядаюся ў іншасвет, шукаю там Шкляны малаток, не знаходжу, бачу вялікага кажана з празрыста-сінімі крыламі. Кажан спіць у палёце.

* * *

Чытаючы хайку Сікі з кнігі «Голыя дрэвы ў зімовых гарах», згадалася такое:

На коніка плот-
ку злавіць — забаўка і
з майго дзяцінства…

* * *

Усіх, каго выпісваюць, выклікалі на агляд, мяне пакінулі ў палаце. Мяне будуць аглядаць пазней і вызначацца — застаюся я тут ці не застаюся.

* * *

Агледзелі. Пакінулі ў бальніцы. На колькі дзён? Невядома. Чор… Не буду лаяцца. Буду ляжаць, буду лячыцца. У мяне усё не так драматычна, як у Сулі, якога адпусцілі. У яго адзіны сын ляжыць у бальніцы. Ён ляжыць там ужо дзесяць гадоў. Кожную нядзелю Суля ездзіць да сына, каб пакарміць. Выглядае на тое, што саракагадовы мужчына правядзе ў бальніцы ўсё сваё астатняе жыццё. Трапіў ён у лякарню пасля бойкі, у якой яму жалезнай

трубою праламалі чэрап. Суля спачатку спадзяваўся… Ён верыў, што злачынцаў знойдуць, а іх не знайшлі. Верыў, што сын ачомаецца. Ён нават забраў яго аднаго разу на выхадныя. Сын не захацеў вяртацца ў бальніцу, схапіўся за сякеру. Бацька выклікаў брыгаду санітараў. Хворага вярнулі ў бальніцу і болей не выпускаюць. Суля ездзіць да яго кожны тыдзень. І гэта не ўсе беды старога татарына. Жонка яму здраджвала, яна і на судзе падчас разводу не адмаўляла здраду. Яна прылюдна распавяла пра здраду, і Суля стаў вольны, як птушка ў палёце. Другая жонка знайшлася хутка. І пра сваю новую жонку Суля распавёў драматычную гісторыю. У яе быў сын — равеснік сына старога татарына. Разам з сябрукамі ён пайшоў на рэчку, каля Мінскага мора; хлопцы выпілі, закусілі, палезлі купацца, і жончын сын утапіўся. Яму было дваццаць восем. Цяпер Суля жыве з жонкаю, жыве ціха. Яму памянялі крышталік у правым воку і адпусцілі ў цёплы сонечны горад. «Не буду фарсіць! — сказаў мне на развітанне сямідзесяцідвухгадовы татарын Сулейман. — Не буду фарсіць, пайду з залепленым вокам праз горад!» Сказаў і сышоў.

* * *

Павярхоўны камізм і штукарства жартоўных куплетаў я не вельмі люблю, але ў занудлівым бальнічным часе з імі крыху весялей…

Не кажы, што ты
мяне прадасі ў рабства
сексуальнае
сёстрам-вівісектаркам
у белах сабаножках…

* * *

Дні пачалі склейвацца ў адзін блытаны-пераблытаны час, у якім здаю кроў, падстаўляю вока пад шпрыц і кроплі, ляжу на нясвежых прасцінах. А падушку сваю бальнічную я люблю!

* * *

У Сікі прачытаў пра дом у гарах. Згадалася:

Пачуў ад цёткі,
што спалілі бандыты
наш дом у гарах…

Напісаў гэты верш, закрэсліў і зноў запісаў. Дом маёй цёткі Рэгіны згарэў у гарах падчас апошняй вайны.

* * *

Бацька Рэгіны, айчым маёй маці — дзед Бранілаў пасадзіў у нашым койданаўскім садзе некалькі сліў. Больш за астатнія я любіў жоўтую, што сядзела каля хлява. У дзяцінстве лета доўгае, таму чакаў, не мог дачакацца, калі ж яна паспее — першая жоўтая сліўка. Дзед Бронік здымаў яе з самай высокай

галіны, абціраў хусткаю, разразаў сцізорыкам напалам, і мы частаваліся. Потым было як у хайку Масаока Сікі:

Ападкі слівы —
жоўтыя ёсць сярод іх,
і зялёных шмат…

* * *

Вестка пра мае карціны, што паедуць на выставу ў Літву, сягоння прагучала недарэчна. І ўсё ж… Абрадавала.

* * *

Хутка і я навучуся смяяцца разам з усімі з показак пра бальніцу…

Сын-чыноўнік паклаў на лета свайго старэнькага бацьку ў добрую бальніцу (цяпер у бальніцах стаяць на калідорах лядоўні агульнага карыстання). Сын даў бацьку сотавік. Праз пару дзён сын звоніць з пытаннем: «Тата, можа, Вам што прынесці?» — «Не трэба, сынок, тут на калідоры ў халадзільніку ўсё ёсць…»

* * *

Як добра, што ты
перастаў бачыць наш свет!
Цяпер назаўжды
застануся для цябе
прыгожай і маладой!

І так мяне падтрымліваюць…

* * *

Мяккай шэрай анучкай праціраю і праціраю акуляры, быццам бы ад гэтага можа палепшыцца зрок.

* * *

Вока зноўку пачырванела і баліць. Нават медсястра Света сказала, што не чакала такога рэцыдыву. Значыць, недарэмна мяне тут пакінулі. Правільна прафесарка сказала. Калі мяне адпусціць, праз тыдзень я тут зноўку апынуся ў зусім кепскім стане. Дальнабачнасць дактароў крыху абнадзейвае, нават калі яны бачаць у перспектыве кепствы.

* * *

З’ездзіў на паўгадзіны дамоў, памыўся, вярнуўся з добрым настроем.

* * *

Зноўку ўночы буду слухаць далёкія цягнікі і блізкае дыханне хворых мужчын.

## Дзень дзесяты
## (Чацвер 30.04.2009)

* * *

Заспаўся. Устаў не ў шэсць трыццаць, як тут трэба, а ў сем пятнаццаць.

* * *

Недзе ёсць такі
край… Ёсць край вечнай вясны…
Ты мяне туды
запрашаеш… І цябе
я туды запрашаю…

Склаў інтымны верш, набраў яго ў тэлефоне і не адправіў. Яшчэ адзін верш склаўся сам сабою:

Песню складаю
на старажытны матыў…
Толькі паслухай:
«Сто гадоў пражывеш ты,
я — дзевяноста дзевяць…»

* * *

Сярод хворых трапляюцца людзі, што патрабуць да сябе дадатковай увагі, і не таму, што хвароба ў іх больш цяжкая, а таму, што яны — нахабы… Адна старая патрабавала, каб яе вадзілі да тэлефоннага апарата, па пяць разоў за гадзіну. Другі стары вымагаў у медсястры другую падушку. Асуджаць гэтых старых не збіраюся, бо сваю бальнічную падушку люблю і тэлефон з галасамі таварышаў — мой найлепшы сябра.

* * *

Уночы глядзеў на светлыя вокны радзільнага дома і радаваўся.

* * *

Лёша, калі прыходзіў, скардзіўся на кепскія водгукі на сваю лірычную кнігу пра кітайскі Тыбет. Я яму спачуваў шчыра, але злавіў сябе на думцы, што зусім адвык ад палемічных размоў у Інтэрнэце. Калі сам не прымаеш удзел у спрэчках, дык і цікавасць да іх хутка выпарваецца.

* * *

З нейкай паслядоўнай настойлівасцю медсёстры скажаюць прозвішчы маіх аднапалатнікаў. Хасяневіча яны называлі Хасаневіч, мяне клікалі на ўкраінскі лад Адамчуком, а новага аднапалатніка Прыходчанку тры разы ўзапар назвалі Прыходзькам… Мо бальнічны свет настолькі іншы, што

ягонае паветра вымагае змены прозвішча? Пацыенты набываюць бальнічныя псеўданімы міжвольна.

* * *

Учора позна ўвечары на кніжнай старонцы напісаў такія словы:

Праз слёзы чытаў
старажытныя вершы
японскіх паэтаў…

Вочы ўсё баляць і слязяцца, а я ўсё напружваюся, чытаю і нешта запісваю.

* * *

Гадзіна дня. Ляжу на ложку, пазяхаю і думаю… З’есці кавалачак горкай шакаладкі ці не з’есці?

* * *

Завітаў Харэўскі, прынёс мне грушу, яблык і мандарынкі. Спытаўшыся ў яго дазволу, я адразу з’еў адзін мандарын. Еў мандарын і адчуваў сябе школьнікам, якога адведвае бацька ў летнім лагеры. З бальніц мяне заўжды забіраў бацька… Седзячы на бальнічным ложку і даядаючы крыху сухаватую грушу, я зноўку згадаў тату. У гэтым годзе я не быў на ягонай магіле. Выпішуся і з’езджу.

* * *

Схадзіў падчас прагулянкі ў букіністычную краму, балазе, недалёка. Нічога мяне не ўзрадавала, нічога не глянулася, бо не хацелася несці кнігі з крамы ў бальніцу.

* * *

Удзень было горача, нават спякотна, а пад вечар пачало халадаць, вецер стаў ледзяны. У горадзе даўно, дзён дзесяць, не было дажджу. Вецер пагнаў пыл. Зноў баюся за вочы. Пераказаў адпаведны настрою верш Басё:

Слова прамоўлю —
адразу губы астудзіць
восеньскі вецер…

Можна было сказаць «ледзяны», але я усё ж пакінуў «восеньскі».

* * *

Нервуюся з-за невядомасці, а можа, і з-за вядомасці таго, што ў бліжэйшыя дні мне давядзецца сядзець у бальніцы сярод чужых хворых

людзей. Мне сябе шкада, але дапамагчы я сабе не магу. Ад бездапаможнасці ўласнай мне на нейкія імгненні робіцца проста невыносна, свет згортваецца ў маленькую зласліва-чорную кропку, а выплюнуць з сябе гэтае насенне адчаю не магу.

## Дзень адзінаццаты
## (Пятніца 01.05.2009)

* * *

Прыснілася бойка. Біўся я з нейкімі невядомымі мне брытагаловымі хлопцамі. Біўся драўлянымі брускамі, светлымі і добра адпаліраванымі. Аднаго брытагаловага я моцна збіў цяжкім бруском. Дасталося і мне… Прачнуўся, а сон стаіць у памяці, нібыта рэальнасць, нават у руцэ адчуваю важкасць адпаліраванага бруска.

* * *

Крык на калідоры ў таксафон: «Суседа майго выпісалі. Ён узяў маю брытву і сышоў. Сваю брытву пакінуў, маю знёс! Во такое ў нас тут творыцца. Я застаўся без брытвы. Ну не буду ж я галіцца чужой брытваю. Так што прынясі мне новы станок. Заўтра прынясі. Адзін дзень я няголены пахаджу. А заўтра абавязкова прынясі. Не люблю я шчэць на барадзе. Буду чакаць…»

* * *

Холад і вецер. Абыходжу вакол бальніцы шпаркім крокам. Прыглядаюся… Ці няма на траве шэрані? Бо такое адчуванне, што на вуліцы мароз. Шэрані няма, але вецер ледзяністы і моцны. Баюся застудзіць хворае вока, таму вяртаюся ў свой корпус ледзь не подбегам. У палаце цёпла. Такая ў мяне ранішняя радасць — цёпла ў палаце.

* * *

Патэлефанаваў маці. Яна на лецішчы садзіць кветкі і гародніну. На лецішчы ёй лепей, чым у горадзе. Яна так заўжды кажа, што на вольным паветры ёй лягчэй дыхаецца. Я сказаў, што перачытваю татаву кніжку апавяданняў «Міг бліскавіцы». Мама пачала гаварыць, што і яна часам бярэцца чытаць бацькавы кнігі, але шмат прачытаць не можа, бо пачынае плакаць. Я, калі разгарнуў апавяданне «Бацька» і прачытаў: «Тут я пражыў тры гады — у нізенькай хатцы з сінімі аканіцамі, з гулкім дашчатым ганкам…» — ледзь стрымаў слёзы. Але маме я пра гэтую сваю сентыментальнасць казаць не стаў. Пагаварылі пра холад і пра тое, што трэба пратапіць дамок, бо мама не любіць прачынацца ў холадзе. Кожны раз на развітанне мама кажа, што любіць мяне. Дзеля гэтага я і тэлефаную, каб пачуць, што мяне любяць. Дзеля гэтага і ўсе тэлефануюць, шмат хто можа і не прызнавацца ў сваёй патрэбе простай любові, але ўсе мы набіраем тэлефонныя нумары выключна з адной мэтаю — пачуць, што цябе любяць.

* * *

Праз квартал ад трэцяй бальніцы, дзе я цяпер ляжу, ёсць іншая бальніца — лечкамісія. Некалі мяне, сямікласніка, туды завёў тата. У мяне былі падазрэнні на апендыцыт. Моцна балеў ніз жывата. Мяне паклалі ў новенькі, толькі пабудаваны, корпус, на высокі шосты паверх. Днямі я сядзеў на крэсле каля акна, глядзеў на вялікі горад і чакаў аперацыі. Набліжаўся Новы год. У двары суседняга дома дзеці паставілі і ўпрыгожылі цацкамі ёлку. Вакол ёлкі яны панастаўлялі снежных баб. Мне зусім не хацелася аперацыі, жывот больш не балеў, але думалася: дактары не паверацъ і ўсё адно разрэжуць мне жывот і вымуць апендыкс. Дактары мне і не паверылі, яны паверылі аналізам і адпусцілі мяне дамоў. На першым паверсе я, калі апранаўся, сустрэў цётку Валю Матукоўскую. Яна ляжала ў тым жа корпусе. Я любіў цётку Валю і сябраваў з яе малодшай дачкою Ларысай. Тата мяне забраў з лякарні, а цётка Валя там засталася. У лечкамісіі я бачыў цётку Валю апошні раз, таму не вельмі люблю гэтую ўстанову, хоць яна і лічыцца найлепшаю лякарняю ў Беларусі.

* * *

На клумбе распусціліся ружавата-ліловыя цюльпаны. Так зімна, што я думаў — кветкі пачакаюць цяпла, а яны разгарнулі пялёсткі. Сонечнасць іх абнадзеіла больш, чым мяне. Правальваюся і правальваюся ў грэх маркоты. Меланхолія ахоплівае на цэлыя гадзіны. Добра, мяне адведваюць блізкія людзі. Пры іх я трымаюся бадзёра і, як тыя цюльпаны на халодным ветры, падстаўляю твар высокаму сонцу.

* * *

Кожны дом, без выняткаў, наведае смерць… Спачатку прыйдуць хваробы, шмат розных хваробаў. Адна цяжэйшая за другую прыйдзе ў твой дом хвароба. Потым з’явіцца смерць, з’явіцца і яна — выратавальніца… Такія думкі апаноўваюць мяне на бальнічным ложку.

* * *

Бяру Шкляны малаток, лёгенька б’ю па паветры: вакол мяне пачынаецца шэсце тых, хто лекаваў і ратаваў свае слабыя вочы ў будынку, дзе я зараз ляжу. Тысячы паўсляпых людзей праходзяць чародамі паўз мяне. Яны брыдуць з ніадкуль у нікуды. Б’ю Шкляным малатком па ціхім і густым бальнічным паветры: хворыя цені прападаюць…

* * *

Схадзіў на працу, атрымаў грошы і аддаў іх жонцы. Грошы такая рэч, што нават з бальніцы давялося па іх схадзіць. Сабе купіў у шапіку новую цацачна-чырвоную запальнічку.

* * *

Крыху палепшыўся зрок. Стоячы ў доўгім калідоры, склаў хайку:

Вербы над вадой
Свіслачы, я вас бачу
з акна лякарні…

* * *

Хвароба мая ідзе хвалямі. Здаецца, ужо лепей, а потым горай. Свет яснее, а праз нейкі час зноўку затуманены, каламутны і развалены… Добры стан не фіксуецца, але ён моцна падтрымлівае мае спадзевы выйсці з бальніцы з папраўленым (знарок не кажу «добрым»!) зрокам.

* * *

Самай раніцай у пустым бальнічным двары толькі адзін верабей бадзёра скакаў з газона ды на газон.

* * *

Ціхая гадзіна. Усе спяць. Спаў бы і я, але на калідоры дурнаватая дзяўчынка гаворыць са старой бабаю. Дурнаватая дзяўчынка гаворыць віскліва і едка пасмейваецца. Я нават насварыўся на дурнаватую і старую. Не трэба было, але не стрымаўся і насварыўся, бо думаў, што старая будзе крыху разумнейшая за дурніцу. Абое рабое. Старая, пэўна, у маразме. Мо яна некалі і была адэкватнай, а дурнаватая так і пройдзе праз жыццё тоўстатварай дурніцаю, якую будуць шкадаваць, але любіць ніхто не будзе, ніколі.

* * *

Чаго мне апошнім часам не хапае, дык гэта ўпэўненасці ў сваім выздараўленні. Я пачаў мірыцца са слепатою, са старасцю, і нават са сваёй заўчаснай смерцю… Адкуль узялося захапленне згасаннем? Куды дзеліся вера і ўпэўненасць, якія вялі мяне праз жыццё? Неабходна ўслухоўвацца ў словы блізкіх і любімых мною людзей, якія шчыра вераць у маё хуткае выздараўленне і ў маю патрэбнасць сярод творцаў.

* * *

«Учора была Вальпургіева ноч!» — кажуць мне. «Учора, як і ўсе апошнія дзесяць дзён, мне ўвечары даюць мачагонную таблетку, і ўсе ночы ў мяне цяпер Вальпургіевы!» — адказваю.

* * *

Прачытаў, можа, у пяты раз татава апавяданне «Прыкрасць» пра казус у цягніку. Чалавек згубіў свой білет. Яго затрымалі кантралёры. Білет у рэшце рэшт знайшоўся, і людзям зрабілася прыкра з-за сваёй непатрэбнай пільнасці ды падазронасці. Выдатнае лірычнае апавяданне з добра выпісанымі дэталямі, і ўсё ж мяне не пакідала пачуццё, што ўсе людзі даўно сышлі з таго цягніка, сышлі з яго і кантралёры, а я ўсё еду і еду ў ім адзін сярод ценяў і хісткіх успамінаў.

## Дзень дванаццаты
## (Субота 02.05.2009)

* * *

Спаў на сваёй падушцы. Свая падушка ўсё ж саладзейшая за бальнічную. Сніўся мне Санкт-Пецярбург, эрмітажныя лабірынты, дзе я сустрэў мастачку Жану, з якой мы бегалі па пустых музейных залах. У нейкі момант мы згубіліся. Я выбег на бераг Нявы, недзе далёка-далёка за горадам. Над шырокай і спакойнай рэчкаю садзілася сонца. У яблыневым прырэчным садзе я сустрэў вартаўніка і спытаў, як вярнуцца ў Эрмітаж. Вярнуўся, знайшоў у зале з палотнамі Рубенса Жану, якая была ўжо зусім не Жанаю, а была венгеркаю Агі, якую я і сапраўды некалі любіў у Пецярбургу… Прачнуўся з думкаю, што Жана і сапраўды падобная да Агаты, і падабенства гэтае я заўважыў толькі ў сне на сваёй падушцы…

* * *

У бальніцы пасля доўгіх афармленняў чалавек, патрапіўшы нарэшце ў палату, не кладзецца на ложак, а сядае на крэсла і сядзіць. Ён сядзіць моўчкі, сядзіць, усё яшчэ не верачы ў тое, што ён тут надоўга. Гаварыць з такім новым аднапалатнікам бессэнсоўна. Ён павінен адсядзецца, звыкнуцца са сваім палонам. На сядзенне на крэсле можа сысці гадзіны са тры. Потым аднапалатнік будзе ляжаць цэлы дзень. На другі дзень пачне загаворваць, і толькі на трэці дзень ён нарэшце звыкнецца і змірыцца з абставінамі… Праўду кажучы, да канца з абставінамі ён так і не змірыцца і час ад часу будзе зноўку сядаць на крэсла і маўчаць. У такія хвіліны лепш з чалавекам не загаворваць.

* * *

У палаце маёй зусім старыя людзі. Ні разу ў маёй палаце не было нікога маладзейшага за мяне. Мае паводзіны робяцца ад гэтага нейкімі старэчымі, запаволенымі і безымпэтнымі, таму пры першай жа магчымасці ўцякаю на вуліцу, дзе гуляю ў двары.

* * *

Сумна глядзець на чалавека, які раніцаю разглядае ў люстэрку сваё змучанае хворае вока, налітае крывёю.

* * *

Мне сорамна ад таго, што сваёй хваробаю турбую шмат людзей.

* * *

Раніцай прахалодна-белыя пінжакі і нагавіцы медсёстраў, што заступілі на дзённы пост, радуюць вока. Асабліва радуюць сваёй крыху празрыстасцю, праз якую відаць цемнаватасць станікаў і майтак.

* * *

Нетаропка прагульваючыся ў бальнічным двары сярод галубоў, вераб'ёў і варон, заўважыў: варона ходзіць паважна, але крыху раскірэчана. А кульгавы голуб выклікаў у мяне спачуванне, бо цалкам адпавядаў сумнаватай абстаноўцы лякарні ў выходны дзень.

* * *

Сярод спакойных колераў, роўных сцен, ціхіх галасоў хворых і прыцішаных спакойных слоў медперсаналу міжволі хочацца хоць бы ўяўнага кірмашнага гармідару. Узгадваецца сакавітасць колераў на рынку ў Мсціславе, дзе я набываў мёд, воск і свежыя, толькі з грады, цвёрда-зялёныя агуркі… Некалі ў Менску недалёка ад кінатэатра «Беларусь» таксама быў рынак, нават у часы восеньскіх занудлівых дажджоў ён вабіў нас, школьнікаў, залацістабелымі семкамі з гарбуза. Мінскі Камароўскі рынак не такі паэтычны, як маленькія местачковыя рынкі. Ён увесь гіпермаркетычны, але і на ім я часам люблю прайсціся сярод радоў з сакавітай садавінаю і спыніцца каля падноса з гранатамі, поўнымі рубінаў. Каштоўнасць гранатавых зярнятак мяне проста заварожвае. Глядзець на разломаны гранат мне смачней, чым яго есці. Барселонскія і амстэрдамскія рынкі такія шыкоўныя, што я на іх ніколі нічога не купляў, адно выпіваў кубачак экспрэса ў прырыначным бары… Не буду больш пісаць пра кірмашнае свята смакаў і колераў, бо захочацца ўцячы з бальніцы. Зрэшты, учора я схадзіў на кірмаш на стадыёне «Дынама», сумнае відовішча. Там я толькі яшчэ адну запальнічку сабе набыў.

* * *

Рамантычнае жаданне наведала мяне… Пайсці і ўладкавацца вартаўніком на лодачную станцыю! Ды няма ў Мінску лодачных станцый сапраўдных. Тады, пайсці і запісацца ў вартаўнікі на могілках! Але ж я і так старшыня таварыства па ахове могілак і мемарыялаў «Кальварыя». Хацеў бы бегчы, ды няма куды.

* * *

Трэба прыдумаць сабе ўзнагароду за выздараўленне… Добрую раму на скончаную карціну? Новую натуршчыцу, падобную да Агі? Вялікае палатно для новай карціны? Складаны макет і аздабленне да кнігі ўласных хайку? Кніга не складзена, таму і макет замаўляць зарана… Зрэшты, усё пералічанае я магу зрабіць і не ў якаясці ўзнагароды, а проста ў звычайным працоўным парадку. Над узнагародаю трэба яшчэ падумаць. Час ёсць. І часу гэтага, выглядае на тое, не адзін дзень.

* * *

Можа, ад сваёй хваробы, а можа, ад чаго іншага, я захоплены ружовымі, чырвонымі, пурпуровымі ды сінімі колерамі. Гэтыя колеры па-сапраўднаму хвалююць мяне. Канешне, я магу згарманізаваць і розныя іншыя колеры, абапіраючыся на веды і вопыт змешвання фарбаў, але атрымаецца ў выніку нешта дызайнерскае і механістычнае, а не жывапіснае. Неспрактыкаванае вока можа і не ўбачыць розніцы. Але ж я ўсё яшчэ бачу яе, усё яшчэ бачу!

* * *

Сэй-Сёнагон лічыць, што да ліста з правінцыі мусіць дадавацца гасцінец, бо ў ім мала цікавых навін, у адрозненне ад пісьма са сталіцы. Пэўна, так яно і ёсць. Таму свае правінцыйныя дзённікі ў Інтэрнэце аўтары мусяць аздабляць фотаздымкамі, малюнкамі і відэасюжэтамі, карацей, яны мусяць дадаваць візуальныя гасцінцы да слоў. Можна дадаць і гукавы гасцінец, таксама не зашкодзіць. Толькі абцяжарваць дзённікі такімі гасцінцамі таксама не трэба. Што да аздобы сталічных дзённікаў, дык варта сказаць — правінцыя ў нас цяпер паўсюль, бо сталіцы даўно парассыпаліся на раёны і мікрараёны… Паколькі гэты свой дзённік я, зараз, не магу аздобіць малюнкамі і фотаздымкамі, я аздабляю яго вершамі і выказваннямі іншых паэтаў і літаратараў, чые тэксты адгукаюцца ўва мне і адпавядаюць маім настроям сягоння.

* * *

На клумбе, дзе я любаваўся адным чырвоным цюльпанам, цяпер красуе сорак шэсць кветак. Не распусціліся толькі чатыры.

* * *

У Менску здаўна ходзіць такое паданне… На апошнім сядзенні ў аўтобусе сядзела маладая жанчына ў чорных акулярах. Аўтобус нечакана і рэзка затармазіў, жанчына паваліліся ў праход, акуляры зляцелі з твару. Тут усе і ўбачылі, што жанчына мёртвая, вачэй у яе няма, а з пустых вачніц тырчыць акрываўленая вата… Пра мёртвую жанчыну ў аўтобусе мне нагадала жонка, убачыўшы, як з-пад маіх чорных акуляраў вытыркаецца вата.

* * *

Стоячы пасярод бальнічнага двара, я раптам востра адчуў адсутнасць паловы людзей, з якімі прайшло маё жыццё. Чамусьці змрочнае адчуванне прыйшло да мяне побач з радзільным домам, каля якога таўкліся апранутыя па-святочнаму людзі з кветкамі, рыхтуючыся да сустрэчы са сваім новым родным чалавекам.

* * *

Напэўна, я ўсё ж зрабіў адну стратэгічную памылку, прызначыўшы сабе за ўзор творчасць Ван Гога. Віхурнасць яго таленту настолькі моцна закруціла маю душу, што спыненне ў бальніцы — даволі лагічны фінал гэткага небяспечнага захаплення. Добра, што я вытоптваю двор простай гарадской бальніцы, а не лякарні для душэўна хворых. Варта ў самы бліжэйшы час на месца мастака, якога я вывучаю ў гэтым годзе, выбраць некага іншага замест Вінцэнта- Неўтаймаванага-Апантанага.

* * *

Дайшоў да працы. Пасядзеў за сталом. Пахадзіў каля кніжных стэлажоў. Кнігі пагартаў. Выйшаўшы з працы, сустрэў мастака Ілью. Ён сядзеў на лаўцы з бутэлькаю піва, пачкам цыгарэт і пакецікам сушанага кальмара.

Ілья паскардзіўся на тое, што ўчора напіўся са сваякамі, а сягоння цэлы дзень баліць галава. Ілья неяк хутка, проста на вачах, састарэў, змізарнеў і асунуўся. «Мы з жонкаю ніякіх планаў не строім. Пражылі дзень — і добра. Я намаляваў некалькі матацыклаў, прадаў па пяцьдзесят баксаў, на гэтыя грошы і жывём…» Мне трэба было вяртацца да мядсёстраў, і я пакінуў Ілью з півам і сушаным кальмарам у шапаткім пакеціку атрутна-жоўтага колеру.

## Дзень трынаццаты
## (Нядзеля 03.05.2009)

* * *

Колькі ляжу ў бальніцы, столькі стаіць сонечнае надвор’е. Нават лёгкія аблачыны — рэдкія госці на глянцавай сінечы. Парывісты вецер гоніць па вуліцах пыл. Каб я верыў не ў прыроду, а ў надпрыродныя сілы, я б склаў малітву пра дождж. А так — я проста чакаю жыццядайны дождж. Як казалі мае дзяды і бабы: «Бог дасць, і будзе дождж». Маім вачам пыл — горш за атруту. Вачам патрэбен дождж, шэрае надвор’е, спакойнае прыцішанае святло. Чакаю другі тыдзень дождж, як выратаванне, як перадых.

* * *

Вочы баляць так, нібыта ўвесь час іду супраць ветру.

* * *

Дванаццаць разоў я ў бальнічнай палаце запальваў святло, і дванаццаць разоў гасіў лямпы.

* * *

Старыя хворыя храпуць, і нідзе не дзецца.

* * *

Згадваючы мінулы вечар, пераказваю верш Сантокі:

Месяц узышоў —
Не стаў нікога чакаць…

* * *

Можна стаяць у чарзе на ўкол, можна ляжаць у палаце і ўсё адно стаяць у чарзе на ўкол, можна сядзець за сталом і ўсё адно быць у чарзе.

* * *

Ёсць сярод медсёстраў у мяне любіміца — Святлана. Яна мае пікантную заходнеславянскую прыгажосць светлай жанчыны. З ёю мне проста. Ёй я веру, калі Света выказвае перажыванне за маё вока. Здавалася б, для такога даверу няма аніякіх падстаў, бо ўсе медсёстры выказваюць такія спачуванні і зацікаўленасці,

але ж давер да чалавека — у сутнасці сваёй з'ява алагічная. Адным верыш, другім не верыш, нават калі яны кажуць табе неабвержную праўду. Каб працаваць лекарам ці медсястрой, трэба мець прыроду і склад характару, якія выклікаюць давер. У Святланы менавіта такая прырода. Таму зрэдчас я частую яе цукеркамі і яблыкамі. Ёй я нават падарыў сваю кнігу, і яна, як ні дзіўна, чытае маю «Лирику BY». Учора мой аднапалатнік папрасіў у Святланы настольную лямпу: «Я — сава! Не магу заснуць да дзвюх- трох гадзін ночы. Пад лямпаю я б ціхенька пачытаў і паразгадваў бы крыжаванкі са сканвордамі…» — «Гэта дзяжурная лямпа, яна павінна стаяць на калідоры і гарэць усю ноч. Можаце сесці і пад ёй пачытаць, — спакойна патлумачыла Света і, счакаўшы якую хвіліну, ціха дадала, — нашто вам, сляпым, настольная лямпа?..»

* * *

На маргінэзе паўпустой старонкі з класічнымі вершамі японскіх паэтаў люблю запісваць і свае думкі, а як думак бракуе, люблю пераказаць вялікага простымі словамі. Ну хоць бы гэты верш Сантокі:

Развіднела… Ак-
но адкрыў насустрач зя-
лёнай лістоце…

Так і ёсць. Штораніцы я адкрываю акно і выветрываю з палаты настаялы за ноч хворы дух. За акном ззяе у травеньскім жорсткім, як для мяне, сонцы свежая лістота бяроз.

* * *

Перад сняданкам з'явілася мара: зайсці ў майстэрню і ціха пасядзець. Жаданняў у мяне не шмат, таму і здзейсніў задуму. З майстэрні да лякарні мяне правёў Сцяпан, які парадаваўся майму бальнічнаму аповеду — пра сястру Святлану і настольную лямпу.

* * *

Лекуюся паэтычнымі настроямі:

Згадаў, як вішня
закрасавала на закі-
нутым хутары…

Лекуюся, і, здаецца, крыху дапамагае:

Голуб з галубкай
і цені іх грэюцца
на майскім сонцы…

Бачыў раніцаю, а запісаў толькі пад абед.

* * *

На бальнічным ложку ў першыя дні моцна шкадуеш пра зруйнаваныя ўшчэнт працоўныя планы. А праз пару дзён асцярожна, каб не спудзіць паляпшэнні ў здароўі, пачынаеш паціху пункт за пунктам пісаць новыя планы работы. Задумаў такое:

Светлую поўню
ў люстэрка злаўлю я, каб
лашчыць пяшчотна…

* * *

Кожнаму з аднапалатнікаў магу сказаць: «Паўночы ты слухаеш мой храп, бо паўночы я слухаў твой!» Магу сказаць, але не кажу, і ніхто мне яшчэ такога не сказаў, хоць і маглі б. Беларусы ўсё ж людзі тактоўныя.

* * *

Здараецца — складзецца хайку, і ты заснеш. Прачнуўшыся, можаш яе згадаць, а можаш і забыцца назаўжды. Гэты верш я згадаў выпадкова напрыканцы дня:

Свяціў у акно
месяц ясны — мне доўга
не даваў заснуць…

* * *

За сённяшні дзень павыгарала трава на скошаных газонах.

* * *

Заўтра даведаюся яшчэ нешта новае пра свой дрэвавідны кератыт. Цяпер я ведаю, што ён развіваецца хвалямі, і ў мяне ўжо ідзе другая хваля. Ці будзе хваля трэцяя? Ці не перакінецца мой кератыт дрэвавідны з левага вока на правае? Ці спынілі яго ўколы, кроплі і мазі? Заўтра з раніцы нешта даведаюся. А сёння хацелася б ноч паспаць на сваёй падушцы і ў цішыні.

* * *

Можа, у якасці ўзнагароды за выздараўленне зладзіць сабе падарожжа на машыне ў Койданава і Babakomшчыну праз Мір, Турэц, Карэлічы, Наваградак і Наваельню? Але ж там ужо не засталося людзей, якія любілі мяне… Што скажуць мне камяні і дрэвы? Ці пачую я іх голас? Ці іх галасы таксама змяніліся да непазнавальнасці? Неаптымістычныя атрымліваюцца вандроўкі. Буду яшчэ думаць пра ўзнагароду і Шкляны малаток.

* * *

Аднапалатніку Алегу стала кепска. У палаце пахне валакардзінам востра і церпка. Сястра сказала, што ён дарэмна не спаў у ціхую гадзіну, што хадзіў па сонцу і нахадзіў сабе прыступ. «Яго не было ў ціхую гадзіну?» — сувора спытала ў мяне сястра. «Нічога не буду казаць… Я і сам такі ж!» — «І не кажыце! Я сама ўсё ведаю!» Пах валакардзіну доўга не выветрываецца… Алегу зрабілася зусім блага, ён пачаў курчыцца і стагнаць. Прыйшоў высокі сіваваты ўрач, агледзеў хворага. І было вырашана перавезці яго ў другі корпус, каб там

зрабіць дадатковыя экспрэс-аналізы і агляд. У суседняй палаце мужчыны гучна гавораць пра перавагі лёгкай смерці над цяжкай. У нашай палаце ўсе маўчаць.

* * *

У люстэрка заглядаю са спадзевам, што калі там нешта і змянілася, дык да лепшага.

* * *

Ці перайшоў я рысу паміж жыццём і смерцю, паміж быццём і небыццём? Калі ў руцэ з’яўляецца Шкляны малаток, я блізкі да перакананння, што рысы той для мяне няма.

**Дзень апошні**
**(Панядзелак 04.05.2009)**

* * *

Ад мітусні і хваляванняў, што ўсчаліся вакол аднапалатніка з прыступам, я пайшоў спаць дамоў. Выспаўся, паеў аўсянай кашы, выпіў кавы і вярнуўся ў бальніцу. Алегу стала лепей. Ён так і сказаў медсястры: «Ужо крыху лепей…» Канешне, я чакаў, што на мяне насварацца за парушэнне рэжыму, але сястра змаўчала, і я ёй за гэта ўдзячны. У бальніцы цяжка ўсім. Цяжка хворым, цяжка дактарам і медсёстрам, цяжка санітарам… Бальніца — цяжкае месца.

* * *

На вуліцы зноўку сонечна, на гладкім небе ніводнай аблачынкі. Маё ўяўленне малюе на небе белыя аблокі, маё ўяўленне малюе дождж. Ён мне патрэбны, як слёзы на вачах.

* * *

З палатнага акна мне відаць малочна-блакітныя стадыённыя трыбуны. Стадыён пусты. Гледзячы на пусты стадыён, я адчуваю сваю непапраўную адзіноту. Маркотна. І ўсё адно я гляджу і гляджу на пустыя трыбуны.

* * *

Ішоў на медагляд з хваляваннем. А калі Вера вывучала маё хворае, усё яшчэ хворае, вока, сэрца маё сціснулася і спынілася. «Працэс запалення спыніўся. Як вы тут?» — «Стаміўся я тут, у вас…» — «Сягоння я вас, Уладзімір Вячаслававіч, адпушчу…» Здарылася! А я так і не прыдумаў узнагароды сабе, не прыдумаў я ўзнагароды і для Веры. Прыдумаю, абавязкова, прыдумаю для яе… А сабе я проста першы раз замовіў у бальнічным буфеце чорнай кавы. Паўкубачка недапітай кавы і зараз стаіць на століку, на якім пісаўся і дапісваецца гэты бальнічны дзённік. Дапішу, дап’ю каву, надзену чорныя акуляры і на волю…

***20.04—04.05.2009***



## Віктар ВАБІШЧЭВІЧ

### БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ

Цябе збівалі дзіды лёсу,
Лілася кроў, душа збалела.
Нягоды джалілі, як восы.
А ты быў смелы.

Бясконца вылі завірухі,
І свет ад роспачы хістаўся.
Усе былі ў палоне скрухі.
А ты трымаўся.

Усё ад цемрыва дзічэла,
Труціў жыцця абшары стронцый.
Святло ад болю анямела.
А ты быў сонцам.

І ўсё таму, што ў свеце гэтым
Ты жыць хацеў не ценем нейкім.
Хацеў ты быць патрэбным свету.
Быць чалавекам.

### ЖЫЦЦЁ Ў МЯНЕ АДНО

Жыццё адно — і крыж.
Як з гэтым не згадзіцца?
А лепей паглядзіш —
У ім без ліку жыццяў.

---

***Вабішчэвіч Віктар Васілевіч*** *нарадзіўся 9 ліпеня 1960 года ў вёсцы Рубель Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1982). Працаваў намеснікам дырэктара, дырэктарам Арлоўскай сярэдняй школы на Століншчыне. Цяпер выкладае гісторыю і грамадазнаўства ў сярэдняй школе № 1 Давыд-Гарадка.*

*Аўтар паэтычных кніг «Чорны боль» (2003), «Кахаю і люблю» (2006), «Уражанне» (2009).*

У ім шляхі сыноў
І лёсы мілых сёстраў,
Трывожны гуд званоў
І шчасця светлы востраў.

Жыццё маё нясе
Турботы, думкі маці.
У ім дарогі ўсе
І ўсё, што ёсць у хаце.

У ім і бацькаў лёс,
І жончыны трывогі,
І ціхі плач бяроз,
І родныя разлогі.

У ім адчай людзей,
Жывых перажыванні,
Агонь святых надзей
І блізкіх спадзяванні.

## АДВЕЧНАЯ ЖЫЦЦЁВАЯ РАКА

***Рытурнэлі***

* * *

Крэва…
Семя лёсу? Семя здрады?
Разраслося з Крэва дрэва.

Голас…
Слова цемры? Слова шчасця?
Меч над вокам, тонкі волас.

Космас…
Не прастора і не глыбы.
Гэта наш найлепшы роспіс.

* * *

Святло
Праз цемру, голад і праз боль
Цябе да шчасця прывяло.

Агонь
Спыніцца сэрцу не дае —
Працягвае пяшчотную далонь.

Рака
Нястомна нараджае новы дзень.
Спрадвечная і юная рака.

* * *

Рукі…
Вобраз і сімвал. Заўсёды — аблічча.
Мовы загадкавай гукі.

Вочы…
Праўды крыніцы ці сведкі падману.
Голас таемны, прарочы.

Сэрца…
Імкненне. Адданасць і шчырасць.
Род наш людскі не звядзецца.

* * *

Крыніцы —
Разумныя вочы дзівоснага краю.
Глядзець і глядзець нам у іх — не стаміцца.

Азёры —
Пачатак жыцця, неўміручая сіла,
Жывая калыска бясконцых прастораў.

Стагоддзі —
Адвечнага бегу і сведкі, і повязь —
Імгненне маленькае ў вечнай прыродзе.

* * *

Словы
Гнёзды звіваюць свае на нябёсах,
Потым прыходзяць нанова.

Песні —
Побач заўсёды з душой чалавека.
Песні прыносяць прадвесне.

Вершы —
Вечна жывуць, не знікаюць ніколі —
Шчасце і клопат найпершы.



**Лідзія АРАБЕЙ**

# ПОШУКІ ІСЦІНЫ

*Абразкі*

### Суседзі

Адну кабету з нашага дома, якая гаворыць толькі па-беларуску, суседзі абзываюць бэнээфаўкай.

Другую кабету, якая не ходзіць у царкву і не верыць у Бога, суседзі абзываюць камуністкаю.

Але і «бэнээфаўка», і «камуністка» разам з іншымі жыхаркамі дома сядзяць каля пад'езда на лавачцы і з вялікім імпэтам абгаворваюць іншых суседзяў.

### Жулікі

Жулік шукае жуліка. Паабяцаў жулік дзядзьку, што за вялікія грошы ўладзіць яго справу ў судзе. Дзядзька заплаціў, а жулік знік, так тую справу і не ўладзіўшы.

Другому дзядзьку жулік за вялікія грошы паабяцаў зрабіць дыплом інжынера: дзядзька заплаціў, а той знік, ніякага дыплома не выправіўшы...

Адным словам, хацеў хітрэц некага абжуліць, а абжулілі яго. Дык чаго ж ты скардзішся ды яшчэ праўду шукаеш?

### Выбар

У бальніцы, перад уваходам у лекавае аддзяленне, раскінула гандаль лаўка з абразамі, крыжыкамі і іншым рэлігійным начыннем. Мабыць, для тых, хто не вельмі верыць сучаснай медыцыне і больш спадзяецца на іншыя сілы.

### Карпюк

З хваляваннем чытала споведзь Аляксея Карпюка ў кнізе «Развітанне з ілюзіямі». Вось як піша Карпюк у гэтай кнізе пра сябе:

---

*__Арабей Лідзія Львоўна__ нарадзілася 27 чэрвеня 1925 года ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1951) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры і мастацтва Акадэміі навук Беларусі (1954). Кандыдат філалагічных навук.*

*Працавала ў рэдакцыях газеты «Чырвоная змена», часопісаў «Вожык» і «Полымя», у выдавецтве «Беларусь».*

*Аўтар шматлікіх зборнікаў прозы, у тым ліку дакументальных аповесцей пра Цётку «На струнах буры» (1967) і «Стану песняй» (1977).*

«Я — нецярпімы, самаўпэўнены, рэзкі, упарты, лёгкаранімы, нецярпімы, самалюбівы, прамалінейны, некамунікабельны, скрытны, схільны перабольшваць ды кідацца ў крайнасці. Цярпець не магу розных канонаў, рэжымаў, рэгламентаў і агульнапрынятых нормаў».

Не кожны адважыцца даць самому сабе такую характарыстыку.

Аляксей Карпюк сказаў нарэшце ў гэтай кнізе ўсё, што пякло яго на працягу жыцця, але чаго не мог сказаць раней — і пра вайну, і пра акупацыю, і пра калгасы, у якія заганялі сілаю, пра дэпартацыю ўяўных кулакоў і ўяўных ворагаў народа, пра дзяржаўны апарат, якім кіравала камуністычная партыя, маючы ў сваіх радах шмат крывадушных, несумленных членаў, расказаў сваю гісторыю — які паклёп быў узведзены на яго і як тыя самыя члены абаранялі паклёпнікаў.

## Дзеці

Часта дзеці выкрываюць заганныя рысы бацькоў. Калі тыя ўмелі хаваць іх за маскаю прыстойнасці, то дзеці гэтай маскаю не карысталіся, і рабілася бачна тое, што ўтойвалі бацькі. А мы потым дзівімся — як гэта ў такіх прыстойных бацькоў такія паскудныя дзеці?

## Даўгалецце

Дзіўлюся людзям, якія хочуць доўга жыць. Доўга жыць, значыць нажываць хваробы, бо дэталі нашага арганізма зношваюцца, а з хваробамі надыходзяць пакуты. Доўга жыць — ператварацца ў малпу, і знешне і мазгамі. Вядома, цікава — а што будзе там, далей? Але таго «далей» вы ўсё роўна не дачакаецеся, бо яно бясконцае. І калі вы хочаце пакараць сваіх ворагаў, то не жадайце ім смерці, жадайце доўгага жыцця.

## Страта

Прапала слова, простае, звычайнае слова, недзе зашчамілася ў звілінах і ніяк яго адтуль не выкалупаеш. І пакутуеш, хочучы яго ўспомніць. Пакутуеш і дзень, і два, і тры — яно не ўсплывае, здаецца, знікла назаўсёды.

І раптам, праз нейкія дні, без патугі і натугі яно з'яўляецца, быццам і не гублялася. І робіцца дзіўна — як гэта я не магла яго ўспомніць? І надыходзіць палёгка — слова знайшлося.

## Выпадак

Полючы грады, я вырываю нейкія калівы і выкідваю іх у вядро. А некаторыя калівы пакідаю, і потым даглядаю, паліваю. І думаю часам — як пашанцавала тым калівам, якія я пакінула, і як не пашанцавала тым, якія выдзерла і выкінула ў вядро. Пры іншых акалічнасцях яны б выраслі, далі семя, прадоўжылі б свой род.

Так бывае і з чалавекам: адзін гадуецца ў цяпле і доглядзе, а іншага жыццё выкіне на ўзбочыну, і ён гібее там да скanання.

Як жа шмат залежыць у нашым жыцці ад выпадку, і які бывае ён несправядлівы.

## Праклёны

Каб праклёны, якія людзі ў злосці пасылаюць адно аднаму, спраўджваліся, то большая частка чалавецтва зрабілася б калекамі, а астатнія людзі памерлі б.

## Тэорыі

Па тэорыі Дарвіна, праца зрабіла з малпы чалавека. А па маёй тэорыі, чалавек прыдумаў літаратуру, музыку, жывапіс, каб зноў не ператварыцца ў малпу.

## Хто альбо што?

Наша круглая зямля круціцца ў космасе, вакол яе лятае спадарожнік — месяц і ні разу не зваліўся і не ўпаў на зямлю. Марс, Венера, Уран ды іншыя планеты нашай галактыкі з веку ў век займаюць у космасе сваё месца. Хто альбо што іх там трымае? Хто альбо што трымае зоры, якія ўтвараюць Вялікую Мядзведзіцу? Калі ўсё гэта пачалося і калі ўсё скончыцца?

Вучоныя кажуць, што так было вечна, нішто ніколі не пачыналася і ніколі не скончыцца. Але чалавечаму розуму гэта немагчыма спасцігнуць, бо ён заўсёды бачыў пачатак з'явы і канец. Ці разгадае чалавецтва хоць некалі гэту загадку?

## Клопат

Ці магла яна некалі падумаць, якім будзе яе апошні клопат у старасці? А клопат гэты аказаўся такі — хто і як яе пахавае. Яна разумее, што нідзе не валяюцца нябожчыкі на вуліцах — усіх прыбірае зямля. І ўсё-такі, усё-такі... Грошай на пахаванне яна сабрала, але на ўсім белым свеце няма ў яе роднага, блізкага чалавека, якому магла б даручыць гэты клопат — сваё пахаванне, і каб гэты чалавек узяў такі клопат на сябе.

Яна пакуль усё робіць дома сама — і гатуе, і прыбірае, але пахаваць сама сябе яна не зможа. Вось такі клопат на старасці гадоў.

## Мараль

Не трэба здзяйсняць гераічных подзвігаў, трэба проста не рабіць паскудства.

## Вечныя вобразы

У кантэйнерах калупаюцца сівабародыя дзяды, а потым начуюць у каробках з-пад халадзільнікаў. Гэта сучасныя каралі ліры. Яны адпісалі свае кватэры дзецям, а тыя павыганялі іх на вуліцу.

## Хлусня

Пра Другую сусветную вайну напісана вельмі шмат, у тым ліку і хлусні. Калі з'явілася ГДР, у раманах, аповесцях забаранілі называць нямецкіх акупантаў немцамі, патрабавалі, каб пісалі «гітлераўцы» альбо «фашысты». Але народ ніколі іх так не называў, казалі — немцы.

## Крытыка

Калі А. Фадзееў надрукаваў аповесць «Маладая гвардыя», на яго накінулася крытыка, жорстка папракала, чаму не паказаў у аповесці ролі камуністычнай партыі, як яна кіравала маладагвардзейцамі. І Фадзееў правіў, перарабляў, псаваў аповесць.

Было ад чаго застрэліцца.

## Бацька

Пайшла мода — нараджаюць жанчыны дзяцей і не гавораць ім — хто іхні бацька. А можа, і самі не ведаюць?

## Няшчасная

Кабета знаходзіць асалоду ў тым, што ўзводзіць на людзей паклёпы, што робіць чалавеку зло. Няшчасная, няўжо ў яе няма іншых прычын для радасці?

## Наказ

Бабуля перад смерцю наказала нявестцы — у якую сукенку яе апрануць у труну, якую хустачку завязаць, якія туфлікі абуць, што пад галаву пакласці, які абразок даць у рукі.

Усё жыццё спадзявалася толькі на сябе і любіла, каб ва ўсім быў парадак.

## Навуковы трактат

Прырода не стварае нічога непатрэбнага, таго, што не мае практычнага прымянення. Прыгледзьцеся да наваколля — кожная травінка, кожная мурашачка маюць сваё прызначэнне і свой век, кожнаму дадзены час нарадзіцца, даць патомства і памерці.

Травы, мурашачкі служаць кормам адным істотам, другія істоты харчуюцца другімі звярамі і іх не зробіш траваеднымі.

Чалавек — такая ж істота, як усё жывое на зямлі, а розум дадзены яму, каб перадаваць свой жыццёвы вопыт іншым пакаленням, але ён часта карыстаецца розумам не па прызначэнні і не на карысць сабе, а на шкоду. Аднак і яму прырода адмерала час нарадзіцца, даць патомства і памерці.

Цяпер сур'ёзна, на навуковым узроўні, пачынаюць гаварыць пра чалавечую душу і яе неўміручасць. Але скажыце, навошта прыродзе неўміручая душа чалавека? Тая душа не можа размнажацца, даваць патомства. І што робіць яна, чым займаецца ў вечнасці? Толькі засмечвае паднябессе. Не, прырода не такая дурная, каб займацца глупствам, непатрэбшчынаю.

## Гібель багоў

Ленін абвясціў, што ніякага Бога, творцы сусвету, няма, што рэлігія — дурман для народа, і бальшавікі пачалі скідаць крыжы з цэркваў, а самі цэрквы ператварылі ў сховішчы бульбы ці буракоў.

Богам зрабілі Леніна, яго партрэты насілі на дэманстрацыях, як некалі харугвы ў час хросных ходаў.

Але прайшоў час, і ад гэтага бога пачалі адракацца. Сёння я чую палітолагаў, якія гавораць, што ў наш час Леніна назвалі б тэрарыстам і крымінальні-

кам, акрамя таго, ён здраднік, бо грошы на рэвалюцыю ўзяў у немцаў, з якімі Расія ў той час ваявала, а Германіі было выгадна, каб рускія забівалі рускіх, а не немцаў на фронце.

Яшчэ кажуць, што ў грамадзянскай вайне загінула дзесяць мільёнаў чалавек. І краіна, якую стварыў Ленін, аказалася горшай, чым была пры цары.

## Не выйшла

Леў Талстой, Герберт Уэлс, Максім Горкі сваёю творчасцю спрабавалі перарабіць свет, перарабіць чалавека, але ў канцы жыцця пераканаліся, што гэта ім не ўдалося, можа нават зразумелі, што гэта немагчыма.

Пасля Першай сусветнай вайны людзі, якія кіравалі светам, верылі, што гэта была вайна апошняя, чалавецтва, пражыўшы яе жахі, новай вайны не дапусціць. Была абвешчана «вайна вайне», створана Ліга нацый — каб ратаваць чалавецтва ад войнаў.

І тут нічога не выйшла, вельмі хутка грымнула Другая сусветная вайна, куды больш жорсткая за першую.

## Планы

Усю сусветную класіку, пачынаючы з Гамера, трэба перапісаць так, каб яе мог прачытаць і зразумець нават малапісьменны чалавек. Прачытаўшы ўсю класіку, чалавецтва паразумнее, зменіцца, і на зямлі запануюць парадак і гармонія. Такія планы складаў Максім Горкі і нават пачаў збіраць пісьменнікаў, якія перарабілі б класіку для малапісьменных людзей.

А Леў Талстой перад смерцю жаліўся — столькі тоўстых кніжак напісаў, а чалавецтва не палепшала.

## Грахі

Мы грашым у маладосці, калі ў нас гарачая кроў, калі нас некуды кліча лёс, калі эмоцыі пераважаюць над розумам.

У старасці мы не грашым, у старасці мы грахі замольваем.

## Мачаха

Яна сышлася з чалавекам, у якога было двое дзяцей. І ў яе было двое дзяцей.

Новую адзежку яна купляла спачатку ягоным дзецям. Калі дзеці сварыліся, абараняла ягоных дзяцей, казала:

— Я павінна глядзець ягоных дзяцей лепш, чым сваіх, каб людзі не сказалі: во мачаха...

## Парадокс

Вайна — самая страшная бяда чалавецтва, страшнейшая за чуму, халеру, рак, што ідуць поруч з чалавецтвам ад пачатку яго існавання.

І разам з тым найвялікшыя творы мастацтва — літаратуры, жывапісу, музыкі жывяцца вайною, яе трагедыямі, яе сюжэтамі, вобразамі яе герояў і здраднікаў. Выкіньце з мастацтва сусветна вядомыя творы пра вайну, і духоўная скарбонка чалавецтва апусцее, агалее.

## Эпохі

Бывае ў чалавецтва эпоха рэнесансу, калі разам з’яўляецца шмат геніяльных пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, вучоных, і цывілізацыя робіць у тую эпоху вялізны крок наперад.

А бывае эпоха рэакцыі, калі напаверх выплываюць цёмныя сілы, нішчаць здабытае чалавецтвам.

У такую эпоху цывілізацыя робіць вялікі крок назад.

На мой погляд, сёння мы перажываем эпоху цемрашальства, калі трацяць сваю сілу кнігі, сапраўднае мастацтва, а на экран тэлевізара выцягваецца экстрасэнс Кашпіроўскі.

## Дазвол

Не ведаю, ці правяраюць цяпер якія-небудзь органы людзей, што едуць за мяжу. Думаю, не правяраюць. А пры савецкай уладзе быў строгі кантроль над тымі, хто перасякае мяжу самай справядлівай дзяржавы і кіруецца ў жахлівы свет капіталізму. І ў каго знаходзяць хоць якую зачэпку — не пускаюць.

1980 год. Мы, група турыстаў, што збіраецца выязджаць у Канаду і ЗША, стаім са сваімі чамаданчыкамі каля будынка міністэрства замежных спраў у Маскве. Чакаем: ад нашага кіраўніка даведаліся, што аднаму з нас міністэрства не дае дазволу на выезд. Нас чалавек дзесяць. Каму? Усе хвалююцца. Хвалююся і я, хоць перад гэтым пабывала ўжо ў Кітаі, Японіі, удзельнічала ў круізе вакол Еўропы і кожны раз праходзіла праверку і гутарку ў райкаме партыі, дзе вучылі, як паводзіць сябе за мяжою, каб не зганьбіць вобраз савецкага чалавека, і ўсё такі... А раптам? Можа, дзе-небудзь што-небудзь ляпнула? Ёсць нават раман — не памятаю аўтара, які называецца «Язык мой — вораг мой».

Чакаем доўга. Нарэшце высвятляецца — дазвол не даюць журналісту, які збіраўся ехаць з намі (няйнакш нешта не тое напісаў). Нам усім дазволена.

І мы паехалі. Праўдзівей, паляцелі. Самалётам, рэйсам Масква — Манрэаль.

## Жыццё

Памерла адзінокая жанчына, і калі людзі прыйшлі яе хаваць, убачылі, што ў пакоі, у скрыні сядзіць дзіця — дзяўчынка гадоў пяці. Матка хавала яе ад людзей, совала ў скрыню нейкую яду, і дзяўчынка там жыла, расла. Мусібыць, калі яна пачала нешта разумець, то падумала — вось гэта, у скрыні, і ёсць жыццё.

Малую выцягнулі з той скрыні, завезлі ў дзіцячы садок. Але дзяўчынка баялася дзяцей, не ведала, як жыць у гэтым, незнаёмым для яе, свеце.

Яна зноў хацела ў скрыню.

## «Панскі» занятак

Калі я, дзяўчынкаю, сядзела і чытала, айчым вырываў у мяне з рук кнігу і кідаў на падлогу. Яго раздражняў такі мой «панскі» занятак, я павінна была рабіць нейкую работу.

## Плёткі

Чаму людзі так любяць паўтараць плёткі? Хоць і ведаюць, што гэта плётка — усё роўна паўтараюць! Мусібыць, думаюць, што, збэсціўшы іншага чалавека, узвышаюцца самі?

## Людзі здрабнелі

Раней аддавалі жыццё за ідэю, за гонар, за жанчыну.

Цяпер забіваюць за грошы, за кватэру, за цёплае месца пад сонцам.

## Дыялог з доктаркаю

Прыйшла да доктаркі, каб выпісала рэцэпт. Тая слухала, стукала, мацала, круціла туды-сюды. Я не вытрывала, сказала:

— Ах, Вольга Вячаславаўна, мусібыць, недзе там, наверсе, ёсць графік, і надыдзе наш час па тым графіку — нішто нас не ўратуе.

— А што вы думаеце? — уздыхнула доктарка, — чалавек жыве, пакуль ёсць жыццёвыя рэсурсы, рэсурсы скончацца, то і праўда ніхто не дапаможа, не ўратуе.

— То, можа, не варта і хадзіць да вас, да дактароў?

Доктарка зноў уздыхнула.

— А што вы думаеце? Можа і не варта... Бо, шчыра кажучы, мы самі нічога не ведаем і можам часам больш нашкодзіць, чым памагчы.

— Але ж кажуць, што наша медыцына цяпер — ого-го!

— Ого-го, — уздыхнула доктарка.

Я вяла сваю тэму далей:

— Але, мабыць, той, хто графікі складае, асоба несправядлівая. Блытае старых і маладых, геніяў і прыдуркаў, людзей добрых і паскудных.

— Блытае, — пагадзілася доктарка, — не на тое месца ў графіку ставіць.

## Больш не канкурэнт

Памёр артыст, і былыя калегі пачынаюць яго хваліць, залічваць ледзь не ў геніяльныя, хоць пры жыцці не раз пускалі ў ход і джала.

Артыст памёр, ён ім больш не канкурэнт, і можна не шкадаваць яму кампліментаў.

## Гульня

Ён быў вельмі малады і ўспрымаў жаніцьбу як вясёлую гульню. А пражыўшы з жонкаю год, убачыў, што гульня гэта не такая ўжо і вясёлая. А тут яшчэ дзіця нарадзілася, ноччу плача, спаць не дае. Дзівіўся — як гэта ад такой вясёлай гульні магло дзіця нарадзіцца, ды такое плаксівае.

## Аб'ява

У бальніцы на пятым паверсе каля ліфта вісіць аб'ява: «У час пажару ліфтам не карыстацца!» Што рабіць у час пажару — у аб'яве не напісана.

## Таямніца творчасці

Раптам з далёкіх мінулых гадоў усплывае падзея. Забытая, да гэтага часу нават не ўспаміналася. На памяць прыходзяць людзі, чуюцца іх галасы, і ўсё гэта вярэдзіць душу і сэрца. І бярэш ліст паперы, ручку, і аднекуль прыходзяць словы, вобразы. І вось ужо тое, даўняе, што ляжала недзе глыбока на дне памяці, уваскрасае, кладзецца на паперу.

## Бог спіўся

Ездзіла на могілкі адведаць родныя магілы. Калі вярталася, да мяне ў аўтобусе падсела пажылая кабета з мыліцаю — зламала нагу. Кабета аказалася гаваркая і пачала мне жаліцца на несправядлівасць.

— Кругом бяда, кругом бяда, народ спіўся, куды глядзіць Бог? А можа, і Бог спіўся? — развважала яна.

## Не вытыркайся

Пакуль чалавек ціхенька сядзіць на сваёй сціплай пасадзе, яго ніхто не чапае, з ім усе мірацца і часам нават хваляць. Але калі ён, не дай бог, палезе ўгору ды выб'ецца ў начальнікі, альбо вылучаць яго на нейкую прэмію, гэтага яму не даруюць, на яго пасыплецца кампрамат, плёткі, бруд, і чалавеку толькі і рабі, што адмывайся.

Адсюль правіла — не вытыркайся...

## Хто быў усім, той стаў нічым...

Ці думала я некалі, што дажыву да той пары, калі разбурыцца Савецкі Саюз, калі будуць крышыць помнікі Леніну, Сталіну, а камуністычную партыю палічаць злачыннай. І калі ў славутым Інтэрнацыянале некалі спявалі «Хто быў нічым, той стане ўсім», то сёння можна спяваць: «Хто быў усім, той стаў нічым»...

## Галашэнне

У яе з мужам за жыццё хапіла ўсякага — і любошчаў, і калатнечы. Любошчы былі, канечне, у маладосці, а далей найбольш сваркі, папрокі. Як ажаніліся — пасыпаліся дзеці, і іх трэба было гадаваць, і хадзіць у калгас на працу, і дома са сваёй гаспадаркаю ўходжвацца — карова, парсючок, куры. Яна клалася спаць гадзін у дванаццаць, а ўставала ў пяць, і ўвесь гэты час таўклася ў працы. А ён не вельмі выжыльваўся, больш любіў газеткі пачытаць, і яна яго скубла і скубла, хацела, каб ён выжыльваўся так, як яна.

Але ў сварках, у калатнечы дажылі да старасці, а як сталі абодва нямоглыя — бацьку забрала ў горад старэйшая дачка, а яе — малодшая. Але ў дачкі яна магла пражыць толькі зіму, а як прыгравала веснавое сонца, вярталася ў вёску, у сваю хату.

І вось ад старэйшай дачкі прыйшла вестка — памёр бацька. А потым прывезлі і бацьку ў труне, у вёску, у родную хату.

Сабраліся суседзі, яна, удава, сядзела ля труны як скамянелая, глядзела на нябожчыка, але не плакала.

У хаце стаяла цішыня, толькі часам рыпелі дзверы, заходзіў новы сусед — развітацца.

І раптам, у гэтай цішыні, яна паднялася і загаласіла — моцна, па-вясковаму:

— А Сашачка, а родненькі, што ж ты нарабіў, чаго ж ты нас пакідаеш!

Ці сапраўды забалела ў яе сэрца і патрабавала гэтага — галашэння? Ці рабіла яна гэта для людзей, каб не сказалі потым — во, муж памёр, а яна хоць бы слязу выраніла...

## Грошы

Яны жылі з жонкаю як кошка з сабакам, ён займеў каханку, збіраўся ўжо разводзіцца, ды тут жонцы з Амерыкі спадчына прыйшла, ад нейкай сваячкі, якая іншай радні не мела. Ды вялікія грошы, у доларах.

Не-е... Жонку ён мог пакінуць, а грошы — выбачайце. І застаўся з нялюбаю. Толькі прысмірэў, цяпер яна ім камандавала, як хацела.

### Час

За сваё доўгае жыццё я пераканалася, што дваццаць гадоў — гэта вельмі мала часу, а дзесяць гадоў — удвая менш. Што год — гэта адно імгненне. А бывае так цяжка пражыць адзін дзень...

### Звекавала

Маладою выйшла замуж за такога ж маладога, як і сама. Але была вельмі ганарыстая і з'едлівая, як што не па ёй, усчынала сварку. А потым вырашыла — развядуся, як буду вольная — нехта падхопіць, выйду замуж за іншага, на злосць яму. Але ніхто не падхапіў, так і звекавала — ні дзеўкаю, ні бабаю.

А ён ажаніўся з іншай і жыў шчасліва.

### Натура чалавечая

Ініцыятарам рэпрэсій, іх натхніцелем быў, вядома, бацька ўсіх народаў вялікі Сталін. Але адзін Сталін нічога не зрабіў бы, каб не падключылася да гэтай кампаніі насельніцтва. Сусед даносіў на суседа, зайздроснік даносіў на таго, каму зайздросціў. І вось вакол — шпіёны ды шпіёны, хто польскія, хто японскія, хто яшчэ якія.

На вялікі жаль, рэцыдыў застаўся і па сёння, і сёння плеткары выдумляюць непатрэбшчыну на тых, каму зайздросцяць, з кім нечага не падзялілі альбо проста з любові да гэтага занятку.

* * *

Людзі любяць, каб ім гаварылі толькі прыемнае, праўда ім не патрэбная.

### Паэты

Выдатныя паэты паміраюць рана. Але не ўсе, хто памірае рана — выдатныя паэты.

### Самадур

Лёс часам бярэ чалавека за каршэнь і выцягвае з балота, з невядомасці, уздымае высока, робіць славутым, багатым, усімі любімым. А потым надакучвае яму цешыцца сваім тварэннем, і ён адварочваецца ад яго і пакідае ў адзіноце, усімі забытым, нікому непатрэбным. Такі самадур гэты лёс.

А што вы думаеце? За шчасце ў жыцці трэба расплачвацца.

### Класікі

Нашым часам лёгка зрабіцца класікам, выдай за свае грошы ўласныя творы ў серыі «Класікі беларускай літаратуры» і ўвойдзеш у гісторыю як класік.

## Чалавецтва

З аднаго боку — розум, які прыдумаў цяжкія самалёты, што лятаюць у небе з незвычайнай хуткасцю, дасягнуў космасу і запусціў спадарожнікі зямлі, змайстраваў тэлевізар і паказвае людзей, што жывуць за тысячы вёрст, прыдумаў мабільны тэлефон.

А з іншага боку — цёмны народ, дасюль адурманены рэлігіяй, бо нічога лепшага не змог прыдумаць чалавек, каб утаймаваць свае жарсці і найгоршую з іх — зайздрасць. Але і рэлігія не здолела спыніць п'янства, забойства, крадзеж. І турмы перапоўнены злачынцамі.

Куды ты ідзеш, чалавецтва, і што будзе з табою праз вякі?

## Жабы

З маленства помню, як у сажалцы каля нашага дома (на ўскраіне Мінска) кожны вечар наладжвалі канцэрты — моцна квакалі жабы. І як шмат было ў той сажалцы апалонікаў. З цікавасцю я назірала, як выраслі ў тых апалонікаў лапкі, галоўкі, як знікалі хвосцікі.

Ужо шмат гадоў не чую я жабінага квакання — ні за горадам, ні тым больш у горадзе. Куды падзеліся жабы? Няйнакш, іх паўсюды атруцілі хімікатамі.

А шкада.

## Рэдактар

Паглядзеўшы балет «Рамэа і Джульета», Сталін заявіў, што яму не падабаецца канец, вельмі сумны, а савецкі чалавек павінен выходзіць з тэатра ў добрым настроі.

І рэжысёр дапісаў новы акт, дзе закаханыя нібыта ўваскрэслі, і ўся гісторыя закончылася шчасліва.

Так Сталін адрэдагаваў Шэкспіра, і сумна, што ацаніць усё гэта мы можам толькі амаль праз сто гадоў. Ніхто не адважваецца запярэчыць жывому дыктатару.

## Сюжэты

Куды варты літаратурныя сюжэты ў параўнанні з сюжэтамі, якія стварае жыццё.

У мацеры забралі сына, калі хлопчыку было пяць гадоў. І вывезлі ў іншую краіну — у Кітай. І там, сярод двухмільярднага насельніцтва, хлопчык не згубіўся, і маці знайшла яго — праз пяцьдзесят пяць гадоў. Страціла дзіця, а сустрэла сівога чалавека.

Напішы апавяданне з такім сюжэтам, і чытач скажа — няпраўда, вымысел. А жыццю нельга не паверыць.

## Ці так?

Паэт напісаў верш на смерць аднаго нягодніка, у якім вельмі сумаваў з прычыны той смерці. Калі яго пачалі за гэта папракаць, ён адказаў:

— Ну, ведаеце, смерць усё пакрывае...

Ці так гэта? Тады давайце ўсё даруем і Гітлеру, і Сталіну — яны ж таксама памерлі.

## Некралог

Памёр пісьменнік, і газета змясціла некралог. Шкада, што нябожчык не змог яго прачытаць, на тым свеце яму весялей ляжалася б. Пры жыцці ён ніколі не чуў такіх харошых слоў пра сваю творчасць, наадварот, яго часта абражалі.

## Успамін

Я абараняла кандыдацкую дысертацыю. Усё ішло нармальна — апаненты хвалілі работу, прысутныя таксама ставіліся добразычліва. У выніку з'явілася пастанова — надаць мне званне кандыдата філалагічных навук.

Пасля вучонага савета, як правіла — застолле, а пасля застолля мяне прывезлі дадому Міхась Ларчанка, Іван Навуменка і Алег Лойка. Былі ўсе крыху на падпітку, але не вельмі. І раптам Ларчанка, з вялікім жалем да сябе, пачаў гаварыць да Навуменкі і Лойкі:

— Хлопцы, гэта ж вы мяне будзеце хаваць!.. Гэта ж вы мяне будзеце хаваць!

Так з часам і адбылося.

А сёння няма ўжо ні Навуменкі, ні Лойкі. Няўмольна паглынае плынь жыцця пакаленне за пакаленнем.

## Погляд

Часам крытыкі не разумеюць аўтара, бачаць у творы не тое, што хацеў сказаць пісьменнік, а тое, што бачыцца ім праз іх касавокі позірк.

## Шчасце

Спрачаюцца людзі — што такое шчасце. Але кожны бачыць шчасце пасвойму. І часцей за ўсё шчасцем лічыць чалавек тое, чаго ў яго няма. Няма ў чалавека грошай, і ён упэўнены, што шчасце ў грашах. Для іншага шчасце — мець каханую жанчыну. Трэці бачыць шчасце ў тым, каб быць славутым, вядомым. А для чацвёртага, калекі, шчасце — быць здаровым, ён, седзячы ў інваліднай калясцы, з зайздрасцю пазірае на тых, хто ходзіць сваімі нагамі, і не разумеюць, якія яны шчаслівыя.

## Аперацыя «бутэлька»

У свой час чалавека, які збіраўся ехаць за мяжу ў якасці турыста, прасвечвалі, як на рэнтгене, каб не было ў яго біяграфіі якіх-небудзь цёмных плямаў, каб не аказаўся ён небяспечным для краіны, якая выпраўляе яго ў замежнае падарожжа. Па-першае, давалі запоўніць тоўстую анкету, у якой былі пытанні — хто вашы бацькі, а калі яны памерлі, то дзе пахаваны. Па-другое, патрабавалі характарыстыку з месца працы, якую сведчыў райкам партыі. Далей райкам партыі выклікаў будучага турыста ў адзін са сваіх кабінетаў і даваў наказ — як трэба паводзіць сябе за мяжою. Грошай на долары мянялі вельмі мала — капейкі, не ўсё дазвалялася і браць з сабою ў дарогу, але чамусьці ў забарону не трапляла гарэлка — дазвалялася браць паўлітровую бутэльку.

І вось, прайшоўшы ўсе гэтыя «рэнтгены», мы — турысты сваёй невялічкай групкаю ходзім па Афінах, адным са старэйшых гарадоў Грэцыі, яе сталіцы, любуемся яе старадаўнімі збудаваннямі, паднімаемся да Акропаля, пасля зноў ходзім па вуліцах, заглядаем у крамы. Дазволіць сабе сур'ёзную пакупку, вядо-

ма, не можам, няма грошай, хоць бы прывезці дадому які сувенірчык. Але і на сувенірчык патрэбны грошы. А тут адна турыстка з нашай кампаніі спынілася, як укапаная, перад маленькай копіяй знакамітай скульптуры Давіда Мікеланджэла. Вельмі ёй спадабаўся гэты Давід. Пачала лічыць грошы — не хапае. Дзяўчына ледзь не плача. І тут паспачуваў ёй наш гід, які вадзіў нас па горадзе.

— Купляйце, — кажа ён нашай турыстцы. — Чаго не хопіць — я дакладу.

Для кішэні нашага гіда цана на той сувенір была мізэрная, а для нас — непасільная.

Памулялася наша турыстка, памулялася, але Давід так спакушаў яе, што згадзілася. Засунула таго Давіда ў сваю сумачку, і мы пайшлі далей, і пачалі думаць, як аддзячыць чалавеку за яго такі бескарыслівы ўчынак. І тут успомнілі пра бутэльку гарэлкі, якую дазволілі нам узяць з сабою ў падарожжа. Але як перадаць яе гіду?

Разам з намі, акрамя таго грэчаскага гіда, хадзіў кэгэбэшнік, сачыў, каб мы не зганьбавалі вобраз савецкага чалавека. А перадаць бутэльку гарэлкі гіду-капіталісту гэта ж міжнародны скандал. Трэба было неяк адцягнуць увагу кэгэбэшніка. Але як?

Таму капіталісту мы намякнулі, як і чым хочам яго аддзячыць, мусіць, ён не быў супраць атрымаць за тыя драхмы, што даклаў да пакупкі Давіда, бутэльку моцнай савецкай гарэлкі — не быў бы ён капіталіст. І ён уключыўся ў нашу гульню.

Адна за адной мы падыходзілі да кэгэбіста, загаворвалі з ім, пра нешта пыталіся. Ён адказваў нам, але не траціў пільнасці, і тут нам дапамог выпадак.

У адной з вітрын быў выстаўлены легкавы аўтамабіль. Я ў машынах не разбіраюся і не ведаю, якой маркі было тое аўто, але наш кэгэбіст спыніўся перад вітрынаю, як заварожаны, здаецца, для яго перастаў існаваць цэлы свет, акрамя гэтай вітрыны з аўтамабілем. І мы вырашылі скарыстаць гэты яго транс. Бутэлька з сумкі турысткі перабралася ў кішэню гіда.

А наш кэгэбіст пастаяў перад вітрынаю, уздыхнуў, і мы пайшлі далей.

Аперацыя з бутэлькаю была завершана. А Давід Мікеланджэла Буанароці дасюль стаіць у шафцы маёй сяброўкі. Цешыць яе вочы і душу.

### Космас чалавечай душы

Вучоныя кажуць, што ў космасе ёсць чорныя дзіркі, якія ўсмоктваюць у сябе цэлыя галактыкі, і тыя адтуль ніколі не вяртаюцца.

У чалавечай душы, у чалавечым космасе, побач з сонцам і зорамі, таксама ёсць чорныя дзіркі, у якія боязна зірнуць, бо, глянуўшы туды, больш не вернешся да прывычнага спакою. І наогул, чалавек, як айсберг, людзям відаць толькі маленькая частка яго, што плавае на паверхні, астатняе схавана ў глыбінях, нікому не бачных.

### Угнаенне

За ўсю гісторыю чалавецтва можна пералічыць па пальцах пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, што заваявалі сусветнае прызнанне. Астатнія тысячы служак мастацтва — угнаенне, на якім вырастаюць шэдэўры.

### Загадка

Увогуле я атэістка, але, аналізуючы сваё доўгае жыццё, назіраючы за жыццямі знаёмых мне людзей, задумваюся — ці мы самі гаспадары свайго

жыцця, самі будуем свой лёс, ці непазнаныя сілы пад псеўданімам Выпадак — выводзяць нас на тыя альбо іншыя сцежкі.

## Голад

У маладосці яна галадала, бо была вайна. Пасля вайны жыла вельмі бедна, не мела грошай нават на хлеб — буханка хлеба каштавала тады на базары сто рублёў пры студэнцкай стыпендыі трыццаць пяць.

Пад старасць, калі ўжо і грошы ёсць, і паліцы ў магазінах гнуцца ад прадуктаў, зноў галадае, бо ўжо і таго няможна есці, і гэтага. Мусіць трымацца дыеты.

## Колькасць і якасць

Тульскі чыноўнік некалі хваліўся, як вырасла пры савецкай уладзе колькасць пісьменнікаў на Тульшчыне:

— Цяпер тут сто членаў саюза, а да рэвалюцыі быў толькі адзін пісьменнік — Леў Талстой...

Так і цяпер хваляцца некаторыя чыноўнікі колькасцю членаў у нашым Саюзе пісьменнікаў.

## Будучыня

Усе мы думаем пра будучыню, чакаем ад яе нечага лепшага, на нешта спадзяёмся. А будучыня ўва ўсіх адна — нас паглыне зямля, і разам з ёю мы будзем круціцца ў космасе, пакуль не ператворымся ў пясчынку, у пыл планеты. А яна будзе жыць, круціцца далей і выдатна абыходзіцца без нас.

## Жывая

Зямля — жывая істота, бо каб не была яна жывая, як магла б радзіць-гадаваць і травы, і кветкі, і кусты, і лясы, як магла б гадаваць звяроў і птушак, рыб і мурашак і ўсіх карміць, усім даваць спосабы размнажэння.

А сама, напэўна, харчуецца тым, што, паміраючы, апускаецца ў яе лона. Умываецца рэкамі, азёрамі і дыхае касмічным паветрам.

## Усяночная

Мая суседка, мілая жанчына, пайшла на Вялікдзень у царкву на Усяночную. Вярнулася расчараваная.

— Такія злосныя людзі... Пхаюцца, штурхаюцца, каб прычасціцца — лезуць без чаргі. Быццам прыйшлі ў царкву не для таго, каб душу ачысціць, а каб і тут нешта ўварваць, у самога Бога.

## Клетка

Мая суседка купіла сваёй дачушцы для забавы папугайчыка. Назвалі птушачку Гошам, пасадзілі ў клетку і любуюцца ёю. Але што таму Гошу ад іхняй любові, калі ён сядзіць у клетцы і прасторы ў яго — скачы з жэрдачкі на жэрдачку. А недзе там, на радзіме, ён жыў у кроне высокага дрэва, і там жыло яшчэ шмат папугайчыкаў. І яны гаварылі між сабою на сваёй папугайскай мове і выдатна разумеліся, і не падрабляліся пад мову салаўя альбо вароны.

Але цяпер не выпусціш на волю птушачку, яе зловіць першы кот, які сустрэнецца на дарозе.

Клетка, хоць і залачоная, — клетка, і жыхар яе — вязень.

### Бульба

Удава Карабуціха ў час вайны на лапіку зямлі, што быў у гародзе каля яе дома, пасадзіла бульбу. Калі бульба паспела, прыйшоў малады здаровы немец і пачаў яе выкопваць. Карабуціха кінулася да яго:

— Панок, не забірай маю бульбачку, у мяне двое дзетак, мне няма чым іх карміць!..

Суседка, што стаяла побач, кажа Карабуцісе:

— Што ты яму гаворыш, ён жа нічога не разумее...

— Як не разумее? — здзівілася Карабуціха.

Яна была ўпэўнена, што гэта па-нямецку можна не разумець, а як не разумець, калі гавораць так проста...

### Кілбаса

Некалі, пры камуністах, кілбаса была вялікім дэфіцытам, за ёю стаялі ў доўгіх чэргах, вазілі з горада ў раёны, у вёскі.

Сёння ад кілбас паліцы гнуцца — любых гатункаў: і сасіскі, і сардэлькі, і «доктарская», але тых кілбас ніхто не купляе, бо зроблены тыя кілбасы невядома з чаго, толькі не з мяса. І цана іх не для пенсіянераў.

### Мода

Не так даўно хлопцы хадзілі з доўгімі, як у дзяўчат, валасамі і тым дражнілі абывацеляў і начальства, асабліва начальства, якое надта не любіла, калі нехта дазваляў сабе апранацца, валасы насіць, гаварыць не так, як усе, бачылі ў такой волі пратэст.

Цяпер хлопцы стрыгуцца пад нуль, а часам і голяць галовы.

Іншы час, іншыя песні, іншая мода.

### Дзіця

Адзін за адным ідуць працэсы — з кім жыць дзіцяці — з маткаю ці з бацькам, бо ў тых нядаўняе каханнеператварылася ў нянавісць, і яны паліваюць адно аднаго брудам. Як правіла, багаты бацька хоча, каб дзіця жыло з ім, тым болей, што суд вынес вердыкт на карысць бацькі. А пакінутая жонка крыкам крычыць — аддайце маё дзіцятка, я без яго жыць не магу.

Але калі зірнуць глыбей у гэту сітуацыю, то ўбачым, што бойка тут ідзе не за дзіця, а за грошы. Пакінутая жонка хоча, каб былы яе багаты муж плаціў на дзіця вялікія аліменты, а былы багаты муж плаціць тых вялікіх аліментаў не хоча.

Любоў да дзіцяці стаіць тут на апошнім месцы.

### Існаванне Бога

Аўтары афіцыйных перадач на тэлебачанні зусім сур’ёзна даказваюць

існаванне Бога тым, што недзе там абраз пачаў сачыцца невядомай вільгаццю, што недзе каля абраза расцвіла кветка, што на небе з'явілася выява крыжа.

Але навошта Бог разменьваецца на такія дробязі, калі ён ёсць, ды яшчэ ўсёмагутны, няхай бы навёў парадак на зямлі, спыніў бы войны, караў зло і спачуваў дабру. Гэта было б лепшым доказам яго існавання.

## Монстры

Вучоныя, у сваёй нястрымнай фантазіі, вырашылі злучыць малпу арангутана з чалавекам. Хацелі вывесці істоту дужую, як арангутан, і разумную, як чалавек. Было зроблена безліч вопытаў, і ніводны, дзякуй богу, не ўдаўся. Бо можна ўявіць, якія монстры хадзілі б сёння па зямлі.

## Гумар і сатыра

Стаміўшыся змагацца з чыноўнікамі, якія вельмі не любілі ні сатыры, ні нават гумару, Кандрат Крапіва, у той час рэдактар часопіса «Вожык», падаў у адстаўку. Яго адстаўку прынялі, а рэдактарам часопіса «Вожык» паставілі чалавека, які нават не ведаў беларускай мовы. Свае «гумарэскі» ён пісаў па-руску і даваў мне, тэхнічнай сакратарцы, перакладаць на мову беларускую. А я, па маладосці і бяздумнасці, іх не толькі перакладала, а часам і правіла.

Як жа ён на мяне сварыўся!

## Падабенства

Біблія сцвярджае, што Бог стварыў чалавека па сваім вобразе і падабенстве. Аднак, прыгледзеўшыся да Божага стварэння, нельга не пераканацца, што чалавек больш адпавядае вобразу і вельмі падобны па ўсіх сваіх фізічных і фізіялагічных якасцях на жывёлу. Створаны па вобразе і падабенстве млекакормячых.

То няўжо Бог?.. І падумаць страшна...

Мае нататкі называюцца «Пошукі ісціны». Вось яе, ісціну, я і шукаю.

# З ЛІТАРАТУРЫ ТУРЦЫІ

*Сягоння ў рубрыцы «Галасы свету» мы прадстаўляем літаратуру Турцыі, якая вядомая беларускаму чытачу па нямногіх перакладах паасобных твораў Назыма Хікмета, Сабахаціна Алі, Суада Дэрвіша, С. Шырвані, зробленых у свой час Міколам Аўрамчыкам, Анатолем Вялюгіным, Уладзімірам Дубоўкам, Аляксеем Зарыцкім, Уладзімірам Паўлавым, Аляксеем Русецкім, Максімам Танкам.*

*Наша грамадская цікавасць да паўднёвай краіны ўзрастае з кожным годам — тысячы нашых суайчыннікаў накіроўваюцца ў турыстычныя падарожжы, на адпачынак, па дзяржаўных справах у заморскую Турцыю. І, безумоўна, хацелася б, каб не толькі паўднёвай экзотыкай, аднак і багатымі духоўнымі скарбамі, захаванымі ў тым ліку і ў мастацкім слове, адкрывалася сонечная Турцыя ўсё глыбей і глыбей душам нашых людзей.*

*З вялікай колькасці значных імён турэцкай літаратуры паўстаюць перад чытачом трое. Джалалэддзін Румі жыў у XIII стагоддзі, пісаў на персідскай мове. Асабліва вядомым стаў яго паэтычны эпас «Меснаві», які па праве з'яўляецца своеасаблівым духоўным падмуркам усёй сучаснай турэцкай літаратуры. Класік турэцкай паэзіі Архан Велі (Канык) — далёкі па часе спадчыннік Румі — належыць XX стагоддзю. Яго яркія, сацыяльна заглыбленыя вершы, блізкія па духу сённяшняму чытачу, люструюць сабой новыя мастацкія здабыткі турэцкай паэзіі. Глыбіню філасофскай думкі даносіць творчасць нашага сучасніка Мухамеда Фетхулаха Гюлена, чыя афарыстычная мова значна пашырае далягляды ўсёй турэцкай літаратуры.*

**Джалалэддзін РУМІ**
***(1207—1273)***

## ХАЛІФ АМАР І СТАРЫ АРФІСТ

Састарыўся арфіст і голас аслабеў,
Ні мудрасць і ні страсць яго не ўзносяць спеў —

Яны сышлі з душы і песень назаўжды.
Адно вязьмо хвароб і скрутны цень бяды.

Жыве ён як жабрак і злоснік кожны кпіць,
Не мае ні граша — для арфы струн купіць,

Хоць колькі з іх парвалася, вісяць.
Нямогласць у руках. А сэрцу — гнеў красаць

І дзённа, і ўначы. І ўжо не вернеш сіл.
Стары на могілкі Медзіны, да магіл,

У цемры з арфаю, знясілены, прыйшоў,
І на калені стаў, і там, дзе смерці схоў,

Завёў малітву: «Божа! Ты прымаў раней
Мае малітвы. І табе відней

Было, калі фальшывы грошык мой
Ты браў не раз заместа праўды залатой.

Даруй жа мне! Зрабіўся бедняком няўзнак.
Так пакараны я, ды мне без струн ніяк!»

І старац-лунь, панікшы галавой,
Ў сон мёртва праваліўся. Певень, нават той

Не здолеў бы яго на ногі тут узняць.
Душа на волю мкне, ёй птушкаю лунаць.

* * *

Парвана з целам сувязь не на жарт,
Душа імкнецца ўвысь, забыўшы пра цяжар,

Ў бясконцасці прасторы, без нягод,
Прапела праўды вольны узыход:

«Як вольна душам, калі целам паўжывы,
Забыты боль і думаецца мне без галавы.

Навошта нос і рот? — смак чую і без іх,
Няма вушэй — ды не пагас мой слых,

І прыпаміны ўсе без жахаў і без мук.
І ружу вабную трымаць магу без рук.

У часу акіян мой мройны лёт пранік,
І асалод маіх нязнана шчодры лік!»

І птушка з вышыні нырнула ў Акіян,
Ў Іова шматпакутнага фантан,

Адмыты быў ад язваў там сваіх Іоў,
Нібы юнак, здаровым стаў наноў.

І калі б гэтак кніга «Меснаві»
Раптоўна стала цвердзі свету візаві,

Яна б не вынесла таемнай скруты лёс,
Якой жыла душа паэта між нябёс.

Каб людзі Бога знаць свайго маглі,
Не засталося б анікога на зямлі…

* * *

Ад могілак палац непадалёк стаяў.
Мудрэц, халіф Амар, там ціха спачываў.

І ў сне сваім Амар пачуў не хор ухвал:
«На могілкі пайдзі, там бедны аксакал

На рванай арфе спіць, уткнуўся галавой.
Ты забяспеч яму на старасці спакой».

Смяротным нам той Голас — знак бяды,
Яго загадны кліч выконваюць заўжды

Халіф і раб, шах, злодзей і махляр.
Ён зразумелы нам, як маці родны твар.

Амар ускочыў, помнячы пра грэх,
І праз хвіліну ўжо на могілкі ён бег,

Сеў каля соннага, каб хоць не разбудзіць,
Яму гатовы ўсім, чым трэба, дагадзіць.

Ды чхання пераняць не змог халіф Амар.
Паэт прачнуўся ўраз: «О, мудры валадар!

Ці ж не парушыў я магільны твой закон?»
І, стоячы прад ім, адбіў зямны паклон.

Амар заўважыў — змяк стары паэт.
«Не бойся ты мяне, хачу сакрэт

Табе адкрыць я важны, старына.
Сядай каля мяне. Вось золата машна.

Не менш — сямсот дзінараў будзе ў ёй.
Забудзь цяпер, стары, аб беднасці сваёй.

Пачні свой дзень з набытку новых струн.
Я пачакаю тут, на могілках, пяюн».

Магло падацца, што стары аслупянеў.
Ён слухаў моўчкі і халіфу ў рот глядзеў.

Шчадротай дару ўзрушаны ён быў.
Ды ўскочыў — арфу аб зямлю разбіў!

«О песня! Кожны выдых мой і ўдых
Былі мне шчасцем, буйствам сілаў маладых!

Майстэрства шліфаваў сваё, як мог.
Было, што смакаваў і солад перамог,

Калі мелодыю Ірака спалучаў
Я з рытмам Персіі. Смяяўся і рыдаў

Над тымі штучнымі прыёмамі, прафан.
І не дагнаў на шляху ў Мекку караван!

Дванаццаць стыляў песень ведаў назубок,
І паднашэнняў колькі сквапны бачыў зрок,

Што і пра Бога забываўся я падчас.
Валодаў гукам дасканала, — сэрцам згас!

Я на драбноты сам разбэрсаў Божы дар,
І вось нанесла старасць свой удар,

Мяне паэмы закавалі ў ланцугі.
Як тое выйшла? Чым плаціць цяпер даўгі?

І вось вяртаю Богу ў рэшце рэшт
Ўсё тое, што жыцця майго складала змест!»

Калі насыплюць залатых дзінар,
Вачмі не заграбай, глядзі сумленню ў твар!

Амар прамовіў: «Твой квятасты маналог
Яшчэ адзін самападман, ты — дэмагог,

Замкнуты, быццам кокан, у сабе.
А гордасць узрасціў на ўсцешлівай хвальбе.

Ты флейты чарацянай не зрабіў,
Рукою сціснуў чараціну, пагубіў,

Лепш ад трухі ты чараціну ачышчай,
І заспяваць, як дудачцы, ёй дай!

Ты, як вандроўнік з пазабытых дзён,
Ці як няўважлівы да жонкі маладзён.

Лепш пязбягай раскаянняў уцех,
Бо гордасць гучных пакаянняў — той жа грэх!»

Старога сэрца ажыло ад гэтых слоў,
Што адказаць Амару так і не знайшоў.

Забыў пра плач ён і пра смех свой пазабыў,
Забыў пра ноты, што ўсім сэрцам так любіў.

Свядомасць страціў непрыкаяны стары,
Туды сышоў, куды не ходзяць гандляры.

Пайшоў у пространь непатрэбных сэрцу слоў,
І патануў у моры з назваю Любоў.

Яго схаваў Любові наступ штармавы,
І захлябнуўся ён — ні мёртвы, ні жывы.

Спавіты Божай Ласкаю быў ён
І забыццём глухім узяты у палон.

* * *

Так надараецца ў птушынай чарадзе, —
Калі важак у вырай клін вядзе,

Бывае, што ён не вяртаецца назад…
Нам сонечны прамень не здаць на склад —

Ён кожнае імгненне ўсё ж пусты
І поўны адначас, як і, мастацтва, ты.

*Меснаві (1, 2076, 2086—2101,*
*2106—2109,2163—2166, 2175—2220)*

## УЦЁКІ ІСУСА

Аднойчы на ўзгорак Ісус узышоў,
Апосталы ўслед, — парушылі схоў.

Ісус азірнуўся і тварам збялеў,
Бег як ад забойцы, што выліў свой гнеў.

Дагнаўшы, Ісуса апостал спытаў:
«Хто гэтак Цябе, Гасподзь, напужаў?

Пагоні ж няма, і далёка відаць».
Ісус жа маўчыць і бяжыць — не дагнаць.

З узгорка на ўзгорак па спёцы бяжыць,
Апосталы ногі ўсе здолелі збіць.

Адстаўшы, крычалі ўслед вучні Яму,
Знямоглыя, збіўшыся шчыльна ў гурму:

«Скажы, пры нас мёртвых Ты ўваскрашаў?»
«Я!»

«Скажы, з гліны птушак не Ты ажыўляў?»
«Я!»

«Тады адкажы: напалоханы кім?»
«Ворагам! — кажа Ісус гэтак ім, —

Калі Імя Вялікае прамаўляю
Над аслеплым дзіцём, — зрок сляпому вяртаю!

Калі над мёртвым целам Яго гавару,
Ажывае нябожчык! Ратаю-гаспадару

Усе таямніцы душы патлумачыць магу.
Каменнай пліце скажу — трэсне і ні гу-гу!

Ды марна губляў Я гадзіны, і нават дні,
Гаворачы з тымі любоўна! Ў жыцця мітусні

Яны пасміхаліся толькі, забраўшы цяпло!
Мне нават Імя Вялікае не памагло!

Гэтыя людзі — каменне. Скрышыш — стануць пяском,
На ім ані сад узрасціць, ані ўзвесці дом.

Хваробы людзей — прычына міласціну падаць,
Каменныя ж сэрцы — глухія. Мацеркай стаць

Злосці, насілля, бязбожжа здатныя ўраз.
Вось ад чаго я бягу. Бяссілля там час!

Гэтак, як спёка, вільгаць дап’е
З гліны сырой, каменем зробіць яе, —

Кропля за кропляй — высушыць дурня ўшчэнт,
Робячы мёртвым жыльцом, час новых змен.

Божая Ласка сыходзіць, яе не відаць,
Не могуць маліцца і міласціну падаць.

Крадуць яны, цынікі, душ цеплыню ў людзей,
Гэтак, як камень крадзе целаў цяпло, ліхадзей!

Камень іх душаў сляпы, не бачыць сонца ўгары,
Бяссільныя тут і любоў, і дактары!»

* * *

Ды ўсё ж ад людзей нідзе не хаваўся Ісус,
Бег ён ад іхніх, нікчэмнасці поўных, спакус.

*Меснаві (3, 2570—2598)*

## Архан ВЕЛІ (КАНЫК)
*(1914—1950)*

### АДХОН

Калі адхон,
Па якім мы з фабрыкі
Пасля працы
Дамоў вяртаемся,
І на тым свеце
Не гэткі круты, —
Дык і смерць нядрэнная рэч.

### ПРОСТА ТАК

Усе прыгажуні-жанчыны думалі,
Што пра каханне свой кожны верш
Я пісаў менавіта для іх.
А я пакутаваў — дзівак! —
І гэтыя вершы пісаў проста так.

### НЯДЗЕЛЬНЫМІ ВЕЧАРАМІ

Цяпер я апрануты зрэбна,
Ды вярнуўшы пазыкі,
Я, магчыма, прыдбаю новы касцюм,
Ты, магчыма, нават тады
Не станеш мяне кахаць.

Аднак, калі ласка, не думай,
Што, вечарамі нядзельнымі
Крочачы перад домам тваім,
Прыбраны,
Цябе так высока
Буду цаніць,
Як цяпер, дарагая!

### НАЙВЫШЭЙШАЯ СТУПЕНЬ

Я кахаю прыгожых жанчын.
Я кахаю фабрычных жанчын.
Я прыгожых фабрычных жынчын
Болей за ўсё люблю.

## ТЫ ЦІ ЖЫВАЯ?

Калі мы хвост прычаплялі да змея,
Якога з табой майстравалі разам,
Я скмеціў, —
Тваё сэрцайка тахкае.
Мне і ў галаву не прыйшло
Адкрыцца табе.
Як ведаць,
Ты ці жывая яшчэ?

## КАЛЯ ПІЎНОЙ

Канешне ж, больш яе не кахаю.
Аднак блукаю чаму
Кожны вечар каля піўной,
Дзе я піў і пра яе марыў?

## СУМ

На каханых
І я, магчыма б, злаваў,
Калі б у каханых
Суму не навучыўся.

## ВЕЧАРЫ Ў НАШЫМ КВАРТАЛЕ

Калі заход кранецца штор з паркалю, —
Квартал душою скутай страпянецца,
Мая акацыя ад спёкі адхітнецца,
Пацягнецца галінкамі да шыб.

Дамы абудзяцца ад дзённае ляноты,
Угрэтая астыне чарапіца,
І ля дзвярэй з вязаннем на каленях
Жанкі прысядуць зноў чакаць сваіх мужоў.

Заход прыносіць супакой
Рукам, стамлёным ад турбот,
І розуму майму,
І сэрца сэрцу вестку шле па вечарах.

Драўляных черавічак стук, вады сцюдзёны звон…
Па вечарах бывае ўсё — каханне, ежа, сон.
Само жыццё — сусвету кроў —
Ліецца ў цішы вечароў.

## ІЛЮЗІЯ

Ад ранейшай любові вольны,
Усе жанчыны — зноў прыгажуні.
Я ў новай кашулі.
Умыты.
Паголены.
Сонца ў нябёсах.
Вясна на двары.
Мір на зямлі.
Закончаны войны.
Выйду на вуліцу —
Давольныя ўсе.

## МОЙ ЦЕНЬ

Мой цень мне абрыдзеў
Да смерці.
Гэтулькі год
Валачэцца за мной па зямлі.
Чуеш, давай пажывём асобна:
Я — сам,
Ты — сам па сабе.

## КІЗІЛ

Наш кізіл
Гэтым годам
Квартал падзівіў:
Першых пяць ягад
Нарэшце прынёс.
Праз год цэлых шэсць прынясе.
Ну дык што?
Дачакаемся.
Век не малы.
Ну і кізіл, малайчына!

## ?

Скажуць: «Порт», — я ўбачу мачты.
Скажуць: «Мора», — убачу ветразь.

«Сакавік», — убачу кошак.
«Справядлівасць», — бачу рабочых.

А што бачыць стары мельнік
Пры слове «Алах»?
Ад чаго ён верыць?

Смешна. Хіба ведае дождж,
Чаму вецер гоніць яго наўскос?

## НЯЎЖО ЗАКАХАЎСЯ?

Хто б мог сказаць, што я стану такім —
Да ўсяго абыякавым, сумным, маўклівым?
Што спаць па начах не змагу без тугі?
Хто б мог сказаць, што рады не буду,
Салату смакуючы ў час абеду?
Ну, хто б мог сказаць, што я стану такім?

## ЭПІТАФІЯ І

На гэтым свеце ён пакут зазнаў.
Не надзяліў яго Гасподзь красой.
Ды больш за ўсё мучэнняў прычыняў
Яму мазоль любімы.
Не ціснулі пакуль жа чаравікі, —
Пра Госпада ён часта забываў.
Ды ўсё ж наўрад ці быў залішне грэшным.
Ах, Сулеймана як шкада, ах, як шкада!

## ЭПІТАФІЯ ІІ

Пытання не стаяла перад ім:
«To be or not to be?»*
Ён вечарам заснуў,
А ўранку ўзяў і не прачнуўся.
Прыйшлі, аднеслі і абмылі.
Адпелі, у зямлю паклалі.
І ўсе, каму застаўся што павінен,
Яму прашэпчуць словы даравання.
Ну, а яму самому
Ужо спагнаць няма з каго.
Нічога ўжо не атрымаць.

## ЭПІТАФІЯ ІІІ

Яго ружжо аднеслі ўжо на склад.
Яго адзенне выдалі другому.
Даўно ў яго мяшэчку ані крошкі.
І на біклажцы ані следу губ.

---

* Быць або не быць? (англ.)

Пайшоў…
Як быццам здзьмула ветрам.
І нат імя на памяць не пакінуў.
Адно ў кавярні каля ачага
Пакінуты два сумныя радкі:
«Што смерць?! Мы ўсе памром!
Вось калі б гэтакіх расстанняў не было!..»

## ЦУДОЎНЫЯ ДНІ

Мяне загубілі цудоўныя дні.
Ў такія цудоўныя дні
Я службу ў канторы пакінуў.
Ў такія цудоўныя дні
Я тытунь навучыўся курыць.
Ў такія цудоўныя дні
Мне пакахаць давялося.
Ў такія цудоўныя дні
Хлеб, соль забываў дамоў несці.
І хвароба мая — вершатворчасць —
Абвастралася ў гэткія дні.
Мяне загубілі цудоўныя дні.

## ВЕРШЫ СА ЗВАНКОМ

Мы — чыноўнікі.
Служым.
Сабе мы належым
У дзевяць, у дванаццаць, у пяць,
Калі па вуліцы крочым.
Ад Госпада Бога гэты рэжым:
Усё жыццё мы чакаем
То званка на абед,
То дня зарплаты.

## ВЕРШЫ СА СЦЭНАЙ

Бакалы прыносяць, бакалы адносяць.
Поўным-поўна закусак.
Адна каханка — на сцэне спявае,
Другая — са мной сядзіць, выпівае,
П’е і да першай раўнуе.
Не раўнуй, мая радасць, не варта.
У кожнага месца сваё:
У цябе — адно.
У яе — другое.

### ДАРМА

Дарма жывём мы, дарма.
Дарма — хмары і мора.
Дарма — горы і стромы.
Дарма — шорганне шын,
Падваротні кіно,
Ззянне вітрын.
Хлеб з сырам, пэўна, не дарма.
Ды дарма мы дыхаем сунавай парай,
За волю плацім сваёй галавой.
Ну, а рабства, канешне, дарма.
Дарма жывём, дарма.

### УСЁ ДЗЕЛЯ АЙЧЫНЫ

Дзеля айчыны
Чаго не рабілі мы толькі?!
Хто — галаву склаў,
Хто — гаварыў прамовы.

***Пераклад Міколы Мятліцкага.***

## Мухамед Фетхулах ГЮЛЕН
***(Нар. 1938 г.)***

## Пачуццё і ўспрыманне

* * *

Пачуццём завецца здольнасць чалавека адчуваць тое, што знаходзіцца ў межах яго ўнутранага і знешняга ўспрымання. Таму чалавек, які валодае такой здольнасцю, завецца *«хасас»* — адчувальны.

* * *

Розум — гэта здольнасць спасцігаць, уласцівая мозгу, а сумленне — гэта тая ж здольнасць, але ўласцівая духу. Калі першае назваць вопытам, то другое можна будзе назваць пачуццём. Таму не можа быць і гаворкі аб тым, каб чалавек, чый розум бяздзейнічае, а сумленне мёртвае, быў здольны хоць неяк спасцігнуць навакольны свет і зведаць тое, што дзеецца ў яго ўласным свеце.

* * *

Калі глядзець у корань, то пачуццё — гэта свайго роду механізм спасціжэння, уласцівы духу. Таму аб нячулым чалавеку можна сказаць, што ў яго няма сумлення, а аб бессаромным, — што ён пазбаўлены ўсялякіх пачуццяў.

* * *

Мудрасць выхоўвае і развівае пачуцці. Матэрыялістычная філасофія забівае або прытупляе іх. Таму тыя, хто заўсёды і ва ўсім імкнецца прытрымлівацца толькі шляху розуму, пазбаўляюць сябе магчымасці калі-небудзь спасцігнуць светлую атмасферу пачуцця. Сапраўднае пачуццё з'яўляецца толькі там, дзе ёсць нічым не азмрочанае і не апаганенае ўспрыманне. Праўдзівае і паўнавартаснае ўспрыманне і адчувальнасць могуць быць народжаныя толькі сапраўдным і паўнавартасным пачуццём.

* * *

Усе перамогі і трыумфы бессаромных і нячулых людзей — гэта звярыныя перамогі, і складаюцца яны толькі з шэрага подласцей і нізасцей. І завяршаюцца такія перамогі тым, што жывёльная сутнасць чалавека перастае прызнаваць якія-небудзь рамкі. Залежнасць ад інстынкту так паглыбляецца, што можа быць параўнаная хіба толькі з прорвамі пекла, крылы духу раз і назаўжды ламаюцца, а сумленне цалкам паралізуецца.

* * *

Людзі, унутрана не безуважныя да ўсяго таго, што адбываецца з Радзімай і народам — гэта ўзнёслыя душы, чыё сумленне не ведае супакою і якія не баяцца прынесці ў ахвяру сваё жыццё ў імя тых высокіх ідэалаў, якімі заваяваліся іх сэрцы. Што датычыць нячулых людзей, то, колькі б яны ні разважалі аб самаахвяраванні, ім не знайсці ў сабе сілы зрабіць нават самае меншае з таго, аб чым яны гавораць.

* * *

Калі нават чалавеку пагражаюць страты і няўдачы, а ён усё-ткі аддае перавагу думкам аб іншых, жыццю дзеля іншых, жаданню падзяляць з імі іх радасць і смутак, то ўсе гэтыя якасці, кожная з якіх уяўляе сабою вялікую каштоўнасць, сведчаць аб сіле яго духоўнага пачуцця. У тых, хто цалкам пазбаўлены гэтага пачуцця, нельга знайсці не толькі ўсе яго вартасці, але нават хоць бы нейкую іх крупінку. І калі ў іх выяўляецца штосьці, што сведчыць аб высакароднасці і годнасці, то гэтыя прыкметы падобныя да мармытання, якім выпадковы чалавек спрабуе «акампанаваць» гранню музыкі.

* * *

Прагрэс і ўзвышэнне нацыі залежаць ад адзінства пачуццяў і глыбіні ўспрымальнасці яе індывідаў. Толькі тыя, хто дасягнуў глыбіні ў сваім свеце высокіх пачуццяў, здольныя, не міргнуўшы вокам, аддаць усё дзеля сваёй

ідэі. А, сутыкнуўшыся з уласным бяссіллем, — звар'яцець або памерці ад душэўных хвароб.

* * *

Найвышэйшая ступень адчувальнасці выяўляецца, калі чалавека літаральна ліхаманіць ад гневу, бо абражаныя яго рэлігійныя або нацыянальныя пачуцці. Яна ахоплівае ўсю істоту ўспрымальнасці чалавека і нават здольная забіць яго. Мы можам назваць гэта высакароднай рэўнасцю.

* * *

Гэты высакародны парыў, гэтыя пакуты духу, што выяўляюцца, калі разбураюцца каштоўнасці і пачынаецца маральная анархія, з'яўляюцца самым відавочным адрозненнем сучаснага чалавека ад той істоты, якая нагадвае яго толькі знешне.

* * *

Ад Найвышэйшага Духа, які заваяваў усе вышыні, і аж да пакутнікаў нашага часу ўсе змучаныя і палаючыя, як агмені, розумы перажывалі гэты стан. Яны забываліся аб свецкім жыцці, і іх прыстанкамі станавіліся горы, пячоры і могілкі. Уся іх істота была занята адзінай думкай, а сэрца пакутавала толькі адным пачуццём. Думаецца, што за ўсю гісторыю чалавецтва стваральнікамі самых вялікіх і адметных перыядаў былі менавіта гэтыя звышадчувальныя і адданыя сваёй справе людзі.

## Свабода

* * *

Свабода азначае непрыняцце духам якіх-небудзь абмежаванняў, акрамя вышэйшых каштоўнасцей, і яго непадпарадкаванне якімсьці прынцыпам, акрамя дабра і праведнасці.

* * *

Колькі ёсць на свеце людзей, якія, нават закаваныя ў ланцугі і кайданы, працягваюць вольна лунаць у бязмежных прасторах сваёй душы і ніколі не адчуваюць ніякіх абмежаванняў і пазбаўленняў. І колькі ёсць людзей, якім, насуперак усёй царскай пышнасці і багаццю навокал, што здольнае закружыць галаву любому чалавеку, так і не атрымоўваецца нават на імгненне адчуць унутры сябе хоць нікчэмную частку той сапраўднай свабоды.

* * *

Тыя, хто бачыць у свабодзе абсалютную адсутнасць якіх-небудзь межаў, свядома ці не, але прыраўноўваюць чалавечую свабоду да свабоды звярынай.

Але ж у рэчаіснасці свабода, да якой так імкнуцца «свабодалюбівыя» душы дзеля задавальнення сваіх цёмных жарсцяў, — гэта не што іншае, як жывёльны лад жыцця. І ў той жа час чалавек варты такой свабоды, якая знішчае ўсе перашкоды, што не дазваляюць яму ўзняцца ў нябёсы чалавечнасці.

* * *

Пад свабодай мы можам разумець вызваленне розуму ад усіх перашкод, што замінаюць яго духоўнаму і матэрыяльнаму развіццю, але з умовай прытрымлівання ўсіх маральных норм.

* * *

Прымальная толькі тая свабода, якая цывілізаваная. А цывілізаванай з'яўляецца тая свабода, якая звязаная алмазнымі ланцугамі веры і маральнасці і падпяразаная залатымі рамянямі праведнай думкі.

* * *

Свабода, якая не лічыцца з духоўнай думкай і рэлігійным пачуццём, не паважае маральнасць і сама не здольная выгадаваць у чалавеку высакародныя якасці, падобная да эпідэміі, якой пазбягае любы народ. Грамадства, што змірылася з гэтай хваробай, не толькі рана ці позна пазбавіцца спакою, але і непазбежна застанецца ў поўнай адзіноце.

## Жанчына

* * *

Калі размова заходзіць аб выхаванні і навучанні дзяцей, падтрыманні парадку, гармоніі і супакою ў сям'і, то першы настаўнік і выхавацель чалавека — гэта жанчына. У наш час, калі многія спрабуюць знайсці для жанчыны новае месца ў грамадстве, напамін аб яе праўдзівай і выключнай місіі, падараванай ёй звыш, дапамог бы спыніць гэтыя бессэнсоўныя пошукі.

* * *

Дом, які насяляе цнатлівая, выхаваная і адданая сваёй сям'і жанчына — гэта адзін з райскіх куткоў горняга свету. І атмасфера, якая напаўняе гэты дом, нічым не адрозніваецца ад той, у якой жывуць казачна цудоўныя і чыстыя насельнікі раю, а гукі — такія ж улагоджана чыстыя і цудоўныя, як цурчанне райскіх крыніц.

* * *

Калі бачыш жанчыну, раздушаную сваёй знешняй прыгажосцю, то міжволі думаеш аб тым, ці шануе яна ў такой жа ступені сваю ўнутраную прыга-

жосць, ці ставіцца з такім жа трапятаннем да сваёй унутранай чысціні, сваёй годнасці і высакароднасці.

* * *

Тое, што ўзвышае жанчыну, узнімаючы яе над анёламі і ператварае ў дыямент, які не мае сабе роўных ні па чысціні, ні па агранцы, — гэта яе ўнутраная глыбіня, цнота і годнасць. Жанчына, цнатлівасць якой стала прадметам плётак, падобная да фальшывай манеты, а тая, што страціла годнасць — усяго толькі лялька. І ў смертаносным асяроддзі такіх жанчын не можа быць і гаворкі аб здаровай сям'і ці аб высакародных і здаровых нашчадках.

* * *

Жанчына, душа якой стала відушчай і набыла ўнутраную высакароднасць, у сваім доме падобная да раскошнай крыштальнай люстры. Варта жанчыне з'явіцца ў доме — і ён напоўніцца чароўнай гульнёй святла. Што ж датычыцца няшчаснай істоты, якая аддалася бязлітасным кіпцюрам сваёй унутранай цемры, то яна толькі знешне нагадвае жанчыну, і дзе б яна ні з'явілася, там будуць распаўсюджвацца цемра і смуга, здольныя запаланіць любую душу.

* * *

Грамадскае выхаванне — вось тая «кніга», якую жанчына ніколі не павінна выпускаць з рук. І наўрад ці можна сцвярджаць, што гэтая кніга ўжо напісаная.

* * *

Выказванні, што «ў жанчыны розум кароткі», адрасаваныя тым, якія паддаліся свайму цялеснаму запалу, здаюцца нават занадта добрацярпімымі. Думаецца, што калі б прамоўцы падобных слоў убачылі, як у сучасным свеце жанчына ператвораная ў сродак рэкламы, яны б, напэўна, не знайшлі што сказаць.

* * *

Нямала ў гісторыі чалавецтва было перыядаў, калі жанчына ператваралася ў тавар, цацку або сродак рэкламы. Але, на шчасце, за кожным з гэтых цёмных перыядаў надыходзіў новы, калі жанчына ізноў адраджалася з попелу і знаходзіла сябе.

* * *

Нашы продкі замест слова «сын» ужывалі слова «махмуд», а замест слова «дачка» — слова «карыма». І ўжо адно гэта гаворыць аб тым, як яны шанавалі сваіх дзяцей, называючы іх «зрэнкай вока», такой жа важнай, наколькі каштоўнай, і такой жа каштоўнай, наколькі далікатнай і тонкай.

* * *

«Глядзі, не запэцкайся» — раім мы часам адзін аднаму. Але ці разумеем мы, колькі клопату і аховы патрабуе далікатная і ранімая істота — жанчына?

* * *

Самым выдатным упрыгожваннем жанчыны з’яўляецца яе чысціня і цнота, а якасцю, больш за ўсё вартай захаплення — яе маральная сталасць і вернасць свайму мужу.

* * *

Добрая тая жанчына, з вуснаў якой струменіць мудрасць, дух перапоўнены вытанчанасцю, а паводзіны выклікаюць ва ўсіх пашану і павагу. Спрактыкаванае вока не можа не заўважыць гэтыя яе адметнасці, а ледзь зазначыўшы іх, яно адразу паверне былыя заганныя пачуцці ў дабрадатныя і праведныя разважанні.

* * *

Жанчына, якая не здолела ўсталяваць гармонію паміж сваім фізічным і духоўным развіццём і не дала заквітнець праведнай завязі свайго духу, хоць і будзе некаторы час падобная да свежай і духмянай ружы, аднак пялёсткі яе непазбежна пажоўкнуць і ападуць, апынуўшыся пад нагамі тых самых людзей, якія яшчэ зусім нядаўна захапляліся ёю.

* * *

Жанчына — гэта сапраўдная і вельмі высокая каштоўнасць, каб дазволіць сабе падмануць яе і змяшаць з брудам. І мы яшчэ не страцілі надзею на тое, што шчаслівыя пакаленні будучыні, якія ўгледзелі ісціну і здабылі веды і мудрасць, будуць берагчы яе як зрэнку вока.

* * *

Наша жанчына — гэта самы трывалы і краевугольны камень нацыянальнай годнасці і высакароднасці. Яе роля ва ўзвядзенні цудоўнага будынка нашай шматвекавой і слаўнай мінуўшчыны такая ж вялікая, як роля нашых легендарных герояў.

* * *

Большасць тых, хто ўзяў на сябе місію «апосталаў» — абаронцаў правоў і свабод жанчын, толькі тым і займаюцца, што распальваюць іх целы і ўтыкаюць нажы ў іх душы.

* * *

Дзякуючы сваім годным спадчыннікам, дом жанчыны, якая набыла духоўную сталасць, прыпадобніцца да нязгаслага кадзіла, якое нястомна будзе распаўсюджваць вакол сябе лепшыя і найчысцейшыя водары, здольныя вылечыць нават безнадзейна хворыя душы. І менавіта такое незямное чароўнае месца, у якім пануе падобная атмасфера, з’яўляецца часцінкай таго самага раю, дасканаласць і ўзнёсласць якога не паддаюцца ніякаму апісанню.

* * *

Жанчына, якая нарадзіла ў сэрцы сваім святло веры, а ў розуме — святло ведаў і грамадскага выхавання, кожны дзень, нібы зноўку ўзводзячы сцены свайго дома, будзе адкрываць у ім усё новыя і новыя вымярэнні прыгажосці і дасканаласці. А што датычыцца тых, хто пусціўся ў страшныя скокі распушчанасці і не ведае аб сабе, то яны не толькі не здольныя ўзвесці дом, у якім пануе чысціня і праведнасць, але любы такі дом могуць разбурыць і напоўніць магільнай цемрай і безнадзейнасцю.

* * *

Практычна кожная прапанова, з якой аж да нашых дзён выступалі феміністы, толькі яшчэ больш зневажала жанчыну і яшчэ больш дэфармавала яе прыроду. Але ж жанчына з’яўляецца адным з найважнейшых звёнаў у ланцугу быцця, і яе галоўная якасць у тым і заключаецца, каб умець захаваць сваю прыроду і паважаць яе рамкі.

* * *

Жанчына — істота выключна тонкая і далікатная. Таму яна можа захаваць гэтыя свае якасці толькі ў такіх умовах, якія ўлічваюць яе вытанчаную прыроду. І толькі ў гэтым выпадку яна можа прынесці карысць свайму дому, а значыць, і грамадству.

***Пераклад Рагнеда Малахоўскага.***

Таццяна МАЦЮХІНА

# ПАЭТЫКА КОЛЕРУ І ГУКУ Ў ЛІРЫЦЫ УЛАДЗІМІРА ДУБОЎКІ

Палымяна-ўзвышаная лірыка Уладзіміра Дубоўкі выклікае глыбокую цікавасць у чытачоў па розных прычынах. Па-першае, гэта мілагучнасць, напеўнасць вершаванай спадчыны беларускага песняра. Па-другое, яснасць і дакладнасць у калейдаскопе мастацкіх сродкаў новаствораных вобразаў. І, па-трэцяе, сам геній У. Дубоўкі. Так, Язэп Пушча ў свой час па-мастацку дасканала ахарактарызаваў лірыку У. Дубоўкі. «Творы Дубоўкі, — сцвярджаў ён [Я. Пушча. — **Т. М.**], — гэта ўзвышша сучаснага беларускага мастацкага слова і паэзіі» [4, с. 231]. Відавочна, з гэтай прычыны пранікнёна-спавядальная лірыка паэта ўражвае нас паэтыкай колеру і гуку і сёння.

Паэзія У. Дубоўкі, як вядома, пазначана прыкметамі лірызму і вобразнай асацыятыўнасці, спавядальнасці і гукавой выразнасці. У той жа час імпрэсіі У. Дубоўкі адметныя глыбокім аналітычным зместам, псіхалагізмам пры стварэнні вобразаў. «У лепшых сваіх узорах яна [лірыка У. Дубоўкі. — **Т. М.**] вызначылася філасофскай заглыбленасцю, моцнай асацыятыўнасцю і той вобразнай размашыстасцю, якая і сёння ўражвае <… >» [4, с. 232].

Спавядальная манера пісьма паэта-імпрэсіяніста вынікае з назіральнасці аўтара пры сузіранні змен у наваколлі і з рацыяналізму ягонага мыслення. А гук і колер якраз і фарміруюць грунт для стварэння новых, па-мастацку дасканалых вобразаў («песні чыстага мажору», «міноры песень» — у імпрэсіі «Песня, ўшчунь!»; «сіне-ліловы туман», «пурпуровая раса» — у імпрэсіі «Ці знайду...»).

Узоры асананснай і алітэрацыйнай рыфмы даюць магчымасць разглядаць імпрэсіі У. Дубоўкі ў кантэксце гукавых вобразаў. «А яшчэ ж трэба згадаць уласцівае маладому Дубоўку выдатнае майстэрства гукавой інструментоўкі, рытмічную гнуткасць яго паэтычнага радка, высокую культуру рыфмы, а таксама віртуознае валоданне іншымі так званымі фармальнымі элементамі верша <...>» [4, с. 232]. Так, у фальклярызаванай імпрэсіі-песні «Васількі збіралі, васількі…» відавочны паўтор гукаспалучэння «ша», дзякуючы якому ствараецца яркае ўражанне пра шалясценне-спевы кветак: *На пяску пялёсткі ад жыцця // **ша**стаюць, **ша**почуць, **ша**лясцяць…* [5, с. 152]. Да таго ж аўтар перадае свае ўяўленні аб шэпце васількоў пры дапамозе пэўнага гукавога раду: *[ск — ст — ц’ — ст — с’ц’]*. Васількі, сабраныя ў вянок, — сімвал паўнаты, цэласнасці ў кругазвароце жыцця. Аўтар ужывае слова «пялёсткі» ў прамым і пераносным значэннях (вяночак з пялёсткаў васількоў, што засох — у прамым значэнні; «пялёсткі ад жыцця», якія шалясцяць — у пераносным значэнні). Зразумела, што «слова *пялёсткі* ў творах Дубоўкі набыло значэнне сімвала і абазначае хуткаплыннасць, мінучасць людскога жыцця <...>» [7, с. 183].

У артыкуле самога У. Дубоўкі («Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасьці нашае мовы») пазначаны «асабліва музычныя гукі (падвойныя мяккія зычныя, а такжа д’з’; ц’; л’; н’ і г. д.), якія, спатыкаючыся ў вялікай колькасці, надзвычайна ўзбагачаюць гукавую композыцыю» [6, с. 79]. Дадзены факт у поўнай ступені адпавядае стану літаратурнай мовы на пачатку ХХ стагоддзя, прыкладам чаго могуць служыць многія імпрэсіяністычныя замалёўкі аўтара названага артыкула, сярод якіх вылучаецца імпрэсія «На родных прасторах»:

*Ці*шы*ня*… *ці*шы*ня*… *ці*шы*ня*…
Быццам сон з гэтай сцюжай сябруе.
Капыты толькі ў звеях зві*ня*ць,
шарах*ці*ць над аглоблямі збруя [5, с. 162].

Асабліва прыкметныя тут гукаспалучэнні *[ц’і]* і *[н’а] (*у словах ***ці**шыня, шарах**ці**ць* — у першым выпадку; *цішы**ня**, зві**ня**ць* — у другім выпадку*)* паўтараюцца ў словах, антытэтычных па змесце, з мэтаю перадаць сцішаны няўлоўны звон-«ціньканне» капытоў па снезе і шоргат збруі. Разгляд гукаў у цэлай страфе ці вершы абумоўлены тым, што «раскрыць сэнс гука можна толькі ў кантэксце ўсяго твора, а не асобна ўзятага слова» [1, с. 122].

У. Дубоўка выяўляе мілагучнасць беларускай мовы і пры ўжыванні строга кадыфікаваных формаў разнастайных часцін мовы (у першую чаргу дзеяслова, прыметніка), і пры афармленні на пісьме народна-гутарковых выразаў: *Не забудзься, зоранька, ясная мая, // **на адну-адзіную** выткаць **на кашулю*** <...> [5, с. 84]. Паэт сцвярджае ідэю напеўнасці і гнуткасці беларускага слова: «…прыстаўныя галосныя, прыдыханьні, падвойныя формы некаторых склонавых канчаткаў (напр., канчаткі прыметнікаў роднага склону, жаночага роду ў адзіночным ліку — «ае», «ай»…) зьяўляюцца ў народнай мове не выпадкова, а дзеля мэты ўхіленьня нямілагучных гуказлучэньняў» [6, с. 80]. У. Дубоўка раскрывае хараство асенняга пейзажу ў багацці красак і водары лесу пры ўжыванні аднаго з названых вышэй правіл аб канчатках прыметнікаў («ае», «ай»): *Павевы невыказнае асенняй пекнаты // прынеслі радасць з непакоем, // у адцвітанні маладое* [5, с. 171].

Паэт звяртаецца і да карнявых сугуччаў, каб перадаць маляўнічасць беларускіх краявідаў («**берагі бераж**ыстыя» — у імпрэсіі «Залатая, асенняя раніца…»). Каб раскрыць значэнне дынамічных, зменлівых карцін у імпрэсіяністычнай замалёўцы, што змяняюць адна другую, аўтар выкарыстоўвае сінанімічныя пары дзеясловаў: ***Шуміць** шыгаллём і лістамі // адвечная пушча, **не моўкне**, // адны шапацець перасталі, // другія ўзрастаюць на ўзгорках* [5, с. 156].

У імпрэсіяністычных замалёўках У. Дубоўка выкарыстоўвае разнастайныя асацыяцыі, якія вылучаюцца пры кампаратыўным аналізе з’яў жыцця і прыроды («журавінамі плача восень» у імпрэсіі «Трыпціх»; «пальцы жоўтых кляновых лістоў» у імпрэсіі з такой жа назвай; «залатымі лёсткамі зазванілі ключыкі» ў імпрэсіі «Залатымі лёсткамі…»). «Параўнанне — тыповы прыём характарыстыкі прадмета ці з’явы <...>. У аснове параўнання ляжыць супастаўленне прадметаў, з’яў з іншымі прадметамі, з’явамі дзеля дасягнення большай яркасці адлюстравання іх, большай нагляднасці ўяўлення, што ўзнікае ў чытача» [3, с. 302]. Паэт канкрэтызуе час і месца дзеяння ў лірычных замалёўках і ўдакладняе характар гэтага дзеяння: *Вялізманая кветка дыядэмай // цвіце **у росах, радасці і суме**. // Адзін… другі… І так — як след за следам // **гады і дні злятаюць** і **красуюць*** [5, с. 99]. У. Дубоўка акцэнтуе ўвагу на дэталях твора, і таму ў чытача з’яўляецца магчымасць у думках самастойна дабудоўваць фрагментарна-незавершаны малюнак: ***Ягад зімных вяночкі з рабін** // пунсавеюць на фоне срабрыстым. // Ці сумысля іх тут хто завіў, // ці рассыпала восень маністы?* [5, с. 162].

Для У. Дубоўкі ў найвышэйшай ступені характэрнае выкарыстанне часціц («няхай», «дык», «ну», «ж» — у вершы «Пацеркі»; «толькі» — у вершы «Ноч наплакалі бярозы…»; «ой», «хай» — у вершы «Трыпціх»), дзякуючы якім словы-вобразы набываюць канатацыйную афарбоўку: ***Ну чаму ж** не пяяць кажаш мне, // Калі **песні ліюцца крыніцай?** // Калі ветразь мой вір страсяне, — // **Дык чаму ж** не пяяць тады мне?* [5, с. 14]. Да таго ж рытарычнае пытанне *(«Дык чаму ж не пяяць тады мне?*» — у імпрэсіі «Пацеркі») нават пры наяўнасці адмоўнай часціцы *не,* набывае станоўчае значэнне.

Рытарычны зваротак як адна з найбольш важных рытарычных фігур таксама ўваходзіць у мастацкую сістэму паэтычных сродкаў У. Дубоўкі (імпрэсіі «Сінявокая

мая…», «На родных прасторах»). Паэт пашырае гарызонты свайго кругагляду дзякуючы такім паняццям, як «смутны вечар», «вялізманыя кросны з туманаў», «квет кунежная патоля» («Над ставам ходзіць…»). Аўтар замалёвак звяртаецца да паўтору асабовага займенніка (займеннік «табе» — у імпрэсіі «Над ставам ходзіць…»; займеннік «я» — у імпрэсіі «Я на ўзгорак выходжу круты…»), назоўніка (назоўнік «занізь» — у імпрэсіі «Часам успомнішся нечакана…»), дзеяслова загаднага ладу (форма дзеяслова «іграй, іграй» — у імпрэсіі «Паляжам мы»), дзеяслова абвеснага ладу (дзеяслоў 3-й асобы адзіночнага ліку «не парушаць» — у імпрэсіі «Пальцы жоўтых кляновых лістоў…»), часціцы (часціца «хай» — у імпрэсіі «Трыпціх»).

Высокую частотнасць ужывальнасці ў У. Дубоўкі маюць і злучнікі, якія ўтвараюць сінтаксічную з'яву — полісіндэнтан (імпрэсіі «Палыны пасівелі на ўзгорку», «Ці снег, ці завея…», «Мінае дзень...»; мелодыі з «Плачу навальніцы»). Устойлівыя, традыцыйныя выразы («песні-чараўніцы», «вятры-зладзеі» з народнай легенды «Дзяўчына»; «сум-жуда» — у імпрэсіі «Сцежка», «сцежкі-дарожкі», «мох-трава» — у імпрэсіі «Кляновыя лісты») надаюць мастацкім творам фальклорна-песенны характар. У замалёўках сустракаюцца і таўталагічныя выслоўі («пясочкі-пяскі» — з народнай легенды «Дзяўчына»; «гадочкі-гады» ў імпрэсіі «Кляновыя лісты»). Меладычнасць замалёўкам У. Дубоўкі надае анафарычны паўтор слоў і выразаў («І было ўвосень» — у імпрэсіі «Апошняя песня»).

У большасці імпрэсій У. Дубоўкі пераважае мінорны настрой («Песня, ўшчунь!», «Апошняя песня», «Ці знайду», «Трыпціх», «Завіліся струны»), але сярод іх калі-нікалі сустракаюцца і элегічныя замалёўкі мажорнай скіраванасці («Ці снег, ці завея…», «Над ставам ходзіць…»). Музыка ва ўспрыманні рэчаіснасці гучыць у спевах драча і плачы кнігаўкі (імпрэсія «Балаты разлягліся абапал ракі»), у шолаху галінкі (імпрэсія «Спагадае хто бяздольнай»), у спевах крыніцы (імпрэсія «Акорды, акорды…»).

«У. Дубоўка больш за ўсе поры года любіў восень, калі «верас ля лесу асыпаў красу і папараць адзелянела», калі «гарэла каліна ў сцюдзёным агні» [2, с. 310]. Паэт перадае запаволенасць, мяккасць хады восені дзякуючы прыслоўям спосабу дзеяння: ***І ціхазвонна*** *і* ***паволі*** *восень // лісцё наземіць, сцеле ў даліны. // Хвіліну вецер іх цярушыць, носіць, // пакуль зямлі на грудзі не ускіне* [5, с. 94]. Аўтар імпрэсій пазначае восеньскія пейзажы нотай ціхага суму, выразнай узнёсласці. Менавіта з восенню У. Дубоўка звязвае свае надзеі на лепшае (імпрэсіі «Залатая, асенняя раніца…» «Трыпціх»; нізка вершаў «Крыху восені і жменька кляновых лістоў»).

Некаторыя замалёўкі У. Дубоўкі маюць яскравую кальцавую кампазіцыю ці элементы яе структуры (імпрэсія «Залатая, асенняя раніца…», імпрэсія «Палыны пасівелі на ўзгорку»; мелодыя «У снежных далінах, далінах бяскрайніх…»). Паўтор як сінтаксічная з'ява ўжываецца ў лірыцы У. Дубоўкі найчасцей з мэтаю запаволіць тэмп выказвання, перадаць ноту тугі ці радасці, шчасця ці трывогі: ***Акорды, акорды****… Ў крыніцах мелодый // гавораць прасторы, вякі, і народы. // Палын межадольны, а такжа і слодыч // у вашых павевах,* ***акорды, акорды****…*[5, с. 102].

У творчасці У. Дубоўкі сустракаецца і інверсія (імпрэсіі «Вохкія сцежкі», «Не жальбую пра мінулы час я…», «Ноч наплакалі бярозы…», «Залатымі лёсткамі…»), мэта якой — паказаць дзеянне як пэўны працэс або стан: *Залатымі лёсткамі //* ***зазванілі ключыкі:*** *// кволыя жалейкі // з лютнямі іграюць* [5, с. 148]. Аўтар імпрэсій перадае недагаворанасць або шматзначнасць гэтага дзеяння ці фіксуе прадмет, з'явы прыроды пры наяўнасці недасказа ў паяднанасці з эліпсісам. І тут ужо на першае месца выходзіць не характарыстыка каляровай палітры ў яе шматколернасці, а дзеючая асоба (адухоўлены прадмет, рэч, з'ява прыроды і інш.): ***Ідзе яна*** *[восень. —* **Т. М.***]… Туга тузе… //* ***Ідзе яна****… Узрочыста…*[5, с. 161].

У. Дубоўка актуалізуе віталістычныя тэндэнцыі ў імпрэсіях («Ці снег, ці завея…», «Над ставам ходзіць…», «Не жальбую, тых дзянькоў я не шкадую…») і перадае імкненне радавацца красе прыроды. «Лясы і сады, палі і кветкі (як садовыя, так і прыродныя (яшчэ — краскі) заўсёды змяшчаюць у сабе генетыч-

ную памяць народа, сэнс і знакі яго нацыянальнай культуры і з'яўляюцца для паэта школай разумення і пранікнення ў прыроду» [2, с. 310]. Аўтар імпрэсій выкарыстоўвае незвычайныя вобразы-асацыяцыі, у аснове якіх — адухаўленне ды абагаўленне расліннага свету: *У вочах узрочных // **фіялкі з расой**. // Нашто ўкарочваць // спатканні з красой* [5, с. 144].

Паэт прыгадвае ў замалёўках і дрэвы (бярозы — у імпрэсіі «Ноч наплакалі бярозы…»; дубцы і ліпу — у імпрэсіі «Над ставам дым, бы дым з балеі…»; вольху — у імпрэсіі «Над ставам ходзіць…»). Вялікае значэнне ў творчасці У. Дубоўкі надаецца клёну, які сімвалізуе моц, сілу, непахіснасць чалавечага духу і ў пэўнай ступені прадвызначанасць лёсу: *Клён у вокны забразгатаў, // адгукнулася каняю рэха* [5, с. 104]. Спрадвеку лічылася, што гэтае дрэва адганяе злых духаў, таму на кляновым лісці закалыхвалі дзяцей, а сам клён надзяляўся гаючымі якасцямі. «Клён як харошае, святое, справядлівае дрэва ў фальклорных творах надзяляецца пазітыўным значэннем, медыятыўнай, апатрапейнай, жыццядайнай семантыкай <…>» [8, с. 125].

Паэтызацыя лістоты клёну грунтуецца на эпітэце («пальцы жоўтых кляновых лістоў», «лісты залатыя» — у імпрэсіі «Пальцы жоўтых кляновых лістоў…»). Часам паэт толькі ўказвае, а не называе з'яву прыроды, — што падаецца апасродкавана, — і не выяўляе канкрэтнага адрасата: *Прытулі, прыхіні на апошняе // і згадай гэты **дзень залаты**, // што над пушчай, згалелымі пожнямі // рассыпаў **залатыя лісты*** [5, с. 25].

Паэт яднае ў мастацкіх вобразах слыхавыя і дотыкавыя («шурпавата-звычайныя словы» — у імпрэсіі «Ці знайду…»;), зрокавыя і дотыкавыя («дождж сцюдзёны» — у імпрэсіі «Хай звоняць шклянкамі…»; «воўна блакітная» — у імпрэсіі «Пальцы жоўтых кляновых лістоў…») асацыяцыі. «Няцяжка заўважыць прыхільнасць паэта да слоў, якія абазначаюць колеры: *кармазынавы, кармазынавасць, пазлацісты, пурпуровы, ружовы, ільсніцца, ірдзеніць* і інш.» [7, с. 183]. Аўтар звяртаецца да залацістага і срэбранага колераў пры фіксацыі з'яў прыроды (імпрэсіі «На родных прасторах», «Залатымі лёсткамі…»). Улюбёнымі колерамі У. Дубоўкі з'яўляюцца пурпуровы і кармазынавы («пурпуровасць каліны, пунсовасць», «кармазынавасць дзікіх малін» — у мелодыі «Неба сіняе, сіняе вельмі…»), якія сімвалічна звязваюцца ў паэта з надыходзячай радасцю пасля пакут. А ліловы колер — свайго роду прыкмета страты, крыўды: ***Галасіце лілова**, цымбалы, // разлятайцеся з гукамі, думкі* [5, с. 131].

Асаблівая ўвага надаецца паўтонам пры згадцы аб мінулым: *Часам успомнішся нечакана, // знічкай ля воч тады мільганеш. // Занізь **пурпурна-ліловых** караляў, // занізь перлаў на морскім дне…* [5, с. 105]. Нярэдка аўтар супрацьпастаўляе чыстыя цёплыя і халодныя фарбы (блакітны і шэры колеры як супрацьлеглыя па сваім змесце, антытэтычныя — у мелодыі «На блакіце — ды шэрыя плямы…»). У многіх замалёўках У. Дубоўка выкарыстоўвае аднатыпныя словы і канструкцыі, ці ампліфікацыю, з мэтаю ўздзеяння на чытача ў аўдыяльным плане: *Рассыпаў [залатыя лісты. —* **Т. М.***] і раскідваў прыгоршчамі // **на акрасу, на жаль, на ўспамін**. // Развітальная хваля найгоршая, // яна можа і сэрца спаліць* [5, с. 25].

Аўтар замалёвак пазначае хуткаплыннасць часу акцэнтацыяй увагі на дапасаваным азначэнні ў постпазіцыі і параўнальнай канструкцыі: *Час брыльянцісты, залацісты // Імчыцца ў даль, як дзікі конь* <...> [5, с. 14]. А вось разгорнутае параўнанне ў імпрэсіях набывае ўдакладняльную функцыю: *Тугой спавіта вышыня, // **Істужкамі ліюцца слёзы…*** [5, с. 14].

У. Дубоўка нярэдка прадстаўляе ў замалёўках «частку і цэлае» ў сукупнасці вобразаў: ***Лясы і бярозы** ніцыя // туманамі набраклі вохкімі.* [5, с. 73]. Аўтар імпрэсій адухаўляе сонца («Залатая, асенняя раніца…»), лістоту («Мітусіцца лістота мяцеліцай…»), вечар («Над ставам ходзіць…»), вецер («Захапіла навальніцаю…»), пушчу («Завіліся струны»). Паэт ужывае паўтор прэдыкатыўнай часткі сказа і градацыю адначасова, каб выявіць эмацыянальнае ўзрушэнне лірычнага героя і лад яго мыслення: *…**Яна прыйдзе** вольным гоманам сасонкі, // **Яна прый-***

***дзе**, бы вяночак дзіўных мар. // **Загарацца, разжурацца, запалаюць** // Мае думкі, думкі-кветанькі мае* [5, с. 16].

«Вершам У. Дубоўкі ўласціва выразная лірычная сканцэнтраванасць і вытанчанасць вобразаў, яго творы будуюцца на нацыянальнай культуры, на выкарыстанні вобразаў роднай прыроды» [2, с. 309]. У. Дубоўка стварае замалёўкі згодна з імпрэсіяністычнымі традыцыямі і павевамі свайго часу. Увага на суб'ектыўна-лірычным пачатку, імкненне да дэталізацыі малюнка, паглыблення псіхалагізму — асноўныя прыкметы творчасці паэта. Меладычнасць, напеўнасць радка дасягаецца ў выніку выкарыстання моўных канструкцый, якія ўдакладняюць каляровую карціну. Таму малюнак становіцца больш сэнсава-выразным. А маляўнічасць імпрэсіі выяўляе шматграннасць у перадачы колераў.

**Літаратура:**

1. Аляшкевіч, Т. Гук і сэнс у паэтычным космасе Алеся Разанава / Т. Аляшкевіч // Полымя. — 2010. — № 2. — С. 122—129.

2. Басава, Г. І. Сімволіка расліннага свету паэзіі Уладзіміра Дубоўкі / Г. І. Басава // Да 100-годдзя Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Кузьмы Чорнага: Зборнік навуковых артыкулаў / Рэдкал.: А. І. Бельскі, В. А. Максімовіч, П. І. Навуменка, А. А. Пашкевіч і інш.; Пад агульнай рэд. Л. Дз. Сіньковай. — Мн.: БДУ, 2001. — С. 308—313.

3. Бадзевіч, З. І. Параўнальныя звароты ў творах Кузьмы Чорнага / З. І. Бадзевіч // Да 100-годдзя Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Кузьмы Чорнага: Зборнік навуковых артыкулаў / Рэдкал.: А. І. Бельскі, В. А. Максімовіч, П. І. Навуменка, А. А. Пашкевіч і інш.; Пад агульнай рэд. Л. Дз. Сіньковай. — Мн. : БДУ, 2001. — С. 302—308.

4. Бугаёў, Дз. Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны. — Мн.: Маст. літ., 2001. — 327 с. іл.

5. Дубоўка, У. О Беларусь, мая шыпшына…: выбр. / У. Дубоўка; уклад. Д. М. Давідоўскага, З. К. Пазняк (У. Шэкспір. Санеты). — Мінск: Маст. літ., 2002. — 318 с.

6. Дубоўка, У. Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасьці нашае мовы / У. Дубоўка // Спадчына. — 1992. — № 5. — С. 79—83.

7. Каўрус, А. А. Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч / А. А. Каўрус // Беларуская мова: Энцыкл. / Беларус. энцыкл.; Пад рэд. А. Я. Міхневіча; Рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш. — Мн.: БелЭН, 1994. — С. 182—185.

8. Швед, І. А. Вобразы мужчынскіх дрэў у фальклорнай мадэлі беларусаў / І. А. Швед // Гендер и проблемы коммуникативного поведения: Сборник материалов Третьей международной научной конференции. — Полоцк: ПГУ, 2007. — С. 124—126.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 5 ліпеня 2010 г.

Таццяна Мацюхіна
«Паэтыка колеру і гуку ў лірыцы Уладзіміра Дубоўкі»

**Рэзюмэ**

Артыкул прысвечаны аналізу сродкаў мастацкай выразнасці ў лірыцы Уладзіміра Дубоўкі. Аўтарам артыкула акцэнтуецца ўвага на прыёмах стварэння вобразаў у імпрэсіях. Вядучае месца ў замалёўках займае жывапісны каларыт і гукапіс.

Tatsiana Matsiukhina
«The Poetics of color and sound in the poetry of Vladimir Dubovka»

**The Summary**

The article analyzes the means of artistic expression in the poetry of Vladimir Dubovka. The author of the article focuses on methods of creating images in the impression. The leading role in sketches and takes pictures coloring sound texture.

**Вісарыён КРЫСЬКО**

# ВАСІЛЬ ВІТКА

***Абразкі-ўспаміны пра бацьку, яго родных і сяброў***

*Маім любым Галы і Цімашку, без якіх я б не змог жыць*

## Замест прадмовы

Пішу аб людзях, якіх я ведаў і любіў з дзяцінства і якіх буду помніць заўсёды. З майго погляду, я ведаю пра іх сёе-тое больш, чым іншыя, і пішу, каб іх ведалі, любілі і памяталі — яны варты гэтага.

Я шчыра прашу прабачэння ў тых, жывых і мёртвых, якіх я бачыў, гаварыў з імі, але не змог, па розных прычынах, напісаць пра іх.

## Маё радаслоўе

Я з гонарам магу лічыць сябе інтэлігентам у пятым пакаленні, праўда... неафіцыйна. Бацька не хлусіў, калі пісаў у сваіх «Тытулах», што першым:

Пачаў мой прадзед рыжы
І ледзьве-ледзьве ў воласці
Накрэмзаў першы крыжык,
А з таго дня ён «пісарам»
Вярнуўся ўжо дадому...

І ад яго мянушкі пачаліся прозвішчы нашых родзічаў — «Пісаравы», «Пісарчукі», як вясковыя, так і сапраўдныя.

А дзед, што «ліха-матары»
Казаў за кожным словам,
Папаў у «губернатары»,
Бо лаяў адмыслова...

Мой дзед, Васіль Максімавіч, быў як не першым вясковым грамацеем — «некалі аж тры зімы хадзіў у воласць, у школу», збіраў і выменьваў кнігі, дзе мог. Кожны вечар чытаў уголас для сям'і, сяброў, суседзяў многа год запар, амаль усё жыццё, чытаў па-майстэрску, артыстычна. Цімашок, «стуліўшыся на палку пад старым кажухом», слухаў беларускую, рускую і польскую класіку: «Маю ж асаблівую пашану да бацькі выклікала тое, што ў нашай хаце, колькі я памятаю, ніколі не зводзіліся кнігі... І калі выдаралася вольная часіна, у хаце... усю ноч міргала газоўка. Пры яе сляпым святле бацька чытаў уголас. Ахвотнікі паслухаць знаходзіліся. Часта да позніх пеўняў вокам не мог звесці і я, хоць бацька думаў, што я сплю... » («Паверка»).

Дзед азнаёміў з вялікай культурай мноства людзей, і калі пачалі ўтварацца калгасы, гэтыя людзі абралі яго старшынёй сельсавета за мудрасць і адукаванасць.

Мой дзядуля ўмеў усё: «падбіваў і латаў просты і грубы абутак... Рабіў ткацкія варштаты. Змайстраваў такарны станок і выточваў верацёны. Ну, а пра шавецтва і гаварыць не даводзілася... Ён шыў не адны ялавыя, а і самыя шчыгульныя хромавыя боты. І яшчэ адна спецыяльнасць была ў яго, патрэбная людзям: ён лячыў хворых. І хоць запас яго медыцынскіх ведаў абмяжоўваўся адной-адзінай кнігай, прынесенай з вайны, — «Пособие для военных фельдшеров», ён, як прызнавалі многія, ведаў, што да чаго, і нават мог лацінскімі літарамі выпісаць рэцэпт».

Мой дзед, беспартыйны старшыня сельсавета Васіль Максімавіч Крысько, быў закатаваны гестапаўцамі і іх памагатымі ў студзені 1943 года ў Слуцкай турме па недаказаным абвінавачанні ў сувязях з падполлем. Калі за вялікі хабар начальніку турмы мая бабка Марыя Міхайлаўна атрымала дазвол на пахаванне, яна адна, ноччу, везла нябожчыка дамоў і пела яго любімыя песні. У хаце дзеда абмылі і палажылі на лаву. Яго рукі былі чорныя, замест усіх пальцаў былі скрываўленыя куксы.

Пахавалі дзеда на Еўліцкіх могілках. Праз некалькі год бацька паставіў на магіле гранітны помнік з зоркай.

## Мая бабка Марыя Міхайлаўна

Маю рухавую бабку слухаліся ўсе беспярэчна: і нябожчык дзед Васіль Максімавіч, і іх дзеці, і дзеці іх дзяцей. У першыя галодныя пасляваенныя гады на галовы бабкі і цёткі Тасі — малодшай бацькавай сястры — штогод улетку звальваўся цэлы дзіцячы кагал. Бацька прывозіў мяне з Наталкай, цётка Тоня сваіх — Лёньку, Налечку, Ларыску і Толіка, у цёткі Тасі падрастаў Васілёк. І ўся гэтая гурма патрабавала ежы, усіх трэба было трымаць у дысцыпліне. Нездарма гаворыцца, што пасляваенных дзетак уратавалі бабулькі і козы.

Бабка ніколі не дакранулася да нас і пальцам, лаяла рэдка. Аднойчы, калі мы з Лёнькам зваліліся з дзядзькавага жарабца (дзядзька Міша быў ветэрынарам і меў уласных коней), бабка абазвала нас пашахонцамі і нячысцікамі.

У адрозненне ад свайго мужа, грамацея і бязбожніка, Марыя Міхайлаўна была глыбока веруючым чалавекам. У хаце заўсёды віселі іконы, адзначаліся рэлігійныя святы; усе іх дзеці былі ахрышчанымі — Васіль Максімавіч не пярэчыў.

Калі бабка наведвала нас у Мінску, яна часта хадзіла ў царкву. Аднойчы яна ўзяла мяне з сабой у царкву Святога Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках:

— Ты, нехрысць, стой у куточку і слухай, але не хрысціся.

Я палюбіў гэту царкву; у школьныя і студэнцкія гады заходзіў туды паслухаць хор.

За тры тыдні да смерці бабуля з сяброўкамі юнацтва хадзіла пешкі ў царкву амаль за дзесяць вёрст ад дому, а ёй было ўжо за восемдзесят.

Марыя Міхайлаўна любіла застоллі, пасля чарачкі віна пела песні, якіх ведала мноства — беларускіх, рускіх і ўкраінскіх, весела расказвала пацешныя гісторыі. Яна была знанай траўніцай, у сенцах віселі пучкі зёлкаў, а на Сёмуху ўся падлога ўсцілалася аерам. Пах аеру памятаю аж дагэтуль.

Бабуля заўсёды прывозіла нам вясковыя гасцінцы: дамашнія кілбасы, мой любімы сухі салёны сыр і гарбузікі.

Мама расказвала мне, як яны першы раз сустрэліся:

— У маі 37-га я была на шостым месяцы, пад вечар поркалася ў нашым гародзе. Да плота падышла пажылая маленькая жанчына, я яе ніколі не бачыла, але пазнала адразу.

— Гэта ты, Волька?

— Я, мама. Заходзьце, калі ласка.

— Цімох дома?

— Зараз прыйдзе, мама.

Яны ўвайшлі ў хату і з гэтага дня ўжо любілі і паважалі адна адну ўсё жыццё.

Бабка была вечнай працаўніцай, заўсёды нешта рабіла. За два дні да смерці яна павалілася на градзе, якую пачала палоць. Падбегшай дачцэ Тасі наказала, каб тая выклікала Тоню, Цімоха і Барыса. На другі дзень усе прыехалі ў Еўлічы. Пад вечар Марыя Міхайлаўна села з імі за стол і нават пажартавала, каб бацька наліў ёй няпоўную чарку, але не змагла яе прыгубіць. Ноччу яна ціха адышла. Жанчыны гэта прадчувалі і не спалі. Яе дочкі і мая мама закрылі бабулі вочы. Мужчыны прачнуліся ад незвычайнай цішыні ў хаце. Я не змог прыехаць на пахаванне: працаваў на Далёкім Усходзе і даведаўся аб смерці Марыі Міхайлаўны толькі праз тыдзень.

Усё жыццё выконваю яе запавет:

— Калі ўваходзіш у хату, здымай шапку.

### Бацькава адукацыя. Бабруйск

Бацькава адукацыя пачалася ў кузні яго хроснага — кульгавага каваля Валадыма, памяць пра якога бацька ўшанаваў у «Гартаванні». Пасля заканчэння пачатковай школы, любімая настаўніца Таццяна Мікалаеўна адвяла здольнага вучня ў суседнюю вёску, дзе была сямігодка. Закончыўшы яе бацька паступіў у Слуцкую прафтэхнічную школу і атрымаў спецыяльнасць слесара. Ён пачаў працаваць на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце — буйнейшай новабудоўлі першай пяцігодкі, дзе трапіў у добрыя рукі другога «хроснага бацькі» — Міхася Ціханавіча Лынькова.

Не магу не працытаваць радкі з «Аповесці для сябе» Барыса Мікуліча — цудоўнага пісьменніка, які памёр маладым пасля шматгадовай ссылкі — аб творчай атмасферы таго часу:

«Неяк у Слуцку пазнаёміўся з Яўхімам Коханам і Цімохам Крысько, якіх ведаў да гэтага па вершах і па дастаткова інтэнсіўнай перапісцы... Абодвум ім «зайздросціў» у сэнсе ведаў жывой мовы. Яны ўжо тады пісалі таленавітыя вершы, былі нязвыкла калючымі (самастойнымі) для пачынаючых паэтаў. Крысько па натуры быў стрыманы і скрытны... больш слухаў і выпытваў. Кохан быў больш экспансіўны. Крысько браў хутчэй тонкасцю, Кохан — больш непасрэднасцю. Нават тады ў «стылізацыях», якія пісалі абодва, адчувалася своеасаблівая, прыхаваная тонкасць, якая і сведчыла, што з іх абодвух выйдуць паэты... Пазней, калі я паехаў з Бабруйска, Цімох Крысько пераехаў на працу ў «Камуніст» і жыў у маім пакоі...

Рэдакцыя «Камуніста», а мне — сямнаццаць гадоў. Лынькоў — збіральнік бабруйскіх літаратурных сіл, уважлівы «бацька». І сам ён тады пісаў многа, і многа ўдзяляў увагі літаратурнай моладзі. Вакол «Вясны» гуртавалася яна — Шынклер, Алесь Жаўрук, Яўхім Кохан, Цімох Крысько... Кабінет Лынькова быў нашым клубам... Шчаслівая пара! Без хмараў, без расчараванняў, толькі перспектывы, толькі імкненне наперад і — цёплае творчае сяброўства».

У Бабруйску, у гасцінным доме Барыса Мікуліча і яго сясцёр, жылі Яўхім Кохан, Сяргей Грахоўскі і мой бацька, насупраць, праз вуліцу, — Аляксей Зарыцкі. Вакол рэдакцыі «Камуніста» і яго штомесячнага літаратурнага дадатку «Вясна» групаваліся маладыя пачынаючыя паэты і празаікі: Хведар Бужан, Хвядос Шынклер, Рыгор Бахта, Мікола Лобан, Алёкса Жукоўскі, Алесь Жаўрук, Пімен Панчанка, Янка Казека, Рыгор Суніца, Апанас Атава, Мікола Аўрамчык. У нашым сямейным архіве захаваліся фотаздымкі многіх з іх, тады малавядомых і вельмі маладых.

### Мама

Мая маці вырасла ў мнагадзетнай сям’і беднага гомельскага шаўца. Працаваць пачала рана — падлеткам. Яе адразу захапіла мастацкая самадзейнасць, спачатку — у гуртку, потым — у «Сіняй блузе» і Гомельскім ТРАМе. У 1929 го-

дзе яна прыехала ў Мінск і яе прынялі на работу ў мінскі ТРАМ. Гэта быў тэатр, шырокавядомы ў Беларусі, якім кіравалі рэжысёры М. Зораў і Б. Дольскі (абодвух закатавалі фашысты ў Мінскім гета ў 1942 годзе). У тэатры мама блізка — на ўсё жыццё — пасябравала з Сарай Чарнушэвіч, Франяй (Фрукай) і Уладзімірам Стэльмахамі, Вікторыяй (Вікай) Брайчэўскай, Бірутай Дакальскай і Яўгеніяй Краўчанка. Гэтых людзей я ведаў і не раз з імі сустракаўся. Яны вучыліся ў тэатральным тэхнікуме ў Ленінградзе ў 1934 годзе, і мама прымала ўдзел у выпускным спектаклі прафесара В. Салаўёва «Тарцюф». Пазней, ужо ў Мінску, яна іграла ролю дамы Нюркі ў спектаклі па п'есе М. Пагодзіна «Арыстакраты», па п'есах Цірсо дэ Маліна і іншых.

Саюз пісьменнікаў БССР меў шэфства над ТРАМам і ў іх былі сумесныя вечары і канцэрты.

Бацьку яна спадабалася на канцэрце:

— На сцэну выбегла дзяўчына, ладная і прыгожая, і пачала бойка дэкламаваць Купалу і Маякоўскага.

І ў ТРАМе пачаліся цуды: спачатку пажаніліся Сара з Міколам Хведаровічам, потым Франя з Уладзімірам Стэльмахам, Воленька Лерман і Цімох Крысько і іншыя.

Я нарадзіўся 1 ліпеня 1937 года. Мама пакінула тэатр у 1939 годзе пасля нараджэння Наташы, і мы пераехалі ў Беласток, дзе нас захапіла вайна...

## Камедыя з п'есай

З Эдуардам Людвігавічам Самуйлёнкам бацька сябраваў у час сумеснай працы ў газеце «Літаратура і мастацтва». Э. Самуйлёнак быў ужо шырокавядомым пісьменнікам, ардэнаносцам, працаваў над п'есай «Пагібель воўка». Аднойчы ў сталоўцы, абмяркоўваючы ход дзеяння п'есы, яны гучна спрачаліся. З іх вуснаў зрываліся словы, якія ў той час нават ціха вымаўляць было небяспечна — «шпіён», «падпал», «забойца» і іншыя. У запале дыскусіі не звярнулі ўвагі на «мовазнаўцу ў цывільным», які, натапырыўшы вушы, сядзеў за суседнім столікам. Той падышоў, паказаў пасведчанне асобы і павёў літаратараў у «органы». Ён даставіў арыштантаў да нейкага чына са «шпаламі» ў пятліцах. Чын запытаў іх ласкава:

— Ну что, голуби, попались? О каких шпионах вы болтали?

У Самуйлёнка адняло мову, ён аслупянеў, як тая жонка біблейскага Лота. Бацька, з дрыготкай у голасе, пачаў:

— Позвольте объяснить, товарищ начальник. Это — известный белорусский писатель Эдуард Самуйлёнок. Он написал пьесу о разгроме банды на границе, которую собираются поставить в Государственном театре БССР. В столовой мы ее обсуждали. Мы оба являемся сотрудниками газеты «Літаратура і мастацтва».

Праверыўшы дакументы, чын зароў:

— А ну, вон отсюда, писаки! А ты, падла, кого ко мне привёл?

Ён размахнуўся і ўляпіў гучную аплявуху свайму пільнаму калегу. Нашы героі хуценька змыліся, не трацячы часу на развітанне.

Эдуард Людвігавіч памёр праз год, яму не споўнілася яшчэ і 32 гадоў.

## 1937 год і далей

Калі ў 37-м бацьку выключылі з камсамола і выгналі з рэдакцыі «за страту пільнасці і лібералізм», мне было каля трох месяцаў ад роду. Пачаўся горкі перыяд нашага жыцця: свайго жылля і ашчаднай кніжкі ў нас не было, на работу бацьку не бралі. Сяброў стала менш, але нас не пакінулі ў бядзе браты Лыньковы: Рыгор узяў на сваё імя спешную работу па перакладзе і перадаў бацьку, які пачаў

перакладаць творы Чэхава і, сумесна з Рыгорам, — паэму Маякоўскага «Добра!». Хоць бацьку аднавілі на рабоце праз дзевяць месяцаў, жыць было цяжка. Гаспадыня прыватнага доміка па вуліцы Розы Люксембург, якая здавала нам пакойчык, спалохалася і пагнала з кватэры «лішэнца» і яго сям'ю. Тады Міхась Ціханавіч дабіўся праз Літфонд, каб нас пасялілі ў флігельку вартаўніка пры Доме творчасці ў Пухавічах. У гэты час бацька захварэў — абвастрыўся сустаўны раматус, ён хадзіў з кіёчкам.

У лістападзе 1939 года бацьку прызвалі ў армію, ён служыў у Чырвоным Урочышчы пад Мінскам. Там, у час сваёй нядоўгай вайсковай кар'еры, і пазнаёміўся з камісарам брыгады Антонам Пятровічам Брынскім, добрым псіхолагам і выхаваўцам, будучым легендарным партызанам і ваенным пісьменнікам, Героем Савецкага Саюза. Яны захавалі добрыя адносіны на ўсё жыццё, перапісваліся і сустракаліся, высылалі адзін аднаму свае кнігі.

Потым, праз многа гадоў, бацьку моцна ўразіла, калі я паведаміў, што маю воінскае званне маёра, ні дня не служыўшы ў арміі. Ён, як быў, так і застаўся радавым.

## «Першы дзень таго чэрвеня»

Пра пачатак вайны бацька напісаў 23 чэрвеня 1979 года: «Хоць ужо мінула столькі гадоў, а тая раніца, калі ў чатыры гадзіны ў Беластоку на нас пасыпаліся бомбы з фашысцкіх самалётаў, мабыць, не забудзецца, пакуль жыву.

З вуліцы Чыстай, дзе мы жылі, каля самай чыгуначнай лініі, праз увесь горад я пабег на вуліцу Міцкевіча, дзе знаходзіўся Саюз пісьменнікаў.

Многія дамы ўжо зеўралі прабоінамі, некаторыя ляжалі ў руінах. Завалы цэглы, бітае шкло пад нагамі, сям-там забітыя і параненыя. Пайшлі чуткі аб бандыцкіх нападах на кватэры ваенных і савецкіх служачых ужо ў гэтую ж ноч, 22 чэрвеня.

Дзіву даюся і дагэтуль, як, не разгубіўшыся ад такой нечаканасці, мясцовыя ўлады адразу ж мабілізавалі ўвесь наяўны транспарт горада, пачалі эвакуацыю — эшалон за эшалонам.

У нас на паўдарозе пацэліла бомба, састаў разарвала на дзве палавіны.

Запомнілася і такая акалічнасць, што ўжо ў вагоне, калі Вілік і Наташка захацелі есці, аказалася, што хлеба ў нас няма ні кавалачка, хаця тае ж раніцы першае, за што хапаліся людзі, гэта хлеб.

Каля хлебных магазінаў і ларкоў тоўпіліся чэргі. І мы з Воляй прастаялі нямала, каб узяць па дзве буханкі. Узялі і, ужо меўшы такое багацце, забыліся пра яго ў самую апошнюю хвіліну.

У Мінску 23-га, пакінуўшы сям'ю ў цягніку, я пабег да Лыньковых пытацца, як быць. Старэйшы Міхась загадаў нам з Рыгорам бегчы на вакзал, выгружаць свае няхітрыя рэчы. «Будзем разам», — сказаў ён.

Прыбеглі мы з Грышам на вакзал, а цягніка няма.

«Куды пайшоў?» — «На ўсход».

Так літасцівы лёс убярог маю сям'ю...»

## Эвакуацыя

Нам не ўдалося трапіць у Гомель — мамін родны горад, бо нас везлі цераз Оршу і Смаленск.

Ля Оршы фашысты разбамбілі чыгуначную каляю, і некалькі кіламетраў людзям давялося ісці пешшу. Памятаю вялікае поле са старым дрэвам пасярэдзіне. Пад ім мы адпачывалі. Мама на адной руцэ несла Наталку, а ў другой — рэчы. Я трымаўся за сумку і хныкаў ад стомы. Пазней мама прызнавалася:

— Прымаўка: «Жыццё пражыць — не поле перайсці» — падман. Я думала тады, што мы выжывем, толькі калі пяройдзем гэтае поле.

У Оршы нам выдалі хлеб і хуценька эвакуіравалі ў Смаленск. Але ў смаленскіх лясах эшалон трапіў пад бамбёжку. Маме ўдалося выцягнуць з вагона, які гарэў, нас, сумку з дакументамі і пуховую коўдру. Ноч мы прасядзелі ў лесе, захутаныя ў коўдру, а вакол усё гарэла.

Воляю лёсу нас закінула ў сяло Карлінскае Куйбышаўскай вобласці. Мама працавала ў калгасе. У канцы сорак першага яна даведалася, што «Гомсельмаш» эвакуіравалі ў Курган, спісалася з роднымі, і мы паехалі да іх.

## У Кургане

Мы жылі на вуліцы Колі Мягоціна. У вялікім пакоі месцілася ўся наша сям'я — дванаццаць чалавек. Мамін бацька, дзядуля Грыша, займаўся шавецтвам. Жанчыны працавалі і вялі гаспадарку, а малыя хадзілі ў дзіцячы садок. Жылі бедна, надгаладзь, але дружна.

У гэты час нас адшукаў бацька. Ён у Маскве быў супрацоўнікам газеты «Савецкая Беларусь», пасля — адказным сакратаром часопіса «Беларусь», а таксама супрацоўнікам партызанскіх сатырычных выданняў. Бацька дасылаў нам пасылкі і грошы. Нам з сястрою прыходзілі ягоныя цёплыя лісты, цацкі і дзіцячыя кніжкі.

У сорак другім — сорак трэцім гадах бацька перанёс рэцыдыў раматуснага поліартрыту. Хварэў каля года і доўгі час хадзіў, абапіраючыся на кіёк. Аднойчы ён прыслаў нам партызанскую газету, дзе была надрукавана «Балада аб чатырох заложніках» Аркадзя Куляшова.

Маці працавала на абаронным заводзе бракоўшчыцай, была актывісткай, удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці, праводзіла палітінфармацыі. Яе неаднаразова прэміравалі. Адну яе прэмію я памятаю дагэтуль: мяшэчак цукеракпадушачак і адрэз паркалю на сукенку. Маці, як і іншым ударніцам працы, часам давалі выхадныя, дазвалялі абмяняць рэчы на прадукты ў навакольных вёсках...

## Сустрэча ў Маскве

17 жніўня 1944 года намеснік старшыні Саўнаркама БССР Маўраў даслаў тэлеграму на імя сакратара Курганскага гаркама партыі з просьбай адкамандзіраваць грамадзянку Лерман Вольгу Рыгораўну — нашу маму — з дзецьмі на пастаяннае месца жыхарства ў горад Мінск.

22 верасня ва ўпраўленні НКУС маме выдалі пропуск на цягнік з Кургана да Мінска праз Маскву.

У самым канцы верасня мы былі ўжо ў Маскве. У людскім віратоку адразу згледзеў бацьку, калі натоўп праносіў яго міма. Я так голасна закрычаў, што бацька адразу ж заўважыў нас.

Бацька прывёз нас у ціхі арбацкі дворык, дзе ў старым флігельку здымаў пакойчык. Тут мы пражылі два тыдні. За гэты час нагледзеліся ўсяго ўдосталь: амаль кожны вечар грымелі салюты, бацька вадзіў нас у паркі і кіно. У цырку мяне ўразілі славуты клоўн Карандаш і бязрукі мастак, які маляваў пальцамі нагі. Кожны дзень ездзілі на метро, былі на Краснай плошчы, ва ўнівермагу, абедалі ў рэстаране «Нацыяналь»...

Аднак трэба было збірацца дадому.

## Вяртанне ў Мінск

У Мінск мы прыехалі ў пачатку кастрычніка. Горад быў разбураны, жыллё знайсці цяжка. Але свет не без добрых людзей. Нас прытуліў у сваім маленькім пакойчыку выдатны чалавек і цудоўны пісьменнік-франтавік Мікола Лупсякоў. Ён абагрэў нас, накарміў, звадзіў у лазню на плошчу 8-га Сакавіка.

Праз тыдзень па хадайніцтве Міхася Лынькова і Кузьмы Чорнага Літфонд Саюза пісьменнікаў выдзеліў для нас маленечкі пакойчык у старым доме па вуліцы Берсана. Пазней мы перабраліся на вуліцу Крапоткіна, а адтуль — на Маладзечанскую, 12. Гэта была ціхая, невялічкая вуліца, спакойныя суседзі. Насупраць нашых веснічак — уваход у двор маёй любімай хуліганскай 44-й школы, дзе я вучыўся да дзевятага класа.

## Аўтограф цёткі Уладзі

Гэты вялікі аднатомнік Янкі Купалы, падараваны бацьку Уладзіславай Францаўнай пасля пастаноўкі купалаўцамі «Шчасця паэта», знаходзіцца зараз у маёй бібліятэцы. Цётка Уладзя напісала на франтыспісе:

«Паважанаму тав. В. Вітку ад усяго сэрца, дзякую за яго чуткіе, шчырые адносіны да памяці Янкі.

*В. Луцэвіч*»

## Цукерка

Добры, шчаслівы ўспамін майго дзяцінства — ёлка ў старым Доме пісьменнікаў. Цётка Уладзя была пастаянным і актыўным удзельнікам усіх нашых дзіцячых забаў, любіла ўручаць падарункі. Калі мне было 10 ці 11 гадоў, я атрымаў на ёлцы цікавую кніжку і каробку цукерак. Мне было ўжо сорамна валтузіцца з малышнёй у карагодзе, схаваўся ў кутку паміж нейкімі кустамі і пачаў чытаць. Уладзіслава Францаўна мяне адшукала, доўга дакарала і адправіла весяліцца, але я хуценька збег.

Мілая цёця Уладзя! Не маючы сваіх дзяцей, яна любіла ўсіх нас і для кожнага знаходзіла добрае слова ці ласунак. Праз многа гадоў, калі я ўжо быў студэнтам-медыкам, мы сустрэліся з ёю каля дома. Я прывітаўся і яна спытала:

— Чый жа ты будзеш, хлопча?

Я адказаў.

— Ну, што там зараз піша дзядзька Цімох?[1]

Яна распытала аб маіх родных, што я раблю, а потым працягнула мне... вялікую цукерку. Я пацалаваў ёй руку і развітаўся. Болей я яе не бачыў.

Вечная Табе памяць, добрая душа!

## Дзядзька Кузьма

Ён перасіліў боль і свой неспакой...

*(З апошняй старонкі «Скіп'ёўскага лесу»)*

Кожны дзень я езджу на сваю работу па вуліцы, якая носіць яго імя. Мікалай Карлавіч і бацька ведалі адзін аднаго многія гады, але блізкае іх сяброўства пачалося з першых дзён вайны і сумеснай працы ў «Савецкай Беларусі» і партызанскіх сатырычных выданнях. Калі, у 43-м, у бацькі было абвастрэнне сустаўнага раматусу і ён лячыўся ў Пірагоўскай бальніцы больш за паўгода, Мікалай Карлавіч таксама знаходзіўся ў шпіталі ў Пушкіна, пад Масквой. Восенню 42-га

[1] Усіх нас, мужчын, не зважаючы на ўзрост, [яна] заве дзядзькамі. [Бацька пісаў]

ён перанёс цяжкі інсульт: яго паралізавала, амаль страціў зрок і памяць, адабрала мову. Амаль два месяцы ён знаходзіўся на краі пагібелі, але не страціў мужнасці і сілы волі. І пачаў вяртацца да жыцця і сваёй творчасці. У лістах да бацькі пісаў, як зноў адкрывае сваё жыццё і людзей:

«Дарагі братка!

Дачуўся, што ты захварэў на старую сваю хваробу і ляжыш у бальніцы. І так мне нядобра на душы стала... Мне здаецца, што я ўжо не бачыўся з табою вечнасць. Няхай гэтыя хваробы пойдуць агнём і дымам на мокрае, як той казаў, балота. Праўся, братка мой, каб скора ты быў здаровенек. Што да мяне, то я пакрысе праўлюся... Хаджу ўжо лепш і больш, як у Маскве. Зрок палепшаў значна, але трэба яшчэ чакаць: няхай ідзе час. Я заўсёды казаў і нават пісаў, бо сам гэта многа разоў пераіжыў быў, што час найлепшы доктар для чалавечай душы. І не толькі душы. Цяпер правяраю гэта яшчэ раз на сабе і людзях...»

Гэты пяшчотны і мужны чалавек валодаў цудоўным дарам заспакоіць, суцешыць і падбадзёрыць свайго бліжэйшага. Яны сустрэліся ў канцы восені ўжо ў рэдакцыі новага часопіса «Беларусь», у вольны час наведвалі свой любімы Ізмайлаўскі парк.

Мікалай Карлавіч вярнуўся на Радзіму ў канцы верасня, а мы — услед за ім і пазнаёміліся ўжо ў Мінску. Паволі ступаючы, абапіраючыся на кіёк, ён прыходзіў да нас на вуліцу Берсана. У нашым пакойчыку ўсім размясціцца было немагчыма і мы з сястрычкай выходзілі на вуліцу. Тратуар на рагу Савецкай і Берсана, насупраць Чырвонага касцёла, дзе знаходзіўся вялізны і круглы піўны кіёск, быў нашай дзіцячай пляцоўкай. Аднойчы мы спаткалі Мікалая Карлавіча каля гэтага кіёска, ён падараваў нам пачак нашых любімых вафляў. Бацька часта наведваў іх сям’ю, яны гулялі разам. Праз бацьку нам заўсёды перадавалі гасцінцы ад Мікалая Карлавіча і цёці Рэні. Мы звалі яго «дзядзькам Кузьмой», ён не пярэчыў.

Апошні месяц свайго жыцця ён амаль не хадзіў, нарастала агульная слабасць, балела сэрца, але, як пісаў у дзённіку — «... многа і, здаецца, добра пісаў». Каля яго ўвесь час знаходзіліся жонка і дачка, часта быў і мой бацька. Яны былі з Мікалаем Карлавічам і 22 лістапада. На другі дзень бацька ўзяў мяне з сабой, каб я развітаўся з дзядзькам Чорным. 24 лістапада маці з бацькам пайшлі на грамадзянскую паніхіду ў БДДТ імя Янкі Купалы. Пахавалі Кузьму Чорнага на Вайсковых могілках.

Артыкул Кузьмы Чорнага аб першым бацькавым зборніку «Гартаванне» быў апублікаваны пасля смерці Мікалая Карлавіча.

Я не магу ўявіць сабе беларускую літаратуру без Кузьмы Чорнага, як рускую — без Талстога і Тургенева.

## Уладзімір Дубоўка

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет,
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш!..

*(1925)*

З Уладзімірам Мікалаевічам Дубоўкам наша сям’я пазнаёмілася ў 1958 годзе, калі ён вярнуўся ў свае родныя мясціны пасля 28-гадовай ссылкі. Гэты цудоўны чалавек з глыбокімі і добрымі вачыма нагадваў мне легендарнага волата — князя Усяслава Чарадзея; ён палюбіўся нам адразу. Уладзімір Мікалаевіч меў рысы характару, якія нячаста спалучаюцца разам: вялікую дабрыню, мудрасць, чулласць, душэўную шчодрасць і павагу да субяседніка, кім бы той ні быў — літаратарам, хатняй гаспадыняй, студэнтам ці хлапчуком-суседам шасці гадоў. Некалькі лістоў, кніг, падараваных нам, фотапартрэт з аўтографам захаваліся дагэтуль.

На «Палескай рапсодыі» паэт напісаў: «Маім любым, сардэчна паважаным ... на ўспамін аб нашым спатканні, каб яно было не апошнім»...

На шчасце, мы бачыліся з ім яшчэ не раз. Памятаю, калі Уладзімір Мікалаевіч вяртаўся ў Маскву, мы з Сашай праводзілі яго на вакзал. Да адыходу цягніка было яшчэ з паўгадзіны і ён літаральна зацягнуў нас у рэстаран, баючыся, што мы прагаладаліся. На Каляды ў 62-м мы гасцявалі ў радні ў Маскве і заявіліся да Дубовак без папярэджання (у іх не было тэлефона). Яны ўзрадаваліся нам, замітусіліся. Адразу ж, адхіліўшы нашу дапамогу, Уладзімір Мікалаевіч пабег па магазінах і ў бліжэйшы рэстаран, дзе ён часта браў абеды. Марыя Пятроўна расказала нам гісторыю іх знаёмства, як яна, дачка заможных і інтэлігентных бацькоў, закахалася ў беднага сельскага настаўніка, які пісаў вершы і вучыўся ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце. Аб гэтым «мезальянсе» яна апавядала з добрай і пяшчотнай усмешкай.

Вярнуўся Уладзімір Мікалаевіч, прынёс добрае віно, кулябяку і мноства іншых смачных рэчаў. У застоллі ён расказваў, што ў ссылцы выжыў толькі таму, што шмат ведаў і многае мог зрабіць: даводзілася працаваць сталяром, цесляром, брыгадзірам-будаўніком, бухгалтарам і аграномам-чаяводам па ўсёй краіне — ад Кіраўскай вобласці да Сібіры і Далёкага Усходу, ад Чувашыі — да Грузіі.

У канцы ліпеня 1966 года па дарозе на Далёкі Усход, дзе мы з Сашай працавалі ў чыгуначнай бальніцы, завіталі на пару дзён у Маскву і прыйшлі да Дубовак. Яны, як заўсёды, прынялі нас сардэчна. Уладзімір Мікалаевіч, даведаўшыся праз Марыю Пятроўну, што ў нас цяжкавата з грашыма, надзяліў нас значнай сумай, сказаўшы, каб мы іх не спяшаліся аддаваць. Прыехаўшы, мы адразу напісалі Дубоўкам і выслалі грошы. Скора мы атрымалі ліст. Уладзімір Мікалаевіч пісаў: «...Атрымалі ад Вас грошы. Дарэмна Вы так спяшаліся. Вельмі рады, што Вы добра заехалі, дабраліся да сваёй Завітой. Ад душы жадаем Вам, каб у Вас усё было добра, каб поспех і шчасце былі ў Вас заўсёды. Розныя часовыя дробязі і непаладкі — гэта лухта, яна хутка адыходзіць у нябыт. Самае галоўнае — аснова. Аснова — Ваша высакародная праца... Моцна Вас абнімаем, ад душы жадаем усяго самага, самага найлепшага.

З пашанай і любоўю да Вас...»

Праз год закончыўся тэрмін нашай работы ў Забайкаллі і мы вярталіся дамоў. У Маскве зноў пабачыліся з Дубоўкамі. Яны распыталі пра нашы планы жыцця ў Мінску і Уладзімір Мікалаевіч, празнаўшы, што я думаю паступаць у аспірантуру ў другі раз, адразу ж напісаў ліст да свайго сябра юнацтва — акадэміка Андрэя Якаўлевіча Пракапчука і наказаў нам, што ліст неабходна абавязкова ўручыць адрасату.

Андрэй Якаўлевіч быў выдатным вучоным з еўрапейскім імем, загадчыкам кафедры дэрматалогіі і венералогіі МДМІ, студэнтам я слухаў яго бліскучыя лекцыі.

З пісьма Уладзіміра Мікалаевіча:

«...Вспоминаю ... наши молодые годы, ... как мы пробивали дорогу в жизнь и иногда сокрушались о том, что не всегда нашей смене удается найти в нее заветный вход. Конкретно, я имею в виду детей своего друга, прекрасного белорусского поэта и замечательного человека Василя Витки... У него есть сын Виссарион — врач-хирург и невестка (врач-терапевт) Саша... Это — исключительно хорошие молодые люди: талантливые врачи, люди высокой культуры. После окончания мединститута они оба, по собственному желанию, уехали на Дальний Восток, где проработали... три года. Там бы они устроились, несомненно, на научную работу, но у них ребенок — девочка, на которую скверно влиял дальневосточный климат и они вынуждены были отвезти ее в Минск год тому назад. Это и явилось причиной возвращения их в Белоруссию... Возвратились они на родину, обогащенные опытом, с тем, чтобы включиться в научную работу, поступить в аспирантуру. Совершенно случайно я узнал, что в этом им пока удачи нет.

Мне кажется, что причиной является один недостаток, имеющийся у них — чрезмерная скромность[1].

Они не умеют пускать в ход локти, пробиваясь вперед, а это иногда вредит... Вот я и прошу тебя, дорогой Андрей Яковлевич, помочь им в этом деле, посоветовать... Прошу тебя как за своих родных детей, потому что я их обоих люблю...»

Прачытаўшы гэты дыфірамб, мы вырашылі не перадаваць ліст. Праз месяц я зноў паступаў у аспірантуру, але там знайшліся больш дастойныя кандыдатуры.

У апошні свой прыезд, Уладзімір Мікалаевіч, як заўсёды, трымаўся малайцом, але выглядаў стомленым і схуднелым. Мне ён сказаў, што ў яго баліць сэрца пасля перанесенага на нагах інфаркту міякарда, які кардыёлагі дыягнаставалі толькі праз паўтара месяца.

У памяць аб гэтым цудоўным чалавеку я пасадзіў у сваім садку алейку шыпшыны.

## Мікалай Паўлавіч

Нездарма на старажытным гербе Слуцка маецца выява Пегаса.

Слуцкае братэрства, дабрыня і адданасць сяброўству на ўсё жыццё, мяккі гумар у адносінах выявіліся цалкам і поўнасцю ў дружбе бацькі з Міколам Лобанам. Яны пасябравалі падлеткамі праз агульную любоў да кнігі. У суседняй вёсцы Чаплічы, дзе жыў Коля, яму даверылі бібліятэку ў сельсавеце, якая складалася з пары паліц. «Са сваёй у яго вёску я бегаў амаль штодня цераз балота»,— успамінаў бацька. Мікалай Паўлавіч не быў прыгодны да вайсковай службы, але дабіўся свайго — пайшоў добраахвотнікам на вайну. Двойчы цяжка паранены, ён лячыўся ў шпіталях каля года. Улетку 44-га, літаральна праз некалькі дзён пасля вызвалення Случчыны, пехатой дабіраўся дадому. Па дарозе завітаў да маёй бабкі і цёткі Тасі ў Еўлічы, каб перадаць, што мы ўсе жывы і здаровы і хутка вернемся на Радзіму — першую вестку ад нас за гады вайны.

Адна з апошніх сустрэч Мікалая Паўлавіча з бацькам у Каралішчавічах. Мы з Галай і Цімашком адпачывалі там у ліпені 84-га. Да нас прыехалі на некалькі дзён бацькі, і мы абедалі на верандзе, у сталоўцы. Увайшоў Лобан. Мой стрыманы бацька ўсклікнуў: «Коля! Дарагі!» — і радасна кінуўся да яго. Яны пяшчотна абняліся і некалькі дзён прагульваліся разам, сядзелі на палянцы і гутарылі. Бацька, ад’язджаючы, сказаў мне, каб я прыглядваў за Мікалаем Паўлавічам. Ужо некалькі год ён не мог пісаць — не слухаліся рукі (вынік франтавога ранення ў шыйны аддзел пазваночніка). Злёгку згорблены, ён паволі хадзіў па дарожках каля дома, а па лесе — не мог (на фронце быў цяжка паранены ў нogі — адкрытыя пераломы). Я з ім хадзіў па гэтых дарожках, гутарыў на розныя тэмы. Ён больш слухаў мяне, чым гаварыў. Сціплы, спакойны, мужны і мудры чалавек, ён мне, урачу, ніколі не скардзіўся на здароўе.

## Дзядзька Сева

Калі ў 1958 годзе я здаў дакументы ў прыёмную камісію медінстытута, мяне непрыемна ўразіла заўвага сакратара, што я мушу паступаць на агульнай аснове і льгот не маю — не хапае аднаго месяца рабочага стажу.

У роспачы я вяртаўся дамоў і спаткаў у двары Усевалада Ігнатавіча:

— Ты чаго, Вілік, такі невясёлы?

Я ўсё яму расказаў...

[1] Падкрэслена У. М. Тэкст аўтэнтычны.

— Не бяда, думаю, што ўсё абыдзецца.

Пад вечар ён прынёс мне даведку — дадатак да працоўнай кніжкі, што я больш як месяц працаваў у часопісе «Бярозка» карэктарам. На шчасце, даведка не спатрэбілася, але дабрыню дзядзькі Севы я помню ўсё жыццё.

Мы жылі ў адным доме многа гадоў: ён сябраваў з бацькам, а маці — з мілай цёцяй Дусяй — Еўдакіяй Емяльянаўнай, якая выдавала мне з Наташай кнігі ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў.

Згадваю ў некаторым сэнсе трагікамічную гісторыю, якая адбылася з ім. Аднойчы восенню, у суботу, ён зайшоў да нас:

— Збірайся, Ціма, паехалі ў Каралішчавічы. «Масквічок» гатоў, я кавуноў накупіў і яшчэ сёе-тое. Адпачнём, а заўтра вечарам вернемся. І Віліка бяры.

Але ў бацькі меліся рэдакцыйныя справы і ён паабяцаў, што прыедзе пазней. Уладзімір Ігнатавіч паехаў, а бацька праз гадзіну падаўся за ім на аўтобусе. Ад шашы да Дома творчасці кіламетры тры па гравійцы. За паваротам дарогі бацька ўбачыў перавернуты дагары калёсамі «Масквічок», навокал валяліся розныя рэчы: адзенне, бутэлькі, кнігі, паперы — і ўсё гэта багацце ўпрыгожвалі кавалкі разбітых ушчэнт кавуноў. На машыне сядзеў збялелы, як палатно, Усевалад Ігнатавіч і, гледзячы кудысьці паверх дрэў, еў кавуны. Бацька падскочыў да яго, пачаў трэсці, крычаць, паіць карвалолам. Калі той апамятаўся, яны пайшлі далей разам. Машыну паднялі добрыя людзі, яна аказалася непашкоджанай.

Усевалад Ігнатавіч Краўчанка, добры, таленавіты і вясёлы чалавек, загінуў маладым.

## Рыцары «жалезных дзяўчат»

Я памятаю з юнацтва: усё пачыналася з тэлефоннага званка Алеся Мікалаевіча, ён запрашаў бацьку на спатканне з «жалезнымі дзяўчатамі» — купалінкамі са славутага фантана Купалаўскага парку, пасля званіў другім. І яны, амаль штодня летам і ўвосень, радзей — узімку і вясной, збіраліся ля фантана: два Алесі — Бачыла і Пальчэўскі, два Аляксеі — Русецкі і Зарыцкі, адзін Мікола — Лобан і адзін Цімох, ён жа Васіль. Іншы раз да іх далучаліся два Янкі — Брыль ды Скрыган. Яны шпацыравалі па набярэжнай Свіслачы ад моста да моста, гутарылі, спрачаліся, дзяліліся самым запаветным. Я быў тады першакурснікам, захапляўся старажытнай філасофіяй і празваў іх «перыпатэтыкамі»: хто выконваў ролю Арыстоцеля не ведаю, думаю, што Бачыла, якога астатнія чамусьці звалі «брыгадзірам».

Гэта прыгожая пара з’явілася ў нашым доме ў 46-м годзе. Ён — высокі, зграбны, заўсёды прамаўляў сваім глыбокім барытонам на цудоўнай беларускай мове. Яна — жвавая і вясёлая, грацыёзная смуглянка, з вялікімі цёмнымі вачыма. Яны пазнаёміліся і ажаніліся на вайне. Яна, казачка з Паўночнага Каўказа, за пару гадоў дасканала вывучыла мову і гаварыла на ёй не горш, чым Алесь Мікалаевіч.

«Упарты, як Бачыла» — казалі сябры. Знешне спакойны, глыбока сумленны, прынцыповы і нецярпімы да самага нязначнага фальшу і раўнадушнасці, ён быў адданым і верным сябрам. Шчырасць і любоў да Беларусі вылілася ў яго паэзіі, яго песнях. Ужо дзесяткі гадоў яго «Радзіма мая дарагая...» з цудоўнай музыкай Уладзіміра Алоўнікава з’яўляецца ранішнім гімнам нашай краіны і пражыве яшчэ доўга.

Праз многа гадоў, калі ўжо Алеся Мікалаевіча не было, Яўгенія Яфрэмаўна калі-нікалі заходзіла да нас. І аднойчы сказала:

— Ведаеш, Вілік, калі чую «Радзіму», я кожны раз плачу...

Я ўбачыў, што яе вочы падазрона заблішчэлі і хуценька змяніў тэму:

— А ведаеце, дарагая Яўгенія Яфрэмаўна, што я хлапчуком быў закаханы ў Вас, але не казаў, баючыся Алеся Мікалаевіча.

Яна пырснула сваім звонкім, цудоўным смехам і, штосьці тое, даўняе, мільганула ў яе глыбокіх вачах.

Сяргей ЧЫГРЫН

# БЕЛАРУСКІ РУХ У ВАРШАВЕ (1900—1939 ГГ.) І ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК

Пра беларускі рух у Варшаве ў першай палове XX стагоддзя зрэдчас у нашым друку згадвалі Пятро Ластаўка, Францішак Каравацкі, Юры Туронак і іншыя літаратуразнаўцы і гісторыкі. Але гэта былі невялікія згадкі-імгненні пра беларусаў і беларускія таварыствы ў Варшаве. І наогул беларускі перыяд у даваеннай Варшаве першай паловы XX стагоддзя ў Польшчы і ў Беларусі сур'ёзна і грунтоўна не даследаваны. Ён патрабуе дасканалага акадэмічна-манаграфічнага падыходу і даследавання, ды і сіламі аднаго даследчыка тут не абысціся. Да гэтага павінны мець дачыненне некалькі аўтараў. І па гэтай тэме даўно пара правесці ў Варшаве, у Беластоку ці ў Мінску навуковую канферэнцыю, каб пасля матэрыялы ўсіх выступленняў сабраць і выдаць пад адной вокладкай. Гэта неабходна не толькі нам, беларусам і беларускай гісторыі, але і гісторыі Варшавы і Польшчы ў цэлым. Бо беларускі рух і яго дзеячы ў Варшаве — гэта гісторыя дзвюх краін і іх народаў. Нялёгкі быў пачатак XX стагоддзя для Варшавы, а тым больш ён быў няпростым для беларусаў, якія там жылі, працавалі, стваралі беларускія таварыствы, саюзы, арганізацыі. Але гэта ўсё было, гэта факт, і пра гэта трэба распавядаць сёння, каб захаваць для нашых нашчадкаў, для нашай агульнай гісторыі. Паспрабаю і я зазірнуць у беларускую Варшаву пачатку XX стагоддзя. Ну, хаця б зрабіць туды невялікую вандроўку-згадку.

Беларускае жыццё ў Варшаве хутчэй за ўсё пачало зараджацца, калі ў 1893 годзе ў Варшаўскі імператарскі ўніверсітэт на працу прыехаў беларускі акадэмік і філолаг Яўхім Карскі. Спачатку ён працаваў прафесарам, затым экстраардынарным прафесарам на кафедры рускай і старaславянскай моў і гісторыі рускай літаратуры. Пасля выкладаў там славянскую палеаграфію, рускую дыялекталогію і граматыку царкоўнаславянскай мовы. У варшаўскі перыяд сваёй педагагічнай дзейнасці, карыстаючыся ўсеагульнай павагай, Яўхім Карскі два разы выбіраўся рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта — у 1905 і 1908 гадах. Адначасова з педагагічнай дзейнасцю наш вучоны праяўляў вялікую цікавасць да беларускага жыцця ў Варшаве, спрыяў гэтаму, як мог дапамагаў беларускім студэнтам. У 1908—1913 гадах там было арганізавана і праведзена шмат беларускіх вечароў. У іх прымалі ўдзел і сам Карскі, яго жонка і дзеці. Быў нават такі выпадак. Аднойчы ў Варшаву прыехаў з трупай Ігнат Буйніцкі. А напярэдадні беларуская моладзь надрукавала і расклеіла па горадзе афішу на беларускай мове. Гэта выклікала гнеў царскай паліцыі, бо дазвалялася друкаваць улёткі толькі на рускай і на польскай мовах. Гэты выпадак ледзь не сарваў правядзенне мерапрыемства. Але дзякуючы Яўхіму Карскаму, усё наладзілася, стала на свае месцы. Тады ў справе гэтых афіш былі замешаны Аркадзь Салаўевіч і Гальяш Леўчык (Ляўковіч). Менавіта беларускі паэт, мастак, калекцыянер Гальяш Леўчык быў у той час адным з арганізатараў розных беларускіх падзей у Варшаве. Там ён і пазнаёміўся з Яўхімам Карскім.

Гальяш Леўчык у Варшаву трапіў у 1904 годзе. Ён уладкаваўся на працу чарцёжнікам у гарадскі магістрат і наведваў лекцыі ў школе мастацтваў. За гэты час Леўчык знаходзіць у Варшаве шмат беларусаў, знаёміцца з імі, арганізоўвае сустрэчы, ладзіць вечарыны. Першую інфармацыю пра беларускую дзейнасць Гальяша

Леўчыка і яго сяброў у Варшаве змясціла «Наша ніва» 1(14) снежня 1911 года. Аўтар Саўка Бурывой (Рамуальд Зямкевіч) паведамляў, што 21 лістапада адбылася вечарына студэнтаў-беларусаў Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар пісаў пра нейкага Пшчолко, які «гаварыў на сцэне сьмешных казак у расейско-беларускай гутарцы», пра маленькую дзяўчынку ў пекнай беларускай апратцы, якая мовіла словамі Янкі Купалы: «Чаго нам трэба» і «Чаго б я хацеў»... Пасля пра другую дзяўчынку, якая чытала верш «Не цурайся мяне, панічок» і «Панскую ласку». Потым на сцэну выйшаў Гальяш Леўчык, пра якога аўтар кажа: «Мы ўбачылі на лаўцы хвораго, слабого, ледзь жывого мальца беларуса, у згрэбнай сарочцы, прыкрытаго старэнькай сьвітай — тып праўдзівага беларуса-мужыка. Быў то малады песьняр Леўчык Гальяш. Ён слабым голасам пад гітару прапяяў: «Мне трэба ўмерці» і апрыч таго пасьля шмат чаго дэклямаваў. Усё выпаўніў шчыра і публіцы надта спадабаўся». Далей выступаў хор, які спяваў беларускія песні.

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык сабраў вялікую і каштоўную бібліятэку, ён калекцыяніраваў усё беларускае: кнігі, паштоўкі, творы мастацтва, музычныя інструменты, значкі, фотаздымкі. На жаль, у гады Другой сусветнай вайны ўсё гэта бясследна прапала. Але гэта было пазней. А тады кожнаму беларусу Варшавы і беларусам, якія прыязджалі сюды, Гальяш Леўчык з радасцю паказваў сваю калекцыю, дапамагаў матэрыяламі ў напісанні той ці іншай працы. Хачу адзначыць, што тады ў Варшаве жыў і яшчэ адзін беларускі калекцыянер кніг і рукапісаў Рамуальд Зямкевіч (1881—1944). Ён нават быў больш заўзятым калекцыянерам і бібліяфілам, чым Леўчык. Кажуць, што Зямкевіч не прапускаў ніводнай старой беларускай кніжкі, асабліва, калі яна «дрэнна ляжала». У выніку ён сабраў найвялікшую калекцыю рарытэтаў, але, на жаль, і яго ўся калекцыя згарэла ў вайну. Добра, што Рамуальд Зямкевіч хоць паспеў апублікаваць некаторыя рукапісы ў друку. Не ведаю толькі, як яны мірыліся і сябравалі — два калекцыянеры, два вялікія аматары беларускіх кніг — Рамуальд Зямкевіч і Гальяш Леўчык. У пісьме да Івана Луцкевіча ад 4 ліпеня 1911 года Гальяш Леўчык пісаў пра Рамуальда Зямкевіча: «Ну і цікавы з яго, аднак, экзэмпляр, наколькі я мог яго пазнаць!.. Зусім ён мяне здзівіў, асабліва знаннем беларускай бібліяграфіі. Ад яго я шмат чаго даведаўся. Калі ён махлюе, ды духам не ўпадзе, і будзе ісці крэпка, то смела можна сказаць, што вялікую карысць ён калісьці Беларусі прынясе! Шкада, што нямаш яму як там у Вільні альбо ў Варшаве пакуль што аперціся, каб матэрыяльна яму было лягчэй, а то, бедны, зусім ужо вытрасся!.. Я яму крыху памог, але далей трудна! Але, здаецца, ён не махлюе, а кажа праўду...» (ЦБАН Літвы. Ф.21, спр. 260, арк. 2-3).

У 1913 годзе на курсы садоўніцтва, агародніцтва і пчалярства прыехала ў Варшаву Зоська Верас (Людвіка Войцік). Там яна пазнаёмілася з Гальяшом Леўчыкам. Аднойчы яе і Марысю Галубянку, якая жыла ў Варшаве і працавала настаўніцай у школе Вавэльбэрга, Гальяш паклікаў да сябе ў госці. «Жыў тады Леўчык на вуліцы Леапальдыны, 35, кв.32. Кватэра была, здаецца, на трэцім паверсе», — згадвае Зоська Верас (газета «Рунь» (Літва), 3 жніўня 2000 года). Далей Зоська Верас прыгадвае: «Пакой здаваўся



*Рамуальд Зямкевіч, Гальяш Леўчык, Зоська Верас. 1911 год.*



*Гальяш Леўчык (крайні справа ў капелюшы) з беларусамі ў Варшаве, 1912 год. Фота друкуецца ўпершыню.*

вузкім, таму што ягоная сцяна была абсталявана даволі шырокімі паліцамі ад падлогі да столі. І на іх стаялі кніжкі, кніжкі, кніжкі... Сапраўды, гэта была вялікая, цікавая і каштоўная бібліятэка. Сабранае было хіба што ўсё, што выйшла з друку ў беларускай мове... Усе паліцы былі ўпрыгожаныя партрэтамі пісьменнікаў, паштоўкамі, краявідамі. Шмат што было купленае, але й шмат падараванае аўтарамі ды знаёмымі. Тыя кнігі, што стаялі ніжэй, мы з Марысяй аглядалі самі, а тыя, што высока, Леўчык здымаў і паказваў сам. Не адну гадзіну гэты занятак забраў у нас. Нарэшце Гальяш сказаў: «Ну й замучыў я вас... Пара адпачыць!» Мы хоць і не жадалі клопату, але былі змушаныя пагадзіцца. Пілі добра прыгатаваную гарбатку, і да яе было сёе-тое смачнае. Пасля Леўчык прапяяў нам пару песняў пад акампаніямэнт гітары. Голас меў прыгожы. Пяяў і граў умела. Развіталіся мы з ім позна вечарам».

Калі я сустракаўся з Зоськай Верас у Вільні ў 1987 годзе, то таксама запытаўся ў яе пра Гальяша Леўчыка. Пісьменніца вельмі цёпла ўспамінала пра яго. Расказала мне пра тое, як Гальяш Леўчык у Варшаве пазнаёміў яе з многімі беларусамі. Яны часта ездзілі ў Ажарова, што пад Варшавай, да беларускай сям'і Сталыгваў, якія там мелі свой дом. Памятаецца, як Зоська Верас мне згадвала і пра тое, што Леўчык лічыў сваім абавязкам ведаць кожнага беларуса, які прыязджаў у Варшаву, прыцягнуць у сваю групу, каб ён не згубіўся ў людскім моры і не забываўся сваёй мовы, як ён сам казаў. А калі беларусу не было дзе начаваць, ён клікаў яго да сябе ў маленькую кватэру на вуліцы Леапальдыны. Неяк Гальяш Леўчык завёў Зоську Верас і да Міхала Федароўскага, які прыняў іх шчыра і ветліва.

У 1919 годзе ў Варшаве арганізоўваецца Беларускі камітэт. Вакол яго хутка згуртаваліся многія вядомыя беларусы Варшавы, якія актыўна пачалі пашыраць нацыянальную свядомасць. Часопіс «Беларускі летапіс» (1938, № 4. С. 11) пісаў, што Беларускі камітэт выпісваў усе беларускія газеты і часопісы, а таксама кніжкі. З іх была створана бібліятэка. А Гальяш Леўчык быў адным з самых актыўных сяброў камітэта. У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі захоўваецца фотаздымак, на якім фатограф зрабіў надпіс на беларускай мове лацінкай: «Беларускія валасныя старшыны Слонімскага павету Гарадзенскай губерні». У кожнага з іх маецца на грудзях медаль. На адваротным баку здымка ёсць штамп «Беларускі камітэт у Варшаві» і круглая пячатка з такім жа надпісам. Магчыма, фотаздымак у Слонім трапіў праз Гальяша Леўчыка (паэт быў родам са Слоніма, тут у яго была хата і вялікая калекцыя старых рэчаў, кніг, паштовак і г. д. Большая нават, чым у Варшаве. — **С. Ч**.). Гэта ён прывёз фотаздымак з Варшавы пасля таго, як у 1922 годзе не стала там Беларускага камітэта. Яго дзейнасць была спынена тадышняй польскай уладай.

З 1922-га да 1930 года беларускі рух у Варшаве не быў актыўным. У 1928 годзе зямляк Гальяша Леўчыка Павел Крынчык быў выбраны паслом польскага

сейма па спісе, выстаўленым КПЗБ. Павел Крынчык некалі згадваў, што быў добра знаёмы з Леўчыкам. Гальяш Леўчык часам заходзіў да яго ў беларускі пасольскі клуб «Змаганьне», які месціўся ў Варшаве на Маршалкоўскай, 76. Беларускія палітыкі ў Варшаве часам аказвалі яму фінансавую дапамогу.

У 1930 годзе ствараецца Саюз беларускіх студэнтаў у Варшаве. Разам з віленскімі студэнтамі беларускія хлопцы і дзяўчаты з Варшавы ладзяць розныя цікавыя мерапрыемствы: выступаюць з лекцыямі, дэкламацыямі літаратурных твораў, з тэатральнымі пастаноўкамі і г. д. Праіснаваў гэты саюз усяго тры гады, і дзейнасць яго была спынена польскай уладай. Гальяш Леўчык у гэты час працуе служачым у Найвышэйшым судзе ў Варшаве і актыўна перакладае рэлігійную літаратуру метадыстаў на беларускую мову. Гэтыя пераклады з'яўляліся ў выданнях «Арфа Сіану», «Новае Жыцьцё» і «Дух праўды». За пераклады, вядома ж, ён атрымліваў пэўны ганарар. Таму актыўнага ўдзелу ў Саюзе беларускіх студэнтаў у Варшаве ён не прымаў. Але там бываў, даваў кансультацыі, парады, выступаў перад студэнтамі.

Не ўдзельнічаў Гальяш Леўчык і ў кіраўніцтве Асветнага таварыства ў Варшаве (іншыя яго згадваюць як Беларускае культурнае таварыства ў Варшаве). Гэтае таварыства з'явілася восенню 1936 года і праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны. Але паэт часта выступаў перад сябрамі таварыства з вершамі і заўсёды спяваў свае песні пад уласны акампанемент гітары.

Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве, нягледзячы на няпростыя палітычныя і эканамічныя ўмовы, разгарнула вялікую і актыўную беларускую дзейнасць. Старшынёй таварыства быў Я. Гапановіч, сакратаром — П. Ластаўка. Сябры таварыства арганізоўвалі розныя творчыя сустрэчы, канцэрты, вечары. Іх мэтай было стварэнне беларускіх бібліятэк, клубаў, аказанне матэрыяльнай і маральнай падтрымкі сябрам АТБ і ўсім беларусам, якія жылі ў Варшаве. Часопіс «Беларускі летапіс» (№№ 6,7, 8, 1937) апублікаваў тады цікавае пісьмо беларускага работніка з Варшавы. Артыкул так і называецца «Беларускія работнікі ў Варшаве». Аўтар пісьма Фабіян Вайцілёнак піша: «Падаць дакладны лік беларусаў у Варшаве трудна: у кожным выпадку даходзіць ён да некалькі тысяч. Аб гэтым, што беларусаў тут значная колькасць, сьведчыць і той факт, што на вуліцах Варшавы часта можна пачуць беларускую мову. Сярод натоўпу людзей, праходзячых па тратуарах, мы, беларусы, пазнаём адзін аднаго якраз па мове. Вельмі скора пры гэтым завязываецца знаёмства і паўстае шчырая прыязьнь. Наймацней за ўсё нас тут лучыць у вадну цесную сям'ю родная мова...» Што датычыць асветы, дык аўтар Вайцілёнак на гэты конт вось як разважае: «Ня можна сказаць, што беларусы ў Варшаве выракліся сваёй мовы, але беларускае друкаванае слова пашыраецца слаба. Дзеля гэтага заклікаю беларусоў у Варшаве зьвярнуць увагу на беларускае друкаванае слова, каторае выходзе пераважна ў Вільні і каштуе сьмешна танныя складкі,




*Беларускі гурток у Варшаве. Стаіць крайні справа Гальяш Леўчык, 1912 год. Фота друкуецца ўпершыню.*

на каторыя сяньня можа сабе пазволіць амаль кожны беларус у Варшаве... Найгорш з дзяцьмі, каторыя падрастаюць бяз школы. Сумна глядзець на тых дзяцей, якія ўжо разумеюць, што яны дзеці беларускіх бацькоў, прагнуць чытаць і пісаць у роднай мове і ня маюць дзе гэтага навучыцца...»

Тым не менш у маі 1937 года Сяргей Паўловіч у Варшаве пры газеце «Слово», якая выдавалася Праваслаўнай мітраполіяй, пачынае выдаваць дадатак да газеты — беларускі часопіс «Снапок». Гэта быў царкоўна і культурна-асветны часопіс з малюнкамі для дзяцей. Ён выдаваўся на 16 старонках. У ім друкаваліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Янкі Быліны, Максіма Танка, Ніны Тарас, Янкі Журбы, Міхася Васілька і многіх іншых беларускіх літаратараў, а таксама беларускія казкі, каляндарна-земляробчыя святы, народныя звычаі, артыкулы аб прыродзе, пераклады з рускай і польскай моў і г. д. Падпіска на часопіс афармлялася ў Варшаве на вуліцы Парыска, 27. А адзін нумар каштаваў 10 гр. з перасылкай. Гэта былі невялікія грошы. Часопіс не толькі можна было выпісаць, але і купіць у Варшаве, а таксама ў Вільні ў кнігарні «Пагоня», якая месцілася на Завальнай вуліцы,1.

Часопіс «Снапок» спыніў сваё існаванне ў верасні 1939 года. Але ён усё ж адыграў пэўную ролю ў пашырэнні асветы на роднай мове, садзейнічаў фарміраванню дэмакратычных поглядаў, абуджаў нацыянальную свядомасць, прапагандаваў родную літаратуру і культуру.

У 1936 годзе ў Варшаву з Познані прыязджае беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Тут ён жыве, выступае з канцэртамі і спявае на польскім радыё. У свае радаёканцэрты спявак заўсёды ўключаў і беларускія песні. Вакол Міхася Забэйды-Суміцкага, кажучы сённяшнім слэнгам, тусаваліся беларусы Варшавы. Са спеваком добра быў знаёмы і Гальяш Леўчык. Бацька Гальяша быў родам з вёскі Шэйпічы, што блізу Ружанаў. У гэтай вёсцы нарадзіўся і Міхась Забэйда-Суміцкі. Спявак нават кахаў Стасю Ляўковіч — сваячніцу Гальяша Леўчыка (сапраўднае прозвішча Ляўковіч). У Варшаве землякі сустрэліся. Ім было пра што пагутарыць, каго і што ўспомніць. Аднойчы сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі ў кансерваторыі канцэрт Міхася Забэйды-Суміцкага. Часопіс «Калосьсе» (№1(10), 1937) пісаў: «27.02.37 у варшаўскай кансэрваторыі адбыўся канцэрт песьні. Выступаў слаўны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. З прасьпяваных ім песень, найлепш спадабаліся публіцы песьні беларускія». А Пётр Ластаўка згадваў (Беларускі каляндар. Беласток, 1980. С.148): «Пакідаючы кансерваторыю, слухачы гаварылі, што вось і беларусы маюць свайго Кепуру, а «Express Poranny» ў сваёй карэспандэнцыі пісаў 28 мая: «Цудоўныя гэтыя беларускія песні, ды яшчэ ў такім выкананні!» Прыхільна адгукнуліся аб выступленні Забэйды, таксама і іншыя газеты, падкрэсліваючы, што даўно не было ў кансерваторыі такога добрага канцэрта».

Летам 1939 года сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі сустрэчу з Максімам Танкам. На сустрэчу прыйшлі 50 польскіх літаратараў, дзесяткі беларусаў з усёй Варшавы. Вечарына, як згадвае Пятро Ластаўка ў вышэй названым «Беларускім календары», працягвалася тры гадзіны. Максім Танк чытаў свае вершы і па-беларуску, і па-польску. У тагачаснай польскай прэсе з'явіліся артыкулы з наступнымі загалоўкамі: «Максім Танк у Варшаве», «Максім Танк — беларускі Ясенін» і г. д. Беларускі паэт тады проста зачараваў усіх прысутных сваёй паэзіяй і сваім выступленнем.

На вялікі жаль, Другая сусветная вайна спыніла працу Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве. Міхась Забэйда-Суміцкі ў маі 1940 года пакінуў Варшаву і выехаў у Прагу. А Гальяш Леўчык летам 1944 года цяжкахворы памірае ў Варшаве, а магчыма па дарозе з Варшавы ў Слонім.

Таццяна АЎДОНІНА

# «ТРАГЕДЫЯ — ГІБЕЛЬ — СВЯТА...»

*(драма Аляксея Дударава «Адцуранне»)*

У гісторыі чалавецтва няма ніводнага стагоддзя, якое не было б насычана трагічнымі падзеямі. Вялікае мастацтва ў сваіх філасофскіх разважаннях аб свеце, чалавечым быцці заўсёды цягнецца да трагічнай тэмы, якая ўяўляецца як генеральная і праходзіць праз усю гісторыю сусветнай літаратуры. Інакш кажучы, і гісторыя грамадства, і гісторыя мастацтва, і жыццё асобы так ці інакш сутыкаюцца з праблемай трагічнага. Адразу адзначым, што трагічнае — адна з форм выражэння эстэтычнага. Праблема трагічнага з'яўляецца не толькі адной са старажытных праблем у гісторыі эстэтычнай думкі, але і адной з найбольш важных тэарэтычных праблем сучаснага літаратуразнаўства. Трагічнае дапускае, па-першае, гібель ці цяжкія пакуты асобы (ці — шырэй — групы людзей, народа); па-другое, незаменнасць страт і несуразмернасць пакут, якія выпалі на чыю-небудзь долю, у параўнанні з тымі стратамі, няўдачамі, перажываннямі, якія сустракаюцца ў штодзённым жыцці чалавека; па-трэцяе, невырашальнасць супярэчнасцей, якія ўзнікаюць у пэўнай сітуацыі, без страты важнейшых для жыцця каштоўнасцей ці выключна глыбокіх чалавечых пакут. Такім чынам, амаль усе п'есы (да сярэдзіны 90-х гадоў XX стагоддзя) вядомага беларускага драматурга, нашага сучасніка Аляксея Дударава магчыма было б аднесці да жанру трагедыі (выключэннем можна лічыць «Вечар» і «Радавыя»).

«Трагедыя — гібель — свята...» — пісаў аб IV сімфоніі П. І. Чайкоўскага, вызначаючы яе сэнс, І. Салярцінскі. Гэта амаль эстэтычная формула трагічнага. У розных народаў ёсць легенды аб памерлых і ўваскрэслых боствах (Дыяніс у грэкаў, Асірыс у егіпцян, Адоніс у фінікіян). У час культавых свят у гонар гэтых багоў смутак змяняўся радасцю з прычыны іх ажыўлення. У аснове гэтых легенд ляжыць назіранне за хлебным зернем, «паміраючым», калі яно кінута ў глебу, і зноў «ажываючым» у коласе. Кожны чалавек смяротны, таму для кожнай асобы — сваё ўспрыняцце смерці і бессмяротнасці.

Кожная эпоха заўсёды ўносіць сваё разуменне ў паняцце трагічнага і найбольш яскрава падкрэслівае адметныя бакі яго прыроды. Так, для грэчаскай трагедыі характэрны адкрыты ход дзеянняў, спружыны сюжэта і вынікі дзеяння аголеныя, гібель і няшчасці трагічнага героя вядомыя наперад. У гэтым бачыцца наіўнасць, чысціня і прыгажосць антычнага мастацтва. Такі ход дзеяння адыгрываў вялікую мастацкую ролю, узмацняў трагічныя эмоцыі гледача.

У тэатры сярэднявечча ўсяляк падкрэсліваўся пакутніцкі пачатак у акцёрскай трактоўцы вобраза Хрыста. Трэба зазначыць, што адносіны да драматургічнага мастацтва апалагетаў хрысціянства былі адмоўныя. Як бы ні тлумачылі гэты факт гісторыкі культуры і нават рэлігійныя прапаведнікі, такое становішча выклікана тым, што хрысціяне старажытнасці і сярэднявечча сваім рэлігійным пачуццём несвядома адчувалі суседства сцэнічнага мастацтва з дэманічным светам язычніцкіх уяўленняў. Але тэатральная дзея ва ўласным сэнсе можа быць рознай, нават палярнай па сваім трансфізічным значэнні. Часам акцёры сярэднявечных містэрый настолькі моцна «ўжываліся» ў вобраз Хрыста, што іншы раз і самі аказваліся побач са смерцю.

Калі ў антычнай трагедыі (згадаем «Эдып» Сафокла) самыя незвычайныя рэчы адбываюцца надзвычай натуральна, то ў сярэдневечнай трагедыі важнае месца займае звышнатуральнасць, фантастычнасць таго, што адбываецца. У гэты час чалавек тлумачыў свет з дапамогай Бога, а чалавек новага часу (XVII—XIX стагоддзяў) імкнуўся паказаць, што свет ёсць прычына самога сябе. У філасофіі гэта знайшло выражэнне ў класічным тэзісе Спінозы аб прыродзе як «causa sui» (прычыне самой сябе). У мастацтве гэты прынцып некалькі раней паказаў у сваіх творах Шэкспір, для якога і ўвесь свет, і сфера моцных чалавечых пачуццяў і трагедый не патрабуе ніякіх незямных тлумачэнняў. Прычына свету і яго трагедый — у ім самім, а не ў злым Року, чараўніцтве (знахарстве) ці Богу. Так, адзінай мерай і дзеючай сілай учынкаў Джульеты з'яўляецца яна сама, яе характар, яе каханне да Рамэа, нягледзячы на тое, што ён — прадстаўнік варожага сямейства. Трагічны герой дзейнічае свабодна, самастойна, і ў гэтым сэнсе яго актыўнасць, яго ўласны характар ёсць прычына яго гібелі. Менавіта таму трагічная развязка ўнутрана закладзена ў самой асобе, герой сам нясе сваю гібель, на ім ляжыць трагічная віна.

У драматургічных творах А. Дударава прысутнічаюць элементы і трагедыі, і камедыі з усімі характэрнымі для гэтых жанраў драматычнымі канфліктамі, што вельмі доказна сведчыць аб неадрыўнай сувязі тэорыі і практыкі антычнага драматычнага мастацтва з мастацтвам сучасным. Амаль усе героі п'есы «Злом» (1988) трагічныя: Піфагор, што сам сябе асудзіў на знікненне, гібель за ўдзел у злачынствах, на якія яго падштурхнулі палітычныя абставіны ў дзяржаве; тое ж характэрна і для Афганца, Русалкі і іншых персанажаў п'есы. Трагічны лёс усіх герояў п'есы, іх гібель прадвызначаны... наўрад ці толькі звыш — яны самі (як і згаданая гераіня вялікага Шэкспіра) абралі гэты пакутлівы шлях уласнага пакарання. Самапакаранне за грахі грамадства... Калі канфлікт дзеяздольных асоб у «Зломе» разумець як сацыяльна-драматычны, то п'есу магчыма разглядаць як сацыяльна-драматычную трагедыю.

Вядома, што ў трагедыі характар героя прыходзіць ва ўзаемадзеянне з агульнасусветнымі абставінамі — гэта адзін з прынцыпаў трагічнага жанру. Напрыклад, вобраз сусветнага патопу ў «Гамлеце» мае глыбокі сэнс: існуюць эпохі, калі гісторыя выходзіць з берагоў, а потым доўга і марудна ўваходзіць у сваё рэчышча. У такую эпоху вялікае мастацтва становіцца люстэркам гісторыі. Так, філасофская драма А. Дударава «Адцуранне» адлюстроўвае ядзерную катастрофу. П'еса не напрамую тычыцца Чарнобыльскай трагедыі, але гэтая апакаліптычная падзея прыгнятае чытача. Што гэта трагедыя — зразумела, але аўтара турбуе не тое, хто вінаваты ў ёй (вядома, не Рок ці Бог!), а тое, што з намі будзе гадоў праз 100. А. Дудараў намаляваў нейкую запаветную зону, акрэсленую Космасам, і самае страшнае, што ў выніку ядзернага выпраменьвання наша нацыя можа выраджацца, людзі могуць стаць нейкімі мутантамі і нават не толькі фізічна, але і духоўна. Сапраўды, гэта — трагедыя, якая характарызуе стан свету. Але аўтар не песімістычна ўяўляе сабе чарнобыльскую з'яву: уся яго п'еса прасякнута аптымізацыяй будучыні праз бруд сучаснасці таму, што ў ёй ёсць надзея на духоўнае адраджэнне нацыі ўвогуле і чалавека ў прыватнасці.

П'еса «Адцуранне» — даволі неадназначная і вельмі спрэчная з'ява ў творчасці Аляксея Дударава. Яна з'яўляецца своеасаблівым пагранiччам, пераломам у творчым успрыяцці свету. Яе жанр, напрыклад, можна вызначаць па-рознаму: філасофская драма з апакаліптычным пафасам; сімволіка-алегарычная паэма. На наш погляд, і тое, і іншае вызначэнні маюць права на жыццё. Гэта сапраўды філасофская, сімволіка-апакаліптычная, рамантычная паэма-драма з аптымістычным фіналам, створаная «пад знакам Чарнобыля», у якой беларускі драматург пераносіць акцэнт з ідэі мужнасці на ідэю збавення. Сама ідэя мужнасці быццам бы пераасэнсоўваецца пісьменнікам. Безумоўна, у гэтых абставінах (канец свету, сусветная катастрофа, Страшны суд) чалавек павінен захоўваць цвярозы розум,

чыстае сумленне, здольнасць на рызыку і самаахвярнасць. Але ў імя чаго? Каб выправіць тое глупства, якое нарабілі карыслівыя і жорсткія людзі, што жывуць толькі ў імя асабістай выгоды? Тое, што яны нарабілі, ужо нават і не глупства, а злачынства... Перад імі хранічны алкаголік і турэмшчык Гулаг выглядае святым.

Аўтар, нічога не гаворачы пра выбух ці пажар на ЧАЭС, выкарыстоўвае сімвал: з неба зыходзіць слуп бледна-блакітнага святла, якое нагадвае паўночнае ззянне, але гэтае прыгожае відовішча вельмі небяспечнае — усялякая жывая істота, якая трапіла пад гэтае дзіўнае праменне, гінула. Схавацца ад такога «касмічнага дажджу» немагчыма, нават свінцовыя шлемафоны, якія прызначаны абараняць клеткі мозгу ад уздзеяння небяспечнага святла, не дапамагаюць.

Трэба адзначыць, што на працягу ўсёй гісторыі існавання Зямлі, выпраменьванні з Космасу ўздзейнічаюць на нашу планету, і ўсе яе жыхары (маюцца на ўвазе ўсе біялагічныя формы жыцця) адэкватна адаптаваліся да гэтых рэальных (прыродных) крыніц радыяцыі. Да таго ж Зямля, якая ўваходзіць у Сонечную сістэму, мае свае абаронныя механізмы ад радыяцыйных уздзеянняў, інакш жыццё на Зямлі было б немагчымае. Светлавыя хвалі, цеплавая энергія Сонца — усё гэта разнастайнасці выпраменьвання. Але прамое радыяцыйнае (іанізуючае) выпраменьванне здольнае разрываць хімічныя сувязі малекул, з якіх складаюцца тканіны жывога арганізму, і, як следства, выклікаць біялагічныя змяненні.

Так гаворыць навука, але аб нейкіх моцных касмічных выпраменьваннях існуюць і нетрадыцыйныя думкі. Напрыклад, вандроўнікі ў легендарную Шамбалу сцвярджаюць, што прайсці ў абіцель багоў могуць толькі моцныя, абраныя вернікі, на якіх святло ўздзейнічае не разбуральна, а ўмацняюча, інакш яны былі б няздольныя вытрымаць энергію мноства праведнікаў і прарокаў, якія знаходзяцца ў гэтым таямнічым месцы. Слабыя (верагодна, у духоўных адносінах) людзі гінуць ад моцнай энергіі Шамбалы. А вось што чытаем у «Агні-Ёге»: «...Выпраменьванні Маці Свету падобныя на слупы Паўночнага Ззяння», «...Адно з самых зрокава прыгожых вогненных дзеяў — збліжэнне і разыходжанне аўр. Яно падобна да прыгажосці Паўночнага Ззяння, у ім шмат псіхалагічных момантаў». «Чалавеку дадзены магутныя энергіі. Бо, хто не «распаліць» дух, той не выканае прызначэння...»

Аляксей Дудараў цікава спалучае навуковы і міфалагічны (нетрадыцыйна-агульнарэлігійны) погляды на метафізічны сэнс Святла і ўводзіць у драму незвычайных своеасаблівых герояў, якія па сваім прызначэнні і колькасці глыбока сімвалічныя: два (Вяшчун і Хлопчык) + сем (Дачка, Стары, Медсястра, Арлет, Гулаг, Ліквідатар і Дэсантнік). Дарэчы, усё ў гэтай драме сімвалічнае: Святло, колькасць персанажаў і іх склад, камяні і ўзнаўленне сцяны разбуранай капліцы. Усе дзеючыя асобы драмы падзелены на рэальных істот (тых, хто апынуўся паміж жыццём і смерцю), якія потым пяройдуць у стан ірэальнага існавання. Яны — Боскія выбраннікі, што павінны выканаць сваё прадвызначэнне пасланцоў Бога, з'яўленне якіх прызначана нагадаць людзям, як яны павінны будаваць сваё жыццё. Людзі, «гаспадары» жыцця, забыліся на галоўны Боскі запавет: любі бліжняга, як самаго сябе. Вось чаму ў гэтай сімволіка-алегарычнай драме-паэме з'яўляецца вобраз Вешчуна — пасланца Бога.

У п'есе «Адцуранне» цяжка вызначыць галоўных герояў: кожны з іх — галоўны. Але ўсё ж такі сярод дзеючых асоб вылучаецца Вяшчун — адметны персанаж, які нагадвае калектыўны вобраз, зборную дзеючую асобу відовішча. Вобраз гэты бярэ пачатак ад антычнай, старажытна-грэчаскай драмы. Эсхіл, Сафокл, Эўрыпід і Арыстафан, што стаялі ля вытокаў гэтага віда мастацтва, стварылі арыгінальную драму, у якой персанажы ўзаемадзейнічалі не толькі адзін з адным, але і з хорам. Хор з'яўляўся адлюстраваннем настрою думак аўтара і гледачоў, але паміж антычным хорам і Вешчуном Дударава ёсць значнае адрозненне: у антычнай драме асноўны канфлікт не адбываецца на вачах гледачоў — аб ім паведамляецца пры дапамозе «вешчуна» — галавы хору, карыфея, а ўжо сам хор

рэагуе на гэтыя паведамленні, успамінае мінулае, дае ацэнку сучаснасці ці выказвае думкі аб будучыні.

Вяшчун, пасланец Бога, з'яўляецца адзіным і страшным індывідуумам, ён дзейнічае на працягу ўсёй драмы. Цікава, што Вяшчун нябачны для тых персанажаў драмы, якія яшчэ жывыя і здаровыя. Тыя ж, якія ўжо гатовыя для пераходу ў ірэальны стан (Ліквідатар, калі атрымаў пэўную дозу апраменьвання) і ўсе астатнія персанажы, якія перайшлі парог жыцця і смерці і сталі трасцэндэнтнымі істотамі, і бачаць, і чуюць яго. Вяшчун праследуе свае «ахвяры» на працягу ўсёй драмы, яго паводзіны вельмі актыўныя. Такім чынам, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што Вяшчун у «Адцуранні» — гэта сапраўдны дзеючы драматургічны герой, ён цесна звязаны з ходам дзеяння п'есы, уплывае на яго развіццё.

Вяшчун — «вещун» — «вещий»... Гэтыя агульнаславянскія словы, паводле С. А. Ожагава, азначаюць «предсказатель, предвидящий будущее, пророк». Калі ўзяць пад увагу сінанімічную пару «вяшчун — прарок», то ўбачым, што яна мае агульны сэнсавы корань: прадвеснік Бога, хрысціянскі прарок. Аб гэтым сведчаць не толькі ягоныя раптоўныя з'яўленні і знікненні, не толькі імя-паняцце, дадзенае аўтарам, але і рэплікі, якія часта нагадваюць ракавыя радкі Апакаліпсіса, змрочныя прароцтвы, што гнятуць род чалавечы. У гэтым Вяшчун, як драматургічны вобраз, літаратурны тып, вельмі блізкі па сваім сюжэтным прадвызначэнні да ролі хору ў антычных творах. Так, у «Антыгоне» славуты Сафокл вуснамі хору гаворыць: «Неадольная магутнасць Рока, яна больш моцная, чым золата, <...>, мацунак прасмоленых марскіх караблёў». І хаця спрадвеку няшчасці заўсёды суправаджалі чалавека ў яго вандроўках па зямным быцці, яны не прымусілі, аднак, гэтага «двухногага без пер'я» прызнаць сваю нікчэмнасць і не прывялі да пакорлівасці перад Богам.

Дудараўскі Вяшчун выконвае ролю хрысціянскага прарока, якая па сваім сюжэтным прадвызначэнні цесна пераклікаецца з роляй хору (ці карыфея) у антычнай драме.

У біблейскія часы дзейнічала шмат прарокаў: калі святары і цары памыляліся або калі народу пагражалі бедствы, тады выступалі прарокі-вешчуны. Іх прамовы былі гнеўныя або падбадзёрваючыя; яны ўкаранялі ў свядомасць людзей неабходнасць паслушэнства Богу, гаварылі аб немінучай адплаце за невыкананне Боскіх запаветаў. Таму Дудараў даручае свайму герою — Вешчуну — прароцкія словы з «Апакаліпсіса»: *«Калі з дыму выйшла саранча, то сказана было ёй, каб не рабіла шкоды траве зямной, і ніякай зеляніне, і ніякаму дрэву, а толькі адным людзям, што не маюць пячаці Боскай на чале сваім... <...> І дадзена ёй не забіваць іх, а толькі мучыць пяць месяцаў...<...> У тыя дні людзі будуць шукаць смерці, ды не знойдуць; пажадаюць памерці, ды смерць уцячэ ад іх...»*

Два тысячагоддзі чалавецтва ўчытваецца ў гэтыя словы і ў розныя часы і ў розных кутках свету назірае здзяйсненне тых ці іншых прароцтваў Іаана Багаслова. Адно за адным яны сведчаць аб канцы свету, які адбываецца кожны раз на духоўным узроўні ў нейкай асобнай чарговай краіне, калі людзі адступаюцца ад падпарадкавання Боскім законам, дадзеным на тое, каб людзі не загінулі, а мелі жыццё вечнае. Але чалавек, які створаны па вобразе і падабенстве Боскім, ды яшчэ і са свабоднай воляй, мае права выбару свайго жыццёвага шляху наогул і паўсядзённых учынкаў у прыватнасці, — гэты чалавек зноў і зноў засмучае свайго Творцу непаслушэнствам, жорсткасцю, немаральнымі паводзінамі. І тым не менш, нягледзячы на духоўную недасканаласць, чалавек усё ж такі застаецца любімым тварэннем Госпада.

А калі любімым, дык чаму ж Ён насылае на сваіх дзяцей усялякія жудасныя іспыты? Гэтым пытаннем задаецца амаль што кожны свядомы чалавек, калі сустракаецца з якой-небудзь бядой сам ці спрабуе асэнсаваць прычыны чужога гора. Колькі разоў кожны з нас, як Ліквідатар з «Адцурання», усклікаў: *«Госпадзі, калі ты ёсць, тады за што?! За што гэты бедны і змардаваны люд столькі*

*разоў і так караць?»* І сапраўды — якія толькі нягоды не праследавалі беларускі народ: і ў апошнюю вайну кожны трэці загінуў, і хцівыя суседзі самавітасці і, нават, роднай мовы пазбавілі, ды яшчэ — Чарнобыль... *«Каго Я люблю, тых віню і караю...»*, — чытае Ліквідатар з далоні Вешчуна. У Свяшчэнным Пісанні ёсць шмат сведчанняў таго, як Бог караў і свой выбраны народ, і любімых сваіх памочнікаў-прарокаў за тое, што былі неслухмяныя, ці праяўлялі нерашучасць, сумненне, ці саступілі з указанага Богам шляху.

Аўтарская думка, на наш погляд, тут у значнай ступені фаталістычная: *«Людзі пачалі паміраць...»* — *«Яны і павінны паміраць калі каму наканавана».* — *«Дзеці хварэюць...»* — *«А то ты не хварэў? Каго вы папраўляць удумалі?* — выказвае думку аўтара Вяшчун. — *Ён проста так нічога не робіць...»* Значыцца, і Вешчуна з Хлопчыкам не проста так з Сусвету на зямлю беларускую, асветленую нейкім знішчальным святлом, паслаў. У іх — Вешчуна і Хлопчыка і іх адэптаў — людзей, стваральна пераўвасобленых святлом, — ёсць мэта больш важная, больш вялікая, чымсьці радкі з «Апакаліпсіса» чытаць і лямпачкі адным позіркам біць! Вешчуну патрэбна сустрэць семярых хворых людзей, пачакаць, пакуль яны пяройдуць у стан трансцэндэнтных, ірэальных істот, і суправаджаць іх у нейкую маленькую, але вельмі прыгожую вёску Расасенку — месца калі не другога прышэсця Хрыста, то ўзнаўлення чалавечай духоўнасці, веры. У тое месца, адкуль павінна пачацца аднаўленне чалавека і нацыі.

Цяпер разгледзім іншыя аспекты драмы — сімволіка-алегарычны сэнс лічбаў і камянёў, які мае вельмі важнае, адметнае значэнне ў гэтым творы.

Са старажытных часоў розным лічбам прыпісвалі таемныя значэнні. Філосафы, паслядоўнікі Піфагора (каля 500 г. да Н. Хр.), сцвярджалі, што лічбы з'яўляюцца асноўным пачаткам і сутнасцю рэчаў, і падрабязна вызначылі якасці і роды лічбаў. Людзям, якія валодаюць выключна рацыянальным мысленнем, спасцігнуць усё гэта нялёгка. Зусім іншая справа — міфапаэтычнае, вобразнае ўспрыняцце свету, уласцівае тым нямногім, хто спавядае акультныя ці эзатэрычныя веды.

Як клас знакаў, лічбы ўяўляюць міфалагічную мадэль свету. Прасцейшыя аперацыі даюць шэраг асабліва значных сакральных лічбаў, якія апісваюць каардынаты Сусвету. Сума асноўных гарызантальных і вертыкальных каардынат Сусвету (4+3) дае лічбу «7» як увасабленне касмічнай цэласнасці, уключаючы часавыя (7 дзён тыдня), астральныя (7 планет) і культавыя (7 багоў пантэона ў іранскай, усходнеславянскай і іншых традыцыях; 7 багоў шчасця ў японцаў) сукупнасці. У хрысціянскай культавай традыцыі лічба «7» з'яўляецца сімвалам святасці, здароўя і разумовасці і называецца «ісцінна святой лічбай», як з'яднанне лічбы «3» — Боскай дасканаласці, і лічбы «4» — сусветнага ладу. Такім чынам, лічба «7» з'яўляецца сімвалам саюза Бога з чалавекам, ці ўзаемасувязі паміж Богам і ягоным тварэннем, а гэта значыць, што ў «сямёркі» адна задача на ўзроўні міфапаэтычнага падтэксту: «акрэсліць» мяжу чалавечага быцця, адзначыць парог, за якім пачынаюцца ірацыянальныя з'явы, спасцігнуць якія розумам надзвычай цяжка — для гэтага патрабуюцца незвычайнае напружанне падсвядомасці і дар Боскі.

Лічба «7», якой перадаецца нешта звышрэальнае, містычнае, надзвычайнае, складаецца са з'яднання лічбаў «3» і «4». Цяжка сказаць, што меў на ўвазе аўтар, размяркоўваючы сваіх персанажаў па прыналежнасці да аднаго з полаў, але так ужо атрымліваецца, што ў лічбу «3», якая мае значэнне «Боскай дасканаласці» (па Біблейскім слоўніку Эрыка Нюстрэма), увайшлі ўсе жаночыя персанажы: Дачка, Медсястра, Арлет; а ў лічбу «4» (сусветны лад) — усе мужчынскія: Стары, Гулаг, Ліквідатар, Дэсантнік.

Верагодна, можна шмат разважаць, чаму сярод гэтых абраннікаў на подзвіг у імя чалавецтва няма праведнікаў: чаму быў абраны Стары — аматар выпіць і ўспомніць д'ябла, ці Арлет — гулёна, ці Гулаг — злодзей княскага роду? Сярод дванаццаці апосталаў Хрыста таксама былі розныя асобы: і мытнік, і няверуючы,

і Юда-здраднік. Але ўсіх іх з’яднала адна задача: яны стваралі будучыню, узводзілі Царкву Боскую, каб людзі прыйшлі туды атрымаць прабачэнне і ачышчэнне. А, як вядома, царква (як рэальны, матэрыяльны прадмет) складаецца з пэўных будаўнічых матэрыялаў — часцей за ўсё гэта цагліны, камяні. Царква — гэта і духоўная метафара: людзі (хрысціяне), што прынялі Бога ў сваё сэрца, — жывыя камяні, якія і з’яўляюцца Царквой, гэткімі своеасаблівымі цаглінкамі ў неўміручым, вечным, жывым храме Боскім (Эф. 2:20 і далей; 1 Пёт. 2:4 і далей).

Але перад героямі драмы Дударава стаіць канкрэтная задача: узнавіць сцяну разбуранай капліцы, а на працягу ўсёй драмы лейтматывам праходзіць тэма каменя, якая, на наш погляд, цэнтральная ў сімволіцы п’есы. У першым акце яна толькі згадваецца, фарміруецца: хатка, якую будуе Хлопчык з дзіцячых кубікаў, — як бы намёк, падказка гледачу (не дзеючым асобам, таму што яны, як мы ўжо адзначалі вышэй, не заўважаюць гэтае дзіця Сусвету пакуль не перайшлі ў ірэальны стан!) і адначасова пачатак развіцця галоўнай ідэі п’есы — прыйшла пара збіраць камяні. «Час раскідваць камяні, час збіраць камяні», — чытаем у Кнізе Эклезіяста, ці Прапаведніка (3:5). Магчыма, гэты верш з Бібліі мае наступны сэнс: за смутай, бязладдзем, хаосам павінен надысці час згоды, гармоніі, добрых здзяйсненняў. Варта адзначыць, што ўскосна гэтая «прыказка» звязана з архетыпам каменя — першавобразам, які сягае ў далёкае і некалі вельмі распаўсюджанае язычніцтва.

Многія рэлігійныя культы карысталіся каменем для абазначэння боства ці месца пакланення яму. Напрыклад, у рускіх былінах нагадваецца «опаляющий Алатырь», камень белага колеру, «усім камяням бацька»; у беларусаў гранітныя глыбы (слядовікі) выконвалі ролю гор для сыходжання святароў з неба. У вобразе каменя перапляліся будзійскія вераванні — «Камень Святла» і хрысціянскія — «Камень Богаз’яўлення». Так, у розных народаў сваё значэнне каменя, але сутнасць яго адна — цвердзь (Быц. 49:24). Якому б народу ні належалі міфы і прытчы аб містычным пакланенні каменю, ягонай магутнай сіле, галоўная ідэя і сутнасць яго ў тым, што ён — крыніца мудрасці, нечага патаемнага. Ён — ключ, які адчыняе ўсе шляхі: ад месца да месца, ад цяперашняга часу да будучыні, ад няведання да спазнання. Дзякуючы канкрэтнаму каменю, якому надаецца містычнае значэнне, людзі разгубленыя становяцца больш упэўненымі ў сабе, сумненні саступаюць месца правільнаму выбару.

У філасофскай сімваліка-рамантычнай драме «Адцуранне», створанай «пад знакам» Чарнобыля, аўтар пераносіць акцэнт з ідэі мужнасці на ідэю збаўлення, таму героі твора пазбаўлены выбару — яны абавязаны зрабіць штосьці: *«Што я павінен зрабіць?! Што я яшчэ не дарабіў на гэтым свеце?!»* — пытаецца Стары. Гэтым пытаннем задаюцца і іншыя істоты, якія змянілі свой фізічны стан пад уздзеяннем «нейкага сьвятла».

Да самай апошняй сцэны сямёра дзеючых асоб не ведаюць, дзеля чаго яны, такія розныя, тут апынуліся, навошта сабраліся на гэтым кладзішчы ў разбітай Расасенцы. Ведае аб гэтым, зразумела, Вяшчун, але ўся справа ў тым, што гэтая сямёрка павінна самастойна асэнсаваць, успомніць на ўзроўні падсвядомасці і звышсвядомасці сваё прадвызначэнне і абавязкова выканаць *«тое, што павінен...»*, а што іменна — кожны з іх *«павінен ведаць сам». «Вас сямёра... Адкрыйце кніжку... Вярніцеся на пачатак свой і зірніце на ўсё незатуманеным вокам... зрабіце належнае... Усё прыйдзе і ўсё забудзецца...»* — гэта і ўся падказка...

Усё бліжэй і бліжэй чуваць аўтаматныя чэргі, што знішчаюць усё жывое ў зоне адцурання, і выбухі, якія разбураюць *«усе без выключэння жылыя і гаспадарчыя збудаванні»*, а сем істот на старых вясковых могілках шукаюць сэнс сваёй прысутнасці ў гэтым месцы: *«Я адчуваю, зараз будзе канец свету»*, — крычыць Гулаг і праз хвіліну ўспамінае, што маці ў сне казала пра камень, які ён павінен узяць з магілы сваёй прабабкі, князёўны Ізабэлы, і паставіць на месца. Тут раптам

усе «ўспомнілі», для чаго апынуліся на расасенкаўскіх могілках, і *«ўсе яны нервова, але зладжана і без мітусні, пачынаюць насіць камяні да старой капліцы»*.

Фінал драмы паказаны выразнай карцінай узнаўлення святога месца — старой капліцы, якую людзі ўшчэнт разбурылі ў імя разбурэння і руйнавання гістарычнай памяці — памяці продкаў. Чалавецтва дайшло да мяжы самазнішчэння і павінна спыніцца, бо загіне. Паводле біблейскага падання, ёсць час раскідваць камяні і час збіраць іх; амаль дзве тысячы гадоў ад нараджэння Хрыста людзі раскідвалі камяні, а на парозе XXI стагоддзя павінны пачаць іх збіраць. Гэта і робіць на могілках Хлопчык, гэта пачынаюць рабіць і дарослыя, узнаўляючы сцяну старой капліцы. Пад гукі страляніны пачынае аднаўляцца частка сцяны святога месца там, куды Хлопчык насіў свае каменьчыкі. Дарэчы, нагадаем, што ў першым акце п'есы Хлопчык спрабаваў будаваць хатку з кубікаў, але дарэмна — яна ўвесь час разбуралася. Гэтая маленькая істота ў светлым адзенні, якая ўзнікла разам з Вешчуном з Сусвету, — сімвал Будучыні. Дудараў не дарэмна звяртаецца да яго: каб *заўтра* ўвайсці ў Будучыню, трэба *сёння* зрабіць для яе ўсё, што залежыць ад нас. Калі мы сёння не выправім тое, што нарабілі, не адновім тое, што разбурылі, то не будзе і Будучыні. Толькі разам, у цесным адзінстве пакаленняў магчыма будаваць заўтрашні дзень... Усім разам — і добрым, і не вельмі добрым, але ўсіх павінна яднаць адна вельмі важная, адказная рэч — будучыня роду чалавечага і, у прыватнасці, шматпакутнай беларускай нацыі.

Сямёра нябожчыкаў (?) перамаглі смерць і выканалі сваё прадвызначэнне, свой апошні зямны абавязак: *«атрымалася белая-белая частка сьцяны старой капліцы»*. Калі мы звернемся да Евангелля, то прачытаем у «Адкрыцці» (2:17), што Ісус Хрыстос абяцаў пераможцу даць менавіта белы камень. Магчыма, самым простым і верагодным тлумачэннем можа быць тое, што менавіта белыя камяні выкарыстоўваліся як пісьмовы матэрыял, а таму сутнасць справы заключаецца не ў самім камені, а ў тым, што на ім напісана (імя, напрыклад, ці, як у п'есе А. Дударава, выява Дзевы Марыі, Божай Маці — заступніцы люду зямнога). Гэта адна з разгорнутых метафар з сімваліка-алегарычнага арсенала аўтара. Як бачым, яна таксама адносіцца да архетыпных вобразаў-уяўленняў нашых далёкіх продкаў. Белая-белая сцяна... Гэты колер у многіх народаў мае значэнне цноты, чысціні, маральнасці, якія абавязкова прысутнічаюць у чалавека з адкрытым сэрцам, чыстай душой. У гэтым плане цікава нагадаць пра «філасофскі камень» сярэднявечных алхімікаў, у якім яны бачылі сімвал нечага, што можна знайсці толькі ў душы чалавека. Старажытнаарабскі алхімік Марыенус так пісаў аб «філасофскім камені»: «Гэтая рэч выцягваецца з цябе: ты для яе — мінерал, і ў цябе яе можна адшукаць, дакладней, яны (алхімікі) выцягваюць яе з цябе. Калі ты гэта спазнаеш, любоў і адабрэнне каменя прарастуць у табе. Ведай, што гэта ісцінна і не падлягае сумненню».

Дудараў асэнсоўвае вельмі значную на сённяшні дзень праблему: нам не хапае ўпэўненасці ў будучыні, страчана сувязь пакаленняў, страчана памяць народная — мы не памятаем сваіх каранёў, продкаў. Гэта сімптаматыка нашых дзён. Відавочна таму аўтар у алегарычнай, умоўна-сімвалічнай форме ўздымае гэтую вельмі сур'ёзную праблему. А апошняя сцэна яскрава гаворыць аб гіпатэтычных надзеях драматурга на тое, што і беларуская нацыя, і грамадства ў цэлым змогуць узняцца над побытавымі праблемамі нашага супярэчлівага часу.

Драма «Адцуранне» — гэта своеасаблівы плач па Беларусі: сваімі пакутамі мы будзем нагадваць людзям не толькі аб адказнасці за свае навуковыя дасягненні, але і аб маральнасці, неабходнасці ўшанавання Боскіх запаветаў, што прынясе кожнаму з нас і ўсім разам дараванне і дабрабыт. Тады мы зможам прачытаць апошнія рэплікі пасланцоў Боскіх — Вешчуна і Хлопчыка — не ў безнадзейна-апакаліптычным варыянце. *«І ўбачыў я новае неба: новую зямлю, бо ранейшае неба і ранейшая зямля мінулі...», «І абатрэ Бог усякую сьлязу з вачэй іх, і сьмерці не будзе ўжо...»* — гэта пра пераход да Бога, у Рай, у іншае

жыццё душы пасля смерці біялагічнай абалонкі — цела нашага тленнага. Але мы ведаем, што Біблія напісана сімваламі, і тады, напрыканцы XX стагоддзя, нам вельмі хацелася б прачытаць у апошніх радках п’есы А. Дударава надзею на тое, што чарнобыльская ахвяра будзе апошняй і што ў трэцяе тысячагоддзе мы ўвойдзем адроджанымі, зразумеўшы, што сэнс чалавечага існавання — у Дабрыні, Справядлівасці і Любові. Але за мінулае дзесяцігоддзе жорсткія Анёлы Апакаліпсіса не аднойчы ўжо праскакалі па планеце: тэрарыстычныя атакі, страшэнныя цунамі, бязлітасныя пажары і патопы, разбуральныя ўраганы, новыя хваробы — усё гэта вынік бяздумнага жыцця «цара прыроды», маральнага падзення чалавека, яго нявер’я.

На п’есу пэўны ўплыў аказала сусветная практыка трагічнага жанру. Як і ў старажытнай трагедыі, у дудараўскім творы ўвесь сэнс трагічнага дзеяння змяшчаецца не ў неабходнай і ракавой развязцы, а ў характары паводзін герояў. Тут важна тое, *што* адбываецца, і асабліва тое, *як* адбываецца. Героі дзейнічаюць і ў рэчышчы неабходнасці: сямёра зусім розных па сацыяльным, узроставым, інтэлектуальным стане герояў не ў сілах прадухіліць непазбежнае, але яны змагаюцца, дзейнічаюць, і толькі праз іхні свабодны выбар рэалізуецца тое, што павінна адбыцца — аднаўляецца разбураная сцяна старой капліцы як сімвал адраджэння беларускай нацыі. Не неабходнасць цягне герояў А. Дударава да развязкі — яны самі набліжаюць яе, спяшаюцца, ажыццяўляюць свой трагічны і гераічны лёс. У «Адцуранні» трагічнае выяўляе грамадскі сэнс жыцця чалавека і паказвае, што бяссмерце герояў ажыццяўляецца ў бессмяротнасці народа, нацыі. Трагічная віна ўзвысілася да гістарычнай адказнасці герояў.

А. Дудараў прапускае сваіх герояў праз цяжкія іспыты. Сцэнічнае жыццё герояў уздзейнічае комплексна на сэрцы і розум гледачоў, фарміруе лад іх думак і пачуццяў. У гэтым — важнае значэнне мастацкага твора: выхоўваць людзей, ачышчаць іх унутраны свет. Падобна таму, як алмаз шліфуецца алмазам, так і дух чалавека шліфуецца толькі высокім, асвечаным ідэалам, праяўленнем чалавечага духу. Менавіта таму і патрэбна «падабенства» пачуццяў для ачышчэння душы. Звычайна спажывец мастацтва праецыруе мастацкія вобразы і падзеі на свой жыццёвы вопыт; ён фіксуе моманты падабенства. Дзякуючы гэтай адметнасці драматычнага жанру, гледачы, успрымаючы сцэнічны твор, здабываюць магчымасць разрадзіць унутранае напружанне і хваляванне, выкліканыя рэальным жыццём, і хаця б часткова кампенсаваць манатоннасць паўсядзённасці. Разам з героямі драматургічных твораў глядач перажывае многія чужыя жыцці як сваё ўласнае, ён узбагачаецца вопытам іншых людзей, у значнай ступені нават прысвойвае яго, робіць яго фактам свайго жыцця, элементам сваёй біяграфіі. Мастацкі твор не мае нічога агульнага з дыдактыкай, сентэнцыйнасцю. Менавіта таму, верагодна, трагедыя сярэднявечча не атрымала развіцця ў мастацкай творчасці далейшага часу, бо ёй было чужым паняцце катарсіса: гэта была трагедыя не ачышчэння, а суцяшэння, калі трагічнае выступала не як гераічнае, а як пакутніцкае.

Што тычыцца творчасці А. Дударава, то можна сцвярджаць, што ён выкарыстоўвае катарсічна-кампенсатарную функцыю драматургічнага мастацтва ў сваіх творах (за выключэннем, бадай, драмы «Злом», у якой, як і ў некаторых п’есах М. Гарэцкага, Л. Андрэева — «Антон», «Жыццё Чалавека» — трагічнае дзеянне развіваецца катастрафічна, аказваючы дэструктыўнае ўздзеянне на духоўны стан і самога аўтара, і гледача). Наадварот, у ранейшых п’есах беларускага драматурга («Выбар» і «Узлёт») нават гібель герояў узнімаецца да гераічнага пафасу, таму што яна — у імя дабра і справядлівасці. Па сутнасці нетрагічныя характары (Шабуня, Крынкін, Барткевіч) сталі героямі трагічных сітуацый. Сацыяльныя ўмовы зрабілі трагедыю «звычайнай гісторыяй».

Усе сцэнічныя дзеі, якія праводзяць акцёра і гледача праз катарсіс — духоўны пад’ём ці хаця б кароткачасовае прасвятленне, — глыбока апраўданыя. Аднак нельга гаварыць аб катарсісе (для выканаўцы адпаведнай ролі ў першую чаргу)

у тым выпадку, калі акцёр іграе адмоўную ролю: гэта аказвае разбуральнае ўздзеянне на духоўны стан і самога акцёра, і гледача, і, трэба дадаць, аўтара, які выявіў гэты вобраз. Як сцвярджае хрысціянская этыка, артысты, выконваючы падобныя ролі, «спакушаюць неакрэплыя душы моладзік», прыводзяць іх у стан дзікага экстазу або выклікаюць пераймальныя тэндэнцыі. Так, можна сцвярджаць, што спектакль «Жыццё чалавека» Л. Андрэева быў шкодны і для аўтара, і для выканаўцаў, і для гледача, таму што ў ім адсутнічае тое, што старажытныя называлі катарсісам.

Гісторыя мастацтва і рэлігіі сцвярджае, што акцёраў, якія выконвалі адмоўныя ролі ў ранейшыя часы, нават не хавалі на могілках — толькі за агароджай, як самагубцаў. І. Шаляпін меў рацыю, калі пасціўся і маліўся пасля выканання ролі Мефістофеля. Разглядаючы ў гэтым плане п'есу М. Гарэцкага «Антон», таксама трэба адзначыць, што ў ёй няма катарсіса, бо герой драмы Антон, цёмны, непісьменны, напужаны няўдалымі рэлігійнымі пропаведзямі гэткіх жа непісьменных папоў, адважыўся на жудасны ўчынак — забойства. Такое ж беспрасветнае жыццё і іншых персанажаў гэтай драмы.

Трагедыя як жанр у рэалістычным мастацтве сучаснасці фактычна знікае, бо герой мастацтва стаў адчужаным «асобным і частковым» (Гегель) чалавекам. Аднак трагічны элемент увайшоў ва ўсе роды і жанры літаратуры, адлюстроўваючы нецярпімасць разладу чалавека і грамадства. Для таго каб нясцерпны трагізм перастаў быць пастаянным спадарожнікам жыцця, грамадства павінна стаць чалавечным, павінна быць знойдзена гарманічнае адзінства асобы і грамадства.

Такі вышэйшы сэнс канцэпцыі трагічнага (драматычнага) у мастацтве крытычнага рэалізму канца XX стагоддзя. Пераадоленне эгацэнтрычнай замкнёнасці асобы, яе разладу са светам, уцёкі ад адзіноты, пошук страчанага сэнсу жыцця — гэта пафас распрацоўкі трагедыйнай тэмы ў драматургічнай творчасці А. Дударава і рэалістаў XX стагоддзя.

**Казімір КАМЕЙША**

# ПАД ЗНАКАМ ДАБРЫНІ

**В. Гардзей. «Трыадзінства».** Мастацкая літаратура, 2010.

Здаецца, мала дзе ў новай кнізе Віктара Гардзея гучыць гэта даўняе і неабыякавае нам слова — дабрыня. Але спыніцца хацелася б менавіта на ім. Бо так многа яе, неагучанай дабрыні, вынікае з саміх радкоў, згадак, думак, пачуццяў і назіранняў паэта. Не, гэта не той выпадак, калі пішацца адно, а падразумяваецца другое. Мы паважаем аўтара за яго разнасцежаную адкрытасць, ён ніколі не хавае ды і не стрымлівае сваіх пачуццяў, з чытачом размаўляе толькі на даверлівай ноце, часам, магчыма, падкрэслена спавядальна. Ды і што тут утойваць, калі задача твая адкрываць, высвечваць, паказваць самым нечаканым бокам нават тое, што вядомае кожнаму ў гэтым жыцці, ляжыць, як кажуць, на самой паверхні, але як быццам нікім не заўважанае. Сапраўдны паэт умее звычайнае рабіць незвычайным, высвечваць яго чытачу тымі самымі гранямі прываблівасці. У кожнага ў такім разе ёсць свае мастакоўскія сакрэты. І тое, што лёгка, замілавана, а часам і захоплена чытаецца, каштуе амаль заўсёды вялікай паэтычнай працы. Да таямніц жыццёвых, як правіла, паэт прыходзіць праз таямніцы сваёй душы. Гэтаксама і з дабрынёй, з якой пачалася наша гаворка. А крыніцу той жа дабрыні аўтар бачыць у самой прыродзе. І гэта здаецца зусім не наіўным, калі і ў звычайнасці летняга луга паэтавай душы лёгка адшукаць супакаенне ад думкі, што самой дабрыні павінна ў свеце прыбаўляцца: «Болей кветак будзе ўлетку, Болей стане дабрыні».

Віктар Гардзей належыць да тых творцаў, хто, кажучы вобразна, вяслуе ў два творчыя вяслы. Сёння разважаючы пра новую яго паэтычную кнігу, я хацеў бы прыгадаць і яго арыгінальную прозу, найадметную ў нашай літаратуры сваім псіхалагічным заглыбленнем у жыццёвы матэрыял незвычайным моўным каларытам і добрым аўтарскім досціпам. Гэта другое яго вясло, і яно раўнадзейнае першаму. Словам, вяслуе аўтар у добрым дыханні і зладжаным рытме. А калі гаварыць наогул пра творчыя набыткі гэтага ўдумлівага творцы, дык варта згадаць і яго дзіцячыя зборнікі вершаў «Чырвоны грабеньчык» (1976), «На арэхавай палянцы» (1982), «Коцікі на вярбе» (1988), «Мой тата — трактарыст» (1989), «Зай, які лічыў варон» (1992), «Зайкава балалайка» (1998). Абмяжуемся і гэтым пералікам, хоць ён не зусім поўны. Усё яно ў падсумаванні — таксама нібы своеасаблівае творчае трыадзінства (гэтым словам названа сама кніга. — **К. К.**), бо на кожнай з узгаданых трох ураджайных дзялянак В. Гардзей аднолькава пазнавальны, значны і запамінальны. Мы рэдка гаворым пра гэту якасць літаратуры — яе запамінальнасць. Але ж яна існуе, і на яе звяртаюць увагу і пісьменнікі, і чытачы таксама. У адных яна часта дасягаецца за кошт займальнасці сюжэта, хоць пры гэтым можа быць слабаватым моўны арсенал; іншыя імкнуцца прыглянуцца чытачу нечаканай канструкцыяй вобраза, яркасцю дэталей, фарбаў, калі гэта, скажам, тычыцца прыроды. Ну а часцей за ўсё прачытанае, ды калі яго яшчэ занадта многа, адразу знікае з памяці як штосьці звыклае і прахаднное, бо не знайшоў аўтар таго адметнага, чым можна захапіць чытача. Нават той самы «ажыўляж», маючы на ўвазе пад гэтым нейкія сексуальныя інтымкі-эпізодчыкі, не выратоў-

вае творцу і не ідзе на карысць твору. Віктар Гардзей жа, як казаў некалі адзін наш класік, умее «падсыпаць жарку», ды так, што горача адразу робіцца. І ўсё гэта дзякуючы таму ж гумару ды моўнаму каларыту. Такое характэрна не толькі яго прозе, гумар нядрэнна пасабляе і ў паэзіі. Ну хіба пройдзеш безуважна вакол наступных радкоў:

Галава бязмозглая, пустая,
Дзе прапаў твой кудзер і калі?
Лысіны ж патроху прырастае,
Як у пана сквапнага зямлі?!

Згаджаешся з аўтарам прадмовы да кнігі Алесем Марціновічам, які даводзіць: «В. Гардзей валодае… адной якасцю, важнай для любога пісьменніка, а для паэта ў большай ступені — назіральнасцю». Так, назіральнасць, востры паэтычны зрок дазваляюць прызнанаму аўтару нават у дробязным заўважаць тыя самыя залацінкі, якія жывяць, рухаюць твор, хай і не заўсёды прыводзячы яго да нейкай нечаканай думкі. Трэба адзначыць, што ўсе аўтарскія назіранні добра падмацаваны разважлівым роздумам, у іх абавязкова побач з захапленнем прысутнічае і чалавечае суперажыванне, прымерка на нейкі канкрэтны прыпамін. Тут варта згадаць адзін з ранніх вершаў паэта «Па сена». Сама інтанацыя верша і ўся яго суразмераная дынаміка і зрокава, і гукапісна перадаюць рух саней з сенам па халодным зімніку:

З вёскі прасёлкам, а потым лясамі
След праціраюць па зімніку сані.
……………………………………
Едзем па сена — цяжкая работа.
Чмелішча — дзіўная назва ў балота.
………………………………………
Скуль гэты рэзрух? — з-за сіняй асіны
Студзень паглядвае вокам ласіным.

Як тут усё непаўторна, суразмерна і вобразна, добра перададзены нават адчуванні чалавека. І як дакладна ўрэшце некалькімі радкамі выхаплены сам вясковы двор, які даўно чакае сані з сенам:

Сані шуруюць, і вось надвячоркам
Бачны сялібы дымкі за пагоркам.

Там нецярпліва яшчэ ад Пакроваў
Б'ецца рагамі ў вароты карова.

Вельмі густоўна і прывабліва прабягае праз вочы гэты далёкі малюнак дзяцінства. Самае галоўнае, што адчуваецца ў ім упэўненасць мастакоўскай рукі, сталая разважлівасць і засяроджанасць.

Голас паэта з гадамі мужнее, і хоць душой кіруе не вопыт, а тая ж разважлівасць, ён добра бачыць і разумее, што ў гэтым нязменным, як агонь, як вада, свеце, шмат чаго ўсё ж змянілася, зыначыўся, змяніўся ў нечым нават ён сам:

Няма яго (дзяцінства **К. К.**), і ўжо не па-хлапечы
Гляджу на свет. І жыць ужо спяшу.
Прастора, час і вопыт чалавечы
Мне вылепілі новую душу.

Прастора, час і вопыт чалавечы… Вось і яшчэ адно трыадзінства, пад якім трэба падразумяваць і перажытае аўтарам. А яго, калі задумацца і згадаць, было нямала. Я маю на ўвазе і перажытае з балючымі і ні з чым непараўнальнымі асабістымі стратамі. У паэзіі трэба ўлічваць усё, што тычыцца самой

біяграфіі творцы. Ні ў якім разе нельга абыходзіць тут, ці адгароджвацца і ад біяграфіі краіны, у якой ты нарадзіўся і жывеш, ад усіх і негатыўных, і пазітыўных зрухаў, якія адбываюцца ў грамадстве. Хіба яны не «лепяць» па-іншаму ўжо злепленую чалавечую душу? І цяжка абысці ўсе тыя трывогі часу, якія амаль на кожным кроку падсцерагаюць саму душу. Толькі часам прырода пасылае ёй нейкія лёгкія хвіліны супакаення і суцяшэння, але самота ўсё ж ідзе за ёю следам:

Здань бяды адстане
Там, на павароце,
Хоць не перастане
Жыць душа ў самоце.

З горкаю віною
І без пакаяння
Цяжка пад густою
Цемрай да світання.

Жыццёвыя «павароты» толькі аддаляюць ад чалавека «здань бяды», але зусім не пазбаўляюць яе. Бо пакуль чалавек жыве, пакуль жыве з ім яго памяць, усё перажытае таксама крочыць услед да самай апошняй мяжы. Гэта выснова вынікае з радкоў паэта, напісаных, магчыма, у хвіліну нейкага адчаю. Але гэта ўжо сакрэты аўтарскія.

Тая ж назіральнасць дазваляе В. Гардзею ў свеце прыроды пачувацца чалавекам, моцнымі каранямі знітаваным з ёю, зарыентаваным на адкрыцці ў ёй непаўторнага, хай сабе і імгненнага, але ж дастатковага для чалавечага здзіўлення. Нават узнаўляючы ў памяці які-небудзь малюнак лета, паэт знаходзіць ёмісты вобраз, якім і спыняе нашу ўвагу. Той вобраз зрокава даволі рэльефна вымалёўваецца ў нашым уяўленні і адразу завалодвае нашым даверам. Спашлюся для прыкладу на малюнак таго ж скошанага луга, які ў вершах паэта будзе сустракацца неаднойчы, але вось нарэшце выбухне такім вобразам:

Колькі фарбаў на сырой пакошы!
Сонца, кветкі і — далёкі гром.
Луг падобны на вялікі кошык
З дужкаю вясёлкі за сялом.

Дужа важкім здаецца нам гэты «кошык» аўтарскага ўяўлення. І ўсё ж не ў бесклапотным замілаванні ці ўкленчванні перад прыродным хараством, адшуканым ці страчаным, але ўдала ўзноўленым памяццю далёкага ўражлівага дзяцінства, бачыцца нам сэнс паэтычнага клопату Віктара Гардзея, паэта ўдумлівага і патрабавальнага. Ён сам добра ведае і адчувае, дзе ў яго тое самае лёгкае, ды летуценна ўсклікнутае дзеля «спынення моманту», а дзе важкае, добра «закляпанае» не толькі рыфмай, вобразам, але і цікавай, глыбокай думкай. У паэта даўно адчувальна акрэслена грамадзянская пазіцыя, пра якую ў адным з вершаў заяўлена даволі выразна і, як здаецца, нават залішне строга: «Свой выток не маю права // Узвялічыць і забыць». Далей нават ідзе нібыта заклён самому сабе:

Ліжуць белыя промні
Дажджавую смугу.
Думай, ведай, запомні,
Перад кім ты ў даўгу.

Такія радкі нараджаюцца, калі паэт спыняе свой крок «у зялёным прасторы, ля салдацкіх магіл». І звернуты яны не столькі да сябе, як для тых, хто будзе заўтра жыць на нашай зямлі, колькі тым, за кім працяг нашага жыцця.

І да роднага слова ў аўтара свае, дужа патрабавальныя адносіны: «Абнадзей, сагрэй і падбадзёр, У любові сказанае слова!»

Нават цяжка канкрэтна акрэсліць у кнізе, да якіх жа тэм найбольш схільны сёння Віктар Гардзей. Можна толькі сцвярджаць, што ўсё, пра што ён піша, акрэслена абсягам самога жыцця, які ў кожнага паэта мае свае вымярэнні. І думкі, і пачуцці, і трывогі ягоныя таксама з арсенала жыцця. А самае асноўнае, на чым грунтуецца яго паэзія і цэментуецца сама думка, — гэта, вядома ж, прырода. І не трэба здзіўляцца, што ў розных вершах паэта могуць паўтарацца тыя ж самыя дрэвы, птушкі, тое ж неба, нівы і хаты, у кожным вершы яны будуць розныя, у кожным новым зачыне яны будуць служыць новай задачы. Галоўнае, што на абранай творчай ніве паэт добра адчувае свой абавязак, падмацаваны сялянскай верай у нямарнасць працы:

На полі сваім папяровым
У смутку і ў светлыя дні
Да зерня падобныя словы
Кідаю з душы, як з сяўні.

З самой прыродаю ў паэта, як і павінна быць, адносіны самыя пяшчотныя і чалавечыя. А вось калі даходзіць справа да яе абароны, ён не толькі смуткуе разам з пакрыўджаным найвялікшым характвом, але і гнеўна папярэджвае чалавека ў сваёй недальнабачнасці і абыякавасці:

Ці бачыў хто, з якой пакутай
Сасоннік дыхае каравы?
Мазутам, жыжкаю, атрутай
Сцякаюць рэчкі і канавы.

Знішчае чалавек прыроду:
Зрабіў труну — майструе века.
Прырода ж, помсцячы за шкоду,
Звядзе са свету чалавека.

Экалагічныя беды, памножаныя на чарнобыльскія наступствы, трывожаць і не даюць супакаення паэтавай душы, бо ён яскрава бачыць, што «ў ландшафтах і пейзажах новых чорныя адценні ўсё часцей».

Самае галоўнае, што ў вершах паэта няма раўнадушша, за ўсё ў жыцці яму карціць «зачапіцца», пакратаць сваімі рукамі, апрабаваць на свой голас. А голас у яго менавіта свой, не падобны на іншыя. В. Гардзей добра памятае, што кожная дробязь у свеце заўсёды вартая ўвагі, калі гаворка вядзецца пра само жыццё. Гэта ісціна не вынікае з нейкіх крытычных пастулатаў, яна вырастае з саміх твораў паэта, яго ўдумлівай зацікаўленасці ўсім жывым у гэтым свеце. Мне могуць запярэчыць: паэт павінен глядзець і бачыць толькі маштабнае. Але маштабнае заўсёды бачыцца праз малое, бо і яно, непрыкметнае, часта бывае неахопным. А Віктар Гардзей пісьменнік вельмі ж трывала заземлены на роднай глебе, дзе гадаваўся і вырас, дзе пачынаў сваю жыццёвую дарогу. Ганцавіцкія, багатыя на красу, краявіды дарылі яму не толькі вялікую жыццёвую насалоду, а і надзялялі той сялянскай мудрасцю, якая і сёння для паэта — цэлае радовішча шчырых і цёплых вобразаў, згадак ды адчуванняў. І Нача, і Лань, і Лактышы, Ясянец, Дубнякі — усё гэта імёны паэтавай любові.

Віктар Гардзей вельмі ўважлівы і чуйны да слова, добра адчувае смак у яго гучанні, не цураецца, вядома, і словатвораў. Я ўжо аднойчы згадваў, як калісьці ў «Вожыку» машыністка, сама не хочучы таго, падарыла нам абодвум вельмі каларытнае слова. Атрымалася гэта, дзякуючы рэдакцыйнай машыністцы. У той дзень Віктара не было ў рэдакцыі, і мне давялося вычытваць ягоны пераклад з шолахаўскай «Узнятай цаліны». Гэта быў урывак пра смешныя прыгоды дзеда

Шчукара. Вычытваючы, я спатыкнуўся аб слова «бруня». Падкрэсліў яго, а назаўтра запытаў у Віктара, што значыць гэта невядомае мне слова.

— Ды гэта памылка, — рассмяяўся ён. — Трэба — «бросня».

— Але ж якое мілагучнае слова! — спахапіліся мы тут жа. — А што калі даць яму жыццё? Ёсць жа слова «брыняць». І вось у адным з вершаў кнігі я сустракаю тое самае слова. Дый хораша як загучала:

Чвякай, балота, далёка, глыбока,
Свету вярніся дрыгвой, чысцінёй.
Мо не аслепла і «чортава вока»
З летняю броснях, з асенняй брынёй.

Вось урэшце мы і падышлі да разгадкі таго самага аўтарскага «трыадзінства». Дык у чым жа яно? Для В. Гардзея гэта — сплаў адразу трох паняццяў: думкі, вобраза і слова. Тут і заключана своеасаблівая формула паэзіі, зыходзячы з якой і павінен садзіцца за аркуш чыстай паперы сапраўдны паэт. Паэтычная плоць — гэта само слова. Менавіта праз яго і «шчымяць пакуты на кончыку пяра». Ну а прыродзе, пра якую тут шмат казалася і якой так многа ў вершах В. Гардзея, адведзена роля пасрэдніка паміж паэтам, «кончыкам пяра» ягонага і аркушам чыстай паперы.

Тут само па сабе ўзнікае і адно істотнае пытанне: ці цяжка ўсё ж ужывацца ў адной асобе Гардзею-паэту і Гардзею-празаіку? Ці ёсць у гэтым нейкія асабістыя праблемы? Ведаем жа прыклады, калі паэты, звяртаючыся да прозы, пачынаюць паўтараць сябе спосабам празаічнага пераказу і наадварот, у паэзіі перастварацы нейкія празаічныя варыянты. Думаю, што на гэта пытанне яшчэ некалі адкажуць крытыкі. Я асабіста схільны сцвярджаць, што проза паважанага пісьменніка вельмі розніцца з ягонай паэзіяй, хоць і без агульных нейкіх рыс. Тут і там мы маем справу з адкрыццём, дзесьці і першапраходствам, жаданнем сказаць так, як яшчэ не казалі іншыя. І гэта пісьменніку шмат дзе ўдаецца.

Адкрыццём у паэзіі, ды і наогул у літаратуры, можа быць і даўно вядомая ісціна, калі творца здольны высвеціць яе з усяго ўжо нам вядомага святлом свайго незвычайнага зроку. Што, здавалася б, значнага можна сказаць чалавеку, згадваючы сваё мінулае? А вось як па-філасофску да даўно азвычаенай ісціны падышоў В. Гардзей:

Звідна стаю пад самалётным гулам,
І падаюць журынкі ў мураву.
Душой расхваляваным у мінулым,
Відаць, невыпадкова я жыву.

Зноў воран той вісіць над галавою,
Зноў лета незвычайна расцвіло.
І ўсё, што сёння дзеецца са мною,
Ужо з маімі продкамі было.

Сапраўды, кожны з нас ведае з маленства, што ўсё ў прыродзе паўтараецца, непаўторным застаецца толькі бачанне гэтага паўтарэння. Вось таму ў аўтарскім кантэксце падобнае сцвярджэнне гучыць як своеасаблівае адкрыццё.

Згадаліся ўжо даўно вядомыя словы нямецкага класіка: «Каб зразумець паэта, дастаткова пабываць на яго радзіме». Можна было б да гэтага геніяльнага і неаспрэчнага дадаць і такое: «Добра, калі паэта разумеюць на яго радзіме». Віктара Гардзея разумеюць, а таму і паважаюць. Ужо даўно хто з радасцю, а хто і з іроніяй згадвае, што ганцавіцкія землякі адну з вуліц у родных Малых Круговічах назвалі імем паэта. Што ж тут дзіўнага? Такая вуліца, як мне здаецца, ужо даўно сімвалічна існуе ў краіне нашай айчыннай паэзіі. І на ёй нельга заблудзіцца, бо прамы яе накірунак добра асветлены паэтычнымі вобразамі таленавітай лірыкі Віктара Гардзея.

Усё дзеля той жа справядлівасці, перачытваючы сёння новую кнігу паэта, хацеў бы адзначыць вось яшчэ што. Мы доўгі час не заўважалі ці не хацелі заўважыць у ім тонкага лірыка, якіх у нашай паэзіі, магчыма, яшчэ не было і які прыйшоў у літаратуру сваім, не надта і простым шляхам. І застаўся, і нястомна працуе ў ёй. Хацеў бы адзначыць і вялікую патрабавальнасць пісьменніка да слова і да самога сябе. На яго радку сапраўды нідзе не спатыкнешся, усё тут вытерана, адшліфавана. Адчуваецца рука майстра. Магчыма, гэта вынік яго працяглай і нястомнай рэдактарскай працы ў часопісах і ў выдавецтве, а, магчыма, і проста прыроджаная сялянская акуратнасць і абавязковасць ды адказнасць ва ўсім.

А пра саму кнігу хацелася б дадаць наступнае. Яна не для хуткага прачытання. Я асабіста чытаў яе спакваля, спыняючыся разам з аўтарам ледзь ні на кожнай удала адшуканай дэталі, думцы, заўсёды згадвалася і нешта сваё, а перажытае ім суперажывалася ўжо ў сваіх варунках і згадках. Так, відаць, і павінна чытацца паэзія. Самае галоўнае, што ў радках паэта я знаходзіў шмат сугучнага маёй душы, бо адгукаецца яно самому жыццю і часу, у які мы жывём. І не перабольшу, калі скажу, што новая кніга Віктара Гардзея дадала маёй душы цёплых і шчымлівых адчуванняў, яшчэ раз сцвердзіўшы, што сапраўдная паэзія здольная не толькі хваляваць, захапляць, суцяшаць, яна здольная і ўзвышаць чалавека. Можа, гэта самае галоўнае яе прызначэнне.

Васіль СТАРЫЧОНАК

# ВОНКАВАПАДАБЕНЧЫЯ МЕТАФАРЫ Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Метафарычныя пераасэнсаванні па вонкавым падабенстве лічацца даволі рэгулярнымі, лёгка ўзнаўляльнымі і правільна зразумелымі ва ўмовах мінімальных кантэкставых сітуацый. Сферай-крыніцай такіх метафар з'яўляецца практычна бясконцы свет ва ўсіх яго выявах і праяўленнях, дзе носьбіты мовы знаходзяць пэўныя асацыяцыі і падабенствы з практычна неабмежаванай колькасцю прадметаў і з'яў рэчаіснасці.

Даволі часта такое падабенства выразна выяўляецца ў дэфініцыях слоўнікавых артыкулаў, якія адсылаюць вытворны метафарычны лексіка-семантычны варыянт (у далейшым — **ЛСВ**) да зыходнага ў выглядзе ўказанняў тыпу *«нешта падобнае да...», «што-небудзь падобнае да…», «усё тое, што нагадвае...», «прадмет у выглядзе...», «усё тое, што мае форму...»* Параўн.: ***каса*** 'тое, што нагадвае касу' *(зялёныя косы бяроз, косы ніцай вярбы, жытнія косы, косы нівы, косы сцюдзёнай мяцеліцы, іскры сонечных кос),* ***гузік*** 'тое, што нагадвае форму гузіка' *(гузік гармоніка, гузікі каштанаў, гузік ранішняй расы, гузікі вачэй, гузік носа),* ***парасон*** 'тое, што нагадвае парасон' *(чырвоны парасон ясеня, парасоны соснаў, зорны парасон, нябёс блакітных парасон, неба — чорны парасон),* ***крышталь*** 'тое празрыста-чыстае, светлае, што нагадвае крышталь' *(крышталь снегу, крышталі зорак, буйныя крышталі слёз).*

Рэгулярнай метафарызацыі падвяргаюцца субстантывы *палатно, палотнішча, прасціна, ручнік, шалік, ануча, кудзеля, кужаль, пража, воўна, валакно, руно, столка,* вытворныя ЛСВ якіх канкрэтызуюць шырокія і абагуленыя ўказанні *«тое, што нагадвае...»*; *«тое, што падобна...»* наступнымі рэальнымі азначэннямі:

а) 'паласа, пасма туману': *Паплылі **туману палотны**, // развіваючы цьмяныя столкі* (У. Дубоўка). *Белыя **палотны туману //** Восень сцеле над ракой глыбокай* (А. Бялевіч). *І хмельны водар травастою, // І золкі холад срэбных рос, // **Ручнік туману** над ракою, // Жытнёвы колер тваіх кос* (У. Гетманчук). *Расплешчуць сінь нябёс у азярку, // **Туману шалік** упадзе на плечы* (Т. Мельчанка). *Дзень асенні ўстае па-над нівамі, // праціраючы вочы слязлівыя, // іржавай рызай лісця ды **анучамі** // брудна-шэрых **туманаў** абкручаны* (Н. Арсеннева). *Па-над возерам **туманы //** Слалі белыя **кудзелі*** (К. Кірэенка). *Рассцілала сонца раніцай над Шчарай, // Быццам гаспадыня, **кужаль туманоў*** (С. Новік-Пяюн). *Храма нябескія рысы // бачу праз **кужаль туману*** (А. Дэбіш). *Слізгае плыткі човен за сінюю **пражу туману*** (К. Камейша). *Прыглушаны гоман у **воўне туману**, // Дзе купал хавае Ісакій* (Я. Колас). ***Туману** белага **валокны** плылі над лесам* (М. Калачынскі). ***Туману** распаўзліся **столкі** // ад хат у поле, на загон* (У. Дубоўка).

б) 'імжа': Ноч, як малога, хутала // **Аўчынай** жнівеньскай **імжы** (Р. Барадулін). Сцелюцца мжакі асенняй **валокны** (Я. Купала).

в) 'паласа, пасма воблакаў, хмар': Стогне за вокнамі восеньскі вецер, // Рве на кавалкі **палотнішчы** хмар (С. Новік-Пяюн). **Кудзеля** хмар плыве здалёку

(М. Смагаровіч). Аднойчы ў летнюю спёку // Здань буры ў даліну прыйшла // І **кужалем** белых аблокаў // На чыстыя горы лягла (М. Калачынскі). Хмурна ж наша, хмурна лета, // Сцелюць хмары **валакно**… (Я. Колас). **Воўна** мяккіх аблачынак // высахла ў цяпле смугі (А. Каско). Па небе павольна плылі кашлатыя **аўчыны** хмар (І. Шамякін). Пазалота нівак мілых, // Хмарак лёгкае **руно**... (Я. Колас). Аблокаў белае **руно**... // Дажджы... Вясновых зор пажары... (Л. Дайнека). Хмары развеялі // Грываў чорныя **столкі** (М. Танк).

г) ‘купал неба’: *А неба **блакітнае палатно**, // здаецца, паслана на самае дно* (С. Гаўрусёў). *Дазвольце ў фарбу блакітную // падкрасіць **нябёс палатно**, // а то мясцінамі выцвіла, // што зорак зусім не відно* (П. Шруб). *Сячэ калючы дождж, // І неба — чорная **аўчына*** (М. Мятліцкі). *Шэрую, золкую **неба анучу //** вецер маланкай агністаю сшыў* (М. Касцюкевіч).

д) ‘зорная паласа на небе’: *І ўжо святлеюць зорныя **валокны*** (В. Зуёнак). *У золаце зорных **валокнаў**... // прыйшла чараўніца вясна* (М. Машара).

е) ‘снежнае покрыва’: *Хораша ўсё гэта выглядае, калі на шэрую зямлю, на лёд ракі і выбоі дарог пасцелецца вялізнае **палотнішча** іскрыстай **снежнай белі*** (Я. Брыль). *І адразу ўся зямля пакрылася белай-белай **прасцiною*** (М. Даніленка). *Снегам [завея] замяла дарогу і мядзведзеву бярлогу. // Затуліла ўсё на свеце ў белыя **прасціны**...* (М. Скобла). *Зіма на свой **абрус** беласнежны насцеле // з найлепшай, са срэбнай, з пушыстай **кудзелі*** (У. Дубоўка). *Нехта белы, снежны **кужаль** сцеле на палях* (Л. Геніюш). *Ноч лютаўская прачнулася на **снежных аўчынах*** (З. Бядуля). [Гл. таксама главу 2.3].

ж) ‘паверхня поля, дарогі, ракі (возера)’: *Зайцы пачынаюць гойсаць па белых **палотнах палёў**, зусім забыўшыся пра страшных ваўкоў і хітрых лісіц* (Р. Ігнаценка). *Я пільна ўглядаюся ў чыстае **палатно поля**, імкнуся разгадаць тайну жыцця і смерці* (А. Кандрусевіч). *Вось шырокае **палатно** жытніх **ніў*** (Ц. Гартны). *На сінім **палатне ракі** добра відаць сям-там запозненыя жоўтыя гарлачыкі і белыя лілеі* (М. Арочка). *Дзесяць агеньчыкаў прарэзвалі адбіткам бляску чорнае **палатно Дзвіны*** (Ц. Гартны). *Унізе, на бязмежным чорным фоне зямлі, разлеглася агромністая **прасціна** Выганаўскага **возера*** (М. Паслядовіч). *На палеткі і лугі, // на пагоркі і лагі, //ды на **ручнікі дарог //** з неба сыпаўся гарох* (М. Скобла). ***Дарогі** бясконцы **шалік** // Бясконцасць сваю кляне* (Т. Будовіч).

Адсылка параўнальнага характару *‘тое, што нагадвае...’* часта выкарыстоўваецца ў вытворных ЛСВ субстантываў *маністы, пацеркі, каралі, дыяменты, жамчужыны, карункі* з абагуленым значэннем ‘упрыгожанні’: *маністы зор (зорак), маністы звонкія асіны, пацеркі рос, пацеркі слёз, пацеркі суніц, пацеркі зорак, бяроза ў брыльянтавых каралях, каралі рос, каралі журавін, зорныя каралі, дыяменты рос, жамчужыны расы, карункі зорнага святла, карункі аблокаў, белыя карункі рамонкаў, белыя карункі пены.*

Накіраванасць метафарычнай асацыятыўнасці па вонкавым падабенстве не носіць строгай рэгламентацыі, з’яўляецца даволі неаднастайнай, шматбаковай, бо адлюстроўвае вельмі шырокі і мнагастайны спектр падабенстваў прадметаў і з’яў аб’ектыўнай рэчаіснасці. У гэтым шырокім спектры можна выдзеліць некалькі сэнсавых цэнтраў, якія актуалізуюцца ў працэсе метафарызацыі:

1. А к р у г л а с ц ь, в ы п у к л а с ц ь, п у к а т а с ц ь: **кальцо** ‘тое, што мае форму такога прадмета’; ‘гадавое кальцо на ствале дрэва’; ‘тое, што акружае, апаясвае, замыкае што-небудзь або каго-небудзь’: *А дзед Мірон закурвае люльку і з-пад парыжэлых вусоў выпускае **кольцы** дыму* (М. Даніленка). *Сінія струменьчыкі і **кольцы** дыму закалыхаліся ў пакоі* (Т. Хадкевіч). *Наўкола Сатурна яго туманнае **кальцо*** (В. Вітка). *Кожны год **кальцо** ў сасонкі // І галінак пэўны лік* (Г. Кляўко). *Дзесьці блізка, пад мяккай карой, // Зацвярдзела **кальцо** гадавое* (Ю. Свірка). *Цяжка было зразумець, як яны змаглі вырвацца з **кальца** знішчальнага агню* (Я. Брыль); **кола** ‘усё, што мае форму круга або кальца’: *Чырвонае*

***кола сонца*** *выкацілася ўжо высакавата на небасхіл* (Р. Сабаленка). *Пакоціцца* ***месяца*** *жоўтае* ***кола*** *// за далягляд, дзе самотна і гола* (Д. Бічэль-Загнетава). *Сцёпка праціснуўся ў сярэдзіну людскога* ***кола*** (В. Хомчанка); **абруч** ‘сонечны дыск’; ‘акружэнне, кальцо варожых сіл’; ‘участак лесу, што агінае, акружае што-небудзь’; ‘арэол’: *І коціцца за пушчы і за моры // Па небе звонкі сонечны* ***абруч*** (С. Грахоўскі). *Кананада пачулася зноў, яна хутка набліжалася, сціскаючы войскі сталёвым* ***абручом*** (І. Шамякін). *Вёска і поле замкнуліся* ***абручом*** *лесу* (А. Ліс). *Для мовы ... не патрэбна ні скіпетраў, ні каронаў, як не патрэбна для сонца якога-небудзь яшчэ пазалачонага* ***абруча*** (Я. Купала); **абаранак** ‘рулявое кола аўтамабіля’; ‘кругавы паварот ракі’: *Шафёр круціць* ***абаранак****, думае аб здзіўляючай упартасці хлапца* (М. Ракітны). *Рачулка загінаецца ў лукі, у* ***абаранкі****, у затокі* (З. Бядуля); **шар** ‘сонечны дыск’; ‘прадмет, які мае форму шара’: *Недзе там, у паднябессі, плыткія чародкі аблачын раз-пораз засцілі сабой агністы* ***шар сонца*** (Я. Лайкоў). *Над Берлінам — // Быццам поўня, // Тэлевежы сіні* ***шар*** (П. Прыходзька). *Заранік шпарка ўзбег на ганак, над якім гарэлі жаўтлявыя* ***шары ліхтароў*** (Т. Хадкевіч). *Электрычныя* ***шары*** *яна выключыла, і пакой асвятляўся святлом з акон і дзвярэй* (Б. Мікуліч). *Гарбуз у агародзе —* ***шар*** *зямны — // Пад галаву паклаў // Грады рабрыну* (А. Сербантовіч); **клубок** ‘тое, што па форме нагадвае шар, клубок’: ***Клубок*** *шэрага* ***дыму*** *ўзняўся і гэтак жа хутка асеў за зелянінай садоў* (Х. Жычка). *На агародзе, дзе стаялі гарматы, бліснуў вялізны вогненны* ***клубок*** (А. Ставер). *Сонца рыжы* ***клубок*** *пакаціўся за бор расахаты* (К. Жук). *Адплывалі хмары-горы белымі* ***клубкамі*** (Я. Колас). *Вечар намотвае шэрыя* ***клубкі*** *ранняга прыцемку // На ражкі штыкетніку* (Л. Дранько-Майсюк); // **персік** ‘абрыс сонца’: *Сонца нізкага спляснуты* ***персік****, // Над вадою — стронгаў палі...* (У. Караткевіч).

2. У з г о р ы с т а с ц ь: **гара** ‘тое, што нагадвае гару’: *Стаяць на балоце стагі з аснежанымі вярхамі — тутэйшыя* ***горы*** (А. Разанаў). *І тушыла бляскаў пералівы // Хмараў буйных цёмная* ***гара*** (Я. Золак). *Балота скрозь на ўсім двары, // Куды ні кінеш вокам — смецця* ***горы*** (У. Корбан); **капец** ‘надмагільны насып, курган’; ‘куча, гурба’: *Тут войска яго [Напалеона] дакасіла: //* ***Капцы*** *на касцях, як стагі* (А. Бялевіч). *За бродам трапілася вывернутая старадрэвіна —* ***капец*** *снегу, пад якім хаваліся і галлё і карэнні* (Б. Сачанка); **горб** ‘пукатасць, узвышэнне на якой-небудзь паверхні’: *Перайшоўшы мосцік цераз канаву, Іван глянуў наперад і ўбачыў удалечыні, за* ***гарбом*** *поля, дахі будынін і зяленіва садоў* (А. Марціновіч). *З нашага назіральнага пункта на* ***гарбе*** *кургана зноў было добра відаць Залатароўку* (Р. Няхай). *Лабамі біліся ў палянкі // Крутыя хмары на гарах // І выпраменьвалі маланкі // На іхніх каменных* ***гарбах*** (В. Сідарэнка).

3. Д у г а п а д о б н а с ц ь: **дуга** ‘тое, што падобна да дугі’: *Пад* ***дугой*** *маладзіка // Пяюць скрыпучыя палоззі* (М. Танк). *Нам даўно з табою даспадобы... вясёлкі чыстая* ***дуга*** (Г. Бураўкін). *Калі б рассмаргнуць узгорак —* ***дуга*** *лясная распырхнулася б* (С. Баранавых). *Свіслач бегла пад* ***дугі*** *мастоў* (У. Ляпёшкін). *Вунь і яно, успамінаў лісцё, // На дрэвах, на тумбах, на* ***дугах*** *трамваяў* (М. Стральцоў). *Маня ледзь чутна праводзіла пальцам па чорных* ***дугах*** *броў* (А. Васілевіч); **падкова** ‘тое, што нагадвае форму падковы’: *Унізе ляжала сумная Сена, над ёю ўзвышалася* ***падкова*** *палаца Шайо* (Л. Дранько-Майсюк). *За домам — прастор сенажацяў аж да спавітай смугой* ***падковы*** *лесу* (І. Навуменка). *Пад вачыма ў яго сінія* ***падковы*** (А. Бажко). *Ужо і зоркі выспелі ўгары, // Вісіць у небе месяца* ***падкова*** (Я. Каршукоў).

4. К р у ч к а в а т а с ц ь, з а г н у т а с ц ь: **крук, кручок** ‘дзвярная зашчапка’; ‘рыбалоўны кручок’; ‘росчырк, завіток на пісьме’: *У калідоры пачуліся крокі, і ён адшчапіў* ***крук*** (А. Чарнышэвіч). *Зірнуў я на* ***крук****: ключа няма* (А. Чарнышэвіч). *Яго [ярша] не надта спалохае і вялікі* ***крук****, прызначаны, скажам, для буйнага*

*акуня ці галаўня* (А. Матрунёнак). *Аб гэтым сведчыў і подпіс унізе канверта: некалькі літар з адмысловымі* ***кручкамі*** (І. Мележ).

5. З в і л і с т а с ц ь, п я т л і с т а с ц ь: **пятля** ‘лінія, кругавы рух у выглядзе замкнутай ці паўзамкнутай крывой’; ‘сіло’; ‘праразная адтуліна ў адзенні’: *Яны пайшлі па асфальтавай дарозе, якая, робячы адмысловыя* ***петлі*** *вакол скал, абгінаючы цясніны, палога спускалася ўніз* (І. Шамякін). *Першых заячых слядоў // Глухія* ***петлі*** *забялелі* (М. Танк). *Вакол лямпы, апісваючы імклівыя* ***петлі****, носіцца матыль* (І. Навуменка). *Пасля левага развароту самалёт пайшоў на* ***пятлю*** (А. Алешка). *Там яны ставілі* ***петлі*** *на зайцаў* (І. Пташнікаў). *На іх было ўсё вайсковае: кірзавыя боты, зялёныя неперашытыя яшчэ галіфэ, кіцелі з* ***петлямі*** *ад нядаўніх пагонаў* (В. Адамчык); **росчырк** ‘след бліскавіцы, самалёта і інш.’: *Тоня ўздрыгвала пры кожным* ***росчырку*** *маланкі* (Е. Лось). *Блакітны* ***росчырк*** *навальніцы // Над грэбнямі і пенай хваль* (С. Грахоўскі). *У глыбінях стратасферы // Рэактыўных пёраў* ***росчырк*** (П. Макаль); **завіток, завітушка** ‘што-небудзь у форме спіралі, хвалістай лініі’: *А лепшы кут пад тоўстым вязам, // Дзе рэчка робіць* ***завіткі*** (Я. Колас). *На снег сыпаліся кавалачкі чорнай кары, жоўтыя* ***завіткі*** *бяросты* (Я. Курто). *У* ***завітушках*** *дым бялявы* (Я. Колас). *Неба ў хмарках-****завітушках****, // І лятуць у вырай птушкі* (Р. Барадулін); **серпанцін** ‘участак звілістай горнай дарогі’: *Тут звіўся* ***серпанцін*** *з усіх дарог* (У. Паўлаў). *Ён зварочвае ў лес па вузкім, абвешаным снегавым* ***серпанцінам*** *праходзе, які застаўся на месцы летняй дарогі* (М. Зарэцкі).

6. В ы ш ы н я (в ы с а ч ы н я): **вежа** ‘тое, што нагадвае вежу’: *Зялёныя бярозавыя сцены, // над імі* ***вежы*** *— волаты-дубы* (У. Дубоўка). *Над высачэзнымі* ***вежамі****-трубамі кучаравіцца рыжы дым* (З. Бядуля); **мачта** ‘тое, што па вышыні нагадвае мачту’; ‘высокі ствол дрэва’: *Аж да самых нябёс, // аж да сонца ты ўзнёс // свае* ***мачты*** *— пад’ёмныя краны* (А. Вольскі). *Па полі прайшлі* ***мачты*** *высакавольтнай лініі* (Т. Хадкевіч). *Гойдаліся, гнуліся* ***мачты*** *пірамідальных таполяў, вецер ламаў голле міндалевых дрэў* (І. Шамякін). *Люблю стаяць пад цяглай сасной — // Пад звонкай* ***мачтай*** *залатой* (М. Танк); **слуп** ‘маса чаго-небудзь, што рухаецца, ляціць, падымаецца ўверх’: *Толькі чорны* ***слуп*** *густога пылу ўзняўся над вуліцай* (І. Грамовіч). *Над комінам узняўся цёмны* ***слуп*** *дыму* (В. Мыслівец). *Часам сярод бяскрайніх ледніковых абшараў узнімаліся гіганцкія* ***слупы*** *снежнага пылу* (А. Матрунёнак). *Спакойныя хвоі, як заўсёды, глядзелі ў неба сваімі зялёнымі іглістымі каронамі, адкідаючы ад сябе доўгія* ***слупы*** *ценяў* (Ц. Гартны). *Высокі* ***слуп*** *святла, што маячыў недзе ўперадзе, пачаў набліжацца, ярчэць* (В. Палтаран). *Раптам вылецеў* ***слуп*** *агню* (У. Караткевіч); **стаўбун** ‘слуп пылу, дыму і пад.’; ‘кветаноснае сцябло’; ‘высокая шапка’; ‘пышная высокая прычоска’: *У вачах мітусілася ад частых успышак снарадаў, ад* ***стаўбуноў*** *дыму, ад завірухі з пяску і белага тынку* (П. Беразняк). *На Серабранцы цвілі каштаны. Белыя* ***стаўбуны*** *кветак браліся ў сілу* (У. Паўлаў). *Сцягнуўшы з галавы* ***стаўбун****, расшпільваючы каўнер паддзеўкі, Апейка акінуў позіркам клас* (І. Мележ). *Не менш прыгожая Сонька... І вялікі белы* ***стаўбун*** *валасоў на галаве, і чысты румяны твар, і блакітныя вочы* (В. Мыслівец); **калона** ‘высокі ствол дрэва’; ‘слуп дажджу’: *Люблю сівых дубоў* ***калоны*** *// І соснаў стромкія ствалы* (С. Грахоўскі). *Стромкіх дрэў маўчаць* ***калоны*** (Л. Геніюш). *Куды спяшаюцца дажджоў* ***калоны****, // Не зведаўшы дарог і пераправ* (А. Пысін); **тэрмометр** ‘тонкі ствол бярозы’: *Хочацца ісці туды, за вёску, // Дзе стаяць між соснаў і асін // Белыя* ***тэрмометры*** *бярозак* (А. Сербантовіч).

7. Д а ў ж ы н я, п р а д а ў г а в а т а с ц ь, в ы ц я г н у т а с ц ь: **шнур** ‘вузкая палоска зямлі’; ‘чарада птушак’; ‘шэраг аднародных прадметаў, размешчаных адзін за адным’: *Жыта* ***шнур*** *каля хаты выспеў* (Р. Барадулін). *Я касіў свой* ***шнур****, // Каса звінела* (А. Бялевіч). *Восень у зарыве з купін нізіны // цягне пад хмарамі* ***шнур*** *жураўліны* (А. Вялюгін). *Доўгі* ***шнур*** *падвод на момант*

*затрымаўся.* (Ц. Гартны). *Роўны **шнур** агрэставых кустоў* (А. Асіпенка); **дарога, дарожка** ‘вузкі доўгі кусок вытканага палатна’; ‘вузкі доўгі дыван’; ‘доўгі абрус’: *Я па зрэбным бягу палатне, што бяліць разаслала маці... Гэта ж трэба выткаць такую **дарогу**!* (С. Блатун). *Тут нават кабінетная **дарожка** // Адлегласцю здаецца незямной* (К. Камейша). *Усё чысценька, усё прыкрыта сурвэткамі, **дарожкамі*** (А. Васілевіч); **істужка, стужка** ‘тое, што ўецца, цягнецца вузкай доўгай паласой’: *Ірваліся **істужкі** рэк // Пад сховай апаўночы* (Я. Янішчыц). *Мой дух... глядзіць з вышынь на Божы свет — **істужкі** рэк, грамады тораў* (Я. Золак). *І ў шумных прысадах **істужкі** дарог* (П. Броўка). *Чорная **стужка** асфальту* (А. Дэбіш). *Снегіры ў косы вішань світаннем // заплятаюць **істужку** зары* (В. Гардзей); **каснік** ‘тое, што мае форму вузкай палоскі’: *І касцы, быццам сцягі, пранеслі на косах // **Каснікі** залаціста-барвовай зары* (М. Аўрамчык). *Аднастайнай мярэжай на жвіровым **касніку** вылучаюцца шэрыя шпалы* (Х. Шынклер); **ніць, нітка, нітачка** ‘тое, што выцягнулася ў выглядзе простай лініі, падобна на нітку’: *Лётаюць **ніткі** танюткія, // то павуціны белыя* (А. Дзеружынскі). *Ідзеш па зімовым лесе і бачыш, як на кожным дрэве вісяць белыя тоўстыя **ніткі*** (З. Бяспалы). *Вострая, празрыстая **нітка** праменя кінула на Рыгораў твар вёрткага зайчыка* (Ц. Гартны). *Калодзеж... Заіржаўлены ланцуг // Пад **ніткамі** дажджу на калаўроце* (М. Мятліцкі). *Доіць восень з набрынялай хмары // Тоненькія **нітачкі** дажджу* (У. Паўлаў). *Да сонца цягнуцца залатыя **ніці*** (В. Вярба). ***Ніці** ліўня напяліся туга* (М. Кусянкоў); **струна** ‘тое , што па форме падобна да струны’: *Навакол усё паветра // Ў **струнах** сонца залатых* (М. Багдановіч). *Сонечны промень іграе // На **струнах** гарэзных дажджу* (А. Пісьмянкоў). ***Струны** вуліц і мастоў // Штодзённым наліліся гулам* (М. Танк). *Бягуць вятры наўсцяж, // На **струнах** павуціны // Асенні граюць марш* (М. Калачынскі). *І я прыйшоў сюды, дзе зззяе медзі колер, // Галосяць і гудуць, спяваюць **струны** хвой* (А. Коршак); **ка́бель** ‘тонкі доўгі ручай’: *З лесу, з бору, // Між палян-праталін, // Паміж лысых адпацелых пнёў // Зноў вясна паспешна разматала // Серабрысты **кабель** ручаёў* (А. Сербантовіч).

8. В о с т р а к а н ц о в а с ц ь, с п і ч а с т а с ц ь**: іголка, ігла** ‘ліст хвойных дрэў і кустоў’; ‘тонкая калючка на целе некаторых жывёл’; ‘промень сонца’: *Хвойнік рабіўся усё гусцейшым. **Іголкі** балюча калолі рукі, твар* (І. Шамякін). *На сцежцы мы ўбачылі вожыка, які пыхкаў у ноздры і шоргаў сваімі **іголкамі*** (Г. Далідовіч). *Сонца ўпівалася сотнямі тысяч распаленых **іголак**-промняў* (У. Клімовіч). *Свецячы блескам чырвонца // Праз парадзеўшую мглу, // Пусціць, ўстаючы, сонца // Ў іх залатую **іглу*** (М. Багдановіч); **шпіль** ‘спічастая верхавіна дрэва’: *На аблозе — **шпілі** соснаў, // Моцна спіць дзядуля-бор* (Ю. Лявонны). *Высокі з сінімі **шпілямі** бор, а ў прытык да яго рослы дубовы гай узвышаецца справа* (К. Кірэенка); **стрэмка** ‘вострая вершаліна дрэва’: *На захадзе сонца накалолася на вострыя **стрэмкі** лесу і выцякала на зямлю зыркай чырванню* (У. Паўлаў); **лязо** ‘вострае сцябло расліны’; ‘зігзаг маланкі’: *Як хвалю разрэжа аеру **лязо** // У завадзі ціхай на яснасці дня* (М. Мятліцкі). *Тонкае **лязо** аеру блішчыць у кропельках дажджу* (М. Пракаповіч). *Маланак вострае **лязо** // Табе паслужыць хай мячом, // Тваім аркестрам — майскі гром* (С. Ліхадзіеўскі). ***Лязо** маланкі у зямлю, // Бы нож у бохан хлеба* (В. Гарановіч).

Да гэтай групы прымыкаюць полісеманты *шабля, шпага, штык, піка, кап'ё, меч, дзіда* з першасным значэннем ‘від халоднай зброі’, у якіх дадаткова актуалізуюцца семы ‘вастрыня’, ‘калючасць’: **шабля** ‘тое, што сваёй формай нагадвае шаблю’: *Зялёныя **шаблі** аеру // На сажалках вецер згінае* (В. Гардзей). *Аеру зялёныя **шаблі** // Адбіліся ў чыстай вадзе* (М. Смагаровіч). *Лівень сек неба **шаблямі** касымі // І гнуў у крук сцябліны траў* (М. Калачынскі); **шпага** ‘тое, што па форме

нагадвае шпагу’: *Узнімаюцца* ***шпагі*** *антэн // Над маёй салаўінаю вёскай* (В. Сідарэнка). *Смутак — начны валадар — // Працяты сонечнай* ***шпагай!*** (В. Зуёнак). *І ярасна хмары б’юцца на* ***шпагах*** *бліскавіц* (М. Бацюшкаў); **штык** ‘востры канец ледзяша’: ***Штыкамі*** *ледзяшоў драконіцца прыдашак* (К. Камейша); **піка** ‘тое, што нагадвае такое кап’ё’: *Ялінаў* ***пікі*** *далягляд скалолі — // Гарыць ён, быццам кварцу крышталі* (М. Віняцкі). *Стаіць ля дуба вартавы, // І елкі ў неба ўзнялі* ***пікі*** (А. Астрэйка). *Над дахам узнімаюцца ў зорнае неба чорныя* ***пікі*** *таполяў* (І. Шамякін). *Высока ўзносілі* ***пікі*** *// Лістоўніцы — // Спакою Саян // Векавыя ахоўніцы* (Р. Барадулін). *Удалечыні паказаліся вежа і стромкая* ***піка*** *семафора* (А. Асіпенка). *Хоць пакратай рукой* ***пікі*** *строгіх вулканаў* (У. Паўлаў); **кап’ё** ‘тое, што падобна да кап’я’: ***Коп’і*** *ялін шуганулі ў аблокі* (Д. Бічэль-Загнетава). *Велічна ўзвышалася* ***кап’ё*** *сабора* (А. Вольскі). *Ты чуеш? — Збіраецца бура! Спяшайся! // Шыпіць, астываючы ў хвалях, маланкі* ***кап’ё*** (С. Гаўрусёў); **меч** ‘тое, што па форме нагадвае меч’: *Кусты агавы на сухой камяністай глебе выставілі наперад свае калючыя* ***мячы*** (В. Вольскі). *Сонца схавалася ў светлыя захаду хмары, // Толькі* ***мячамі*** *праменняў яркі гарыць небасхіл* (У. Клішэвіч). *Узнялі два пражэктары // Ў неба сівыя* ***мячы*** (П. Панчанка): **дзіда** ‘востры верх будынка’; ‘вузкая палоска сонечнага святла’: *Там, дзе зайшло сонца, далёка за полем у небе тырчала вострая і доўгая чорная* ***дзіда*** *ад касцёла* (І. Пташнікаў). *Лес радзеў. Алесь бачыў, як праменні сонца ўсё часцей прабівалі сваімі* ***дзідамі*** *лістоту* (У. Караткевіч). *А за ім [туманам] наўздагон, тонкай* ***дзідай*** *працяўшы сасоннік, // Скочыў першы прамень* (М. Лужанін).

9. К л і н а п а д о б н а с ц ь: **клін** ‘усё тое, што мае трохвугольную, клінападобную форму’: *За лугавінай пачынаўся чорны* ***клін*** *ворыва* (А. Савіцкі). *Густа чарнеў* ***клін*** *лесу* (В. Адамчык). *Ліна жыла ў двухпавярховым доміку, з маленькіх вокан якога быў відзён* ***клін*** *мора* (В. Хомчанка). *А ў небе — месіва хмурынак // і жураўлёў адлётны* ***клін*** (М. Мятліцкі). *І* ***клін*** *тужлівы жураўліны // Нёс над зямлёй апошні плач* (А. Пісьмянкоў); **касынка** ‘клін валошак у жытнёвым полі’; ‘яркая палоска на гарызонце’: *Знікла раптоўна з жыта* ***касынка*** *валошкі* (Ю. Голуб). *Зары* ***касынку*** *ахінае гай // І журыцца ў задуме нерухома* (С. Гаўрусёў).

10. Р а з в і л і с т а с ц ь, р а з г а л і н а в а н а с ц ь: **саха** ‘слуп з развілкай на канцы’: *На месцы будынкаў тырчалі абвугленыя пажарам* ***сохі*** *і шулы* (П. Ткачоў). *Як калекі-крыжы, тырчалі на тым месцы, дзе нядаўна было гумно, адны* ***сохі*** (І. Мележ); **рагач** ‘вілкі, якімі ставяць у печ гаршкі, чыгуны’; ‘прадмет з вострымі, рагатымі канцамі’: *Зося ўстала, выхапіла ў Варанецкага* ***рагач*** *і паставіла саганок у печ* (І. Дуброўскі). *Толькі ўзялася за* ***рагач,*** *каб выцягнуць чыгун, як у дзверы калідора ўладна застукалі* (І. Новікаў). *Дзядзька здымае з* ***рагача*** *кацялок, ставіць яго ўзбоч, ля сябе* (А. Дзятлаў). *У ельніку ля лазы на сухастоіне каркала варона, моцна і дзярката: падлятала ўгару і зноў садзілася на доўгі выгнуты* ***рагач*** (І. Пташнікаў). *Лініч ужо схапіў жалезны* ***рагач,*** *якім зацiскалі коўш* (А. Савіцкі).

11. Ч у б а т а с ц ь: **чуб** ‘некалькі раслін, якія шчыльна змацаваны ці растуць побач адной групай’; ‘пучок саломы на страсе’; ‘верхавіна, макушка дрэва’; ‘язык полымя’: *Аглянецца Аўдоля назад — не гладкі пракос,* ***чубы*** *стаяць, трава застаецца* (К. Крапіва). *Грышук хацеў ужо вылезці. Нават за* ***чуб*** *травы на беразе ўхапіўся* (М. Ракітны). *Хата стройна свой* ***чуб*** *саламяны ўбірае голлем, вясною аквечаным, чыстым* (Л. Геніюш). *Страціў лес свой зімні* ***чуб,*** *// Ліст растраціў да манеты* (У. Караткевіч). ***Чубы*** *полымя люстраваліся на яе [рэчкі] роўнядзі* (А. Пашкевіч); **чупрына** ‘тое, што нагадвае чуб’: *Узмахваў клён намоклаю* ***чупрынай*** (У. Някляеў). *Бэз закінуў* ***чупрыну*** *сінюю, // Ля сцяжынкі стаіць, як сват* (У. Паўлаў). *Чаратоў чапурыстых* ***чупрына*** *//* Чэшацца *аблянелым вяслом* (Р. Барадулін). *Аўсы* ***чупрынай*** *шалясцяць* (П. Глебка). *Ты [вёска] звесіш* ***чупрыну*** *саламяных стрэх* (М. Танк); **загрывак** ‘тое, што па

форме нагадвае загрывак’: *Пад сцяною — **загрыўкі** травы* (В. Гарановіч). *Зара **загрыўкі** белых хмар // Над лесам падпаліла* (М. Калачынскі). *Трасе **загрыўкі** хмараў гром* (М. Калачынскі).

12. Л ы с а в а т а с ц ь: **залысіна** ‘месца на ствале дрэва, дзе садрана ці счасана кара’; ‘паляна’: *Ён ці то **залысіну** на дрэве зробіць, ці кусцік які выцерабіць* (М. Даніленка). *Перад вачыма ў мяне на шэрых ад кары і моху соснах мільгаюць хвацкія **залысіны*** (І. Пташнікаў). *Насупраць, у лесе, была невялікая, дзесяціны на паўтары, залысіна. Гэта **залысіна** нечым кінулася чалавеку ў вока* (М. Лобан). *Дзе-нідзе ўжо чарнелі, падсыхаючы на сонцы, голыя **залысіны** з кволым светла-зялёным трыпутнікам* (А. Якімовіч); **лысіна** ‘участак без расліннасці, без снежнага покрыва’; ‘пляма на дрэве’: *Голая ўзгоркаватая **лысіна** зямлі грэецца пад шчодрым праменнем сонца* (Р. Мурашка). ***Лысіны** гор пачарнелі, // Толькі лагчыны ў снягу* (М. Чарот). *Камяністы бераг іржава жаўцеў **лысінамі** прытоўчанага і выжаранага сонцам мурагу* (М. Ракітны). *Каля зваленых сасонак // Свецяць **лысінамі** пні* (П. Панчанка). ***Лысіны** цёплых калод // Жывіца зрасціла* (Р. Барадулін); **плех** ‘голае месца сярод поля, лесу і пад.’: *Сям-там паднімаліся ў неба стромкія яліны і сосны. Іх пакінулі знарок — абсеменяць агалены **плех** і заводзіць новы лес* (Я. Колас).

13. С е т к а в а с ц ь (сятчатасць): **сетка** ’што-небудзь падобнае на мноства скрыжаваных, пераплеценых ліній, нітак’: *Не бядуй, што **сетка** маршчынаў // На высокі мой лоб лягла* (П. Прануза). *Сінеюць **сеткі** жылаў // На тых руках сухіх* (А. Бялевіч). *Змяркалася. Дажджу густую **сетку** // Накінуў вечар на муры* (П. Панчанка). *Шэрая **сетка** хмар // захад імжой зацягнула* (М. Танк). *Сонца яшчэ не схавалася, але раса ўжо густа пакрапіла апавітую тонкай густой **сеткай** з павуціння высокую траву* (Р. Мурашка). *Каробкі камяніц аплецены **сеткай** рыштаванняў* (Я. Брыль). *А навокал... паслалася калгаснае поле, парэзанае на роўныя квадраты **сеткай** палявых дарог* (М. Зарэцкі); **павуціна** ‘тое, што падобна на павуціну’: *Горад у **павуцінах** дротаў // Кіпеў жыццём* (З. Бядуля). *Мы дратоў парвалі **павуціны**, // Разламалі краты у акне* (А. Іверс). *Вочы Аўгіні былі завяўшыя, з **павуцінай** маршчын вакол* (З. Бядуля); **мярэжа** ‘тое, што сваім выглядам нагадвае сетку’: *Павук занавесіў **мярэжай** акно* (В. Сахарчук). *Парвалася зорак **мярэжа**, // Купаецца ноч каля пліт* (Ю. Свірка). *Восеньскіх дажджоў **мярэжа*** (В. Гарановіч).

14. І н ш ы я  п р ы м е т ы  в о н к а в а г а  п а д а б е н с т в а. Рэгулярным неабходна лічыць атаясамліванні разрада маланкі, сонечнага промня, вузкай палоскі святла з вострымі прадметамі тыпу *нож, шыла, страла*, а таксама з бізуном, зігзагам, пісягам: *Быў гром, як буйвал вастрарогі, // Блішчаў з-за хмар маланкі **нож*** (Л. Дайнека). *У хляве паступова святлела, праз шчыліны прарэзаліся белыя вострыя **нажы** святла — узышоў месяц* (І. Мележ). *Сагрэтая агнёвымі **шыламі** сонечных праменняў, глеба выпускала зялёныя **шпількі** руні* (З. Бядуля). *Абстраляны **стрэламі** маланак // З лука векавечных навальніц // Дуб стаіць у водбліскаў заранак* (В. Гардзей). *У прасветы хмар заслоны // Сыпле сонца **стрэл** мільёны, — // Шле зямлі дары* (Я. Колас). *Маланкі нізкай вогненны **бізун*** (А. Русецкі). *Маланкі крывавяць густыя хмары, запалалі агнёвыя **зігзагі*** (З. Бядуля). *Па небе прабягалі агністыя **зігзагі*** (У. Карпаў). *Грымоты перапаласавалі неба **пісягамі** маланак* (Л. Арабей). *Трасіруючыя кулі чырвонымі **пісягамі** ляніва пацягнуліся ў цемру* (М. Пянкрат).

Пэўныя лініі, пункціры, шматкроп’і і іншыя графічныя знакі часцей за ўсё параўноўваюцца са слядамі, з палосамі на вадзе, зорным небам, дном ракі і інш.: *Слядоў **пункціры** змыла, і не скажаш, // Як тут ішоў, чаго хацеў ён, чалавек* (М. Калачынскі). *Снег бела-бялюткі, // Як нерушны аркуш паперы, // Прашыты лісіным **пункцірам**, // Прабіты заечым **двукроп’ем*** (Ю. Свірка). *Лісіца пакінула сляды — **шматкроп’е*** (М. Смагаровіч). *Дробны дождж над вадой тчэ сівыя*

***радкі*** (Н. Арсеннева). *Дно ракі — **шматкроп'е** серабра* (П. Пранузa). *Гараць, як праменні касыя, // **Пункціры** завоблачных трас* (С. Грахоўскі). *Пра што гаворыць птушыны **клінапіс** на снезе белым, нібы пергамент?* (Р. Сітніца).

У працэс пераасэнсавання могуць уключацца самыя разнастайныя найменні рэалій, вонкавая форма якіх паслужыла асновай для метафарычных пераносаў. Нагадаем некаторыя з іх: ***коўш*** 'шырокая круглая пасудзіна для зачэрпвання вадкасці → драўляная лыжка, апалонік; драўляная міска з ручкай; каструля з ручкай; прыстасаванне ў жорнах, млыне, куды засыпаюць збожжа'; ***махры*** 'свабодна звісаючыя ніткі, шнуркі па краях якой-небудзь тканіны → шматкі, абвіслыя касмылі па краях чаго-небудзь; пялёсткі ў махровых раслінах; тонкія адгалінаванні кораня расліны'; ***ключ*** 'прылада для адмыкання і замыкання замка, завінчвання і адвінчвання гаек і інш. → чарада птушак у палёце'; ***аброць*** 'прадмет вупражы, які надзяваецца каню на галаву → сетка, што ўтрымлівае прычоску'; ***смык*** 'палачка з напятым уздоўж яе пучком конскіх валасоў, дотыкам якой да струн музычнага інструмента ўтвараюцца адпаведныя гукі → тое, што нагадвае смык *(маланкі смык, смыкі праменняў сонца)*'; ***флатылія*** 'атрад ваенных суднаў → нагрувашчанне крыг'; ***прапелер*** 'паветраны вінт → крылы жука'; ***брама*** 'вароты → абрыс вясёлкі'; ***лейцы*** 'вяроўкі, рамяні для кіравання коньмі ў запрэжцы → тралейбусны прывод'.

Метафарычныя пераносы на аснове вонкавага падабенства даволі рэгулярна назіраюцца ў пэўных прадметна-тэматычных групах, ад зместу якіх залежыць той ці іншы напрамак метафарызацыі, тыя ці іншыя сэнсавыя сувязі паміж зыходным і вытворным ЛСВ. Крыніцай метафарычнай экспансіі часцей за ўсё з'яўляюцца кампаненты наступных тэматычных груп:

**1. Найменні частак цела жывёл і чалавечага арганізма (саматызмы)**. Метафарычныя пераўтварэнні саматызмаў заснаваны на падабенстве формы ці якіх-небудзь канструкцыйных асаблівасцей дэнататаў, іх размешчанасці ў прасторы, прызначэнні і іншых прыметах. Напрыклад, полісемант ***барада*** ў сучаснай беларускай мове мае наступныя значэнні: 'валасяное покрыва ніжняй часткі твару'; 'пучок доўгіх валасоў ці пер'я ля шыі і на грудзях у некаторых жывёл і птушак'; 'касмыль недапрадзенай кудзелі льну, воўны'; 'невялікі кусцік жыта, пакінуты пры дажынках'; 'зблытаныя ніткі, лёска і інш.'; 'усё калматае, доўгае, зарослае, што нагадвае бараду' (*барада саломы, моху; сівыя бароды амшэлых камлёў; праменняў казытлівыя бароды).*

Саматычныя пераасэнсаванні ў літаратурнай мове характарызуюцца полідэнататыўнасцю, і метавіта таму ў дэфініцыях слоўнікавых артыкулаў даволі часта прыводзяцца азначэнні тыпу *'пра ўсё тое, што нагадвае...', 'частка чаго-небудзь, падобная да...'* і інш. У якасці канкрэтызатараў такіх абагульненых азначэнняў часцей за ўсё выступаюць тэхнічныя, тэрміналагічныя, спецыялізаваныя і наменклатурныя ЛСВ, якія дэталізуюць, канкрэтызуюць, удакладняюць змест шырокага інварыянтнага ЛСВ. Параўн.: *вусы* 'ніткападобныя атожылкі на лістах, сцёблах некаторых раслін' *(вусы ячменю, дзеразы)*; *горла* 'верхняя звужаная частка пасудзіны, зброі і інш. ' *(горла бутэлькі; горла гарматы)*; *дзюба* 'тонкі востры канец чаго-небудзь' *(дзюба чайніка; дзюба вежавага крана); хрыбет* 'верхні край чаго-небудзь' *(хрыбет хвалі; хрыбет страхі)*; *спіна* 'тое, што нагадвае спіну' *(спіна пагорка; спіна валуна; спіны стрэх)*; *зуб* 'востры выступ на інструменце, прыладзе працы, частцы машыны і інш.' *(зубы ў граблях, вілах, баране)*; *хобат* 'частка механізмаў, машын, якая па форме нагадвае хобат жывёлы' *(хобат лябёдкі, крана).*

Многія метафары развіваюць пераносныя ЛСВ у кірунку батанічнай наменклатуры, звязанай з атаясамліваннем саматызмаў са ствbooламі, галінкамі дрэў, лістамі і сцяблінамі раслін, пялёсткамі і інш. Такія саматычныя метафары, як правіла, з'яўляюцца прыналежнасцю ідыястылю таго ці іншага пісьменніка, параўн.: ***рукі***

*галін* (А. Салтук), *бярозаў зялёныя **рукі*** (Н. Арсеннева), ***пальцы** жоўтых кляновых лістоў* (У. Дубоўка), *верасу чуйныя **пальцы*** (Я. Янішчыц), ***пяцярня** клёна* (Р. Барадулін), ***кіпцюры** сукоў дуба* (К. Цвірка), ***стан** зялёных вербаў* (П. Трус), ***стан** бярозы* (М. Лужанін), ***бровы** хвоек* (В. Матэвушаў), *строгія **бровы** сосен* (Л. Геніюш), *нахмураныя **бровы** даспелага жыта* (Р. Барадулін), ***вейкі** рамонкі* (І. Маркевіч), *ціхія **вейкі** дзікай кветкі* (Л. Дайнека), *доўгія, светлыя **вейкі** іржышча* (У. Лісіцын), ***павекі** лілій* (Р. Барадулін).

На вонкавым падабенстве заснаваны метафарычныя ЛСВ полісеманта *жывот*, зафіксаваныя ў некаторых творах беларускіх пісьменнікаў: *За дзень **жываты** угрэлі // У цёплых барознах дыні* (Р. Барадулін). *Гарбуз свой выкасаў **жывот //** і на прыгрэбцы грэе* (В. Вітка). *Драбіны былі высланы саломаю, і вулей ляжаў, як пан у вагоне першага класа, **жыватом** угару* (Я. Колас). У структуры аказіянальных ЛСВ полісемантаў *клык, ікол* паралельна з семай 'знешняе падабенства' актуалізуецца сема 'вастрыня', параўн.: *Завіруха шчэрыцца халоднымі **клыкамі,** // Снегам замятае свежы свет* (С. Грахоўскі). *Агонь чырвонымі **клыкамі** // Грызе разбіты Ваўкавыск* (П. Панчанка). *Блішчэў наўзбоч // Штыка даўжэзны **клык*** (В. Макарэвіч). *Аер **іклы** зноў зялёныя ашчэрыў* (Р. Барадулін). ***Іклы** каўша адпаліраваны да люстэркавага бляску і зырка зіхацяць на сонцы* (А. Савіцкі).

Даволі шырокая семантычная парадыгма адзначаецца ў субстантыва *вочы,* метафарычныя аказіянальныя ЛСВ якога пашыраюцца на сферу такіх тэматычных груп, як кветкі, зоркі, шкло вакна, шкельца святлафора і інш. Параўн.: *У рамонкаў круглыя **вочы*** (А. Разанаў). *А кветкі заплюшчылі ясныя **вочы** // І стан выгінаюць танютка-пахілы* (Л. Сіманёнак). ***Вочы** зырчастыя зор і планет. // Водсветам болю, зарывам дня // Сёння асмужаны вечны сусвет* (М. Мятліцкі). *Хата **вачмі** пустымі // Глядзіць у халодны студзень* (А. Пісьмянкоў). *О, гэта ноч!.. Стамляюцца, змяняюцца сляпыя **вочы** вечных святлафораў* (Т. Сапач). *І светлыя **вочы** азёр // Зацягвала цінай і раскай* (В. Гардзей). *Азёры — **вочы** зямлі* (У. Караткевіч). *І там, і сям чародкай сталі [пралескі], // І ў захапленні, што жывуць, // Бы **вочы** сінія праталін, // Усіх, усіх // К сабе завуць* (К. Кірэенка). *І **вочы** рэклам загарэліся* (Р. Барадулін). *Бессаромныя **вочы** гарадской ціпшыні, // неонавых лямп дыяментыагні* (П. Шруб). *Люблю... **вочы** смелыя зарніц* (Г. Дашкевіч).

Для многіх пісьменнікаў традыцыйным лічыцца параўнанне вачэй з пладамі розных дрэў і з ягадамі, актуалізацыя ў кантэксце іх акруглай формы: *Вочы яе былі то спелымі **вішнямі**, то васількамі* (З. Бядуля). *Упершыню яна, канешне, // Так блізка бачыла касца, // Бо у яе вачах-**чарэшнях //** Было здзіўленне без канца* (А. Сербантовіч). *Блакітам поўняцца **яблыкі** // Славянскіх адкрытых вачэй* (Я. Янішчыц). *Размяталіся крыламі бровы // Над **парэчкамі** дзіўных вачэй* (А. Сербантовіч). *Потым вочы называў // Спелымі **парэчкамі*** (Р. Барадулін). *Вочы — **ягадкі** лясныя, // Свецяць парай аганькоў* (М. Віняцкі). *Маю хвалююць кроў // **Арэхі** воч здзіўлёных // Пад тонкім лісцем броў* (У. Гетманчук).

Фальклорным, народна-паэтычным лічыцца параўнанне вачэй з сонцам і зоркамі: *Вочы твае — дзве бяссонныя **зоркі*** (З. Марозаў). *Вочы твае — **зараніца**, // Вусны твае — медуніца* (У. Міцкевіч). *Вочы, два шэрыя **сонцы**, цяплейшыя, чым тое, што ў небе* (Д. Бічэль-Загнетава).

Даволі часта гэты орган зроку атаясамліваецца з кветкамі, з сінім іх колерам: *А вочы — **валошкі** у жыце* (М. Лынькоў). *Яе бровы — смоль, а вочы — // **Васількі** жытнёвыя* (А. Дзеружынскі). *Убачу хустку белую // Ў калоссі ля ракі, // І шчокі загарэлыя, // І вочы-**васількі*** (А. Русак). *Вочы твае — **васількі*** (А. Салавей). *Дзве **пралескі** — яе вочкі, // Ці два ў збожжы **васілёчкі*** (Я. Купала).

У якасці зыходных ЛСВ для разгорнутых азначэнняў-метафар у шэрагу выпадкаў выкарыстоўваюцца ЛСВ полісемантаў *вугалёк, студня, ільдзінка, возера: Вочы — два блакітных **вугалькі** — // Пад брывамі ўсмешліва яснелі* (С. Гаўрусёў). *Гляджу замілавана, вочы — два **вугольчыкі** ўначы* (Р. Баравікова).

*Вочы — **студні** сухія* (В. Лукша). *Вочы — бліскучыя **ільдзінкі*** (З. Бядуля). *Вачэй бяздонныя **азёры*** (Г. Бураўкін).

**2. Найменні раслін, кветак, суквеццяў, ягад і пладоў.** У сэнсавых структурах такіх назваў метафарычныя ЛСВ маюць адсылачна-параўнальны характар і змяшчаюць традыцыйныя спалучэнні слоў *'тое, што нагадвае...'*. Больш выразна метафарычныя суадносіны ЛСВ выяўляюцца ў субстантываў *галіна, суквецце, калоссе, пялёстак, сланечнік, рамонак, краска, мох, цыбуліна, груша, брусніцы, журавіны, мак;* **галіна** 'тое, што па форме нагадвае галіну': *Цяпер бы паблукаць за лосем, // Што прагна сок крынічны п'е, // Рыкае зычна і ля сосен // **Галіны** гордых рог праносіць // Ды глуха капытамі б'е* (П. Панчанка); **суквецце** 'тое, што нагадвае суквецце': *Узоры іх [сняжынак] тонкіх **суквеццяў** я бачыў і ў сябе на адзенні* (Я. Ермаловіч). *І мігам зорнае **суквеццце //** наўкол сыпнулася ў цішы* (М. Смагаровіч). *Грымела глуха ў лёдавым **суквецці //** Няўрымслівая горная рака* (В. Лукша); **калоссе** 'тое, што нагадвае калоссе': *Валасоў тваіх **калоссе** // шапаціць пра тайну душ* (К. Жук). ***Калоссе** аржаных валасоў // Са звіслай залацістаю касой* (М. Віняцкі); **пялёстак** 'матылёк'; 'сняжынка'; 'язык полымя': *З-пад злежаных аблок здалёк // Ляціць віхлясты і бялявы // **Пялёстак** лёгкі — матылёк* (Р. Барадулін). *А цяпер паглядзіш на шацёр, // Што сняжынкі-**пялёсткі** пакрылі, // І здаецца, што сад распасцёр // Беласнежныя крыллі* (М. Арочка). *Чырванаваты **пялёстак** агню дрыжаў, калыхаўся* (Р. Сабаленка); **сланечнік** 'Сонца': *Сонца — **сланечнік** на сіняй градзе. // Промень-пялёстак на дол упадзе* (М. Стральцоў). *Цямнеецца — // На недакошаным небасхіле заходзіць **сланечнік** з асеннім чмялём* (Р. Барадулін); **рамонак** 'тое, што нагадвае рамонак': *У стылай глыбіні нябёс // расцвіў **рамонак** парашута* (А. Вялюгін); **краска** 'зорка': *Дзе ты, **краска**-зорка ясная? (*Я. Колас); **мох** 'валасяное покрыва': *Грудзі, плечы — у **імхах** кашлатых, // вейкі — як галіны хмызняку* (А. Вольскі). *Спыніўся Саўка Аўсянік, высокі, з упаўшымі ў зеленкаватым **моху** шчокамі* (В. Адамчык); **цыбуліна** 'тое, што па форме нагадвае цыбуліну': *І **цыбуліну** вежы царкоўнай // Я пакратаць магу рукой* (К. Камейша). *У Змітрака гадзіннік быў — // Яшчэ ад бацькі ў спадчыну застаўся... // На ўсю далонь **цыбуліна** такая* (У. Корбан); **груша** 'прадмет, які нагадвае такі плод': *Пад столлю тлее электрычная цьмяная **груша*** (Я. Брыль); **брусніцы** 'тое, што нагадвае такія ягады': *А па шкляных палях нябёс // Каціліся, звінелі // Пругка-цвёрдыя **брусніцы** // Буйных зор* (З. Бядуля). *З вачэй цяклі **брусніцы**-слёзы* (П. Трус); **журавіны** 'зоркі': *Але жывуць мае ўспаміны, // І ты ў маіх стаіш вачах, // Як недасяжны Млечны Шлях, // Дзе свецяць зорак **журавіны*** (Я. Колас); **мак** 'сукупнасць зорак на небе': *Хоць яшчэ захад у малачаі, але па ўсім небе рассыпаўся залаты **мак*** (М. Нікановіч).

**3. Найменні транспартных сродкаў.** Метафарычныя ЛСВ у гэтай групе характарызуюцца не дэталёвым апісаннем, а адсылкамі параўнальнага характару: **карабель** 'тое, што па форме нагадвае карабель': *Паўторыцца ўсё, нібы сонца ў зеніце, — // Зялёныя травы і хмар **караблі*** (М. Губернатараў). *Плылі над пасёлкам // Хмар **караблі**, // І ў рэйс вялі іх // Вятры-капітаны* (П. Броўка). *Там была напісана цікавая нататка аб **караблі** пустэчы. Ён з'яўляецца аграмадным трактарам* (З. Бядуля). *Там, дзе колісь было непрыступна, і дзіка, і гола, // Па саўгасных палях камбайнёры вядуць **караблі*** (М. Хведаровіч); **ветразь** 'тое, што падобна на парус': *Па ўсіх паверхах з разнасцежаных вокан насустрач сонцу трапечуць **ветразі** фіранак, гучыць музыка* (А. Мацкевіч). *І, нібы з хваль, у свой паход бясконцы чырвоны **ветразь** узнімала сонца* (А. Вольскі). *Хмары **ветразь** разадраны // У сутонь начы сплывае* (С. Дзяргай). *Наставіўшы белыя **ветразі** крылаў, плануюць буслы* (У. Караткевіч). *Зніклі зялёныя **ветразі** крон* (Я. Верабей). *Зеленакрылы **ветразь** дрэў* (Л. Дайнека); **паром** 'тое, што нагадвае паром': *Пагоднай сенакоснаю парой, // нагружаны бухматымі вазамі, // зялёнай хмарай сунецца*

***паром*** (Р. Барадулін). *І на крыгах — уласных* ***паромах*** *— // Ад'язджае ціхутка зіма* (П. Прануза). *Над нізінай нерухомы // Звіс, як дым, туман, // Цераз нетры, бураломы // Сцеле белыя* ***паромы*** *// З лугу да палян* (Я. Колас); **човен** 'месяц у першай квадры': *У хвалях сівых хмарак // Месяц —* ***човен*** *залаты — // Плыве* (З. Бядуля). *Неба зноў зорнае, выплыў* ***човен*** *месяца* (І. Навуменка). *Не плавае ўначы // маладзіковы* ***човен*** (П. Панчанка); **транспарцёр** 'імклівая плынь ракі': *Бруд зімы ручай імклівы вынес // На шырокі* ***транспарцёр*** *ракі* (С. Гаўрусёў). Верталёт і дырыжабль у творах А. Вялюгіна, А. Глобуса і У. Лісіцына атаясамліваюцца са стракозамі: *Дрымотны звон трысця густога // пад* ***верталётамі стракоз*** (А. Вялюгін). *Страказа-****верталёт*** *праміне сваю цёплую зорку* (А. Глобус). *З атос узняліся* ***стракоз дырыжаблі,*** *// Да сонца за імі вачэй не прыўзняць* (У. Лісіцын).

**4. Найменні адзення і ўпрыгожанняў.** У гэтай групе назіраецца даволі шырокі спектр асацыяцый ЛСВ, што абумоўлена экстралінгвістычнай прычынай, шырокім і разнастайным спектрам фасонаў адзення. Так, усе ЛСВ полісеманта *рукаў* аб'яднаны інварыянтнай семай 'адгалінаванне': 'адгалінаванне ад галоўнага рэчышча ракі', 'адгалінаванне дарогі', 'шланг для адводу вадкасцей, сыпучых целаў, газаў і інш.', 'бакавы адростак дрэва': *Далёка рэчак* ***рукавы*** (А. Салтук). *Ад ракі, хаваючыся ў густых лазняках, адыходзіць вузкі* ***рукаў*** (Л. Гаўрылкін). *Хутка з бальшака машына звярнула на асфальтавы* ***рукаў*** (М. Скрыпка). *Схапіўшы брызентавы пажарны* ***рукаў,*** *які падаў яму з будкі Васіль, Аляксей ступіў да палаючай павеці* (Я. Васілёнак). *Па* ***рукаве*** *з каменных жорнаў // Плыла бялей за снег мука* (А. Астрэйка). *І выгінаюць* ***рукавы*** *галін // Дажджы, вятры і кошыкі былін* (В. Коўтун).

Падабенства *фрака, фрэнчыка* і *цяльняшкі* з постаццю птушкі (жывёліны), *гальштука* — з чорнай паласкай на грудным апярэнні, *гетраў* — з лапамі птушкі паслужылі асновай для іх атаясамлівання ў творах мастацкай літаратуры: *З тою зоркаю прачнуўся // На сасне пушчанскі бусел, // Пазяхнуў салодка, ўсмак, // Свой паправіў чорны* ***фрак*** (М. Калачынскі). *Дэльфін не зняў свой дырыжорскі* ***фрак,*** *// Нырнуў. Куды б? // Адразу бачна хвата...* (У. Лісіцын). *Пеўнік-будзіч галасісты // у прыгожым* ***фрэнчыку*** *— // пёры граюць, як маністы, // шпоры зззяюць залацiста, // сонца на грабеньчыку* (М. Скобла). *Чаек бела-чорныя* ***цяльняшкі*** *// Тут і там мільгаюць угары* (В. Гарановіч). *Спіна і крылы ў сініцы зеленевата-шэрыя. Грудкі жоўтыя, з чорным* ***гальштукам*** (Н. Наватворцава). *Варона гілю кажа: «Ка-а-р-р! //* ***Гальштук*** *твой гарыць, як жар»* (Н. Галіноўская). *Топчуць лісцяў жоўты плед // качкі ў чырвоных* ***гетрах*** (Э. Акулін).

Пэўныя аналогіі прасочваюцца ў найменнях галаўных убораў *берэт, капялюш, каптур,* метафарызацыя ў якіх адбываецца ў асноўным кірунку 'шапка грыба' і дадатковых кірунках 'пладаносная частка сланечніку', 'крона дрэва': *Падасінавікаў у чырвоных* ***берэтах*** *// Пад старою асінай знайшоў* (М. Танк). *Белая ножка [баравіка], барвовы* ***берэт....*** (А. Вялюгін). *У мухамораў былі непрыгожыя плямістыя* ***капелюшы*** (А. Кандрусевіч). *Паляна грыбных* ***капелюшоў*** (Т. Цвірка). *У* ***каптурах*** *чырвоных, // Заўсёды у гуморы, // Стаяць, як парасоны, // З усмешкай мухаморы* (К. Камейша). *Да восені — // Прыкмеце! // Сланечнік у* ***берэце*** (Г. Шмань). *Бярозка пахіліла зялёны свой* ***берэт*** (В. Гардзей). ***Берэт*** *зялёны заламаўшы, клён каля яго [шляху] стаіць у каравуле* (В. Макарэвіч). *Задумна лес глядзіць з-пад* ***каптура*** *— // Цвітуць наўсцяж Блакітныя азёры* (У. Паўлаў).

Хустка, башлык і фата ў многіх пісьменнікаў атаясамліваюцца са снежным покрывам: Сярод бяроз, што ў **хустках** белых, // Слабей мароз *(В. Гардзей).* Люблю цябе у веснавых праталінах, // У белай **хустцы** маладых снягоў *(Р. Барадулін).* **Башлыкі** адзелі ёлкі з снегу // і стаяць сплючы *(П. Панчанка).* Зіма накінула ёй [бярозцы] на плечы празрыстую падвянечную **фату**, і стаіць дрэўца, быццам нявеста *(А. Кандрусевіч).*

Дэфініцыямі ‘тое, што падобна..’, ‘тое, што нагадвае...’, ‘тое, што сваёй формай нагадвае...’ вызначаецца характар падабенстваў у структуры полісемантаў *каўпак, рызман, фальбона, чалма, брыжы*: *снегавыя **каўпакі** пагоркаў* (Т. Ляшонак); *неба ў **рызманах*** (В. Макарэвіч); *хмарак сівыя **фальбоны*** (Я. Колас); ***фальбоны** ягонага твару склаліся ў безнадзейна-горкую міну* (М. Зарэцкі); ***чалма** Эльбруса* (З. Бядуля); *агністанітныя **брыжы** маланкі* (Я. Колас); ***брыж** цэментавага круга* (В. Карамазаў).

Найменні упрыгожанняў выступаюць у якасці крыніцы метафарычных ЛСВ, адрасантам якіх з’яўляюцца семантычныя палі ‘расліны’, ‘прыродныя з’явы’, ‘зорныя свяцілы’ і інш., параўн.: *карона* ‘разгалінаваная частка дрэва з лісцем, крона’, *перлы* ‘кроплі расы, дажджу і пад., якія блішчаць, пераліваюцца’, *маністы* ‘скопішча пладоў або кветак на адной галінцы’, *бісерынка* ‘кропля поту’, *завушніца* ‘катах на вярбе, бярозе і іншых раслінах; месяц у першай квадры; язык полымя’.

**5. Найменні посуду.** Метафарычнаму пераасэнсаванню могуць падвяргацца практычна ўсе найменні гаспадарчага начыння для прыгатавання і падачы ежы, пітва, захавання прыпасаў. У працэсе метафарызацыі актуалізуецца вонкавае падабенства з талеркай, міскай, сподкам, чаркай, чарпаком, чашай і інш.: *аркестравая **талерка**; лілеі ў акружэнні цёмна-зялёных **талерак**-лістоў* (Я. Брыль); ***міска** возера* (З. Бядуля); ***сподак** сярод поля* (Ц. Сяргейчык); *сіняя **чаша** возера* (В. Вольскі); ***чаша** стадыёна* (У. Шыцік); ***чарка** возера сінеючай вады* (П. Трус); ***чарпак** Вялікай Мядзведзіцы* (С. Александровіч); ***кошыкі** ўтульныя пад страхой звілі ластаўкі* (Х. Гурыновіч).

**6. Найменні сельскагаспадарчых прылад, прадметаў гаспадарчага ўжытку**. Асновай для метафарызацыі служаць агульныя абрысы прадметаў, і скіраванасць метафарызацыі даволі раскіданая, не мае якіх-небудзь канкрэтных і тэматычна акрэсленых замацаванняў. Параўн.: *саха* ‘слуп з развілкай на канцы’, *серп* ‘месяц у пачатковай або апошняй фазе’, *клешчы* ‘драўляная частка хамута’, *хамут* ‘гальштук’, *памяло* ‘верхавіна дрэва’, *мятла* ‘хвост бліскавіцы’, *мяшок* ‘пухліна пад вокам’, *хатуль* ‘воблака’, *маток* ‘вялікая колькасць бліскавіц’: *Вілаватая **саха** падпірала дах* (Б. Сачанка). *На месцы будынкаў тырчалі абвугленыя пажарам **сохі** і шулы* (П. Ткачоў). *Над школай узняўся **серп** маладзіка* (Г. Васілеўская). *У небе выразаўся маладзік — вузкі зжаты **серп*** (І. Пташнікаў). *Лаўрэн доўга размінаў пальцамі каляны лямец, потым адграваў у руках супоню, каб настылы раменны шнурок не паламаўся на загібе **клешчаў** хамута* (І. Стадольнік). *«Не прывык я да гэтага **хамута**», — бармытаў Ціт, расшпільваючы гузікі кашулі* (І. Гурскі). *Ура, зашугала! І адразу ж лясных верхавін **памяло** разгайдалася, вымела ў небе прагалак* (М. Лужанін). *Падганялі іх бліскавак **мётлы**, // І пужалі іх грозна грымоты* (Н. Чарнушэвіч). *Пад вачыма яго віселі сінюватыя **мяшкі**, твар быў нягалены* (І. Новікаў). *І праплывае міма, // Парваны воблака **хатуль*** (Х. Гурыновіч). *Бліскавіц **маток**. // Рабінавая ноч. Рабін стажары* (Р. Барадулін).

**7. Найменні асвятляльных прыбораў.** Атаясамліванне ў гэтай падгрупе ажыццяўляецца за кошт актуалізацыі сем ‘яркасць’, ‘асляпляльнасць’, ‘кідкасць’: *Мне свеціць вежа Эйфеля — // начны **таршэр** Парыжа* (Л. Дранько-Майсюк). *Зоркі лічыліся **лампадамі**, якія запальваюцца анёламі* (В. Вольскі). *Вярнуўся з нядоўгіх уцёкаў, // А тут — **жырандолі** каштанаў* (Л. Сіманёнак). Больш шырокай семантычнай парадыгмай характарызуецца сэнсавая структура полісеманта *ліхтар*, якая ўключае чатыры ЛСВ: ‘сіняк, кровападцёк пад вокам’, ‘месяц’, ‘зорка’, ‘яркая кветка’: *Сустрэўшы Купчыка-чысцюлю, // Пад вока ўраз навесіш **ліхтара*** (М. Хведаровіч). *Сусед здаравейшым аказаўся, вялізны **ліхтар** яму падвесіў* (М. Кусянкоў). *Пагас у хмарах бурых пабляклы месяц — кованы **ліхтар*** (Л. Геніюш). *Дагараюць зоры-**ліхтары*** (А. Змагар). *Каштаны купалы ўзнялі //*

*І крэмавымі **ліхтарамі** // ГарацЬ, як вогнішчы, над намі* (В. Машко). *Кветкі позняй **ліхтар** лета выцвеціў густа* (К. Камейша).

Такім чынам, пры метафарызацыі актуалізуюцца самыя розныя прыметы вонкавага падабенства (акругласць, выпукласць, узгорыстасць, дугападобнасць, кручкаватасць, звілістасць, пятлістасць, вышыня, высачыня, даўжыня, прадаўгаватасць, востраканцовасць, спічастасць, клінападобнасць, развілістасць, разгалінаванасць, чубатасць, лысаватасць і інш.). У многіх выпадках у якасці такіх прымет выступаюць абагульненыя рысы прадмета, агульнае ўражанне ад яго ўспрымання, яго цэласны вобраз.

У метафарычны працэс уключаецца практычна неабсяжная колькасць субстантываў, у сэнсавых структурах якіх фіксуецца як мінімум два ЛСВ, аб'яднаныя рознымі праяўленнямі агульнай інварыянтнай семы 'вонкавае падабенства'. Своеасаблівымі «донарамі» вонкавападабенчых метафар могуць служыць любыя словы, калі іх дэнататыўныя суаднесенасці ў нечым супадаюць, атаясамліваюцца. Таму даволі шырокімі і неаднастайнымі з'яўляюцца групы слоў, у склад якіх уваходзяць найменні раслін, кветак і суквеццяў (аказ. *калоссе, краска, мох, пялёстак, сланечнік*), ягад, пладоў і караняплодаў (літар. *груша, цыбуліна*, аказ. *брусніцы*, *журавіны*), прыродных узвышшаў (літар. *гара, груд, капец*), транспартных сродкаў (аказ. *верталёт, ветразь, дырыжабль, карабель, паром, човен*), зброі (літар. *дзіда*, аказ. *кап'ё, меч, піка, шабля, шпага, штык*), частак цела жывёл і чалавечага арганізма (літар. *барада, вусы, мох, нага*, аказ. *рукі, пальцы, кіпцюры, вочы),* прадметаў быту (літар. *саха, серп, клешчы*, аказ. *мятла, памяло, хамут*), асвятляльных прыбораў (аказ. *жырандоль*, *лампада*, *таршэр*), посуду (літар. *кошык, талерка, чарпак, чаша,* аказ. *міска, сподак, чарка*), адзення і галаўных убораў (літар. *каўпак*, аказ. *башлык, каптур, капялюш, фрак, хустка, чалма*), упрыгожанняў (літар. *карона, каралі, маністы, перлы*, аказ. *бісерынка, жамчужына, завушніца, пацеркі*) і інш.

Людміла ДУЧЫЦ, Ірына КЛІМКОВІЧ

# УЗГОРКІ, АПЕТЫЯ Ў МІФАХ І ПАДАННЯХ

***Ва ўсіх народаў вяршыня гары — месца выяўлення волі багоў. Успомнім біблейскага Майсея, які на гары Сінай прыняў ад Бога Яхвэ скрыжалі, высечаныя на камені. Адно са слынных казанняў Ісуса, якое акумулюе ў сабе маральны змест хрысціянства, так і называецца — Нагорная. У старажытных грэкаў святымі лічыліся Парнас і Алімп, на Блізкім Усходзе — горы Арарат і Сінай. У беларускай міфалогіі менавіта на гарах легендарныя князі Гедымін і Тур бачылі прарочыя сны, якія прадказвалі лёсавызначальныя падзеі ў гісторыі нашага народа. Прыклады можна доўжыць і доўжыць. У кожнай сусветнай культуры існуе падобны сімвал.***

## Святыя горы

У міфалогіях розных народаў гара ўяўляе сабою трансфармацыю Сусветнага дрэва і ўспрымаецца як вось і мадэль свету, у якой адлюстраваны ўсе асноўныя элементы і параметры космасу. Міфалагічная гара трохузроўневая. На яе вяршыні жывуць вышэйшыя істоты — багі, у ніжэйшай частцы — злыя духі, а на зямлі — чалавечы род.

Таму не дзіўна, што ва ўсіх народаў ёсць звычай ставіць на ўзвышшах бажніцы і храмы, кумірні і алтары. У нас, беларусаў, на ўзгорках дагэтуль спраўляюць Купалле. Яго асноўныя дзеянні — запальванне вогнішчаў і колаў — відавочнае водгулле культу Сонца. Ад гэтага культу ў беларускім фальклоры захаваўся такі персанаж, як Тром-сын, якому трэба было залезці на высокую гару, каб злавіць там Жар-Птушку — пераўвасобленае Сонца. Адсюль і паданні пра ўзнікненне саміх узгоркаў з камянёў, што назбіралі легендарныя продкі беларусаў — міфічныя волаты ды асілкі. Водгаласам біблейнага падання пра сусветны патоп выступаюць і беларускія легенды. Паводле іх горы і долы на нашай зямлі ўтварыліся, калі вада пасля патопу сцякла ў мора. Нават сёння каля Браслава ў Віцебскім, Смілавіч у Чэрвеньскім і Скірмунтава ў Дзяржынскім раёнах, ды і ў іншых мясцінах можна пачуць, як тутэйшыя людзі называюць свае ўзгоркі «*Святая Гара*». А з-пад Святой Гары каля в. Скірмунтава пачынаецца сакральная беларуская рака Нёман.

Шмат якія падобныя ўзвышшы ў савецкія часы пазнішчалі, скапалі, як, напрыклад, каля вёскі Плябань Маладзечанскага раёна. Часта побач са святымі ўзгоркамі знаходзяцца святыя азёры, крыніцы, камяні, дрэвы. Гэта шматразова падкрэслівае сакральнасць падобных мясцін. Так, каля вёскі Стралкі ў Верхнядзвінскім раёне побач са Святой Гарой ляжыць Святое возера, дзе мясцовыя жыхары ніколі не ловяць рыбу, бо, паводле падання, тут праваліўся пад зямлю храм. Апрача таго каля гары ёсць святая крыніца з капліцай над ёй, куды раней у якасці ахвяраванняў клалі воўну, кветкі, грошы… А на гары расла паклонная сасна, каля якой спраўлялі Купалле. Другі прыклад: на Браслаўшчыне каля хутара Каранікі ёсць гара *Дуб.*

Такую назву яна атрымала, мабыць, з-за таго, што на ёй рос дуб, які ў народзе лічыўся святым. Спрадвеку тут спраўлялі Купалле і гушкаліся на арэлях.

Пра Святую або Мір-Гару каля вёскі Сорагі на Случчыне існуе паданне, дзе гаворыцца, што даўней на гары расла сасна, на якой з'явіўся абраз Божай Маці. Пасля чаго тут і пабудавалі царкву. На пачатку XX стагоддзя ад той сасны заставаўся толькі пень, празваны ў народзе *«Божым пяньком»*. Да пянька на Пакроў прыходзілі мясцовыя багамольцы і складалі на яго ахвяраванні: сыр, мёд, палатно і інш. Другое паданне тлумачыць паходжанне назвы Мір-Гары. Кажуць, што два князі не маглі ўжыцца па-суседску. Не раз іх дружыны хадзілі адна на адну вайной, з-за чаго па схілах гары лілася кроў. Нарэшце, людзям надакучылі няспынныя бойкі ды звягі. Тады князі сустрэліся на гары без зброі ды заклалі мір. Даўней слова *мір* значыла і вялікую колькасць паселішчаў у адным месцы з цэнтрам, куды па святах збіраліся жыхары з усіх навакольных гарадзішчаў. У такім месцы зазвычай выбіралі вайсковага начальніка і «гарадскога старца», які кіраваў грамадскімі справамі, тут чыніліся мірскія суды. Натуральна, што ў цэнтры было і радавое свяцілішча.

Адна з горак каля Мазыра, на якой калісьці быў манастыр з царквой Святога Міхаіла, называлася ў даўнія часы Святая Гара. У сярэдзіне XIX стагоддзя яна фігуравала ў паданні, паводле якога Мазыр заснавалі два браты з Кіева. Яны пасяліліся ў гэтых мясцінах, каб гандляваць рыбіным тлушчам.

*...Старэйшы брат ад нараджэння быў зусім брыдкім. Затое малодшага Бог надарыў нечуванай красой. Вось і занялюбіў старэйшы брат малодшага. Мо, ад зайздрасці, што ў брата ўсё спорыцца: і гандаль ідзе рукою, і на красу яго дзеўкі злятаюцца, як мухі на мёд... А каб не наклікаць бяды якой, надумаўся малодшы брат пасяліцца як мага далей ад свайго зайздросніка. Але напярод трэба было тавар падзяліць пароўну. А старэйшы — ані туды тое — не хоча. І калі малодшы прыйшоў да яго з гандлёвым інтэрасам — наказаў сваім слугам выгнаць вон шчаслівейшага брата.*

*Тут і малодшы ўжо не стрываў, склікаў дружыну і абвясціў вайну старэйшаму. Тады зайздросны брат пайшоў да чараўніцы прасіць помачы. А чараўніца жыла тамака на самай гары. І гара на тую пару была не адхонная, як цяпер, а спічастая. Чараўніца пагадзілася. Гукнула сваё войска, незлічоных духаў — і пачаўся бой. Калі ж вядзьмарка ўбачыла раптам малодшага брата, здзівілася яна яго хараству і загадала спыніць бойку. Тады старэйшы брат зусім раз'юшыўся і стаў біцца з духамі. А чараўніца ўзняла свой меч, і гара разышлася надвое. От і загінуў у той распадзіне няўдалы ваяка.*

*А малодшы брат зажыў разам з любай жонкаю на адной з рассечаных гор. Чараўніца ж засталася на другой палове. Але каханне не давала ёй спакою. І зачала яна ўгаворваць суседа перабрацца жыць у свой дом. Той, ведама, як умеў, так адмаўляўся. Не вытрымаўшы, вядзьмарка сама перасялілася на другую палову гары. Ды не маючы жаднай радачкі, узялася яна ад злосці чараваць і здзекавацца ўсяляк з суседа. Жонка малодшага брата вельмі перажывала з усяго гэтага, аж пакуль не прыйшло ёй да галавы паставіць на гары святы крыж. З таго часу ўсе вядзьмарчыны чары страцілі моц. Дый сама яна неўзабаве некуды знікла. А тая палова гары, дзе паставілі крыж, стала звацца Святой Гарой.*

## Сляды язычніцкіх капішчаў

У старадаўніх паданнях захаваліся ўскосныя звесткі, што на вяршынях некаторых беларускіх узгоркаў стаялі капішчы або бажніцы. Гэта і Чорная Гара ў Заслаўі, і Хоўхлава ў Маладзечанскім раёне, і хутар Раўгішкі ў Браслаўскім раёне. Некаторыя ўзгоркі маюць нават назву Капішча, як у вёсцы Дрычын Пухавіцкага раёна. У вёсцы Караліна Мінскага раёна на беразе Пцічы пра ўзгорак Шведскі

Курган кажуць, нібыта *там некалі было язычніцкае капішча, а пазней шведская крэпасць*. Гаштольдаву Гару, або Крутагор'е ў Койданаве — цяперашнім Дзяржынску — таксама звязваюць з былым паганскім капішчам. Паводле падання, у Браславе на вяршыні Святой Гары стаялі балваны, і побач з імі гарэлі вогнішчы, а на Малібоўскай Гары каля вёскі Быстрыца ў Капыльскім раёне, некалі была *кумірня*.

Аб сакральнасці ўзгоркаў сведчаць і тыя паданні, дзе гаворыцца пра закапаныя ў іх скарбы, а таксама павер'і, дзе прыгадваюцца агеньчыкі і полымя на вяршынях. Пра Тамілаву Гару, якая была недалёка ад вёскі Чыжэвічы Салігорскага раёна, і якая цяпер, на вялікі жаль, пахаваная пад тэрыконамі, у 20-я гады XX стагоддзя расказвалі незвычайныя гісторыі. То пра невядомага француза, вельмі стомленага ад вайны і спачыўшага на вяршыні гэтай гары, то пра шведа, які закапаў на гары тры бочкі з золатам, і не простыя бочкі, а на залатых колцах. Як вядома, залатая бочка на колцах у сусветнай міфалогіі лічыцца сімвалам Сонца. Таму, верагодна, што тут некалі спраўлялі культ гэтага свяціла.

На гары Метка ў Браслаўскім раёне ў часы старадаўняй вайны, як кажа паданне, стаяў лагер, і ворагі пры адступленні закапалі там каштоўны скарб: грошы і шмат розных залатых ды срэбных рэчаў. У вёсцы Рачэнь Любанскага раёна на Гарадку ва ўрочышчы Лясішча нібыта таксама закапаны скарб. Кажуць, быццам уночы ён выходзіць на паверхню і свеціцца яркім полымем. На гарадзішчы каля вёскі Свідна Лагойскага раёна скарб лічыцца заклятым, а ўночы там нібыта з'яўляюцца агеньчыкі.

Захаваліся звесткі і пра ахвярапрынашэнні на ўзгорках. У Крычаве пра гару каля Праабражэнскай царквы яшчэ ў XIX стагоддзі казалі, што на яе вяршыні некалі прыносілі ў ахвяру свойскіх жывёл і птушак. У сярэдзіне XIX стагоддзя ў вёсцы Гняздзілава Докшыцкага раёна быў манастыр святых Барыса і Глеба. Потым яго разбурылі, а на тым месцы пабудавалі ўніяцкую царкву Святых Пятра і Паўла. Паводле аповедаў старых, што запісаныя ў 70-я гады XX стагоддзя, у дзень на Пятра і Паўла там адбывалася храмавае свята і ладзіўся кірмаш. Тады ў Гняздзілаве варылі піва, а на гары каля вёскі Верацейка рэзалі казлоў і гатавалі іх на вогнішчы. Расказвалі і пра тое, што некалі на Варганскай Гары (вёска Варганы), якая таксама ляжыць у Докшыцкім раёне, запальвалі вогнішчы і спраўлялі свята ў гонар барана. А на Кавальскай Гары, што непадалёк, запальвалі вогнішча ў адказ.

Пацверджаннем таго, што на падобных узгорках некалі маглі быць язычніцкія капішчы, а пазней будаваліся храмы, служаць паданні пра царкву ці касцёл, якія праваліліся і ляжаць пад гэтымі ўзгоркамі. Як, напрыклад, у вёсках Мікуліна Полацкага раёна, Навасёлкі — Маладзечанскага, Воўкаўшчына — Мёрскага і інш. Кажуць, што, на тым месцы, дзе праваліўся храм, з-пад зямлі чуваць бомы і царкоўны спеў, а на паверхні на храмавыя святы з'яўляецца Царская брама. У вёсцы Паўлавічы на рацэ Ракцянцы каля Клімавічаў на гары-гарадзішчы некалі, згодна з паданнем, стаяла царква і правалілася, бо, маўляў, *дзяўчаты ў раўкох каля гары дазвалялі сабе непрыстойнасці*. На пачатку XX стагоддзя сяляне лічылі гару святой і сцвярджалі, нібыта ў Велікодную ноч з-пад зямлі даносяцца гукі званоў. А ад старых людзей можна было пачуць, быццам даўней гэтая гара служыла месцам паганскіх ігрышчаў.

У вёсцы Саннікі Дзятлаўскага раёна пра гару Талерка таксама расказваюць, нібыта там правалілася царква. Памяць пра яе захавала ў народзе паданне пра жанчыну, якая на вяршыні гары мелася памаліцца Богу і паскардзіцца Яму на сваё цяжкое жыццё. Раптам яна ўбачыла, як з'явіўся ланцуг, канцы якога хаваліся ў зямлі. Жанчына стала цягнуць за гэты ланцуг, пакуль з-пад зямлі не паказаўся вялікі цяжкі крыж. Але дастаць яго цалкам не здолела. Сялянка закрычала: «Людцы, дапамажыце мне выцягнуць мой крыж!» Толькі яна гэта прамовіла, як зніклі і крыж, і ланцуг.

Маркёрамі колішніх капішчаў служаць узгоркі, назвы якіх паходзяць ужо з хрысціянскіх часоў і ад назваў храмаў. Гэта Юр'еўскія, Янаўскія, Траецкія і іншыя горы. Сувязь са Святым Георгіем або Юр'ем сведчыць пра старажыт-

